Кампанія па назіранні за выбарамі «Права выбару–2015»

# ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 11 КАСТРЫЧНІКА 2015 ГОДА

## Факты, каментары, вынікі назірання

Мінск
2016

# Змест

# Спіс скарачэнняў:

ААН – Арганізацыя аб'яднаных нацый
ААТ – Адкрытае акцыянернае таварыства
АГП – Аб'яднаная грамадзянская партыя
АНТ – Агульнанацыянальнае тэлебачанне
БДІПЧ АБСЕ – Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе
БелТА – Беларускае тэлеграфнае агенцтва
БНФ – Партыя БНФ (Беларускі народны фронт)
БРСМ – Грамадскае аб'яднанне «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі»
БСДП (Г) – Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада)
БХД – Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя
ГА – грамадскае аб'яднанне
КДБ – Камітэт дзяржаўнай бяспекі
КХП-БНФ – Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ
МЗС – Міністэрства замежных спраў
МУС – Міністэрства ўнутраных спраў
ПАГА – Праваабаронча-асветніцкае грамадскае аб'яднанне
РУУС – Раённае ўпраўленне ўнутраных спраў
РЭП – Беларускі прафсаюз радыёэлектроннай прамысловасці
СМІ – сродкі масавай інфармацыі
ТБМ – Грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны»
ТВК – тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі
УА – установа адукацыі
УВК – участковыя выбарчыя камісіі
ФПБ – Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі
ЦВК – Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў

# Уводзіны

У гэтае выданне ўключаныя матэрыялы, якія сведчаць пра тое, як адбываліся выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2015 годзе.Аснову зборніка склалі матэрыялы кампаніі назірання «Права выбару—2015».

«Права выбару—2015» — гэта кампанія па назіранні за выбарамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якая была скіравана на прадухіленне парушэнняў заканадаўства падчас усіх стадый выбарчай кампаніі, фіксацыю парушэнняў і аператыўнае рэагаванне. Кампанія «Права выбару — 2015» імкнулася да мінімізацыі колькасці парушэнняў заканадаўства на кожным выбарчым участку, дзе мелі магчымасць прысутнічаць яе назіральнікі.

Кампанія «Права выбару—2015» аб'яднала 8 палітычных структур: Партыю БНФ, Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю, аргкамітэт Партыі Свабоды і Прагрэсу, Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамада), праваабарончa-асветніцкае грамадскае аб'яднанне «Рух «За свабоду», грамадзянскую кампанію «Гавары праўду!», Беларускую партыю «Зялёныя», прафсаюз Радыёэлектроннай прамысловасці. Удзельнікі кампаніі грунтавалі сваю працу на досведзе назірання за парламенцкімі выбарамі 2008 і 2012 гг., выбарамі Прэзідэнта 2010 г., выбарамі дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў2014 г..

Кампанія «Права выбару—2015» ладзіла доўгатэрміновае назіранне за ўсімі этапамі кампаніі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пачынаючы ад дня прызначэння выбараў Пастановай Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 2015 года. У дзень выбараў, 11 кастрычніка 2015 года, 1 286 назіральнікаў кампаніі працавалі на 643 выбарчых участках.

У выданне таксама ўключаныя матэрыялы кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», якая была зладжана Беларускім Хельсінскім камітэтам ды пазбаўленым рэгістрацыі Праваабарончым цэнтрам «Вясна», паведамлені СМІ, афіцыйная статыстыка выбараў ад Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, выніковыя дадзеныя маніторынгу сродкаў масавай інфармацыі ў часе выбарчай кампаніі ад Беларускай асацыяцыі журналістаў, скарга на прызнанне выбараў несапраўднымі і прынятае па ёй рашэнне,канчатковая

справаздача Місіі назірання Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ).

Сярод дадаткаў прадстаўленыя прапановы ўдзельнікаў кампаніі «Права выбару—2015» па зменах выбарчага заканадаўства, распрацаваныя напачатку 2015 года і пададзеныя ад імя васьмі партый і грамадскіх аб'яднанняў на адрас суб'ектаў права заканадаўчай ініцыятывы ў форме гатовага законапраекта, афармленага ў адпаведнасці з правіламі законатворчай тэхнікі. Паколькі заканадаўчыя змены не былі прыняты, і, паводле сведчанняў нацыянальных і міжнародных назіральнікаў, выбары ў 2015 годзе адбыліся ў несвабодных умовах і не былі справядлівымі, гэтыя прапановы захоўваюць сваю актуальнасць. Суб'екты кампаніі настойваюць на ўнясенні прапанаваных змен у Выбарчы кодэкс напярэдадні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу шостага склікання, што маюць адбыцца ў верасні 2016 года.

Падчас будучай кампаніі выбараў дэпутатаў парламента ўдзельнікі «Права выбару» плануюць працягнуць назіранне дзеля правядзення ў Беларусі свабодных і справядлівых выбараў на ўмовах роўнасці кандыдатаў у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і крытэрамі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.

Кампанія па назіранні за выбарамі
Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

# ВЫНІКОВАЯ СПРАВАЗДАЧА кампаніі «Права выбару–2015

## Агульныя высновы

1. Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь былі несвабоднымі і несправядлівымі, падлік галасоў адбываўся непразрыста, а агучаныя выбарчымі камісіямі вынікі не вартыя даверу. у кампаніі знайшлі працяг усе негатыўныя практыкі, якія раней былі прадметам крытыкі нацыянальных і міжнародных назіральнікаў.
2. Тэрытарыяльныя (ТВК) і ўчастковыя (УВК) выбарчыя камісіі былі сфармаваныя з рэкордна малым удзелам прадстаўнікоў апазіцыі. Вылучаным прадстаўнікам апазіцыйных партый і грамадскіх аб'яднанняў у абсалютнай большасці выпадкаў было беспадстаўна адмоўлена ва ўключэнні ў склад камісій. Механізм судовага абскарджваньня рашэнняў пра фармаванне камісій не працуе як эфектыўны сродак аднаўлення справядлівасці і не стварае гарантый рэпрэзентацыі ўсіх палітычных сілаў у складзе камісій.
3. Нягледзячы на адносна вольныя ўмовы правядзення пікетаў дзеля збору подпісаў ініцыятыўнымі групамі пры вылучэнні кандыдатаў і правядзення агітацыйных мерапрыемстваў зарэгістраванымі кандыдатамі, свабода сходаў для іншых суб'ектаў была істотным чынам абмежаваная нормамі заканадаўства пра правядзенне масавых мерапрыемстваў і абмежавальнай праваўжывальнай практыкай.
4. Адмова ад дзяржаўнага фінансавання перадвыбарчай агітацыі кандыдатаў негатыўна паўплывала на характар кампаніі, зрабіўшы яе малабачнай для выбаршчыкаў. Зафіксавана масавае выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу і незаконнае фінансаванне агітацыйнай кампаніі дзеючага Прэзідэнта з дзяржаўнага бюджэту. Крыніцы папаўнення выбарчых фондаў былі па-за межамі грамадскага кантролю, публікаваліся толькі агульныя дадзеныя пра памер фондаў. Ва ўмовах татальнага кантролю выканаўчай улады за эканомікай і дамінавання дзяржаўных прадпрыемстваў на рынку дзеючы Прэзідэнт меў непараўнальна большыя магчымасці для прыцягнення сродкаў у выбарчы фонд, што парушае прынцып роўнасці кандыдатаў.
5. Датэрміновае галасаванне суправаджалася разыходжаннямі паміж паказчыкамі яўкі, агучанымі УВК, з паказчыкамі яўкі, зафіксаванымі




назіральнікамі. Адзначаныя маніпуляцыі са спісамі выбаршчыкаў, што маглі быць скіраваныя на штучнае павелічэнне паказчыкаў яўкі. у шэрагу выпадкаў на ўчастках зафіксаваныя наўпроставыя фальсіфікацыі і падлог, у тым ліку змяненне раней складзеных пратаколаў УВК.

6. На пераважнай большасці участкаў, дзе ажыццяўлялася назіранне, падлік галасоў адбываўся не празрыста і не галосна, назіральнікі не мелі магчымасці пераканацца ў сапраўднасці агучаных УВК лічбаў. у большасці выпадкаў УВК пры падліку галасоў не працавалі як калегіяльны орган, і ў абсалютнай большасці выпадкаў сябры камісій лічылі ўласнаручна толькі частку бюлетэняў, агульны вынік па ўчастку падводзіў старшыня ці сакратар УВК, а іншыя сябры камісіі і назіральнікі не мелі магчымасці пераканацца, што агучаная ў выніковым пратаколе сумарная лічба сапраўды адпавядае рэальным вынікам падліку на ўчастку.
7. УВК стваралі неспрыяльныя ўмовы для назіральнікаў, беспадстаўна забаранялі ім рабіць фота- і відэаздымкі на ўчастках, у шматлікіх выпадках выдалялі назіральнікаў з участкаў. Зафіксаваны ціск на назіральнікаў па месцы працы з мэтай вымусіць іх да адмовы ад удзелу ў назіранні, а таксама ціск на ўдзельнікаў кампаніі назірання па заканчэнні выбараў, у тым ліку звальненні з працы.

# 1. Неспрыяльныя грамадска-палітычныя ўмовы выбарчай кампаніі

**Палітычныя зняволеныя.** Кампанія па выбарах Прэзідэнта пачалася 30 чэрвеня з прызначэння пастановай Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу дня выбараў, калі за кратамі знаходзіўся шэраг палітзняволеных. Да ліку палітвязняў на падставе распрацаваных праваабарончай супольнасцю крытэраў беларускімі праваабаронцамі на момант абвяшчэння выбараў былі аднесеныя Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Юрый Рубцоў і зняволены пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года экс-кандыдат у Прэзідэнты Мікалай Статкевіч. І хоць падчас кампаніі палітзняволеныя былі вызваленыя, наяўнасць палітвязняў негатыўна адбілася на грамадска-палітычнай атмасферы ў краіне на пачатковым этапе выбараў.

11 жніўня 2015 года супрацоўнікамі Міністэрства ўнутраных справаў былі затрыманыя пяцёра моладзевых актывістаў: Максім Пякарскі, Вадзім Жаромскі, Вячаслаў Касінераў, Яраслаў Ульяненкаў і грамадзянін Расіі Павел (прозвішча невядомае). Двое апошніх былі пазней вызваленыя пад падпіску аб нявыездзе. 20 жніўня Максіму Пякарскаму і Вадзіму Жаромскаму прад'явілі абвінавачванні па ч. 2 арт. 339 Крымінальнага кодэксу («Хуліганства, здзейсненае групай асобаў») па факце нанясення графіці палітычнага зместу на плоце каля будынка па зав. Альшэўскага і на будынку былой вайсковай часткі па вул. Лынькова і арт. 341 Крымінальнага кодэксу («Апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці») па факце псавання маёмасці індывідуальнага прадпрымальніка (білборда з выявай супрацоўнікаў міліцыі) па вул. Гарэцкага ў г. Мінску. Як паведаміў Праваабарончы цэнтр «Вясна», наяўнасць палітычных матываў у дзеяннях органаў дзяржаўнай улады, скіраваных на ўмацаванне ўлады суб'ектамі ўладных паўнамоцтваў, дазваляюць кваліфікаваць М. Пякарскага, В. Жаромскага, В. Касінерава як палітычных зняволеных. Па факце нематываванага ўжывання сілы і нанясення менш



*Максім Пякарскі, Вячаслаў Касінераў, Яраслаў Ульяненкаў*



*Яўген Васьковіч*



*Мікалая Статкевіч*

цяжкага цялеснага пашкоджання пры жорсткім затрыманні супрацоўнікамі спецыяльнага атраду хуткага рэагавання ўнутранных войскаў МУС Беларусі В. Касінерава па заканчэнні выбарчай кампаніі была ўзбуджаная крымінальная справа.

Вызваленне шасці палітвязняў не змяніла характару палітычнага рэжыму і не паўплывала кардынальна на грамадска-палітычную атмасферу ў перыяд выбараў. 22 жніўня стала вядома, што Прэзідэнт памілаваў шасцярых палітзняволеных: Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча, Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенку, Юрыя Рубцова і кандыдата ў Прэзідэнты на выбарах 2010 года Мікалая Статкевіча. Пры гэтым характар вызвалення ў форме памілавання азначае, што палітвязні былі вызваленыя па нерэабілітуючых падставах. Вызваленне палітвязняў адбылося на наступны дзень пасля заканчэння збору подпісаў, пры гэтым шэраг апазіцыйных ініцыятыўных груп падчас кампаніі агучвалі неабходнасць вызвалення палітзняволеных. Напярэдадні пачатку збору подпісаў была здзесненая спроба рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па вылучэнні палітвязня Мікалая Статкевіча кандыдатам у Прэзідэнты, аднак у яе рэгістрацыі ЦВК адмовіла, а Вярхоўны суд адмовіўся разглядаць скаргу на гэтае рашэнне.

**Ціск на палітычных апанентаў дзеючага рэжыма.** Пашыраныя ў перыяд ад прэзідэнцкіх выбараў 2010 года палітычныя рэпрэсіі супраць апазіцыі і грамадзянскай супольнасці, а таксама масавыя абмежаванні правоў чалавека вымусілі многіх беларусаў пакінуць краіну. Беларусь пакінулі кандыдаты ў Прэзідэнты на выбарах 2010 года Андрэй Саннікаў (пасля працяглага турэмнага зняволення) і Алесь Міхалевіч (крымінальная справа супраць яго па-ранейшаму не закрытая, хоць падчас выбарчай кампаніі 2015 г. палітык вярнуўся ў Беларусь і на дзень выбараў знаходзіўся пад падпіскай аб нявыездзе) ды іншыя. Ад 1996 года ў вымушанай эміграцыі знаходзіцца лідар партыі КХП-БНФ Зянон Пазняк.

**Абмежаванні свабоды асацыяцый** на ўзроўні заканадаўства і практыкі пазбаўляюць грамадзян Беларусі магчымасці рэалізацыі канстытуцыйнага права на ўдзел у выбарах праз грамадскія аб'яднанні і палітычныя партыі. Нягледзячы на змяненне ў 2013 годзе законаў «Аб грамадскіх аб'яднаннях» і «Аб палітычных партыях», парадак рэгістрацыі новых арганізацый застаўся надзвычай цяжкім (асабліва для палітычных партый). Устаноўленыя жорсткія патрабаванні да дакументаў, якія неабходна выканаць для рэгістрацыі аб'яднання, аднак нават пры выкананні гэтых патрабаванняў фармулёўкі аб магчымых падставах для адмовы ў рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў вельмі размытыя і даюць Міністэрству юстыцыі магчымасць адвольна адмаўляць у рэгістрацыі на падставе тэхнічных парушэнняў ці дробных недахопаў у афармленні дакументаў.

На практыцы падставамі для вынясення рашэнняў аб адмове ў рэгістрацыі аб'яднанняў могуць з'яўляцца недакладнае пазначэнне месца працы, пазначэнне нумара мабільнага тэлефона замест хатняга, памылка ў даце нараджэння аднаго з заснавальнікаў, прыцягненне да адміністратыўнай адказнасці заснавальнікаў арганізацыі, афармленне дакументаў шрыфтам няправільнага памеру і г. д.. Практыкуецца адмова ў рэгістрацыі аб'яднанняў у сувязі з тым, што яны раней дзейнічалі як незарэгістраваныя арганізацыі, дзейнасць якіх забароненая.

У выніку, дзяржаўныя органы ў перыяд 2010–2015 гг. адмовілі ў рэгістрацыі дзясяткам аб'яднанняў, у тым ліку праваабарончым. у ліпені 2014 г. было адмоўлена ў рэгістрацыі грамадскаму аб'яднанню «Пакт», што стваралася ў мэтах садзейнічання выкананню рэкамендацый Камітэта ААН па правах чалавека, прынятых па індывідуальных зваротах грамадзян Беларусі. 10 чэрвеня 2015 года Вярхоўны суд у трэці раз адмовіў у задавальненні скаргі заснавальнікаў аб'яднання «За справядлівыя выбары», якое намагаецца быць зарэгістраваным для ажыццяўлення назірання за выбарчым працэсам і ўжо трэці раз сутыкаецца з адмовай у рэгістрацыі (пры гэтым, згодна з рашэннем Камітэта ААН па правах чалавека, адмова ў рэгістрацыі гэтай арганізацыі з'яўляецца неправамернай і ёсць парушэннем Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, што ратыфікаваны Рэспублікай Беларусь).

Умовы стварэння палітычных партый на практыцы не даюць магчымасці рэалізаваць права на заснаванне новых партый. Апошні выпадак рэгістрацыі новай палітычнай партыі меў месца ў 2000 годзе, калі была зарэгістравана Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ. у перыяд 2010–2014 гг. было неаднаразова адмоўлена ў рэгістрацыі партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, Беларускай камуністычнай партыі працоўных, а таксама мясцовых аддзяленняў Партыі БНФ і «Руху «За Свабоду».

Ужо ў часе выбарчай кампаніі, у ліпені 2015 года, заснавальнікі БХД ў пяты раз падалі дакументы на рэгістрацыю сваёй партыі. Аднак Міністэрства юстыцыі адмовіла ў рэгістрацыі БХД, пры гэтым падчас разгляда дакументаў быў зафіксаваны ціск на заснавальнікаў партыі з мэтай прымусіць іх адмовіцца ад сяброўства ў апазіцыйным аб'яднанні (г. Клічаў, г. Верхнядзвінск). Адсутнасць рэгістрацыі пазбаўляе гэтую і шэраг іншых партый і аб'яднанняў магчымасці ўдзельнічаць у выбарчым працэсе, у тым ліку вы-

лучаць назіральнікаў і сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі. Апроч таго, любая актыўнасць у складзе незарэгістраваных партый альбо грамадскіх аб'яднанняў з'яўляецца забароненай і за яе прадугледжаная крымінальная адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да двух год на падставе артыкула 1931 Крымінальнага кодэксу.

**Свабода сходаў у Беларусі застаецца надзвычай абмежаванай.** Законам прадугледжаны дазволены парадак правядзення любых масавых мерапрыемстваў. Улады забараняюць правядзенне мітынгаў у абсалютнай большасці выпадкаў, колькасць акцый, якія апазіцыя можа правесці легальна, штогод не перавышае чатырох-пяці. Прынятыя ў 2011 годзе змены ў Закон «Аб масавых мерапрыемствах» яшчэ больш пагоршылі ўмовы рэалізацыі свабоды сходаў (уведзена адказнасць за распаўсюд інфармацыі пра месца і час правядзення акцый праз інтэрнэт да моманту атрымання дазволу дзяржаўных органаў). Несанкцыянаваныя мірныя сходы разганяюцца, нярэдка з непрапарцыйным ужываннем фізічнай сілы і спецыяльных сродкаў. Усяго са студзеня 2010 г. па жнівень 2014 г. больш за 1 200 чалавек былі асуджаныя да арышту (да 15 сутак) і грашовых штрафаў за ўдзел у мірных сходах.

Асаблівае значэнне мела ўжыванне сілы ў дачыненні да ўдзельнікаў дэманстрацыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў 2010 года, а таксама інкрымінаванне ім крымінальнага артыкула за ўдзел у падрыхтоўцы масавых беспарадкаў. Тады 19 снежня 2010 года ў акцыі пратэсту на Кастрычніцкай плошчы і плошчы Незалежнасці ў Мінску ўзялі ўдзел да 60 тысяч чалавек. За гэтую дэманстрацыю былі асуджаныя да крымінальнага пакарання чатыры экс-кандыдаты ў Прэзідэнты і яшчэ 30 грамадзян Беларусі, сотні былі асуджаныя да адміністратыўнага арышту, былі праведзеныя дзясяткі вобшукаў у офісах партый ды грамадскіх арганізацый, у кватэрах палітыкаў, журналістаў, праваабаронцаў і грамадскіх актывістаў. Хваля рэпрэсій, якая рушыла за прэзідэнцкімі выбарамі 19 снежня 2010 года, прывяла да драматычнага пагаршэння сітуацыі з грамадзянскімі і палітычнымі свабодамі.

Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2015 года становішча са свабодай сходаў не змянілася да лепшага. Улады па-ранейшаму забараняюць правядзенне мітынгаў, сходаў і дэманстрацый, нягледзячы на належным чынам аформленыя заяўкі, а колькасць акцый, якія апазіцыя можа правесці легальна з дазволу ўладаў, штогод не перавышае чатырох-пяці.

Свабода сходаў засталася абмежаванай нават падчас збору подпісаў. Нягледзячы на тое, што ініцыятыўныя групы ў перыяд збору подпісаў маюць паводле закону магчымасць ладзіць пікеты ў любых незабароненых месцах без папярэдняга паведамлення, усе астатнія акцыі застаюцца пад фактычнай забаронай: улады не даюць дазволу на іх правядзенне. Напрыклад, ініцыятыўнай групе Таццяны Караткевіч было забаронена правесці велапрабег 27 ліпеня ў Мінску з нагоды 25-іоддзя прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі: чыноўнікі Мінгарвыканкама паведамілі палітыку, што правядзенне акцыі будзе разглядацца як парушэнне заканадаўства пра масавыя мерапрыемствы, і яе арганізатары будуць прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасці.

**Свабода слова, абмежаванні дзейнасці СМІ і Інтэрнэту.** Напярэдадні выбараў узмацніўся ціск на журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ, не маючы акрэдытацыі МЗС у якасці замежнага карэспандэнта. Падставай для прымянення штрафаў да журналістаў стаў не змест падрыхтаваных імі публікацый, а сам факт іх з'яўлення ў замежных СМІ. Паводле паведамлення Беларускай асацыяцыі журналістаў, за перыяд студзень-ліпень 2015 года суды 26 разоў штрафавалі журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ, прычым толькі ў чэрвені журналістаў прыцягвалі да адказнасці 8 разоў. 19 жніўня ў Бярозаўцы (Гродзенская вобласць) супрацоўнікі міліцыі ў цывільным правялі вобшук у кватэры журналіста, сябры Партыі БНФ Юрыя Дзяшука. Змягчэнне практыкі пераследу журналістаў замежных СМІ адбылося толькі напрыканцы жніўня, на фінальным этапе выбарчай кампаніі.

Поруч з ранейшымі абмежаваннямі свабоды слова, якія традыцыйна ўжываюцца беларускімі ўладамі і праз якія Беларусь падвяргаецца крытыцы з боку праваабарончых арганізацый, напярэдадні гэтай выбарчай кампаніі былі ўведзеныя новыя абмежаванні.

1 студзеня 2015 г. ўступілі ў сілу папраўкі ў закон «Аб сродках масавай інфармацыі», якія распаўсюдзілі адказнасць СМІ, прадугледжаную законам, на інтэрнэт-сайты, а таксама абавязалі іх адсочваць каментары наведвальнікаў сайтаў. Міністэрства інфармацыі набыло права блакаваць доступ да анлайн-рэсурсаў (у тым ліку замежных) у пазасудовым парадку. 18 чэрвеня гэта новае паўнамоцтва было скарыстана на практыцы: быў заблакаваны сайт kyky.org (пасля выдалення спрэчнага матэрыялу доступ да сайту быў адноўлены). Яшчэ да гэтай падзеі шэрагу сайтаў з боку Міністэрства інфармацыі былі накіраваныя запыты аб уладальніках кантэнту (музычны сайт «Тузін хітоў», сайт Аб'яднанай грамадзянскай партыі, сайт Радыё Рацыя, сайт «Свабодны рэгіён» і інш.), якія ўтрымлівалі папярэджанні аб адказнасці за распаўсюд недакладнай інфармацыі, што можа нанесці шкоду дзяржаўным або грамадскім інтарэсам. у лістах таксама было адзначана, што за вынясенне на працягу года двух і больш папярэджанняў, а таксама за невыкананне патрабаванняў дзяржаўнага органа аб ліквідацыі парушэнняў, доступ да рэсурсу можа быць абмежаваны, пры гэтым не было пазначана, за якія канкрэтна парушэнні вынесена папярэджанне.

У пачатку 2015 г. рэгіянальныя газеты «Intex-Press» (Баранавічы), «Ганцавіцкі Час» (Ганцавічы), «Барысаўскія навіны», «Рэкламны Баржомі» (Барысаў), «Газета Слонімская» (Слонім) і агульнанацыянальная газета «Новы час» атрымалі папярэджанні ад Міністэрства інфармацыі за нязначныя парушэнні ў фармулёўцы сваіх выходных дадзеных. Усяго за студзень-сакавік 2015 года, па дадзеных Беларускай асацыяцыі журналістаў, Міністэрства інфармацыі вынесла 27 папярэджанняў 26-і сродкам масавай інфармацыі.

З 1 студзеня 2015 года ўступіў у сілу дэкрэт Прэзідэнта № 6 «Аб неадкладных мерах па супрацьдзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў», падпісаны 28 снежня 2014 года. Сярод іншага, ён закранае дзейнасць «інфармацыйных рэсурсаў, размешчаных у глабальнай камп'ютарнай сетцы Інтэрнэт» і, як адзначае Беларуская асацыяцыя журналістаў, нясе пагрозу свабодзе слова. у прыватнасці, устаноўлены абавязак уладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў

адсочваць кантэнт і каментары, прадугледжваецца магчымасць абмежавання доступу да інфармацыйных рэсурсаў па ініцыятыве Міністэрства ўнутраных спраў, уводзіцца адміністратыўная адказнасць уладальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў за невыкананне прадпісанняў Міністэрства інфармацыі аб неабходнасці выдалення матэрыялаў, скіраваных на незаконны абарот наркотыкаў.

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі і Аператыўна-аналітычны цэнтр пры Прэзідэнце 19 лютага 2015 г. зацвердзілі «Палажэнне аб парадку абмежавання доступу да інфармацыйных рэсурсаў (іх складнікаў), якія знаходзяцца ў глабальнай кампутарнай сетцы Інтэрнэт». Гэты дакумент прадугледжвае магчымасць блакавання інтэрнэт-рэсурсаў, сродкаў забеспячэння ананімнасці (проксі-сэрвэры, ананімныя сеткі накшталт Tor і інш.), якія дазваляюць карыстальнікам інтэрнэт-паслуг атрымліваць доступ да інтэрнэт-рэсурсаў, доступ да якіх абмяжоўваецца. Судовае абскарджанне рашэнняў Міністэрства інфармацыі аб блакаванні гэтым Палажэннем не прадугледжана. у адрозненне ад ранейшага парадку, пры якім доступ да сайтаў з «чорнага спісу» абмяжоўваўся ў абавязковым парадку толькі для дзяржаўных органаў, устаноў адукацыі і культуры, цяпер блакаванне гэтых сайтаў пачало распаўсюджвацца на ўсіх карыстальнікаў з Беларусі.

# 2. Прававое рэгуляванне выбараў

**Рэфармаванне Выбарчага кодэкса.** Законам ад 25 лістапада 2013 года «Аб унясенні зменаў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях правядзення выбараў і рэферэндумаў» у Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь былі ўнесеныя змены. Гэтыя змены распрацоўваліся без удзелу грамадскасці, насуперак патрабаванням палітычных партый, тэкст законапраекту не быў вядомы грамадскасці да яго разгляду ў Палаце прадстаўнікоў. у выніку, паводле ацэнак апазіцыі, гэты дакумент дадаткова абмежаваў магчымасці ўдзельнікаў выбарчага працэсу: была забароненая агітацыя за няўдзел у галасаванні, скасаванае дзяржаўнае фінансаванне агітацыйных кампаній кандыдатаў, уведзены шэраг іншых абмежаванняў. Пры гэтым новы закон не вырашыў асноўных праблем беларускага выбарчага заканадаўства і практыкі, у тым ліку не палепшыў умовы фармавання выбарчых камісій. Заўвагі ўнутраных назіральнікаў, таксама як назіральнікаў БДІПЧ АБСЕ, не былі ўлічаныя пры ўнясенні зменаў у Выбарчы кодэкс.

Істотна, што забарона на агітацыю за няўдзел у выбарах была распаўсюджана на ўсіх удзельнікаў выбарчага працэсу: як на палітычныя партыі і кандыдатаў, так і на звычайных грамадзян. Парушэнне гэтай забароны можа быць расцэнена як адміністратыўнае правапарушэнне. Увядзенне гэткай нормы супярэчыць прынцыпам свабодных выбараў і свабоды агітацыі. Асаблівае значэнне гэта забарона набывае ў беларускіх умовах, калі несвабодны і несправядлівы характар выбараў стаў відавочным для шырокай грамадскасці, і шэраг палітычных суб’ектаў апазіцыі ў часе выбараў Прэзідэнта 2015 года выступіў за іх байкот.

**Прапановы апазіцыі і грамадзянскай супольнасці.** 8 красавіка 2015 года прапановы па ўдасканаленні выбарчага заканадаўства былі накіраваны арганізацыямі-ўдзельніцамі кампаніі «Права выбару—2015» суб’ектам права заканадаўчай ініцыятывы: дэпутатам Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага схода Рэспублікі Беларусь, а таксама ў ЦВК. у падрыхтаваным апазіцыйнымі партыямі законапраекце былі выкладзены канкрэтныя прапановы што да прадухілення фальсіфікацый падчас датэрміновага галасавання, павелічэння паўнамоцтваў назіральнікаў і палітычных партый як удзельнікаў выбарчага працэсу, прадухілення выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу. З улікам досведу папярэдніх кампаній, было прапанавана

ўвесці дадатковыя гарантыі для кандыдатаў у Прэзідэнты, у тым ліку замацаваць іх асабістую недатыкальнасць і прадугледзіць магчымасць накіроўваць прадстаўнікоў кандыдатаў у склад выбарчых камісій, у тым ліку УВК. Аднак суб'екты права заканадаўчай ініцыятывы адмовіліся выносіць гэты законапраект на разгляд парламента, а ЦВК ухілілася ад свайго абавязку ўдасканальваць выбарчае заканадаўства.

Ужо пасля абвяшчэння выбараў Прэзідэнта, у ліпені, кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» накіравала ў ЦВК свае прапановы па ўдасканаленні прававой базы выбарчага працэсу. Гэтыя прапановы не прадугледжвалі змянення дзеючых законаў і маглі быць рэалізаваныя на ўзроўні тлумачэнняў альбо метадычных пастаноў ЦВК. Былі прапанаваны крокі, якія ў значнай ступені здолелі б забяспечыць празрыстасць выбарчага працэсу: 1) публікацыя дадзеных пра вынікі галасавання з разбіўкай па выбарчых участках; 2) у абавязковым парадку выдача назіральнікам на ўчастках запоўненых копій пратакола па выніках галасавання; 3) усталяванне выразнай працэдуры падліку галасоў, пры якой адзнака на кожным бюлетэні будзе аб'яўляцца ўслых з дэманстрацыяй усім прысутным сябрам участковай камісіі і назіральнікам. Аднак і гэтыя прапановы назіральнікаў-праваабаронцаў былі адкінутыя ЦВК.

Пры такіх умовах трэба канстатаваць, што прававое рэгуляванне выбарчага працэсу ў Беларусі застаецца нязменна кепскім і няздольным забяспечыць свабодны і справядлівы характар выбараў. На гэтым фоне нельга прызнаць істотнымі заявы ЦВК напярэдадні выбараў наконт пашырэння выкарыстання празрыстых скрыняў для галасавання, што без выканання іншых умоваў ніякім чынам не можа павялічыць транспарэнтнасць выбараў.

# 3. Утварэнне выбарчых камісій

**Прававое рэгуляванне.** Згодна з артыкулам 27 Выбарчага кодэкса, падрыхтоўку і правядзенне выбараў забяспечвалі наступныя выбарчыя камісіі:

ТВК (6 абласных, 1 Мінская гарадская, 118 раённых, 4 гарадскіх у гарадах абласнога падпарадкавання, 24 раённых у гарадах з раённым падзелам), вылучэнне ў якія адбывалася да 19 ліпеня 2015 года ўключна, а рашэнні пра стварэнне камісій прымаліся не пазней за 22 ліпеня.

УВК, вылучэнне ў якія распачыналася пасля стварэння ўчасткаў для галасавання і працягвалася да 23 жніўня ўключна, а рашэнні пра стварэнне камісій прымаліся не пазней за 26 жніўня.

Згодна з часткай 2 артыкула 34 Выбарчага кодэкса, не менш за траціну сяброў камісіі павінны складаць прадстаўнікі палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў. у склад камісій не могуць уваходзіць суддзі, пракуроры, кіраўнікі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. Дзяржаўныя служачыя не павінны складаць больш за 1/3 складу камісіі.

На пасяджэннях органаў мясцовай улады, на якіх фармуюцца камісіі, маюць права прысутнічаць прадстаўнікі суб'ектаў, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў у склад камісій.

Рашэнні органаў, якія ўтварылі камісіі, могуць быць абскарджаны ў трохдзённы тэрмін з дня прыняцця ў судзе суб'ектамі, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў у склад камісій. Суд разглядае скаргу ў трохдзённы тэрмін, яго рашэнне з'яўлецца канчатковым і не падлягае абскарджанню.

Збольшага змены, унесеныя ў 2013 годзе ў Выбарчы кодэкс, не закранулі ані парадка фармавання камісій, ані працэдуры вылучэння ў іх склад. Разам з тым, у артыкул 35 Выбарчага кодэкса было ўнесена патрабаванне абавязковага пазначэння партыйнай прыналежнасці асобы, што вылучана ў склад выбарчай камісіі любога ўзроўню, незалежна ад таго, вылучаецца яна ад партыі (грамадскага аб'яднання), ці ад працоўнага калектыва, ці ад грамадзян праз падачу заявы.

**Інфармаванне пра стварэнне выбарчых камісій.** Абласныя органы ўлады для інфармавання пра месца і час пасяджэння па фармаванні ТВК шырока выкарыстоўвалі свае інтэрнэт-старонкі. Але раённыя і гарадскія органы ўлады гэтай магчымасцю карысталіся не заўжды: інфармацыя пра час і месца пасяджэння па фармаванні ТВК на інтэрнэт-старонках некаторых мясцовых




органаў улады часам з'яўлялася неаператыўна, альбо не з'яўлялася ўвогуле. Суб'екты, што вылучалі прадстаўнікоў у ТВК і УВК, у большасці выпадкаў мелі магчымасць прысутнічаць на пасяджэннях мясцовых органаў улады па фармаванні камісій. Разам з тым у шэрагу выпадкаў такая магчымасць не была прадстаўлена назіральнікам.

Сайты Віцебскага гарадскога выканкама і Гарадзенскага гарадскога выканкама дэзінфармавалі грамадскасць пра час падачы дакументаў на вылучэнне ў склад ТВК: на сайтах гэтых органаў было заяўлена, што 19 ліпеня, у апошні дзень, калі было магчымае вылучэнне ў склад камісій, прыём дакументаў ажыццяўляцца не будзе. Толькі пасля скаргі ў ЦВК прадстаўнікоў Гарадзенскай гарадской арганізацыі Партыі БНФ гэтая дэзінфармацыя была выпраўленая.

Разам з тым, прадстаўніца Маладзечанскай арганізацыі Партыі БНФ Вольга Лагвіновіч 17 ліпеня каля 16:45 атрымала адмову ў прыняцці дакументаў на вылучэнне ў ТВК прадстаўнікоў партыі – іх проста не было каму прыняць. На афіцыйным сайце Маладзечанскага райвыканкама ніякіх звестак пра месца і гадзіны прыёму дакументаў не было, хаця такая інфармацыя павінна быць абвешчана, згодна з п. 2 пастановы ЦВК № 22 ад 01.07.2015 »Аб інфармаванні грамадзян пра працу па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2015 годзе». Але ні 17 ліпеня (дзень звароту прадстаўніцы Партыі БНФ), ні 19 ліпеня (апошні тэрмін падачы дакументаў) такой інфармацыі на сайце размешчана не было. Пазней на сайце райвыканкама з'явілася інфармацыя пра ўжо зацверджаны склад мясцовай ТВК ў колькасці 13 чалавек.

**Вылучэнне ў склад ТВК.** Агулам ад апазіцыйных арганізацый у склад ТВК было вылучана 63 прадстаўнікі, але уключаныя ў склад ТВК былі толькі 10 асобаў (альбо 15,87% ад ліку вылучаных). Адсотак уключаных у склад

ТВК прадстаўнікоў апазіцыі нават меншы за паказчык мінулых прэзідэнцкіх выбараў (2010 г.), калі з 71 вылучэнца апазіцыі ў склад камісій увайшлі 14 прадстаўнікоў, што складала 19,71% ад ліку вылучаных. Такім чынам, нягледзячы на прыкладна аднолькавую колькасць вылучаных апазіцыяй прэтэндэнтаў, у параўнанні з мінулымі прэзідэнцкімі выбарамі (2010 г.) колькасць прадстаўнікоў апазіцыі у ТВК паменшылася.

***Табліца 1:** Вылучэнне і ўключэнне прадстаўнікоў розных суб’ектаў у склад ТВК у параўнанні з мінулымі выбарамі Прэзідэнта*

| Суб’ект вылучэння | Выбары Прэзідэнта 2010 года | | | Выбары Прэзідэнта 2015 года | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вылучана | Уключана | % ад колькасці вылучаных | Вылучана | Уключана | % ад колькасці вылучаных |
| Ад грамадзян праз падачу заявы | 1 077 | 670 | 62,20 | 1 025 | 640 | 62,43 |
| Ад працоўных калектываў | 427 | 330 | 77,28 | 308 | 216 | 70,12 |
| Ад грамадскіх аб’яднанняў | 1 179 | 1 000 | 84,81 | 1 290 | 1 060 | 82,17 |
| у тым ліку | | | | | | |
| Ад палітычных партый: | 193 | 120 | 62,17 | 242 | 149 | 61,57 |
| Беларуская аграрная партыя | 1 | 1 | 100,00 | | | |
| Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» | 36 | 5 | 13,88 | 39 | 4 | 10,25 |
| Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) | 4 | 1 | 25,00 | 3 | 1 | 33,33 |
| Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя | 1 | 0 | 0,00 | 4 | 2 | 50,00 |
| Камуністычная партыя Беларусі | 94 | 87 | 92,55 | 107 | 94 | 87,85 |
| Ліберальна-дэмакратычная партыя | 7 | 4 | 57,14 | 11 | 4 | 36,36 |
| Аб’яднаная грамадзянская партыя | 24 | 6 | 25,00 | 10 | 3 | 30,00 |
| Партыя БНФ | 7 | 2 | 28,57 | 11 | 2 | 18,18 |
| Рэспубліканская партыя | 1 | 0 | 0,00 | 1 | 0 | 0,00 |
| Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці | 18 | 14 | 77,77 | 56 | 39 | 69,64 |
| Іншыя грамадскія аб’яднанні: | | | | | | |
| Белая Русь | 151 | 147 | 97,35 | 162 | 146 | 90,12 |
| БРСМ | 142 | 142 | 100,00 | 148 | 130 | 87,83 |
| Беларускі саюз жанчын | 116 | 111 | 95,68 | 125 | 119 | 95,2 |

| Суб'ект вылучэння | Выбары Прэзідэнта 2010 года | | | Выбары Прэзідэнта 2015 года | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вылучана | Уключана | % ад колькасці вылучаных | Вылучана | Уключана | % ад колькасці вылучаных |
| Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў | 103 | 95 | 92,23 | 127 | 107 | 84,25 |
| ФПБ | 269 | 234 | 86,98 | 287 | 241 | 83,97 |
| Іншыя грамадскія аб'яднанні | 205 | 151 | 73,65 | 199 | 168 | 84,42 |
| Агулам | 2 683 | 2 000 | 74,54 | 2 623 | 1 916 | 73,04 |

Кампанія «Права выбару–2015» адзначае, што на этапе вылучэння ў ТВК вялікую адмоўную ролю адыгралі абмежаванні на рэгістрацыю грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый. Вылучэнне ў склад камісій прадугледжана ад мясцовых арганізацыйных структур партый і грамадскіх аб'яднанняў (і для гэтых суб'ектаў прадугледжана квота не меньш чым 1/3 складу камісіі). Таму тыя партыі і аб'яднанні, што сутыкаюцца з адмовамі ў рэгістрацыі, пазбаўлены магчымасці афіцыйна прэтэндаваць на ўдзел у выбарчых камісіях, а значыць, не могуць вольна прымаць удзел у выбарчым працэсе.

З 25 вылучаных у ТВК прадстаўнікоў арганізацый-удзельніц кампаніі «Права выбару–2015» (якія вылучаліся як ад імя арганізацый, так і шляхам збору подпісаў) у склад камісій былі ўключаны толькі 3 асобы: прадстаўнікі Партыі БНФ Кастусь Смолікаў і Зміцер Каспяровіч увайшлі адпаведна ў Віцебскую абласную і Мінскую гарадскую камісіі, прадстаўніца БСДП (Г) Надзея Шомчанка – у Заводскую раённую выбарчую камісію ў горадзе Мінску.  Такім чынам, толькі 12% ад вылучаных прадстаўнікоў кампані «Права выбару–2015» былі ўключаны ў склад ТВК.

У абсалютнай большасці выпадкаў пры фармаванні камісій адмовы ва ўключэнні прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў ніякім чынам не матываваліся, пасяджэнні органаў, што фармуюць камісіі, адбываліся без абмеркавання вылучаных кандыдатур, а праз зацвярджэнне загадзя падрыхтаваных спісаў.

Прадстаўнікі апазіцыйных партый толькі ў адзінкавых выпадках былі ўключаны ў склад ТВК, пры гэтым заявы ад лаяльных уладам партый і грамадскіх аб'яднанняў былі ў большасці выпадкаў задаволеныя. Створаныя ТВК ў абсалютнай большасці выпадкаў працавалі без удзелу прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый, а прадстаўнікі партый і грамадскіх аб'яднанняў, якія падтрымліваюць дзеючую ўладу, атрымалі абсалютную большасць у складзе камісій.  у адрозненне ад выбараў Прэзідэнта 2010 года, ні ў адной ТВК не назіралася прысутнасці хаця б двух прадстаўнікоў апазіцыі.

93,5% ТВК працавала ўвогуле без кантролю з боку апазіцыі, бо ніводзін з вылучаных прадстаўнікоў дэмакратычных партый ці аб'яднанняў не быў уключаны ў іх склад.

Паколькі, згодна з заканадаўствам, фармаванне выбарчых камісій з'яўляецца прэрагатывай органаў мясцовай улады, ужо на першым этапе выбарчай кампаніі ўлады груба парушылі прынцып роўнасці правоў палітычных партый і аб'яднанняў, незалежна ад іх палітычнай накіраванасці, на ўдзел у арганізацыі і правядзенні выбараў. ТВК былі сфармаваныя амаль выключна з максімальна лаяльных да дзейнай улады асобаў, гатовых выканаць любы яе загад. у гэтых умовах магчымасць забеспячэння празрыстасці і дэмакратычнасці выбарчых працэдур камісіямі ў такім складзе, а таксама ўвогуле правядзення свабодных і справядлівых выбараў пры захаванні роўнасці правоў усіх кандыдатаў у Прэзідэнты выклікае вялікія сумневы. Ужо на этапе фармавання ТВК выбарчая кампанія пайшла па звыклым для Беларусі сцэнары, які не прадугледжвае ўдзелу апазіцыйных партый і аб'яднанняў у працы органаў, што забяспечваюць падрыхтоўку і правядзенне выбараў. Гэта засведчыла няроўнасць умоў у гэтай выбарчай кампаніі, падарвала давер да працэдуры выбараў з боку грамадства і паслужыла падставай для недаверу вынікам выбараў.

Правам абскарджання адмовы ва ўключэнні ў склад ТВК скарысталіся арганізацыйныя структуры Беларускай партыі левых «Справядлівы свет», Партыі БНФ, выбаршчыкі, што вылучалі шляхам збору подпісаў сябраў ПАГА «Рух «За Свабоду» ды іншыя. Справы разглядаліся ў Брэсцскім, Гомельскім, Мінскім абласных судах і ў судзе горада Мінска. Ніводная са скаргаў не была задаволеная. Такім чынам, інстытут судовага абскарджання неўключэння ў склад выбарчых камісій у Беларусі існуе адно толькі фармальна і на практыцы не можа лічыцца эфектыўным сродкам для перагляду складу выбарчых камісій.

Варта адзначыць, што яшчэ да заканчэння этапу фармавання ТВК з'явіліся прыкметы дзейнасці органаў выканаўчай улады па падрыхтоўцы да незаконных маніпуляцый з галасамі выбаршчыкаў. Напрыклад, Гарадоцкі райвыканкам ужо ў ліпені абвесціў пра працу па «ўдакладненні вусных і пісьмовых просьбаў выбаршчыкаў, якія жадаюць прагаласаваць па месцы знаходжання». Між тым, гэткія просьбы выбаршчыкаў павінныя фіксавацца толькі УВК, якія на той момант, паводле зацьверджанага календара выбарчай кампаніі, яшчэ не маглі быць створаныя.

**Вылучэнне ў склад УВК.** Негатыўныя тэндэнцыі захаваліся і пры фармаванні УВК, якія непасрэдна арганізуюць правядзенне галасавання. Нават у параўнанні з ранейшымі выбарчымі кампаніямі (напрыклад, з парламенцкімі выбарамі 2012 года, выбарамі Прэзідэнта 2010 года) і без таго мізэрнае прадстаўніцтва апазіцыі значна скарацілася: можна казаць толькі пра адзінкавыя выпадкі ўключэння ў склад УВК сябраў апазіцыйных партый.

Рашэннямі мясцовых органаў улады ў Беларусі было ўтворана 6 080 участкаў для галасавання. За межамі Беларусі было ўтворана 49 участкаў для галасавання.

Правам вылучэння ў склад участковых выбарчых камісій валодаюць арганізацыйныя структуры партый ды іншых грамадскіх аб'яднанняў (абласныя, раённыя, гарадскія аддзяленні і першасныя арганізацыі), працоўныя калектывы, а таксама грамадзяне (для вылучэння неабходна падаць не менш за 10



подпісаў выбаршчыкаў, што пражываюць на тэрыторыі ўчастка, пры гэтым сама прапанаваная кандыдатура павінная пражываць на тэрыторыі ўчастка).

Палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні, якім было адмоўлена ў рэгістрацыі (Партыя БХД, кампанія «Гавары Праўду!» ды іншыя), альбо якім было адмоўлена ў рэгістрацыі мясцовых арганізацыйных структур (ПАГА «Рух «За Свабоду» ды іншыя) былі пазбаўлены магчымасці вылучаць сваіх прадстаўнікоў у склад УВК.

Органы ўлады для інфармавання грамадскасці пра час прыёму дакументаў на вылучэнне прадстаўнікоў ва УВК, месца і час пасяджэння па фармаванні УВК шырока выкарыстоўвалі свае інтэрнэт-старонкі. Але інфармацыя пра час і месца пасяджэнняў па фармаванні УВК на інтэрнэт-старонках некаторых мясцовых органаў улады часам з'яўлялася неаператыўна (напрыклад, непасрэдна ў дзень пасяджэння за некалькі гадзін да яго пачатку), альбо не з'яўлялася ўвогуле. Суб'екты, што вылучалі прадстаўнікоў ва УВК, у большасці выпадкаў мелі магчымасць прысутнічаць па пасяджэннях мясцовых уладаў па фармаванні камісій. Разам з тым, у шэрагу выпадкаў такая магчымасць не была прадстаўлена назіральнікам.

У абсалютнай большасці выпадкаў пасяджэнні па фармаванні УВК ладзіліся органамі ўлады фармальна, без абмеркавання прапанаваных кандыдатур. Часцей за ўсё выканкам альбо адміністрацыя раёна зацвярджалі загадзя падрыхтаваны спіс сябраў УВК, пры гэтым у некаторых выпадках тэкст прынятага рашэння не агучваўся.

Апазіцыйныя партыі і аб'яднанні, у тым ліку суб'екты кампаніі «Права выбару—2015», актыўна вылучалі сваіх прадстаўнікоў у склад УВК. Колькасць вылучаных ва УВК прадстаўнікоў апазіцыйных арганізацый склала 516 чалавек. Гэта лічба была меншая за паказчык прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і парламенцкіх выбараў 2012 года, але яна крыху павялічылася ў параўнанні з апошняй выбарчай кампаніяй (выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў 2014 года, калі апазіцыйныя партыі вылучылі ва УВК 372 прадстаўнікі). Нягледзячы на гэта, улады адмовілі ва ўключэнні прадстаўнікоў апазіцыі ва УВК у абсалютнай большасці выпадкаў.

*Табліца 2: Вылучэнне і ўключэнне прадстаўнікоў розных суб'ектаў у склад УВК* у параўнанні з мінулымі выбарамі Прэзідэнта*

| Суб'ект вылучэння | Выбары Прэзідэнта 2010 года | | | Выбары Прэзідэнта 2015 года | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вылучана | Уключана | % ад колькасці вылучаных | Вылучана | Уключана | % ад колькасці вылучаных |
| Ад грамадзян праз падачу заявы | 34 867 | 27 003 | 77,44 | 28 964 | 24 781 | 85,55 |
| Ад працоўных калектываў | 16 305 | 14 192 | 87,04 | 11 737 | 9 621 | 81,97 |
| Ад грамадскіх аб'яднанняў | 32 862 | 29 620 | 90,13 | 36 090 | 32 539 | 90,16 |
| у тым ліку | | | | | | |
| Ад палітычных партый: | 2 881 | 1 769 | 61,40 | 3 826 | 2 936 | 76,73 |
| Беларуская аграрная партыя | 147 | 144 | 97,95 | 674 | 610 | 90,50 |
| Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» | 281 | 78 | 27,75 | 147 | 21 | 14,28 |
| Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) | 48 | 10 | 20,83 | 49 | 3 | 6,12 |
| Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя | 420 | 406 | 96,66 | 687 | 635 | 92,43 |
| Камуністычная партыя Беларусі | 705 | 545 | 77,30 | 919 | 735 | 79,97 |
| Аб'яднаная грамадзянская партыя | 507 | 54 | 10,65 | 172 | 4 | 2,32 |
| Партыя «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада» | 29 | 5 | 17,24 | - | - | - |
| Партыя БНФ | 208 | 36 | 17,30 | 96 | 2 | 2,08 |
| Рэспубліканская партыя | 68 | 63 | 92,64 | - | - | - |
| Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці | 468 | 428 | 91,45 | 1 082 | 926 | 85,58 |
| Непартыйныя грамадскія аб'яднанні: | 29 981 | 27 851 | 92,89 | 32 264 | 29 603 | 91,75 |
| Белая Русь | 4 313 | 3 925 | 91,00 | 4 765 | 4 528 | 95,02 |
| БРСМ | 4 219 | 3 860 | 91,49 | 3 873 | 3 290 | 84,94 |
| Беларускі саюз жанчын | 4 221 | 4 126 | 97,74 | 4 417 | 4 190 | 94,86 |
| Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў | 2 559 | 2 222 | 86,83 | 3 136 | 2 806 | 89,47 |
| ФПБ | 10 117 | 9 556 | 94,45 | 9 732 | 9 005 | 92,52 |
| ТБМ | - | - | - | 1 | 1 | 100,00 |
| БНФ «Адраджэньне» | - | - | - | 51 | 1 | 1,96 |
| Іншыя грамадскія аб'яднанні: | 4 552 | 4 162 | 91,43 | 6 295 | 5 782 | 91,85 |
| Агулам | 84 034 | 70 815 | 84,26 | 76 791 | 66 941 | 87,17 |

**Без уліку камісіяў участкаў, утвораных за межамі Беларусі.*

Акрамя гэтай колькасці, у лік сябраў 49 участковых камісій, утвораных за межамі Рэспублікі Беларусь, уключана 244 супрацоўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх установаў). у гэтыя камісіі таксама вылучаліся прадстаўнікі апазіцыі: Партыя БНФ і грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» вылучылі сем прадстаўнікоў у склад участковых камісій у Варшаве, Беластоку, Маскве, Празе і Вільнюсе, а таксама ў Вашынгтоне. Ніводзін з прадстаўнікоў апазіцыі не быў уключаны ў гэтыя камісіі.

Ад арганізацый-удзельніц кампаніі «Права выбару—2015» у склад УВК вылучаліся 374 чалавекі (як ад зарэгістраваных арганізацыйных структур, так і шляхам збору подпісаў). Але ў склад УВК з гэтай колькасці патрапіла толькі 6 чалавек: 3 прадстаўнікі БСДП (па адным ў Брэсцкай, Віцебскай і Мінскай абласцях), 2 прадстаўнікі Партыі БНФ (абодва ў Брэсцкай вобласці) і адзін прадстаўнік ГА БНФ «Адраджэньне» (у Гродзенскай вобласці).

Агулам ад апазіцыйных арганізацый у склад УВК было вылучана 516 прадстаўнікоў, але толькі 32 асобы былі ўключаны ў склад УВК (альбо 6,2% ад ліку вылучаных). Заяўкі лаяльных уладам партыяў і грамадскіх аб'яднанняў былі ў большасці выпадкаў задаволеныя: пры вылучэнні ад лаяльных уладам арганізацый адсотак уключэння іх прадстаўнікоў у камісіі склаў 79—95%, што на парадак перавышае адсотак уключэння прадстаўнікоў апазіцыі ў склад УВК.

Адсотак уключаных у склад УВК прадстаўнікоў апазіцыі нават меншы за паказчык мінулых прэзідэнцкіх выбараў (2010 г.), калі ў склад камісій увайшло 17,1% ад колькасці вылучаных прадстаўнікоў апазіцыі. Такім чынам, нягледзячы на прыкладна аднолькавую колькасць вылучаных апазіцыяй прэтэндэнтаў, у параўнанні з мінулымі прэзідэнцкімі выбарамі (2010 г.) колькасць прадстаўнікоў апазіцыі ва УВК істотна паменшылася.

Створаныя УВК у абсалютнай большасці выпадкаў працавалі без удзелу прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый, а прадстаўнікі партый і грамадскіх аб'яднанняў, якія падтрымліваюць дзейную ўладу, атрымалі абсалютную большасць у складзе камісій. Як і ў выпадку з ТВК, ні ў адной з УВК не назіралася прысутнасці хаця б двух прадстаўнікоў апазіцыі.

99,45% УВК працавалі ўвогуле без кантролю з боку апазіцыі, бо ніводзін з вылучаных прадстаўнікоў дэмакратычных партый ці грамадскіх аб'яднанняў у іх склад не быў уключаны.

Паказальна, што ў горадзе Мінску ніводзін з прадстаўнікоў апазіцыйных партый не быў уключаны ў склад УВК: у сталіцы палітычныя партыі былі прадстаўлены ва УВК выключна вылучэнцамі ад лаяльных уладам партый. Падобная сітуацыя мела месца ў часе выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў у 2014 годзе і ў часе парламенцкіх выбараў 2012 года, апошні раз прадстаўнікі апазіцыі працавалі ва УВК у Мінску ў часе выбараў Прэзідэнта ў 2010 годзе.

У параўнанні з ранейшымі выбарчымі кампаніямі істотна павялічылася колькасць УВК, якія не сфармаваныя ў максімальна магчымым складзе (да 19 членаў камісіі). Пры гэтым нават у выпадках, калі камісія фармавалася не ў максімальна магчымым складзе, прадстаўнікам апазіцыйных партый усё роўна адмаўлялі ва ўключэнні ў склад гэтых выбарчых камісій.

Арганізацыйныя структуры Партыі БНФ абскарджвалі ў судзе рашэнні пра адмову ва ўключэнні прадстаўнікоў Партыі БНФ у склад УВК. Скаргі ад Партыі БНФ былі пададзены ў суды Першамайскага, Савецкага, Заводскага, Фрунзенскага, Цэнтральнага раёнаў Мінска, а таксама ў суды Мінскага, Слуцкага і Салігорскага раёнаў Мінскай вобласці, у суд Бярозаўскага раёна ды ў іншыя суды. Матывам падачы скаргаў з'ўлялася дэманстрацыя несправядлівасці выбарчай сістэмы Беларусі.

Напрыклад, у Савецкім раёне горада Мінска адміністрацыя ўключыла ў склад участковых камісій 72 прадстаўнікі з 73 вылучаных арганізацыяй «Белая Русь», а таксама ўсіх вылучаных прадстаўнікоў Чырвонага крыжа, Фонда міру і БРСМ. Пры гэтым ні адзін з 29 прадстаўнікоў Партыі БНФ у камісіі гэтага раёна не патрапіў. Аднак, суд Савецкага раёна не задаволіў скаргу на гэта і пакінуў рашэнне адміністрацыі Савецкага раёна пра фармаванне УВК у гэтым раёне ў сіле.

Суды не задавальняюць скаргі апазіцыйных арганізацый нават у тым выпадку, калі ў часе судовага разгляду высвятляюцца грубыя парушэнні з боку лаяльных уладам арганізацый, чые прадстаўнікі былі ўключаныя ў склад УВК. Напрыклад, пры разглядзе скаргі на рашэнне адміністрацыі Першамайскага раёна Мінска былі зафіксаваны парушэнні парадку вылучэння з боку лаяльных уладам партый (Сацыяльна-спартыўная партыя, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці) ды працоўных калектываў (у пратаколах вылучэння ад гэтых суб'ектаў не былі пазначаныя ўсе рэквізіты, неабходныя згодна з Выбарчым кодэксам). Тым не менш, суд пакінуў рашэнне пра фармаванне УВК у гэтым раёне ў сіле, пакінуўшы ў складзе УВК тых асобаў, якія былі вылучаныя з парушэннямі.

У шэрагу выпадкаў было зафіксавана парушэнне ч. 2 арт. 34 Выбарчага кодэкса, згодна з якой не менш за траціну сябраў камісіі павінны складаць прадстаўнікі палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў. Напрыклад, у склад Другой Сенненскай камісіі №83 Мінскага раёна райвыканкам не ўключыў ніводнага прадстаўніка палітычных партый, адмовіўшы ва ўключэнні ў гэтую камісію прадстаўніку Партыі БНФ і сфармаваўшы яе выключна з прадстаўнікоў «іншых грамадскіх аб'яднанняў», працоўных калектываў і вылучэнцаў ад грамадзян. Аднак рашэннем суда Мінскага раёна ад 31 жніўня склад гэтай УВК быў пакінуты без зменаў.

# 4. Вылучэнне і рэгістрацыя кандыдатаў у Прэзідэнты

**Прававое рэгуляванне.** Парадак вылучэння кандыдатаў у Прэзідэнты рэгулюецца артыкулам 61 Выбарчага кодэкса, які прадугледжвае, што вылучэнне кандыдатаў у Прэзідэнты ажыццяўляецца ініцыятыўнымі групамі, якія мусяць сабраць не менш за 100 000 подпісаў выбаршчыкаў на карысць вылучэння кандыдата.

Пасля прызначэння выбараў пастановай Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ад 30 чэрвеня 2015 года ў ініцыятыўных груп быў час не пазней чым да 17 ліпеня падаць ў ЦВК спіс ініцыятыўнай групы, які павінны ўключаць не меньш за 100 грамадзян. Новаўвядзеннем у параўнанні з ранейшымі выбарамі стала неабходнасць унясення ў спісы ініцыятыўных груп серыі і нумара пашпарта кожнага ўдзельніка ініцыятыўнай групы. Як падаецца, гэта магло паўплываць на тое, што на выбарах 2015 года колькасна ініцыятыўныя групы былі заўважна меншымі ў параўнанні з мінулымі выбарчымі кампаніямі.

**Рэгістрацыя ініцытыўных груп.** Агулам у ЦВК паступіла 14 заяваў на рэгістрацыю ініцыятыўных груп (апроч таго яшчэ адна заява была пададзена пасля заканчэння тэрміну прыёма заяваў на рэгістрацыю груп).

Юрый Шульган, які планаваў вылучацца кандыдатам у Прэзідэнты пры падтрымцы Беларускай партыі «Зялёныя», не здолеў падаць заяву аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы, паколькі 17 ліпеня не быў дапушчаны ў будынак ЦВК і быў затрыманы міліцыяй перад уваходам у будынак. Патэнцыйнага кандыдата абвінавацілі ў знаходжанні ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане. Палітык правёў двое сутак да суду ў ізалятары часовага ўтрымання і ў выніку страціў магчымасць падаць дакументы. 20 ліпеня суд Маскоўскага раёна Мінска наклаў на Юрыя Шульгана і кіраўніка ягонага штаба Паўлюка Канавальчыка штрафы ў памеры 30 базавых вельчынь за хуліганства (якое выявілася ў дзеяннях гэтых асобаў ужо пасля затрымання). Варта адзначыць, што беспадстаўныя арышты па абвінавачванні ў хуліганстве з'яўляюцца адным з найбольш распаўсюджаных спосабаў юрыдычнага афармлення адвольных затрыманняў, якія ўлады Беларусі выкарыстоўваюць для ізаляцыі і зняволення сваіх палітычных апанентаў.

ЦВК прыняла рашэнне зарэгістраваць 8 ініцыятыўных груп: Аляксандра Лукашэнкі (дзеючы Прэзідэнт), Сяргея Калякіна (Беларуская партыя левых



А. Лукашэнка



С. Калякін



С. Гайдукевіч



Т. Караткевіч



А. Лябедзька



В. Цярэшчанка



Ж. Раманоўская



М. Улаховіч

«Справядлівы свет»), Сяргея Гайдукевіча (Ліберальна-дэмакратычная партыя), Таццяны Караткевіч (сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), якая вылучалася пры падтрымцы кампаніі «Гавары праўду!» і Партыі БНФ), Анатоля Лябедзькі (Аб'яднаная грамадзянская партыя), Віктара Цярэшчанкі (беспартыйны), Жаны Раманоўскай (беспартыйная) і Мікалая Улаховіча (Беларуская патрыятычная партыя). Астатнім ініцыятыўным групам было адмоўлена ў рэгістрацыі па розных падставах: у сувязі з неадпаведнасцю ўстаноўленаму заканадаўствам памера ініцыятыўнай групы, падачай заявы па пошце, непражывання на тэрыторыі Беларусі цягам апошніх 10 год.

***Табліца 3***. *Рэгістрацыя ініцыятыўных груп грамадзян па вылучэнні кандыдатаў у Прэзідэнты ў параўнанні з ранейшымі выбарамі*

| Год выбараў | Пададзена заяваў на рэгістрацыю ініцыятыўных груп | Зарэгістравана ініцыятыўных груп |
|---|---|---|
| 2001 | 26 | 22 |
| 2006 | 8 | 8 |
| 2010 | 19 | 17 |
| 2015 | 14 | 8 |

Адмова ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча выдзяляецца ў шэрагу іншых адмоў, паколькі мае палітычны характар. у гэтую ініцыятыўную групу ўвайшло больш за 1 700 чалавек.

ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАМІСІЯ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ
РЭСПУБЛІКАНСКІХ
РЭФЕРЭНДУМАЎ

ЦЕНТРАЛЬНАЯ КОМИССИ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПО ВЫБОРАМ И ПРОВЕДЕНИ
РЕСПУБЛИКАНСКИХ
РЕФЕРЕНДУМОВ

ПАСТАНОВА
20.07.2015 № 38
г.Мінск

ПОСТАНОВЛЕНИЕ

г.Минск

Об отказе в регистрации инициативной группы граждан по выдвижению кандидатом в Президенты Республики Беларусь Статкевича Н.В.

В Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам проведению республиканских референдумов (далее – Центральн комиссия) рассмотрены документы, представленные Адамович Марин Михайловной для регистрации инициативной группы граждан выдвижению кандидатом в Президенты Республики Беларусь Статкеви Николая Викторовича.

В настоящее время Статкевич Н.В. содержится по приговору суда местах лишения свободы.

Согласно положениям статьи 45 Уголовного кодекса Республик Беларусь осуждение лица за совершенное им преступление созда правовое состояние судимости, которое начинается со дня вступления законную силу приговора суда и длится до погашения судимости или е снятия, если приговор не отменен в установленном порядке.

В соответствии с частью седьмой статьи 60 Избирательного кодек Республики Беларусь кандидатами в Президенты Республики Беларусь н могут быть выдвинуты граждане, не имеющие права в соответствии законодательством Республики Беларусь занимать должности государственных органах и иных государственных организациях в связи наличием судимости. Приведенное требование основано на норма Конституции Республики Беларусь. Согласно статье 64 Конституции и статье 4 Избирательного кодекса лица, находящиеся по приговору суда в местах лишения свободы, не вправе участвовать в выборах, то есть они лишены избирательного права. Статьей 80 Конституции предусмотрено, что Президентом может быть избран только гражданин, обладающий избирательным правом.

Таким образом, правовых оснований для выдвижения Статкевича Н.В. кандидатом в Президенты Республики Беларусь не имеется.

2

Кроме того, порядок подачи документов для регистрации инициативной группы Статкевича Н.В. не соответствует требованиям статьи 61 Избирательного кодекса Республики Беларусь.

Так, заявление о регистрации инициативной группы Статкевича Н.В. не только подано Адамович Мариной Михайловной, предъявившей выданную Статкевичем Н.В. доверенность от 17.12.2014, но и подписано ею. Однако часть третья статьи 61 Избирательного кодекса Республики Беларусь допускает лишь подачу документов представителем лица, имеющего намерение выдвинуться кандидатом в Президенты. Заявление о регистрации инициативной группы по сути является выражением намерения гражданина выдвинуться кандидатом в Президенты, которое по своему характеру может быть сделано только лично.

Частью пятой статьи 61 Избирательного кодекса установлено, что в регистрации инициативной группы отказывается в случае нарушения требований этого Кодекса.

На основании изложенного, руководствуясь пунктом 10 части первой статьи 33, частью пятой статьи 61 Избирательного кодекса Республики Беларусь, Центральная комиссия ПОСТАНОВЛЯЕТ:

1. Отказать в регистрации инициативной группы избирателей по выдвижению кандидатом в Президенты Республики Беларусь Статкевича Николая Викторовича.

2. Постановление Центральной комиссии может быть обжаловано в Верховный Суд Республики Беларусь в трехдневный срок со дня его принятия.

Заместитель Председателя комиссии — В.Д. Ипатов

Секретарь комиссии — Н.И. Лозовик

Верно!
Главный специалист отдела
по обеспечению деятельности
Центральной комиссии
20.04.2015 [illegible]

Для дакументаў

Аднак ЦВК адмовіла у рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па двух падставах: 1) Мікалай Статкевіч у дадзены момант знаходзіцца за кратамі, а, згодна з артыкулам 4 Выбарчага кодэкса, асобы, якія пазбаўленыя волі, не маюць права ўдзельнічаць у выбарах; 2) заява на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы была падпісана і пададзена кіраўніком ініцыятыўнай групы Марынай Адамовіч (жонка М. Статкевіча), у той час як артыкул 61 Выбарчага кодэкса прадугледжвае толькі падачу заявы праз прадстаўніка, а сама заява павінна быць падпісана асабіста той асобай, што вылучаецца.

Не згодныя з такім рашэннем сябры ініцыятыўнай групы падалі скаргу ў Вярхоўны суд, аднак той адмовіўся разглядаць яе. Падставай для адмовы таксама сталася адсутнасць уласнаручнага подпісу палітыка пад зваротам у суд.

Такім чынам, праз палітычна матываваны беззаконны прысуд Мікалай Статкевіч быў пазбаўлены магчымасці вылучацца ў якасці кандыдата. Аднак забарона рэгістрацыі зняволенага ў якасці кандыдата не можа з'яўляцца законнай падставай для адмовы ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы: згодна з нормамі Выбарчага кодэкса, пытанне адпаведнасці вылучанай асобы крытэрам, якія неабходныя для вылучэння, павінна разглядацца на этапе рэгістрацыі кандыдата, пасля заканчэння этапу збору подпісаў. Такім чынам, наяўнасць альбо адсутнасць права Мікалая Статкевіча на вылучэнне кандыдатам не павінна была ўплываць на рашэнне пра рэгістрацыю ініцыятыўнай групы.

**Збор подпісаў дзеля вылучэння кандыдатаў у Прэзідэнты.** Вызначэнне месцаў, забароненых для пікетаў па зборы подпісаў, адбылося, згодна з графікам кампаніі, да 17 ліпеня. Паводле ацэнак доўгатэрміновых назіральнікаў кампаніі «Права выбару—2015», у большасці выпадкаў мясцовыя органы ўлады пры вызначэнні месцаў, забароненых для збору подпісаў, не стваралі празмерных абмежаванняў для працы ініцыятыўных груп. Аднак у некаторых гарадах у спіс месцаў, дзе збор подпісаў забаронены, патрапілі найбольш шматлюдныя месцы населеных пунктаў. у Мінску ў параўнанні з выбарамі 2010 года сярод месцаў, забароненых для збору подпісаў, з'явіліся падземныя пераходы. Пры вызначэнні месцаў, забароненых для збору подпісаў, мясцовыя ўлады не кіраваліся адзінымі прынцыпамі, крытэры абмежаванняў былі розныя ў розных населеных пунктах і рэгіёнах.

Згодна з патрабаваннямі Выбарчага кодэкса, збор подпісаў праходзіў з 23 ліпеня па 21 жніўня. Васьмі зарэгістраваным ініцыятыўным групам для вылучэння кандыдатаў у Прэзідэнты належала сабраць не меньш за 100 000 подпісаў выбаршчыкаў. Кожны выбаршчык меў права паставіць свой подпіс у падтрымку некалькіх кандыдатур, але не больш чым адзін раз на карысць вылучэння адной кандыдатуры.

Удзел адміністрацыі ў зборы подпісаў, прымус да збору подпісаў і ўзнагароджванне выбаршчыкаў за ўнясенне подпісаў забараняюцца. Ініцыятыўным групам забаронена прыцягваць асобаў, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні ці іншай службовай залежнасці для ажыццяўлення дзейнасці, якая спрыяе вылучэнню. Парушэнне гэтых патрабаванняў можа з'яўляцца падставай для вынясення папярэджання ці адмовы ў рэгістрацыі кандыдата ў Прэзідэнты.

Збор подпісаў праходзіў з 23 ліпеня па 21 жніўня. Паводле паведамленняў доўгатэрміновых назіральнікаў кампаніі «Права выбару—2015», збор подпісаў шляхам правядзення пікетаў праводзілі ўсе ініцыятыўныя групы. Пікеты ініцыятыўнай групы Мікалая Улаховіча і ініцыятыўнай групы Жанны Рамаؤскай былі зафіксаваныя ў мінімальнай колькасці.

Назіральнікамі былі адзначаныя факты перашкодаў працы ініцыятыўных груп па зборы подпісаў. у Брэсце 23 ліпеня па прыездзе з Мінска проста на вакзале была затрымана сябра АГП Аліна Літвінчук, якая везла пасведчанні сябраў ініцыятыўнай групы лідара АГП Анатоля Лябедзькі. у выніку ініцыятыўная група па вылучэнні гэтага кандыдата ў Брэсце была вымушана праз адсутнасць пасведчанняў распачаць збор подпісаў пазней.

24 ліпеня сябрам ініцыятыўнай групы Анатоля Лябедзькі ахоўнікі на рынку Ждановічы ў Мінскім раёне не далі збіраць подпісы за вылучэнне лідара АГП кандыдатам у Прэзідэнты.

Назіральнікі з Гомельскай вобласці паведамілі, што супрацоўнікі прадпрыемства «Беларусьнафта» адмаўляюцца ставіць подпісы за апазіцыйных кандыдатаў на падставе таго, што адміністрацыя прадпрыемства пагражала ім звальненнем за падобны ўчынак.

27 ліпеня ў Маладзечна Валянцін Цішко, сябра ініцыятыўнай групы Таццяны Караткевіч, быў затрыманы нарадам міліцыі і дастаўлены ў Маладзечанскае РУУС. Пасля разбіральніцтва Валянціну Цішко былі прынесены прабачэнні. 29 ліпеня ў г. Наваполацку адбыўся хуліганскі напад на пікет у



*Таццяна Караткевіч здзейсніла велапрабег ад аднаго пікета па зборы подпісаў да іншага ў Мінску*




падтрымку Таццяны Караткевіч. Па факце здарэння былі пададзены заявы ў аддзел міліцыі і гарадскую камісію па выбарах. Аналагічныя хуліганскія дзеянні былі здзейснены 3 жніўня супраць пікетаў зборшчыкаў подпісаў за Анатоля Лябедзьку ў Гродне. 1 жніўня ў Брэсце падчас святкавання Дня горада на вул. Савецкай невядомыя мужчыны спрабавалі перашкодзіць збору подпісаў ініцыятыўнай групай Таццяны Караткевіч.

29 ліпеня ў горадзе Бярозаўка Гродзенскай вобласці ў кватэры сябры Партыі БНФ Вітольда Ашуркі, удзельніка ініцыятыўнай групы Таццяны Караткевіч, адбыўся вобшук. Супрацоўнікі следчага камітэта канфіскавалі камп'ютар, прынтэр і флэшку актывіста. Паводле ягоных слоў, падставай для вобшука стаў флэш-моб, які незадоўга да гэтага зладзілі невядомыя каля транспартнай прахадной і цэха па вырабе шклаваты на шклозаводзе «Нёман». Пазней вобшукі адбыліся ў кватэрах яшчэ сямі жыхароў Бярозаўкі, у тым ліку сябраў Партыі БНФ і сябраў ініцыятыўнай групы Таццяны Караткевіч. Вынятыя ў часе гэтых вобшукаў аргтэхніка і абсталяванне былі вернутыя толькі пасля заканчэння выбарчай кампаніі.

27 ліпеня Мінгарвыканкам забараніў Таццяне Караткевіч здзейсніць велапрабег ад аднаго пікета па зборы подпісаў да іншага ў Мінску: улады патлумачылі, што падобны велапрабег будзе трактавацца як недазволенае масавае мерапрыемства, за якое ўдзельнікі будуць прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасці.

29 ліпеня ў Мінску вядомага беларускага музыку і пісьменніка Леаніда Зубарава затрымалі за тое, што ён частаваў пікетоўцаў АГП марозівам.




16 жніўня ў Магілёве былі затрыманыя сябры Партыі БНФ Аляксандр Шаўцоў і Валянціна Шчэтнікава, сябры ініцыятыўнай групы Таццяны Караткевіч. Актывіст Партыі БНФ зьбіраў подпісы пад бел-чырвона-белым сцягам на Віленскім рынку ў абласным цэнтры. Паводле старшыні гарадской партыйнай арганізацыі Валянціны Шчэтнікавай, трое супрацоўнікаў атрада спецпрызначэння міліцыі спрабавалі забраць сцяг, але актывіст бараніў сімволіку. Урэшце забралі і яго, і сцяг.

Некаторыя сябры ініцыятыўных груп актыўна выкарыстоўвалі выбарчую кампанію для прыцягнення ўвагі да палітычных праблем. 11 жніўня ў Бабруйску сябры ініцыятыўных груп Анатоля Лябедзькі і Таццяны Караткевіч апранулі футболкі з выявай палітвязня Мікалая Статкевіча, размясцілі яго партрэты на сваіх стэндах, у размовах з гараджанамі паведамлялі пра асобу гэтага палітвязня Беларусі. Ініцыятыўная група Анатоля Лябедзькі ў Мінску 28 ліпеня зладзіла пікет прысвечаны тэме знікненняў апазіцыйных палітыкаў, 4 жніўня правяла пікет, прысвечаны тэме палітзняволеных, а 18 жніўня – тэматычны пікет «Без свабоды слова няма сумленных выбараў». Ініцыятыўная група Таццяны Караткевіч 27 ліпеня зладзіла пікет на праспекце Незалежнасці ў Мінску з нагоды 25-іоддзя прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. 21 жніўня ў Мінску сябры Партыі БНФ у якасці сябраў ініцыятыўнай групы Таццяны Караткевіч зладзілі тэматычны пікет «Праспект нацыянальнага сцяга». Правядзенне гэткіх тэматычных пікетаў часам сутыкалася з процідзеяннем дзяржаўных органаў і ТВК: падчас пікета 28 ліпеня ТВК зрабіла вусную заўвагу Анатолю Лябедзьку (не засна-

ваную на нормах заканадаўства), а пікет Таццяны Караткевіч 21 жніўня быў праведзены не на загадзя абвешчаным мосце, які раптоўна быў зачынены на рамонт.

4 жніўня сябры ініцыятыўнай групы Анатоля Лябедзькі арганізавалі пікет насупраць цэнтральнага будынка КДБ у г. Мінску, на якім раздавалі партыйныя агітацыйныя матэрыялы, выказвалі патрабаванні вызваліць палітвязняў. 12 жніўня Мінская гарадская ТВК папрасіла кіраўніка ініцыятыўнай групы Анатоля Лябедзькі Віктара Карняенку не распаўсюджваць агітацыйную інфармацыю ў часе пікетаў па зборы подпісаў  і не парушаць закон.

**Злоўжыванне адміністрацыйным рэсурсам з боку ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі.** Згодна з артыкулам 61 Выбарчага кодэкса, удзел адміністрацыі арганізацыі ў зборы подпісаў, роўна як і прымус у працэсе збору подпісаў і ўзнагароджванне выбаршчыкаў за ўнясенне подпіса, не дапускаюцца. Парушэнне гэтых патрабаванняў можа быць падставай для адмовы ў рэгістрацыі кандыдата ў Прэзідэнты. Гэта норма заканадаўства масава парушалася ініцыятыўнай групай па вылучэнні А. Лукашэнкі.

Подпісы за вылучэнне А. Лукашэнкі збіраліся ў пікетах, аздобленых сімволікай Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі, Камуністычнай партыі Беларусі. Варта адзначыць, што гэтыя арганізацыі фінансуюцца дзяржавай з рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў: напрыклад, у рэспубліканскім бюджэце на 2014 год БРСМ было вылучана 43 мільярды рублёў, а ў рэспубліканскім бюджэце на 2015 год – ужо 50 мільярдаў рублёў. Таксама гэтыя арганізацыі карыстаюцца ільготнымі каэфіцыен-




*Збор подпісаў у абедзенны час правёў Член Савета Рэспублікі, генеральны дырэктар КУП «Гроднааблкінавідэапракат» Юрый Мар'янавіч Аляксей.*

тамі пры вызначэнні ставак для арэнды памяшканняў дзяржаўнай уласнасці. Падчас разгляду ў ЦВК скаргі Партыі БНФ на парушэнні з боку ініцыятыўнай групы Лукашэнкі, кіраўнік дадзенай ініцыятыўнай групы Міхаіл Арда, які адначасова з’яўляецца кіраўніком ФПБ, пацвердзіў, што ў часе збору подпісаў за вылучэнне Лукашэнкі выкарыстоўваліся плакаты і стэнды, вырабленыя за сродкі ФПБ. Аднак ЦВК не палічыла парушэннем заканадаўства і падставай для адмовы ў рэгістрацыі гэтага кандыдата прыцягненне ініцыятыўнай групай сродкаў грамадскага аб’яднання ў абыход прадугледжанага заканадаўствам унясення сродкаў у выбарчы фонд.

Як паведамляла кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары», у Крычаве супрацоўнікам сярэдняй школы № 5, УА »Крычаўскі дзяржаўны прафесійны агратэхнічны каледж», РУВП »Крычаўскі завод гумавых вырабаў» было загадана прыносіць пашпарты і падпісвацца ў падтрымку А. Лукашэнкі. Аналагічна дзейнічала адміністрацыя філіяла ААТ »БЕЛАЗ» «Магілёўскі аўтамабільны завод імя С.М. Кірава», УАЗ »Магілёўскі абласны лячэбнадыягнастычны цэнтр» і інш.. у Брэсце адміністрацыя электрамеханічнага завода ў працоўны час арганізавала збор подпісаў за А. Лукашэнку. Як паведамлялі супрацоўнікі прадпрыемства «Магілёўхімвалакно», (г. Магілёў), адміністрацыя прадпрыемства ад 23 ліпеня арганізавала ў працоўны час збор подпісаў за А. Лукашэнку, прычым подпісы збіраюць не сябры ініцыятыўнай групы. 27 ліпеня доктар-тэрапеўт гарадской паліклінікі № 6 г. Гродна на выкліку прасіла пацыента падпісацца за вылучэнне А. Лукашэнкі. у Магілёве адміністрацыя завода імя Кірава арганізавала збор подпісаў за вы-




*Збор подпісаў БРСМ у Гомельскай вобласці г. Калінкавічы*

лучэнне таго ж кандыдата. 29 ліпеня ў сярэдняй школе № 27 горада Гомеля журналісты і праваабаронца Віктар Адзіночанка зафіксавалі 12 чалавек, якія сядзелі пад кабінетам дырэктара з пашпартамі і тлумачылі, што яны прыйшлі «выбіраць Прэзідэнта». у Салігорску супрацоўніца Цэнтра занятасці насельніцтва ў загадным тоне запатрабавала ад наведвальнікаў заняткаў падпісацца за А. Лукашэнку. у Мікашэвічах (Брэсцкая вобласць) удзел адміністрацыі ў арганізацыі збору подпісаў за А. Лукашэнку быў зафіксаваны ў раённай бальніцы і на прадпрыемстве РУВП »Граніт». у горадзе Бярозаўка Лідскага раёна начальнік участка ЖЭСу даў загад сваім падначаленым (якія не з’яўляліся сябрамі ініцыятыўнай групы) сабраць мінімум па адным падпісным лісьце – 16 подпісаў – за Лукашэнку. у Мінску адміністрацыя ЗАТ «Атлант» (Мінскі завод халадзільнікаў) праз майстроў цэхаў арганізавала збор подпісаў за вылучэнне А. Лукашэнкі.

На шматлікіх прадпрыемствах краіны супрацоўнікаў у працоўны час вымушалі падпісвацца ў падтрымку А. Лукашэнкі. Напрыклад, гэта адбывалася ў цэхах Гомельскага аддзялення Беларускай чыгункі, на Добрушскім фарфоравым заводзе, Добрушскай папяровай фабрыцы і Добрушскім хлебазаводзе. На прадпрыемстве БЕЛАЗ (Жодзіна), заводзе «Нафтан» (Наваполацк), прадпрыемстве «Палессеэлектрамаш» (Лунінец) прадстаўнікі адміністрацыі ў працоўны час збіралі подпісы. Зборшчыкі подпісаў, сярод якіх і прадстаўнікі адміністрацыі, часам мелі падпісныя лісты з ужо цалкам запоўненымі графамі асабістых дадзеных. Калі людзі катэгарычна адмаўляліся, іх спрабавалі ўгаварыць, спасылаючыся на даведзены план па зборы подпісаў. Падобныя факты адзначаныя таксама ў Бабруйску, Магілёве, Крычаве, на прадпрыемстве «Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка» і інш..

Па звестках назіральніка, начальнік паштовага аддзялення № 15 г. Полацка Бародзіч А.В. у працоўны час на працоўных месцах збірала подпісы за А. Лукашэнку. Па звестках, якія паступілі ад работніка ААТ «Беларуськалій», адзін з кіраўнікоў падраздзялення прадпрыемства аддаў распараджэнне, каб усе супрацаўнікі падначаленага яму падраздзялення прынеслі пашпарты і падпісаліся за дзеючага Прэзідэнта. Яго сакратар ездзіла па рудніках і збірала подпісы. Са слоў ваеннаслужачых, у канцы ліпеня з афіцэрамі і прапаршчыкамі 38-й брыгады, размешчанай у Брэсце, у загадным парадку камандаваннем былі арганізаваны сустрэчы з ініцыятыўнай групай А. Лукашэнкі, прысутным «параілі» падпісацца за Вярхоўнага галоўнакамандуючага (якім з’яўляецца дзеючы Прэзідэнт).

У філіяле № 1 Гомельскай гарадской цэнтральнай паліклінікі 4 жніўня правялі збор подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатам у Прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі. Па паведамленнях працаўнікоў сферы аховы здароўя, работнікам паліклінікі было загадана прыйсці 4 жніўня з 12.00 да 14.00 з пашпартамі ў актавую залу паліклінікі. у зале прысутнічала жанчына, якая прадставілася сябрам ініцыятыўнай групы па вылучэнні кандыдатам у Прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі, і збірала подпісы. На ўмовах ананімнасці жыхары Гомеля паведамілі, што подпісы збіраліся за Аляксандра Лукашэнку ў Гомельскай абласной клінічнай бальніцы, прычым усім медыкам было загадана абавязкова падпісацца, «каб не мець потым праблем». у кабі-

неце дырэктара школы № 27 г. Гомеля ў працоўны час з тэхнічнага персаналу таксама збіраліся подпісы ў падтрымку дзеючага Прэзідэнта. Жыхары Гомеля таксама інфармавалі, што подпісы за Аляксандра Лукашэнку збіраліся на ЗАТ »Гомельскі вагонабудаўнічы завод» і на ААТ »Гомельскі завод жалезабетонных вырабаў». у кампанію «Праваабаронцы за свабодныя выбары» паступала інфармацыя аб тым, што на прадпрыемстве «Гомелькабель» 28 ліпеня ў працоўны час у прымусовым парадку з удзелам адміністрацыі збіралі подпісы за Аляксандра Лукашэнку, прычым адміністрацыя пагражала звальненнем рабочых, якія не падпішуцца (на прадпрыемстве функцыянуе кантрактная сістэма). у выніку вялікая колькасць супрацоўнікаў «Гомелькабель» узялі выпіскі з пашпартоў у аддзеле кадраў, каб пайсці на прахадную паставіць свой подпіс.

Скаргі ініцыятыўнай групы А. Лябедзькі ў ЦВК на факты прымусовага збору подпісаў на карысць А. Лукашэнкі на гомельскіх прадпрыемствах «Камінтэрн» і «Гомсельмаш» была адхіленая, прычым разгляд скаргі на калегіяльным пасяджэнні ЦВК не адбываўся.

У Жодзіна зафіксаваны выпадак, калі зборшчыкі подпісаў за А. Лукашэнку дазвалялі выбаршчыкам ставіць подпіс ад імя іншых выбаршчыкаў.

У Мінску зафіксаваныя выпадкі, калі зборшчыкі подпісаў за вылучэнне А. Лукашэнкі прапаноўвалі выбаршчыкам падпісацца ў лістах, дзе не ўтрымліваліся дадзеныя пра асобу, што збірае подпісы, а таксама не былі пазначаны поўныя дадзеныя асобы, што вылучаецца ў якасці кандыдата ў Прэзідэнты. Працаўнікі ААТ »Амкадор» паведамілі, што намеснік дырэктара холдынга па ідэалагічнай працы выклікаў да сябе па адным супрацоўнікаў структурных падраздзяленняў арганізацыі і раздаў ім пустыя падпісныя лісты з мэтай збору подпісаў у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі.

У Брэсце сябра ініцыятыўнай групы Лукашэнкі В. Астапук 5 жніўня ў 13.00 адсутнічаў на пікеце, а замест яго подпісы збірала асоба, якая не ўпаўнаважаная на збор подпісаў: «памочнік члена ініцыятыўнай групы» А. Лукашэнкі М. Марозава, якая ў прысутнасці назіральніка атрымала подпіс грамадзянкі Кароціч Людмілы Мікалаеўны. Назіральнік адзначыў, што члены названай ініцыятыўнай групы карыстаюцца выдадзенай масавым накладам без выходных дадзеных кніжкай «памятка памочніку члена ініцыятыўнай групы». Па словах сябра ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі Ганны Пішчык, гэтую кніжку яна атрымала ад начальніка аддзела ідэалогіі Маскоўскага раёна г. Брэста.

У Мінску зафіксаваныя выпадкі, калі пікеты па зборы подпісаў за А. Лукашэнку адбываліся ў забароненых для пікетавання месцах (напрыклад, у падземных пераходах), пры гэтым сябрам іншых ініцыятыўных груп у гэтых месцах збіраць подпісы забаранялася.

Паводле інфармацыі аднаго з сябраў ініцыятыўнай групы Т. Караткевіч, пры зборы подпісаў у г. Крычаве грамадзяне распавялі, што начальнік аддзела эканомікі выканкама І. Пруднікава патлумачыла ім, што, калі яны ўжо падпісаліся за вылучэнне А. Лукашэнкі, то за іншых прэтэндэнтаў ім падпісвацца нельга.




*Праграма «Як ёсць» ад 25.07.2015*

Дзяржаўныя СМІ ў публікацыях акцэнтавалі ўвагу на пікетах па зборы подпісаў менавіта за А. Лукашэнку выключна ў пазытыўным ключы, пра збор подпісаў за іншых кандыдатаў паведамлялася вельмі рэдка і ў нейтральных альбо негатыўных танах. Адным з такіх момантаў стала праграма Аляксея Міхальчанкі на дзяржаўным тэлеканале АНТ «Як ёсць», які прысвяціў эфірны час на тэлеканале старшыні АГП Анатолю Лябедзьку, жорстка раскрытыкаваўшы яго дзейнасць. Публікацыі на афіцыйным сайце Мінгарвыканкама асвятлялі збор подпісаў з пераважным выкарыстаннем матэрыялаў пра пікеты на карысць А. Лукашэнкі. Адпаведныя скаргі у ЦВК ініцыятыўнай групы А. Лябедзькі па гэтых выпадках засталіся незадаволеныя.

Прадстаўнікі Партыі БНФ зьвярнуліся ў ЦВК са скаргай, у якой патрабавалі вынесьці папярэджаньне ініцыятыўнай групе А. Лукашэнкі: ля універсама «Цэнтральны» ў Мінску, дзе збіраліся подпісы на пікетах шматлікіх кандыдатаў, ініцыятыўная група Лукашэнкі з ліку сябраў праўладнай Камуністычнай партыі Беларусі раздавала друкаваныя выданьні на карысьць сваяго вылучэнца (пры тым, што на этапе збору подпісаў забароненая раздача выбаршчыкам якіх-кольвек друкаваных матэрыялаў). Аднак, нягледзячы на пацвярджэнне факта парушэння ў тлумачэннях сябраў ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі, ЦВК адмовіла ў задавальненні дадзенай скаргі.

Напярэдадні рэгістрацыі кандыдатаў у Прэзідэнты Партыя БНФ звярнулася ў ЦВК са скаргай на парушэнні заканадаўства ініцыятыўнай групай Аляксандра Лукашэнкі. у скарзе на 50 аркушах Партыя БНФ пералічыла канкрэтныя выпадкі выкарыстаньня прыхільнікамі Аляксандра Лукашэнкі службовага становішча і іншых формаў адміністрацыйнага рэсурса ў інтарэсах вылучэння дадзенага кандыдата, прымусу да дачы подпісаў, збору подпісаў у працоўны час з удзелам адміністрацый дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў, правядзення пікетаў па зборы подпісаў у месцах, забароненых згодна з рашэннямі мясцовых органаў улады. Таксама былі прыведзеныя канкрэтныя выпадкі збору подпісаў за Лукашэнку асобамі, якія не з’яўляліся сябрамі ініцыятыўнай групы, неналежнага запаўнення падпісных лістоў, выраба і раздачы друкаваных агітацыйных матэрыялаў выбаршчыкам, выкарыстанне ў мэтах агітацыі фінансавых сродкаў з парушэньнем патрабаванняў Выбарчага кодэкса. Да скаргі былі прыкладзены шматлікія дакумэнтальныя сьведчанні, заявы і скаргі сябраў ініцыятыўных груп ды выбаршчыкаў, фотаздымкі, паведамленні СМІ і назіральнікаў.  Як сцвярджалася ў скарзе, парушэнні з боку ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі мелі сістэматычны і масавы характар, іх праявы назіраліся на ўсёй тэрыторыі краіны. Усе гэтыя парушэньні стваралі падставы для адмовы ў рэгістрацыі Лукашэнкі ў якасці кандыдата ў Прэзідэнты. Таксама ў скарзе былі адзначаныя факты ціску з



боку органаў выканаўчай улады, што знаходзяцца пад кантролем дзеючага Прэзідэнта, на ініцыятыўныя групы іншых прэтэндэнтаў. у тым ліку былі пералічаныя выпадкі арыштаў зборшчыкаў подпісаў, вобшукаў у кватэрах сябраў ініцыятыўных груп, перашкоды ў правядзенні збору подпісаў і іншыя захады па стварэнні няроўных умоваў для збору подпісаў. Гэтая скарга была разгледжана на пасяджэнні ЦВК і адхілена рашэннем камісіі.

**Рэгістрацыя кандыдатаў.** У выніку збору подпісаў пяць ініцыятыўных груп здалі ў выбарчыя камісіі подпісы ў неабходнай для рэгістрацыі кандыдата колькасці. Ініцыятыўныя групы Анатоля Лябедзькі і Сяргея Калякіна заявілі, што яны не здолелі сабраць неабходныя для вылучэння сто тысяч подпісаў, пры гэтым, паводле ініцыятыўнай групы Сяргея Калякіна, на карысць гэтага прэтэндэнта было сабрана 64 тысячы подпісаў.





Пры праверцы подпісаў ТВК была прызнана несапраўднай значная колькасць подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатам беспартыйнага Віктара Цярэшчанкі.

Рашэннем ЦВК ад 10 верасня ў якасці кандыдатаў у Прэзідэнты былі зарэгістраваны чатыры палітыкі: старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч, сябра Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) і прадстаўніца кампаніі «Гавары праўду!» Таццяна Караткевіч, беспартыйны інкумбент Аляксандр Лукашэнка, старшыня Патрыятычнай партыі Мікалай Улаховіч.

Варта адзначыць, што працэдура праверкі подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатаў была непразрыстай, да яе не мелі доступу назіральнікі. у выніку гэтай акалічнасці, а таксама з прычыны практычна поўнай адсутнасці прадстаўнікоў апазіцыі ў ТВК, што займаліся праверкай подпісаў, сапраўднасць сабраных кандыдатамі подпісаў ставілася пад сумнеў іншымі палітычнымі сіламі (прычым гэты сумнеў быў адрасаваны ўсім чатыром зарэгістраваным кандыдатам).

*Табліца 4. Колькасны склад ініцыятыўных груп і колькасць сабраных подпісаў*

| № | Імя асобы, што вылучалася кандыдатам | Склад ініцыятыўнай групы | Здаддзена подпісаў (паводле дадзеных ЦВК) | Колькасць подпісаў, прызнаных сапраўднымі (паводле дадзеных ЦВК) |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Аляксандр Лукашэнка | 10 577 | 1 761 145 | 1 753 380 |
| 2 | Сяргей Гайдукевіч | 2 481 | 140 735 | 139 877 |
| 3 | Таццяна Караткевіч | 1 993 | 107 299 | 105 278 |
| 4 | Сяргей Калякін | 1 510 | 48 | - |
| 5 | Мікалай Улаховіч | 1 426 | 159 805 | 149 819 |
| 6 | Анатоль Лябедзька | 977 | - | - |
| 7 | Віктар Цярэшчанка | 946 | 130 404 | 6 699 |
| 8 | Жанна Раманоўская | 110 | 780 | - |

# 5. Перадвыбарчая агітацыя

**Прававое рэгуляванне.** Згодна з артыкулам 45 Выбарчага кодэкса, грамадзянам Рэспублікі Беларусь, палітычным партыям, іншым грамадскім аб'яднанням, працоўным калектывам, давераным асобам кандыдатаў у Прэзідэнты, ініцыятыўным групам, якія праводзяць агітацыю за абранне кандыдатаў у Прэзідэнты, прадстаўляецца права свабоднага і ўсебаковага абмеркавання перадвыбарчых праграм кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, іх палітычных, дзелавых і асабістых якасцяў, правядзення агітацыі за ці супраць кандыдата на сходах, мітынгах, у сродках масавай інфармацыі, а таксама падчас сустрэч з выбаршчыкамі. Замежныя грамадзяне не маюць права ўдзельнічаць у агітацыі.

У адпаведнасці з зацверджаным Цэнтральнай камісіяй каляндарным планам, правядзенне перадвыбарчай агітацыі ажыццяўлялася ад наступнага пасля рэгістрацыі кандыдатаў дня (10 верасня) да 10 кастрычніка ўключна.

Артыкул 47 Выбарчага кодэкса ўсталёўвае абмежаванні на правядзенне агітацыі. Забараняецца агітацыя, пры правядзенні якой ажыццяўляецца прапаганда вайны, утрымліваюцца заклікі да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, абразы і паклёп у дачыненні да службовых асоб Рэспублікі Беларусь, кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, а таксама заклікі, якія заахвочваюць або якія маюць сваёй мэтай заахвочванне да зрыву, або адмены, або пераносу тэрміну выбараў. Забараняюцца агітацыя ці прапаганда сацыяльнай, расавай, нацыянальнай, рэлігійнай або моўнай перавагі, выпуск і распаўсюд паведамленняў і матэрыялаў, якія распальваюць сацыяльную, расавую, нацыянальную ці рэлігійную варожасць. Пры правядзенні перадвыбарчай агітацыі забараняецца раздача грашовых сродкаў, падарункаў і іншых матэрыяльных каштоўнасцяў, правядзенне ільготных распродажаў тавараў, бясплатнае прадстаўленне любых паслуг і тавараў, за выключэннем агітацыйных друкаваных матэрыялаў, спецыяльна выраблены з захаваннем патрабаванняў Выбарчага кодэкса для выбарчай кампаніі. Пры правядзенні перадвыбарчай агітацыі забараняецца ўздзейнічаць на грамадзян абяцаннямі перадачы ім грашовых сродкаў, матэрыяльных каштоўнасцяў.

**Фінансаванне перадвыбарчай агітацыі.** Выбарчая кампанія 2015 года была адметная тым, што ўпершыню ў гісторыі правядзення выбараў Прэзідэнта кандыдаты не атрымлівалі дзяржаўнага фінансавання для ажыццяўлення

перадвыбарчай агітацыі (гэтае новаўвядзенне было прадугледжана зменамі, што былі ўнесеныя ў Выбарчы кодэкс у 2013 годзе). Новы парадак фінансавання агітацыі абумовіў малую колькасць друкаванай агітацыйнай прадукцыі, што распаўсюджвалася кандыдатамі ў Прэзідэнты.

Згодна з арт. 45 Выбарчага кодэкса, кандыдаты мелі права вырабляць агітацыйныя друкаваныя матэрыялы толькі за кошт сродкаў, што паступілі ў іх выбарчыя фонды. у выбарчы фонд Аляксандра Лукашэнкі паступіла 1 580 856 000 рублёў (выдаткавана 1 541 934 526 рублёў), Сяргея Гайдукевіча – 42 790 000 рублёў (выдаткавана 42 339 999 рублёў), Мікалая Улаховіча – 33 318 000 рублёў (выдаткавана 33 318 000 рублёў), Таццяны Караткевіч – 25 525 911 рублёў (выдаткавана 24 993 242 рублі). Пры гэтым ЦВК не апублікавала звестак пра крыніцы, з якіх паступілі ахвяраванні.

Назіральнікамі кампаніі «Права выбару–2015» зафіксаваны распаўсюд друкаванай прадукцыі ўсімі зарэгістраванымі кандыдатамі ў Прэзідэнты. ЦВК былі выпушчаны агульныя ўлёткі з інфармацыяй пра кандыдатаў, якія былі распаўсюджаны па ўсёй краіне ў паштовыя скрыні. Аднак пры гэтым найбольшая колькасць друкаванай прадукцыі, звязанай з выбарамі, датычылася інфармацыі пра саму дату выбараў (11 кастрычніка). Назіральнікамі зафіксаваныя агітацыйныя плакаты і паштоўкі кандыдата Аляксандра Лукашэнкі, якія ў парушэнне заканадаўства не маюць выходных дадзеных.

Падчас агітацыйнай кампаніі ў мэтах агітацыі на карысць Аляксандра Лукашэнкі былі дапушчаны шматлікія парушэнні заканадаўства пра фінансаванне выбарчай кампаніі: у масавым парадку выкарыстоўваліся дзяржаўныя грашовыя сродкі, прыцягваліся прыватныя сродкі і сродкі арганізацый без унясення іх у выбарчы фонд кандыдата. ЦВК адмовілася агучыць пералік арганізацый і прыватных ахвярадаўцаў, што пералічылі сродкі ў выбарчы фонд дзеючага Прэзідэнта.

У ходзе агітацыйнай кампаніі былі зафіксаваны парушэнні выбарчага заканадаўства, якія выявіліся ў незаконным выкарыстанні сродкаў агітацыі і невыкананні роўных умоў для агітацыйнай дзейнасці кандыдатаў. Гэтыя парушэнні здзейсненыя на карысць кандыдата Аляксандра Лукашэнкі, стваралі для яго неабгрунтаваныя перавагі ў ходзе ажыццяўлення перадвыбарчай агітацыі, у тым ліку шляхам выкарыстання дзяржаўных СМІ, чым парушалі правы іншых кандыдатаў на роўныя прававыя ўмовы для перадвыбарчай дзейнасці.

Уведзеная ў заканадаўства ў 2013 годзе адмова ад дзяржаўнага фінансавання агітацыйных кампаній кандыдатаў і пераход да фінансавання агітацыі толькі за кошт выбарчых фондаў кандыдатаў абумовілі малую колькасць агітацыйных друкаваных матэрыялаў (улётак і плакатаў) і абсалютную адсутнасць платнай палітычнай рэкламы. у сукупнасці гэта спрыяла малой прадстаўленасці тэмы выбараў у публічнай прасторы. Пры такіх умовах злоўжыванні з боку кандыдата Аляксандра Лукашэнкі і несбалансаванае асвятленне кампаніі дзяржаўнымі СМІ стваралі няроўныя ўмовы для кандыдатаў і надавалі перавагу кандыдатуры дзеючага Прэзідэнта.

У продаж у горадзе Мінску (ААТ »ЦУМ Мінск») паступілі майкі вытворчасці ААТ »Світанак» (г. Жодзіна) з выявамі, якія змяшчаюць лозунг канды-







дата Лукашэнкі «За будучыню незалежнай Беларусі!» і графічны сімвал (лагатып) у выглядзе галачкі ў форме літары «V». Вытворца гэтых маек з’яўляецца дзяржаўным прадпрыемствам, якое належыць Беларускаму дзяржаўнаму канцэрну па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці. Гэта прадукцыя накіраваная на заахвочванне грамадзян да галасавання за кандыдата Лукашэнку, аднак яна выраблена не за кошт выбарчага фонда кандыдата. Такім чынам, агітацыя за гэтага кандыдата, як у выпадку з выпускам партыі маек, так і ў выпадках публікацый у дзяржаўных СМІ і правядзення серыі канцэртаў пад эгідай дзяржаўнага тэлеканала АНТ і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь адбывалася не за кошт выбарчага фонда кандыдата ў Прэзідэнты, а ў ліку іншага за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь, што з’яўляецца недапушчальным і супярэчыць патрабаванням арт. 45 Выбарчага кодэкса.

25 верасня на сайце Міністэрства абароны быў апублікаваны «Зварот дэлегатаў 5-га Афіцэрскага схода да асабовага складу Ўзброеных Сіл, вайскоўцаў у запасе, у адстаўцы і членаў іх сем’яў». у гэтым дакуменце ўдзельнікі схода звяртаюцца да ваеннаслужачых з заклікам падтрымаць кандыдата Лукашэнку як Галоўнакамандуючага Ўзброенымі Сіламі на маючых адбыцца выбарах Прэзідэнта. Гэты зварот мае прыкметы агітацыйнага ма-

тэрыялу, прадугледжаныя часткай 1 арт. 155 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Згодна з палажэннем пра правядзенне афіцэрскіх сходаў, выдаткі на аплату службовых камандзіровак ажыццяўляюцца за кошт і ў межах сродкаў, што выдзяляюцца на гэтыя мэты з бюджэту Міністэрства абароны. Згодна з ч. 2 арт. 73 Выбарчага кодэкса, кандыдат у Прэзідэнты не мае права выкарыстоўваць перавагі свайго службовага становішча ў інтарэсах абрання, пад выкарыстаннем пераваг службовага становішча разумеецца ў тым ліку прыцягненне асоб, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні ці іншай службовай залежнасці, для ажыццяўлення ў працоўны час дзейнасці, якая спрыяе абранню, а таксама правядзенне перадвыбарчай агітацыі ў ходзе службовых камандзіровак. Такім чынам, пры правядзенні названага сходу і распаўсюдзе прынятага на ім звароту былі парушаны патрабаванні выбарчага заканадаўства, якія выявіліся ў выкарыстанні Аляксандрам Лукашэнкам свайго службовага становішча ў мэтах абрання: вайскоўцы, якія знаходзяцца ў яго падпарадкаванні як галоўнакамандуючага ў працоўны час былі прыцягнуты да дзейнасці, якая спрыяе абранню, пры гэтым іх агітацыйная дзейнасць была аплачана і ажыццяўлялася ў ходзе службовых камандзіровак.

Азначаныя факты парушэння заканадаўства пра фінансаванне перадвыбарчай агітацыі з боку кандыдата Аляксандра Лукашэнкі, а таксама выкарыстанне ім адміністрацыйнага рэсурса былі прадметам двух скаргаў, якія былі пададзены ў Цэнтральную камісію кандыдатам Таццянай Караткевіч. Аднак, разгледзеўшы гэтыя скаргі на сваім пасяджэнні 2 кастрычніка, Цэнтральная камісія не знайшла падстаў для вынясення кандыдату Лукашэнку папярэджання альбо скасавання ягонай рэгістрацыі.

**Свабода агітацыйных сходаў** у час выбарчай кампаніі была істотна абмежавана як на ўзроўні заканадаўства, так і на практыцы. Гэта не дазваляла выбаршчыкам ды палітычным сілам вольна праводзіць сходы дзеля абмеркавання выбараў. Нягледзячы на спрошчаны парадак правядзення масавых мерапрыемстваў кандыдатамі і іх даверанымі асобамі, улады забаранялі правядзенне мерапрыемстваў іншых палітычных сіл, у шэрагу выпадкаў прыцягнуўшы іх прадстаўнікоў да адміністратыўнай адказнасці.

Згодна з артыкулам 451 Выбарчага кодэкса, агітацыйныя масавыя мерапрыемствы кандыдатаў у Прэзідэнты і іх дaверaных асоб (сходы па-за памяшканнямі, мітынгі, пікетаванні) ладзяцца ў спрошчаным парадку па заяўляльным прынцыпе: для іх правядзення ў вызначаных мясцовымі ўладамі месцах дастаткова падаць паведамленне за два дні ў мясцовы орган улады. Разам з тым іншыя суб'екты пры правядзенні агітацыйных масавых мерапрыемстваў абмежаваныя ў большай ступені: яны праводзяць масавыя мерапрыемствы ў адпаведнасці з агульным дазвальяльным парадкам, устаноўленым законам «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», што патрабуе падачы заяўкі за 15 дзён да даты правядзення мерапрыемства і дае магчымасьць дзяржаўным органам адвольна забараніць правядзенне любога мерапрыемства. Падобнае дваістае рэгуляванне агітацыйных мерапрыемстваў стварае перашкоды для роўнага ўдзелу ў агітацыі кандыдатаў ды іншых суб'ектаў, што яскрава праявілася ў часе агітацыйнай кампаніі 2015 г.

Рашэннямі мясцовых органаў улады ў населеных пунктах Беларусі былі вызначаны месцы, дазволеныя для правядзення агітацыйных масавых мерапрыемстваў. Пры гэтым не назіралася адзінага падыходу для іх вызначэння. Пазітыўным прыкладам можа лічыцца Мінск, дзе Мінгарвыканкам дазволіў правядзенне агітацыйных масавых мерапрыемстваў у любых прыгодных месцах, апроч пераліку плошчаў і аб'ектаў, дзе правядзенне такіх мерапрыемстваў не дазваляецца. Аднак улады іншых гарадоў пайшлі адваротным шляхам і вызначылі пералік канкрэтных месцаў для правядзення агітацыйных мерапрыемстваў. у некаторых гарадах гэты пералік быў дастаткова шырокі і даваў магчымасць праводзіць мерапрыемствы ў зручных умовах (напрыклад, у Брэсце). Улады ж шэрагу гарадоў, наадварот, вызначылі ў якасці месцаў для правядзення агітацыі маланаведвальныя і бязлюдныя месцы (напрыклад, спартовыя пляцоўкі), размешчаныя ў аддаленых частках гарадоў. у прыватнасці, нязручныя месцы для агітацыйных мерапрыемстваў былі вызначаны ў Гомелі, Віцебску, Магілёве, Гродне, Светлагорску, Буда-Кашалёве, Жлобіне, Драгічыне, Кобрыне і іншых гарадах. Напрыклад, у Чыгуначным раёне г. Віцебска такім месцам вызначана пляцоўка ў парку чыгуначнікаў, якая знаходзіцца далёка ад ажыўленых пешаходных шляхоў і прыпынкаў транспарту, далёка ад жылых масіваў. у горадзе Рэчыца давераныя асобы Таццяны Караткевіч звярнуліся ў райвыканкам з просьбай павялічыць колькасць месцаў для правядзення агітацыйных мерапрыемстваў, але ім было адмоўлена. Мясцовыя ўлады на Гродзеншчыне таксама адмовіліся павялічыць колькасць месцаў для агітацыйных мерапрыемстваў.

Назіральнікамі зафіксаваныя агітацыйныя мерапрыемствы на карысць усіх зарэгістраваных кандыдатаў (як у форме сходаў і пікетаў на адкрытым паветры, так і ў прадстаўленых памяшканнях). Пры гэтым найбольшую колькасць паведамленняў пра правядзенне агітацыйных мерапрыемстваў падала кандыдат Таццяна Караткевіч, агітацыйныя мерапрыемствы Мікалая Улаховіча зафіксаваныя ў адзінкавых выпадках. Агітацыйныя мерапрыемствы на карысць Аляксандра Лукашэнкі ў масавым парадку арганізоўваліся адміністрацыямі дзяржаўных прадпрыемстваў і навучальных устаноў, у тым ліку ў парушэнне ўстаноўленага артыкулам 45[1] Выбарчага кодэксу парадку без падачы абавязковага паведамлення пра правядзенне такіх мерапрыемстваў у органы ўлады. Агітацыя за Лукашэнку адбывалася на прадпрыемствах і ва ўстановах пад выглядам інфармацыйных мерапрыемстваў і працоўных сустрэч.

Разам з тым, правядзенне масавых агітацыйных мерапрыемстваў іншымі суб'ектамі, апроч кандыдатаў і іх давераных асоб, сутыкалася з перашкодамі: улады забаранялі правядзенне такіх мерапрыемстваў, прыцягваючы іх арганізатараў і ўдзельнікаў да адміністратыўнай адказнасці.

Пікет «За сумленныя і свабодныя выбары» з удзелам былога палітзняволенага, экс-кандыдата на выбарах Прэзідэнта 2010 года Мікалая Статкевіча прайшоў 10 верасня ў Мінску. у дачыненні да Мікалая Статкевіча і іншых арганізатараў пікета былі складзены пратаколы аб адміністратыўным правапарушэнні. 22 верасня Мікалай Статкевіч рашэннем суда Цэнтральнага раёна быў аштрафаваны на 40 базавых велічынь (7,2 млн. рублёў) паводле ч. 2

арт. 23.34 КоАП (парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства).

Былі прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці арганізатары пікетаў у Мінску 16 верасня з нагоды гадавіны гвалтоўных знікненняў палітычных апанентаў улады і пікета 23 верасня: старшыня АГП Анатоль Лябедзька, сябра АГП Мікалай Казлоў, палітыкі Мікалай Статкевіч і  Уладзімір Някляеў (усе былі пакараны штрафамі). 4 кастрычніка ў Мінску адбыўся сход супраць размяшчэння ў Беларусі расійскіх вайсковых баз, пры гэтым у дачыненні да арганізатараў і ўдзельнікаў сходу старшыні АГП Анатоля Лябедзькі, грамадскага дзеяча Аляксея Марачкіна, старшыні Партыі БНФ Аляксея Янукевіча, намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча, палітыкаў Уладзіміра Някляева, Вячаслава Сіўчыка, Мікалая Статкевіча ды іншых таксама былі складзены адміністратыўныя пратаколы за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства. Па заканчэнні выбарчай кампаніі азначаныя палітыкі былі пакараны адміністратыўнымі штрафамі.

Дзясяткі заяўленых апазіцыйнымі сіламі масавых мерапрыемстваў былі забаронены ўладамі. у верасні сябра Партыі БНФ Іван Шэга падаваў у райвыканкам горада Слоніма заяўкі на правядзенне трох пікетаў (3, 4 і 5 кастрычніка) ў падтрымку агульнабеларускай акцыі «За мірную, нейтральную Беларусь!».  Праводзіць усе тры пікеты Слонімскі райвыканкам не дазволіў, нічым не матывуючы сваю адмову. у Мядзелі актывістам БХД забаранілі правядзенне пікета 9 кастрычніка супраць усіх кандыдатаў, разам з тым Мядзельскі райвыканкам дазволіў правядзенне 8 кастрычніка пікета дзеля інфармавання насельніцтва аб стане медыцынскага абслугоўвання. у Гомелі былі забаронены пікеты партыі левых «Справядлівы свет» супраць кандыдата Аляксандра Лукашэнкі. у Віцебску ўлады не далі дазволу на правядзенне ніводнага з 21 заяўленага пікета КХП-БНФ, прычына чарговай адмовы даць дазвол на правядзенне масавых мерапрыемстваў – звычайная для Віцебска: арганізатары акцый не далучылі да сваіх заявак дамоваў з міліцыянтамі, камунальнікамі і мэдыкамі на абслугоўванне гэтых акцый (па гэтых падставах у Віцебску год за годам забараняюцца ўсе масавыя мерапрыемствы апазіцыі).

1 кастрычніка ў Мінску ў раёне Батанічнага саду супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста ПАГА «Рух «За свабоду» Аляксандра Осіпава з рэкламным шчытом кампаніі «Народны рэферэндум» і супрацоўніцу прэс-службы гэтага грамадскага аб'яднання Вольгу Быкоўскую. 2 кастрычніка каля ўнівермага «Гомель» у абласным цэнтры быў затрыманы актывіст АГП Сяргей Касабуцкі, які раздаваў грамадзянам запрашэнні на агітацыйны сход.

27 верасня міліцыя затрымала 30 удзельнікаў пікета ў падтрымку Таццяны Караткевіч і супраць расійскіх вайсковых баз у горадзе Баранавічы.

**Перадвыбарчая агітацыя ў СМІ.** Усе кандыдаты скарысталіся прадугледжанай выбарчым заканадаўствам магчымасцю надрукаваць у дзяржаўных газетах сваю перадвыбарчую праграму. Аднак разам з гэтым, пры публікацыі адпаведных тэкстаў на сайтах дзяржаўных газет быў парушаны прынцып роўнасці: напрыклад, на сайце газеты «Советская Белоруссия» праграмы ўсіх альтарнатыўных кандыдатаў былі надрукаваны ў раздзеле «Пульс выборов», у той час як праграма Аляксандра Лукашэнкі была размешчана ў

раздзеле «Прэзідэнт». Пры публікацыі праграмы Таццяны Караткевіч на сайце дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА праграма апазіцыйнага кандыдата была цэнзуравана: з тэксту быў выдалены заклік ахвяраваць грошы ў выбарчы фонд кандыдата.

На сайце ЦВК ў раздзеле з інфармацыяй пра зарэгістраваных кандыдатаў у Прэзідэнты першапачаткова была пададзена спасылка на сайт грамадскай прыёмнай кандыдата Аляксандра Лукашэнкі, у той час як у дачыненні да іншых кандыдатаў быў пададзены толькі спіс давераных асоб. Толькі пасля адмысловага звароту штаба Таццяны Караткевіч у раздзел гэтага кандыдата была дададзена спасылка на сайт з праграмай гэтага кандыдата.

Дзяржаўныя органы і арганізацыі, а таксама фінансаваныя з дзяржаўнага бюджэту грамадскія аб’яднанні (ў тым ліку БРСМ) шырока выкарыстоўвалі адміністрацыйны рэсурс на карысць кандыдата Аляксандра Лукашэнкі, ствараючы яму рэжым найбольшага спрыяння і парушаючы гэтым прынцып роўнасці кандыдатаў. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі таксама асвятлялі выбарчую кампанію несбалансавана, надаючы перавагу асвятленню дзейнасці дзеючага Прэзідэнта перад асвятленнем дзейнасці іншых кандыдатаў і палітычных партый.

Кандыдаты Гайдукевіч, Караткевіч і Улаховіч скарысталіся правам на тэле- ды радыёвыступы ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. Кандыдат Лукашэнка гэтай магчымасцю не скарыстаўся. Таксама дзеючы Прэзідэнт праігнараваў тэледэбаты, што адбываліся ў простым эфіры: ён не толькі не прыйшоў сам, але і не накіраваў на тэледэбаты кагосьці са сваіх давераных асоб. Такім чынам, удзельнікі тэледэбатаў былі пазбаўлены магчымасці задаць пытанні дзеючаму Прэзідэнту, а выбаршчыкі не маглі параўнаць у дыскусіі ўсіх кандыдатаў, што балатуюцца на пасаду кіраўніка краіны.

У адпаведнасці з артыкулам 46 Выбарчага кодэкса, журналістам, службовым асобам сродкаў масавай інфармацыі забараняецца весці тэле- і радыёпраграмы, удзельнічаць у асвятленні выбараў праз сродкі масавай інфармацыі, калі названыя асобы з’яўляюцца даверанымі асобамі кандыдатаў у Прэзідэнты. у парушэнне гэтых патрабаванняў давераная асоба кандыдата ў Прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі Генадзь Давыдзька, з’яўляючыся старшынём Белтэлерадыёкампаніі, прыняў удзел у якасці вядучага ў праграме «Клуб рэдактараў», якая, у ліку іншых, асвятляла тэму выбараў. Аднак ЦВК пры разглядзе скаргі на гэтае парушэнне абмежавалася фіксацыяй факту парушэння і не ўжыла аніякіх санкцый у дачыненні да кандыдата і ягонай даверанай асобы.

Як паведамляе Беларуская асацыяцыя журналістаў па выніках маніторынга СМІ падчас агітацыйнай кампаніі (з 1 па 20 верасня), нягледзячы на павелічэнне адноснай вагі выбарчай тэматыкі ды пазітыўную ці нейтральную прэзентацыю кандыдатаў-супернікаў дзеючага Прэзідэнта, мадэль асвятлення сёлетняй выбарчай кампаніі дзяржаўнымі СМІ засталася нязменнай. Яна па-ранейшаму арыентаваная на прасоўванне толькі аднаго прэтэндэнта на вышэйшую пасаду – дзеючага Прэзідэнта. Напрыклад, асноўная навінавая праграма дзяржтэлебачанння «Панарама» выдаткавала кандыдату Гайдукевічу 4% ад эфірнага часу, прысвечанага выбарам, Улаховічу – 3,6%, Карат-

кевіч – 3,4%, Лукашэнку – 61%. Адсотак прысутнасці названых кандыдатаў істотна не адрозніваўся і ў іншых дзяржаўных медыя. Дзяржаўныя СМІ ацэньвалі дзейнасць Прэзідэнта станоўча ці нейтральна. Найбольш пазітыўна вобраз Прэзідэнта прэзентуе тэлесерыял «XXI век» штотыднёвай праграмы «Главный эфир».

Дзяржаўныя СМІ вельмі скупа і аднабакова інфармавалі выбаршчыкаў пра сустрэчы з кандыдатамі і сходы агітацыйнага характару. Напрыклад, на сайце выканкама горада Ваўкавыска было апублікавана некалькі абвестак пра сустрэчу з выбаршчыкамі даверанай асобы Аляксандра Лукашэнкі, і не было ні адной абвесткі пра сустрэчу з кандыдатам Таццянай Караткевіч.

Дзяржаўныя СМІ ў паведамленнях пра выбарчую кампанію выкарыстоўвалі лагатып агітацыйнай кампаніі Аляксандра Лукашэнкі ў выглядзе галачкі ў форме літары «V», размаляванай ў арнамент і колеры дзяржаўнага сцяга. Гэты графічны сімвал быў на плакатах, якімі карысталася ініцыятыўная група па вылучэнні Аляксандра Лукашэнкі кандыдатам у Прэзідэнты падчас збору подпісаў, гэтая ж выява размяшчалася на яго агітацыйных стэндах і плакатах. Гэты ж сімвал размешчаны на лагатыпе і банеры рубрыкі «Выбары-2015» на сайце дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА, на сайтах шэрагу дзяржаўных рэгіянальных газет («Воранаўская газета», «Голас Веткаўшчыны», «Сцяг Саветаў», «Палеская праўда», «Хойніцкія навіны» і інш.). Акрамя таго, такі ж графічны сімвал выкарыстоўваў дзяржаўны тэлеканал АНТ ў серыі канцэртаў «Мы разам», якія праходзілі з пачатку верасня ў абласных цэнтрах Беларусі. Напрыклад, 19 верасня канцэрт «Мы разам» з выкарыстаннем агітацыйнай сімволікі Лукашэнкі адбыўся ў Гомелі, падобныя мерапрыемствы агітацыйнага характару прайшлі 5 верасня ў Брэсце і 12 верасня ў Гродне.

# 6. Датэрміновае галасаванне

**Прававое рэгуляванне.** Згодна з артыкулам 53 Выбарчага кодэкса, выбаршчык, які не мае магчымасці ў дзень выбараў знаходзіцца па месцы свайго жыхарства, мае права не раней чым за пяць дзён да выбараў ва ўмовах, якія выключаюць кантроль за яго волевыяўленнем, запоўніць у памяшканні УВК бюлетэнь і апусціць яго ў апячатаную адмысловую скрыню для датэрміновага галасавання. Афіцыйнага пацвярджэння прычынаў немагчымасці выбаршчыка прыйсці на выбарчы ўчастак ў дзень выбараў не патрабуецца. Датэрміновае галасаванне ажыццяўляецца з 10 да 14 гадзін і з 16 да 19 гадзін у прысутнасці не менш чым двух членаў УВК. у першы дзень датэрміновага галасавання скрыні для галасавання пламбуюцца або апячатваюцца, а ў перыяд датэрміновага галасавання штодзённа па заканчэнні часу правядзення галасавання старшыня альбо намеснік старшыні УВК заклейвае проразь для апускання бюлетэняў у скрыні для галасавання аркушам паперы, пры гэтым старшыня альбо намеснік старшыні і сябра УВК ставяць подпісы на гэтым аркушы. Ускрыццё проразі для апускання бюлетэняў у скрыні для галасавання праводзіцца штодзённа перад пачаткам датэрміновага галасавання старшынём альбо намеснікам старшыні УВК.

Захоўванне скрыні для галасавання забяспечваецца старшынём УВК, аднак пры гэтым ані заканадаўства, ані метадычныя дапаможнікі ЦВК для УВК не рэгламентуюць дэталяў тых захадаў, якія павінны быць ужыты для забеспячэння захавання скрыні і прадухілення доступу да яе пабочных асоб у дні датэрміновага галасавання ў час, калі галасаванне не праводзіцца.

У перыяд датэрміновага галасавання штодзённа старшыня або намеснік старшыні ўчастковай камісіі складае пратакол, у якім указваюцца колькасць бюлетэняў, атрыманых участковай камісіяй, колькасць грамадзян, якія атрымалі бюлетэні (у апошні дзень датэрміновага галасавання – агульная колькасць грамадзян, якія атрымалі бюлетэні), колькасць сапсаваных і колькасць нявыкарыстаных бюлетэняў. Пратакол падпісваецца старшынём альбо намеснікам старшыні і членам УВК. Копія пратакола вывешваецца для ўсеагульнага азнаямлення ў памяшканні УВК. Пры атрыманні бюлетэня выбаршчык распісваецца ў спісе грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, і пазначае дату датэрміновага галасавання.

У адпаведнасці з каляндарным планам арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзені выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (зацверджаны пастановай ЦВК ад 1 ліпеня 2015 года № 17), датэрміновае галасаванне праводзілася цягам пяці дзён, ад 6 да 10 кастрычніка 2015 года ўключна.

**Парушэнні ў часе датэрміновага галасавання.** Датэрміновае галасаванне з'яўляецца перыядам, калі цягам пяці дзён маюцца найбольш спрыяльныя ўмовы для фальсіфікацый выбараў. На гэтых выбарах улады не адмовіліся ад ранейшых практык масавага (у тым ліку прымусовага) датэрміновага галасавання, скрыні для галасавання захоўваліся неналежным чынам, да іх мелі бескантрольны доступ пабочныя асобы, што пры адсутнасці прадстаўнікоў апазіцыі ў выбарчых камісіях падрывае давер да вынікаў выбараў.

Падчас датэрміновага галасавання працягвалася выкарыстанне адміністрацыйнага рэсруса дзеля агітацыі на карысць кандыдатуры дзеючага Прэзідэнта, у тым ліку з размяшчэннем агітацыйных матэрыялаў у памяшканнях участкаў для галасавання.

Выбарчыя камісіі і іншыя дзяржаўныя структуры стваралі перашкоды для назіральнікаў, што выявілася ў непрадстаўленні інфармацыі пра спіскавую колькасць выбаршчыкаў на ўчастку, супрацьзаконнай адмове ў акрэдытацыі назіральнікаў, пазбаўленні назіральнікаў акрэдытацыі і іх выдаленні з участкаў, ціску на назіральнікаў па месцы працы з мэтай прымусіць іх да адмовы ад удзелу ў назіранні, стварэнні нязручных умоў размяшчэння назіральнікаў у памяшканнях участкаў і іх паўнавартаснай працы па назіранні за выдачай бюлэтэняў камісіямі.



*Лідзія Ярмошына старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Беларусі*

Падчас назірання за датэрміновым галасаваннем назіральнікі кампаніі «Права выбару—2015» зафіксавалі 1 154 выпадкі парушэння выбарчага заканадаўства. Маюцца сведчанні задзейнічання ўчастковых камісій у простай фальсіфікацыі пры датэрміновым галасаванні, у тым ліку галасаванне асобаў, якія не маюць права галасаваць, злачынныя маніпуляцыі са спісамі выбаршчыкаў. Найбольшая колькасьць парушэньняў зьвязаная з неналежным захоўваннем скрыняў для галасавання ва ўмовах, калі памяшканне, дзе захоўваецца скрыня, не апячатвалася, альбо пабочныя асобы мелі доступ да скрыні ў час перапынкаў у датэрміновым галасаванні (зафіксавана больш за 700 такіх інцыдэнтаў). Таксама распаўсюджанымі былі парушэнні, звязаныя з нядопускам назіральніка да рэальнага назірання за выдачай бюлетэняў праз нязручнае размяшчэнне месцаў для назіральнікаў альбо іншыя перашкоды (больш за трыццаць выпадкаў). Зафіксаваныя выпадкі прымусу да датэрміновага галасавання, кантролю за волевыяўленнем грамадзян праз доступ адміністрацыі прадпрыемстваў і навучальных установаў да спісаў асоб, якія прынялі альбо не прынялі ўдзел у датэрміновым галасаванні.

Адным з найбольш цяжкіх парушэнняў, зафіксаваных назіральнікамі кампаніі «Права выбару—2015», стала галасаванне асоб, якія не ўнесеныя ў спісы выбаршчыкаў на ўчастках (у тым ліку ў выглядзе груп адмыслова арганізаваных выбаршчыкаў, што не пражываюць на тэрыторыі ўчастка).

**Маніпуляцыі з яўкай пры датэрміновым галасаванні.** Датэрміновае галасаванне на выбарах 2015 г. было адметнае беспрэцэдэнтна высокай яўкай, якая з’яўляецца рэкорднай для выбараў Прэзідэнта ў Беларусі. Паводле звестак, агучаных Цэнтральнай камісіяй, за пяць дзён датэрміновага галасавання ўдзел у ім узялі 36,05% выбаршчыкаў. Гэта рэкордны паказчык у гісторыі выбараў. З улікам таго, што пераважная болшасць апазіцыйных партый і аб’яднанняў, а таксама некаторыя апазіцыйныя палітыкі ў індывідуальным парадку заклікалі да ігнаравання выбараў і да няўдзелу ў галасаванні, гэткія рэкордныя паказчыкі яўкі выклікаюць сур’ёзныя сумневы.

Агучаныя выбарчымі камісіямі паказчыкі яўкі не адпавядаюць той яўцы, якая была зафіксавана назіральнікамі на большасці ўчасткаў, дзе ладзілася назіранне. Маюцца сведчанні задзейнічанасці ўчастковых камісій у простай фальсіфікацыі ў часе датэрміновага галасавання, у тым ліку галасаванне асобаў, якія не маюць права галасаваць, злачынныя маніпуляцыі са спісамі выбаршчыкаў. Пры гэтым афіцыйныя дадзеныя пра яўку на ўчастках, дзе ладзілася назіранне, прыкладна на чвэрць ніжэй за афіцыйна абвешчаную агульную яўку па краіне.

На тых участках, дзе прысутнічалі назіральнікі кампаніі «Права выбару—2015», афіцыйная яўка была прыкметна ніжэй (у сярэднім прыкладна на чвэрць) за афіцыйную агульную яўку па краіне. Гэта сведчыць пра тое, што на ўчастках, дзе не было незалежных назіральнікаў, незаконныя маніпуляцыі па павелічэнні яўкі маглі адбывацца ў яшчэ большых маштабах, чым гэта зафіксавана на участках, дзе ладзілася назіранне.

ЦВК, насуперак ранейшай практыкі, не публікавала дадзеныя пра колькасць выбаршчыкаў, што прагаласавалі датэрмінова на нацыянальным узроўні і па абласцях: колькасць выбаршчыкаў, што прагаласавалі, не агучвалася,




агучваўся толькі працэнт яўкі па краіне, па абласцях і па ўчастках, створаных за мяжой. Гэта не дазваляе праверыць сапраўднасць агучаных Цэнтральнай камісіяй дадзеных і параўнаць іх з працэнтам яўкі на канкрэтных участках па кожным з пяці дзён датэрміновага галасавання.

Розніца ў падліках выбаршчыкаў, што прагаласавалі, паміж дадзенымі назіральнікаў і дадзенымі камісій на 556 участках, на якіх назіральнікі атрымалі звесткі пра колькасць выбаршчыкаў у спісах і мелі магчымасць весці бесперапыннае назіранне на працягу 4 дзён, склала 9 586 чалавек, або 1% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў на гэтых 556 участках.

Пры гэтым кампанія «Права выбару—2015» не выявіла разыходжанняў у яўцы выбаршчыкаў паміж дадзенымі УВК і дадзенымі назіральнікаў на 241 участку, розніца менш за 5% была зафіксавана на 291 участку, розніца больш за 5% — на 25 участках.

Значная розніца ў яўцы паміж дадзенымі УВК і назіральнікаў ад кампаніі «Права выбару—2015» выявілася, напрыклад, на ўчастку № 2 Цэнтральнага раёна г. Мінска. Па падліках назіральнікаў, у першы дзень датэрміновага галасавання прагаласавала 32 чалавекі, а па дадзеных камісіі — 62, далей разыходжанне ў дадзеных павялічвалася ў геаметрычнай прагрэсіі: 7 кастрычніка назіральнікі налічылі 32 выбаршчыкі, а ў пратаколе было 94. Калі назіральнік ад ПАГА «Рух «За Свабоду» Алесь Марчанка заявіў участковай камісіі пра зварот з гэтай нагоды ў пракуратуру і ў ТВК, то атрымаў пагрозы ад старшыні УВК. На ўчастку № 43 ў Савецкім раёне г. Мінска зафіксаваная розніца ў 64 выбаршчыкі паміж колькасцю выбаршчыкаў, што прагаласавалі, па дадзеных камісіі (311 чалавек) і па дадзеных назіральнікаў (247 чалавек).

На ўчастку № 67 Маскоўскага раёна г. Брэста ў першы дзень датэрміновага галасавання, 6 кастрычніка, колькасць выбаршчыкаў, што прагаласавалі,

паводле падлікаў назіральнікаў, склала 83 чалавекі. Паводле пратакола камісіі, колькасць тых, хто прагаласаваў, была 183 выбаршчыкі. Розніца склала 100 чалавек. Назіральнікамі былі накіраваныя скаргі на парушэнне ва УВК, ТВК і пракуратуру. у адказах на іх камісіі (пракуратура таксама перанакіравала скаргу на разгляд у ТВК) паведамілі, што выбары на ўчастку праводзяцца ў адпаведнасці з Выбарчым кодэксам. Менавіта жорсткая рэакцыя назіральнікаў на гэта парушэнне з'явілася галоўнай прычынай пазбаўлення акрэдытацыі 8 кастрычніка назіральніцы Ціханавай А.А..

**Маніпуляцыі са спісамі выбаршчыкаў пры датэрміновым галасаванні.** Спісы выбаршчыкаў змяняліся практычна на ўсіх участках для галасавання, дзе кампаніяй «Права выбару—2015» ладзілася назіранне, прычым, у большасці выпадкаў змены былі ў бок скарачэння спісаў: на 570 участках, дзе камісіі прадставілі назіральнікам дадзеныя пра колькасць выбарчышкаў на ўчастку ў першы і ў чацьвёрты дзень датэрміновага галасавання, спісы паменшыліся агулам з 1 019 897 выбаршчыкаў на момант адкрыцця ўчасткаў 6 кастрычніка да 1 016 577 выбаршчыкаў 9 кастрычніка. Такім чынам, на гэтых участках колькасць выбаршчыкаў у спісах паменшылася на 3 320 чалавек. Тым не менш, афіцыйныя дадзеныя Цэнтральнай камісіі пра колькасьць выбаршчыкаў, унесеных у спісы для галасавання, па ўсіх абласцях заставаліся нязменнымі (павелічэнне заўважанае толькі ў спісах на замежных участках). Гэта робіць відавочна непраўдзівымі агучаныя Цэнтральнай камісіяй працэнты яўкі як па бласцях, так і па краіне ў цэлым.

Найбольш істотнае скарачэнне спісаў выбаршчыкаў было зафіксавана на ўчастку № 28 у Чыгуначным раёне г. Гомеля, дзе ад 6 кастрычніка да 9 кастрычніка колькасць выбаршчыкаў скарацілася з 2 004 да 1 385 чалавек (то бок, на 619 выбаршчыкаў). Варта заўважыць, што гэткае скарачэнне спіскавай колькасці выбаршчыкаў стварае ўмовы для незаконных маніпуляцый з выбарчымі бюлетэнямі, якія выдзяляюцца УВК, зыходзячы з першапачатковай спіскавай колькасці выбаршчыкаў на ўчастку.

Варта адзначыць, што, паколькі больш чым на ста ўчастках УВК увогуле не далі ніякіх звестак пра колькасць выбаршчыкаў у спісах, памяншэнне спіскавай колькасці выбаршчыкаў можа быць і больш істотным.

Разам з тым, у некаторых выпадках назіралася і неапраўданае ўключэнне ў спісы выбаршчыкаў, якія не пражываюць на тэрыторыі ўчастка. у прыватнасці, такія выпадкі былі зафіксаваны ў Мінску назіральнікамі ад кампаніі «Гавары праўду!». Тут у спісы выбаршчыкаў уключаліся грамадзяне па прад'яўленні дамовы арэнды памяшкання на тэрыторыі ўчастка (хоць ані сталай, ані часовай рэгістрацыі на тэрыторыі ўчастка яны не мелі). Гэткая практыка сталася прадметам абскарджання з боку назіральнікаў, аднак скарга засталася без задавальнення.

**Фальсіфікацыі ў часе датэрміновага галасавання.** Адным з найбольш злачынных метадаў фальсіфікацый выбараў, здзяйсненне якога было б немагчымым без саўдзелу сябраў УВК, з'яўляецца масавае галасаванне адных і тых жа групаў выбаршчыкаў на розных участках. у прыватнасці, гэткая мабільная арганізаваная група была заўважана на ўчастках Ленінскага раёна г. Мінска назіральнікам ад ПАГА «Рух «За Свабоду» Алесем Таўстыкам.

Паводле ягоных словаў, у адзін момант на ўчастку з’явіліся апранутыя, як офісныя супрацоўніцы, жанчыны, якія чакалі, пакуль прагаласуюць каляжанкі. Акрамя таго, у адрозненне ад звычайных выбаршчыкаў, гэтыя не называлі сваіх адрасоў і ў іх ніхто іх не запытваўся. Таўстыкам быў адшуканы і аўтобус, які прывёз групу: ён стаяў на суседняй вуліцы Пляханава. Паводле ягоных словаў, махінацыі працягваліся і ў другой палове дня, калі па падобнай схеме прагаласавала яшчэ 11 чалавек. Такі ж выпадак быў зафіксаваны назіральнікам на выбарчым участку № 18 Цэнтральнага раёна Мінска, там на ўчастак цэнтралізавана прыйшла група людзей у колькасці 11-12 чалавек, якія прагаласавалі, не называючы сваіх адрасоў. Назіральнік ад АГП Мікалай Казлоў зафіксаваў гэткую ж практыку на ўчастку № 24 ў Цэнтральным раёне.

Сябра Мінскай гарадской выбарчай камісіі ад Партыі БНФ Зміцер Каспяровіч выкрыў маніпуляцыі з бюлетэнямі выбаршчыкаў. Ён вырашыў абыйсці УВК, дзе не было акрэдытавана назіральнікаў кампаніі «Права выбару—2015», і зверыць колькасць выдадзеных выбаршчыкам бюлетэняў з рэальнай колькасцю подпісаў выбаршчыкаў, якія атрымалі бюлетэні і ўласнаручна распісаліся за гэта ў спісе выбаршчыкаў.  Па стане на раніцу 8 кастрычніка на выбарчым участку № 25 Савецкага раёна Мінска было выдадзена 146 бюлетэняў, аднак распісалася за бюлетэні ўсяго 109 чалавек. На выбарчым участку № 26 гэтага ж раёна Мінска быў выдадзены 351 бюлетэнь, аднак распісалася за іх — 162 выбаршчыкі. На раніцу 9 кастрычніка на выбарчым участку № 49 Савецкага раёна Мінска, за тры дні датэрміновага галасавання, было выдадзена 308 бюлетэняў, аднак у журнале выдачы бюлетэняў было ўсяго 170 подпісаў выбаршчыкаў. Зміцер Каспяровіч адзначыў, што такая тэндэнцыя захоўваецца паўсюль, дзе няма незалежнага назірання. у сувязі з гэтым інцыдэнтам прадстаўнік кампаніі «Права выбару—2015» накіраваў дакладную запіску на імя старшыні гарадской выбарчай камісіі і падрыхтаваў скаргу ў пракуратуру.

**Прымус да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні.** Падчас датэрміновага галасавання былі зафіксаваны шмаілікія выпадкі прымусу да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні, а таксама выкарыстання адміністрацыйнага рэсурса ў мэтах схілення асоб, залежных ад дзяржаўнай улады (студэнты і навучэнцы навучальных устаноў, супрацоўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў), да недабраахвотнага галасавання не ў дзень выбараў.

Факты ўдзелу адміністрацыі ў арганізацыі прымусовага датэрміновага галасавання зафіксаваныя ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце, Беларускім дзяржаўным тэхнічным універсітэце, Баранавіцкім дзяржаўным універстэце, Мінскім дзяржаўным энэргетычным каледжы, Мінскім архітэктурным каледжы, Беларускім інстытуце прадпрымальніцкай дзейнасці, Гомельскім палітэхнічным каледжы, Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце, Беларускім дзяржаўным універсітэце інфармацыкі і радыёэлектронікі, Беларускім універсітэце культуры і мастацтваў ды іншых навучальных установах. Адміністрацыя ўніверсітэтаў заахвочвае іншагародніх студэнтаў да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні адменай заняткаў у су-



боту, заклікаючы іх з’ехаць са сталіцы. Пры гэтым большасць студэнтаў, баючыся ціску адміністрацыі, не пагаджаецца пацвярджаць пісьмовымі заявамі факты ціску і прымусу, пра якія распавядае вусна на ўмовах ананімнасці. Пры такіх умовах амаль адзінымі крыніцамі атрымання інфармацыі пра прымус да датэрміновага галасавання робяцца паведамленні ў інтэрнэце, асабліва ў сацыяльных сетках, а таксама інтэрв’ю сродкам масавай інфармацыі.

Выбарчыя камісіі ўсялякім чынам імкнуліся заахвоціць выбаршчыкаў да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні, у тым ліку праз дэзінфармацыю. Напрыклад, УВК Віцебскай вобласці у Паведамленнях выбаршчыкаў (надрукаваныя па замове № 5 819 накладам 895 500 асобнікаў ва УВП «Віцаблдрук») заклікалі прыйсці на датэрміновае галасаванне тых выбаршчыкаў, якія «не будуць мець магчымасці прйсці на ўчастак для галасавання ў дзень выбараў». Між тым, Выбарчы кодэкс у артыкуле 53 дазваляе датэрміновае галасаванне толькі тым выбаршчыкам, «якія не маюць магчымасці ў дзень выбараў знаходзіцца па месцы свайго жыхарства», а ў артыкуле 54 для выбаршчыкаў, якія «не будуць мець магчымасці прйсці на ўчастак для галасавання ў дзень выбараў» прыдугледжана працэдура галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў.

# 7. Галасаванне ў дзень выбараў і падлік галасоў

**Парушэнні ў часе галасавання.** У дзень выбараў, 11 кастрычніка, пры правядзенні галасавання на ўчастках і па месцы знаходжання выбаршчыкаў і пры падліку галасоў былі зафіксаваны масавыя і сістэматычныя парушэнні заканадаўства, якія мелі месца на абсалютнай большасці выбарчых участкаў. Найчасцей назіраліся наступныя парушэнні: нядбайнае складанне спісаў выбаршчыкаў, маніпуляцыі з яўкай у дзень выбараў (11 кастрычніка), масавае галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў пры адсутнасці іх заяў аб арганізацыі галасавання па месцы знаходжання, непразрысты і некалегіяльны падлік галасоў.

дзень выбараў назіральнікамі было зафіксавана 419 інцыдэнтаў, звязаных з парушэннямі выбарчага заканадаўства, парушэннем правоў назіральнікаў і незаконнымі маніпуляцыямі (без уліку парушэнняў па заканчэнні галасавання і на этапе падліку галасоў). Найбольш часта ў дзень асноўнага галасаван-



ня назіральнікамі «Права выбару–2015» фіксаваліся наступныя інцыдэнты: пазбаўленне назіральнікаў акрэдытацыі, нядопуск назіральнікаў да назірання за падлікам галасоў, а таксама непрадстаўленне інфармацыі пра спісы выбаршчыкаў, колькасць выбаршчыкаў, што прагаласавалі, і іншыя.

дзень выбараў назіральнікамі кампаніі «Права выбару–2015» было пададзена 509 скаргаў:

Брэсцкая вобласць – 85 скаргаў;
Віцебская вобласць – 70 скаргаў;
Гомельская вобласць – 51 скарга;
г. Мінск – 93 скаргі;
Гродзенская вобласць – 61 скарга;
Мінская вобласць – 53 скаргі;
Магілёўская вобласць – 96 скаргаў.

На шэрагу выбарчых участкаў, як і ў перыяд датэрміновага галасавання, так і ў дзень выбараў, 11 кастрычніка, былі размешчаны партрэты і агітацыйныя плакаты Аляксандра Лукашэнкі.

**Маніпуляцыі са спісамі выбаршчыкаў у дзень асноўнага галасавання.** Удзень выбараў назіральнікі на 584 участках мелі доступ да звестак пра колькасць выбаршчыкаў, унесеных у спісы выбаршчыкаў на момант адкрыцця ўчастка. Параўнанне гэтых дадзеных з дадзенымі выніковых пратаколаў дазваляе казаць пра тое, што спісы ў дзень выбараў карэктаваліся пераважна ў бок змяншэння: калі на момант адкрыцця ўчасткаў у суме на названых участках у спісы былі ўнесены 1 042 008 выбаршчыкаў, то ў выніковых пратаколах на гэтых участках сумарная колькасць выбаршчыкаў склала 1 015 137 выбаршчыкаў, розніца ў бок змяншэння спісаў склала 26 871



чалавек, што азначае памяншэнне спісаў на 2,57% за адзін толькі дзень асноўнага галасавання. Пры гэтым толькі на 173 участках з гэтых 584-х спісы не змяніліся цягам 11 кастрычніка. Агулам з 584-х участкаў спісы цягам дня выбараў мяняліся ў бок павелічэння на 171 участку, у бок змяншэння зафіксаваныя змены на 240 ўчастках. Пры гэтым на 81 участку змяншэнне спісаў было значным (на 100 і болей чалавек).

**Незаконнныя маніпуляцыі пры арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў.** На 491 участку назіральнікі змаглі атрымаць інфармацыю пра прагаласаваўшых па месцы знаходжання. На некаторых участках колькасць такіх выбаршчыкаў была анамальнай. Так, на адным яна дасягнула 40,6% выбаршчыкаў, на 4 участках – больш за 30%, але менш за 40%, на 18 – больш за 20%, але менш за 30%. Практычна паўсюль былі адзначаны выпадкі, калі ў спісы для галасавання па месцы знаходжання ўносіліся выбаршчыкі, якія з уласнай ініцыятывы не выяўлялі дабраахвотна гэткага жадання, як таго патрабуе заканадаўства.

Назіральнікі зафіксавалі, што на 106 участках галасаваць па месцы знаходжання, паводле дадзеных участковых камісій, выказалі жаданне больш за 100 чалавек. На некаторых участках колькасць жадаючых прагаласаваць па месцы знаходжання была відавочна празмерная і сведчыла пра арганізацыю масавага галасавання па-за межамі памяшканняў участкаў для галасавання. Найбольшая колькасць жадаючых прагаласаваць па месцы знаходжання была зафіксавана на наступных выбарчых участках: г. Віцебск, Кастрычніцкі раён, участак № 5 – 577 чалавек, г. Орша, участак № 16 – 503 чалавекі, г. Полацк, участак № 10 – 491 чалавек, Віцебская вобласць, г.п. Езярышча, участак № 8 – 481 чалавек, г. Магілёў, Ленінскі раён, участак № 41 – 400 чалавек.



Тое, што такая колькасць людзей нават фізічна не можа прагаласаваць па месцы знаходжання, яскрава дэманструе прыклад такога галасавання, які быў зафіксаваны на ўчастку № 8 у горадзе Орша. Там, паводле дадзеных камісіі, яшчэ з самай раніцы выказалі жаданне прагаласаваць па месцы знаходжання каля 350 чалавек (дакладную лічбу кіраўнік выбарчай камісіі адмовілася прадставіць). у 10.00 выехала 2 групы па 2 чалавекі з ліку сябраў участковай выбарчай камісіі. Адна група ўзялася аб'язджаць 50 чалавек, другая — 300 чалавек. Узяць з сабой назіральнікаў група, якая мела намер аб'ехаць 300 чалавек, катэгарычна адмовілася, спаслаўшыся на адсуднасць свабодных месцаў у машыне. Вярнулася гэта группа ў 15.50. Такім чынам, 300 чалавек яны паспелі аб'ехаць за 4 гадзіны 50 хвілін. На аднаго чалавека камісія траціла 1 хвіліну 10 секунд. На гэтым жа ўчастку быў зафіксаваны выпадак, калі на галасаванне па месцы знаходжання запісаўся памерлы ў верасні грамадзянін.

Пры арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў камісіі горада Гарадка Віцебскай вобласці яшчэ з 23 верасня стварылі спісы жадаючых галасаваць па месцы знаходжання, у якія ўваходзіла ад 87 (на Баграмянаўскім участку № 1) да 360 (на Гагарынскім участку № 5) выбаршчыкаў. Гарадоцкая раённая камісія прызнала, што спісы для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў фармаваліся членамі УВК пры ўдакладненні спіса выбаршчыкаў, што не прадугледжана выбарчым заканадаўствам. Старшыня Віцебскай абласной камісіі адмовіў ў задавальненні скаргі на гэтае парушэнне, пры гэтым скарга на дзеянні УВК не была разгледжана тэрытарыяльнай камісіяй калегіяльна. Пры галасаванні ў дзень выбараў УВК Зарэчанскага ўчастка для галасавання № 4 г. Гарадка выдала для арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў 149 бюле-





тэняў (спачатку 123 – для першай вынасной скрыні, а потым 26 – для другой вынасной скрыні), але па месцы знаходжання прагаласавала толькі 103 грамадзяніна: паводле словаў старшыні гэтай УВК Кірылава У.П., выбаршчыкі або прыйшлі на ўчастак, або памерлі, або не адчынілі дзверы. Аналагічна, на Гагарынскім участку № 5 (у Гарадку) ў спісы для галасавання па месцы знаходжання было ўнесена 360 чалавек, пры гэтым, паводле пратакола, у галасаванні па месцы знаходжання прынялі ўдзел 166 выбаршчыкаў. Адзначаныя факты сведчаць, што спісы для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў ствараліся штучна і без наяўнасці просьбаў саміх выбаршчыкаў, што з'яўляецца прыкметай арганізацыі выбарчымі камісіямі штучнага і масавага галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў.

Пры такіх абставінах праўдзівасць вынікаў галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў выклікае сур'ёзныя сумневы.

**Маніпуляцыі з яўкай у дзень асноўнага галасавання.** Паводле дадзеных кампаніі «Права выбару–2015», якая ладзіла назіранне на 642 выбарчых участках, на 450 выбарчых участках у дзень асноўнага галасавання, 11 кастрычніка, па падліках назіральнікаў, прагаласавала 336 577 чалавек, паводле афіцыйных звестак участковых выбарчых камісій – 368 878 чалавек. Разыходжанне ў падліку колькасці грамадзян, што прагаласавалі, склала 32 301 чалавек, альбо 9,6%. Яўка ў асноўны дзень галасавання на гэтых участках, паводле звестак назіральнікаў, склала 42,2%. Гэта сведчыць пра незаконныя маніпуляцыі з колькасцю тых, хто прыняў удзел у галасаванні, падчас датэрміновага галасавання. Паводле падлікаў назіральнікаў, найбольшае разыходжанне ў яўцы выбаршчыкаў у дзень асноўнага галасавання выяўлена на наступных участках: № 2 ў г. Мазыры Гомельскай вобласці (паводле звестак назіральнікаў – 280 чалавек, паводле



афіцыйных звестках – 584 чалавекі, розніца складае 304 чалавекі, альбо 109%), № 51 у Мікашэвічах Брэсцкай вобласці (па звестках назіральнікаў – 781 чалавек, па афіцыйных звестках – 1 148 чалавек, розніца складае 367 чалавек, альбо 47%); № 16 у Цэнтральным раёне г. Мінска (паводле назіральнікаў – 633 чалавекі, паводле афіцыйных звестак – 1 223 чалавекі, розніца складае 590 чалавек, альбо 93,2%).

**Непразрысты падлік галасоў і незаконныя маніпуляцыі пры падліку галасоў.** Назіральнікамі кампаніі «Права выбару–2015» на 605-і выбарчых участках была пададзена Прапанова аб галосным падліку галасоў. Гэтая прапанова прадугледжвала, што пры падліку галасоў кожны бюлетэнь дэманструецца ўсім сябрам камісіі і назіральнікам, камісія лічыць галасы па пададзеных бюлетэнях галосна і калегіяльна. Аднак кіраўніцтва выбарчых камісій выказала негатыўнае стаўленне да гэтай прапановы.

Назіральнікі кампаніі «Права выбару–2015» прысутнічалі пры падліку галасоў на 633 участках. Паводле назіральнікаў кампаніі «Права выбару–2015», на пераважнай большасці ўчасткаў, дзе ажыццяўлялася назіранне, падлік галасоў не з'яўляўся адкрытым і галосным. Камісіі пры падліку галасоў не працавалі як калегіяльны орган, як гэта павінна быць згодна з Выбарчым кодэксам: на практыцы бюлетэні не дэманстраваліся ўсім сябрам участковай выбарчай камісіі, звычайна кожны асобны сябра камісіі лічыў пэўную частку бюлетэняў, потым негалосна (шэптам, на паперцы) перадаваў звесткі старшыні камісіі, які таксама негалосна суміраваў дадзеныя і агучваў агульны вынік. Такім чынам, нават сябры камісій не маюць упэўненасці ў тым, што зафіксаваныя ў выніковым пратаколе звесткі сапраўды адпавядаюць рэальнаму волевыяўленню грамадзян.



Напрыклад, на выбарчым участку № 16 Аршанскага раёна, па сведчаннях назіральнікаў, пры падліку галасоў сябрам камісіі быў выдадзены аркуш паперы, куды яны ўносілі лічбы падліку раздадзеных ім стосаў бюлетэняў. Сумiраванне лічбаў ажыццяўляў сакратар камісіі ў пісьмовай форме паводле занесеных у гэты аркуш звестак, пасля чаго дадзеныя агучваліся. Такім чынам, назіральнікі маглі пачуць толькі агульную лічбу падліку галасоў, але не маглі пераканацца ў тым, што яна адпавядае той колькасці бюлетэняў, якая падлічвалася ўсімі сябрамі камісіі паасобку. Наяўнасць такога аркуша, у які сябры камісіі запісваюць вынікі падліку часткі бюлетэняў, таксама як і наступнае іх сумiраванне сакратарамі камісіі, не прадугледжанае заканадаўствам. Назіральнікі пры гэтым знаходзіліся далей чым за 2 метры ад стала падліку бюлетэняў і не маглі паўнавартасна назіраць за сумiраваннем лічбаў камісіяй.

Гэткі непразрысты падлік галасоў можа быць сведчаннем фальсіфікацый вынікаў выбараў. Так, на тым жа выбарчым участку № 16 Аршанскага раёна сябра УВК Пажарыцкі заявіў, што, паводле падліку ім часткі бюлетэняў, за кандыдата Караткевіч быў аддадзены 21 голас, а іншыя сябры камісіі заявілі, што ў іх частках бюлетэняў за кандыдата Караткевіч было каля 20 галасоў. Аднак, паводле пратакола, на гэтым участку за кандыдата Караткевіч прагаласавала ўсяго 22 выбаршчыкі. Такім чынам, сістэма непразрыстага падліку галасоў можа сведчыць пра імкненне прыхаваць фальсіфікацыі выбараў, здзейсненыя на этапе складання пратакола пра вынікі галасавання на ўчастку.

На 141 выбарчым участку (то бок, на 22% участкаў, дзе назіральнікі прысутнічалі пры падліку галасоў) падлік, паводле сведчанняў назіральнікаў, адбываўся з парушэннем патрабавання пра раздзельны падлік па відах галасавання (спачатку скрыня датэрміновага галасавання, пасля скрыні галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў, пасля скрыня галасавання на ўчастку ў дзень асноўнага галасавання), як таго патрабуе Выбарчы кодэкс. Аднак, паводле дадзеных назіральнікаў, значнага адрознення ў галасаванні за розных кандыдатаў (альбо супраць усіх кандыдатаў) па розных відах галасавання заўважана не было.

Назіральнікі змаглі падаць дадзеныя пра колькасць прагаласаваўшых у памяшканні ўчастка для галасавання ў дзень выбараў, 11 кастрычніка, па 485 участках. Паводле дадзеных, агульная колькасць тых, хто прагаласаваў, склала 374 809. Гэта не супадае з паказчыкам, агучаным УВК у выніковых пратаколах: паводле іх, агульная колькасць тых, хто прагаласаваў, склала 395 863. Такім чынам, розніца паміж афіцыйнымі дадзенымі яўкі і сведчаннямі назіральнікаў склала 21 054 чалавекі (агучаны камісіямі паказчык вышэйшы за дадзеныя назіральнікаў на 5,61%).

У шэрагу выпадкаў зафіксаваныя факты перапісвання пратаколаў пасля іх перадачы з УВК у ТВК, пры гэтым колькасць галасоў, пададзеных за альтэрнатыўнага кандыдата Караткевіч у гэтых выпадках змяншалася. Напрыклад, на ўчастку № 36 у Доме дзіцячай творчасці ў Баранавічах сябры УВК ў ноч пасля выбараў перапісалі пратакол, змяніўшы выніковыя дадзеныя: вынік за Аляксандра Лукашэнку вырас, за Таццяну Караткевіч

– знізіўся больш чым у два разы (з 17% да 7%). Пра змены ў пратаколе паведаміў журналіст Макар Маліноўскі, які разам з двума назіральнікамі прысутнічаў на 36-м участку ў Баранавічах у дзень выбараў і меў магчымасць параўнаць дадзеныя пратакола, вывешанага ў памяшканні ўчастка для галасавання, з дадзенымі ў пратаколе, які паступіў у ТВК. у новым пратаколе лічбы змяніліся: яўка па ўчастку павялічылася на 118 чалавек, колькасць галасоў за Караткевіч зменшылася на 130 (у яе стала менш за 7%), колькасць галасоў за Лукашэнку вырасла на 269 (яго вынік на гэтым участку стаў 88%).

# 8. Умовы для дзейнасці назіральнікаў

Перашкоды працы назіральнікаў кампаніі «Права выбару–2015» былі зафіксаваны ў Мінску і ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. у тым ліку мелі месца неабгрунтаваныя адмовы ў акрэдытацыі назіральнікаў ва УВК напачатку назірання, перашкоды ў выкарыстанні смартфонаў ды ажыццяўленні відэа- і фотафіксацыі парушэнняў (у асобных выпадках камісіі перашкаджалі нават фатаграфаванню вывешаных УВК пратаколаў па выніках датэрміновага галасавання), ціск на назіральнікаў па месцы працы і пагрозы звальнення з мэтай прымусіць іх адмовіцца ад удзелу у кампаніі назірання, неабгрунтаваныя пазбаўленні акрэдытацыі і выдаленні назіральнікаў з участкаў.

Агулам за час галасавання 36 назіральнікаў кампаніі «Права выбару–2015» былі пазбаўленыя акрэдытацыі і выдаленыя з участкаў, у тым ліку 15 чалавек – у час датэрміновага галасавання. Падчас падрыхтоўкі да падліку галасоў і падліку галасоў быў выдалены яшчэ 21 назіральнік. Такім чынам, агульная колькасць выдаленых з участкаў і пазбаўленых акрэдытацыі назіральнікаў склала 36 чалавек (2,79 % ад агульнай колькасці назіральнікаў кампаніі «Права выбару–2015»).

Вельмі часта УВК перашкаджалі назіральнікам рабіць фатаздымкі і весці відэазапіс, што часам клалася ў аснову рашэнняў пра пазбаўленне назіральнікаў акрэдытацыі. Гэта сталася адметнасцю выбараў 2015 года.

8-9 кастрычніка зафікасаваныя чатыры факты ціску на назіральнікаў ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне. З чатырох назіральнікаў адзін адмовіўся назіраць, трое засталіся ў назіранні, аднак не хочуць агалоскі. Вядома, што назіральнікам тэлефанавалі з установы адукацыі, установы аховы здароўя, з райвыканкама і адміністрацыі прадпрыемства. Ціск ажыццяўляўся таксама і на сябраў выбарчых камісій, вылучаных арганізацыямі-суб'ектамі кампаніі «Права выбару–2015».

Назіральнікі ад Партыі БНФ і Грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» ў Мінску сутыкнуліся з адмовай у адначасовай акрэдытацыі назіральнікамі на адных участках. Напрыклад, на ўчастку № 64 Савецкага раёна Мінска УВК адмовілася акрэдытаваць назіральнікам вылучанага ад ГА БНФ «Адраджэньне» Аляксандра Акуліча, спаслаўшыся на тое, што камісіяй ужо акрэдытаваны назіральнік ад Партыі БНФ, і адна арганізацыя не мае права накіроўваць на ўчастак больш за аднаго назіральніка. Толькі пасьля напісання скаргі гэтая камісія пагадзілася зарэгістраваць дадзенага назіра-

льніка. Некаторыя УВК пры акрэдытацыі патрабавалі ад назіральнікаў прадстаўлення статуту альбо пасведчання аб рэгістрацыі грамадскага аб'яднання, якое накiравала іх назіральнікам, што не прадугледжана законам.

На выбарчым участку № 40 у Чыгуначным раёне Гомеля назіральніка Міхаіла Рагоўскага не хацелі акрэдытоўваць з той прычыны, што на выпісцы з пратакола не было пячаткі. Гэткае парушэнне мела масавы характар і сведчыць пра нізкі ўзровень падрыхтоўкі сяbraў УВК. Толькі пасля скаргаў на гэткае парушэнне назіральнікі прыступалі да сваёй працы.

Напрыклад, 7 кастрычніка назіральніца Таісія Кабанчук была акрэдытавана на ўчастку №28 у Ленінскім раёне Бабруйска, але праз гадзіну старшыня УВК акрэдытацыю скасавала, спаслаўшыся на няправільную выпіску з пратаколу абласной арганізацыі АГП, што накіроўвала назіральніка. Сярод заўваг – няпоўныя ініцыялы ды адсутнасьць пячаткі. На наступны дзень дакументы пра накіраванне назіральнікам на гэты ўчастак прынёс яшчэ адзін актывіст «Права выбару–2015», Генадзь Родзічаў – з выпраўленай выпіскай з пратакола, але без пячаткі, бо яе арганізацыя не мае. Нягледзячы на тое, што заканадаўства дазваляе выпіску без пячаткі пры яе адсутнасьці ў арганізацыі, старшыня УВК ўсё роўна не зарэгістравала актывіста. Кабанчук і Родзічаў падалі скаргу ў тэрытарыяльную выбарчую камісію Ленінскага раёна г. Бабруйска, а старшыня абласной арганізацыі АГП Уладзімір Шанцаў – у Цэнтральную камісію. у выніку назіральнікі былі акрэдытаваныя толькі 9 кастрычніка па старых пратаколах.

У Оршы каля 30 назіральнікаў ад партыі левых «Справядлівы свет» былі выдалены з участкаў на падставе прэтэнзій да пратаколаў вылучэння назіральнікаў: у іх было пазначана, што назіральнікі накіроўваюцца на ўчасткі для галасавання для назірання за выбарамі, што адбудуцца 11 кастрычніка 2015 года, што адпавядае ўзору Цэнтральнай камісіі. УВК палічылі, што гэтыя на-



зіральнікі не маюць права назіраць за датэрміновым галасаваннем 6-10 кастрычніка.

Назіральніцу ад прафсаюза РЭП Ірыну Осіпаву адмовіліся акрэдытаваць на участку № 43 ў Калодзішчах Мінскай вобласці на той падставе, што арганізацыйная структура РЭП не мае рэгістрацыі ў Мінскай вобласці. Толькі пасля падачы скаргі назіральніца была акрэдытаваная.

Варта адзначыць, што УВК па ўсёй Беларусі ў дні напярэдадні датэрміновага галасавання не мелі адзінага графіка працы, які б ахопліваў цэлы працоўны дзень (у адрозненне ад ТВК, чый графік працы быў устаноўлены Цэнтральнай камісіяй і быў дастаткова прымальны). Гэта стварала нязручнасці для своечасовай акрэдытацыі назіральнікаў у дзень напярэдадні пачатку датэрміновага галасавання.

У Брэсце назіральніца кампаніі «Права выбару—2015» Ціханава па рашэнні УВК № 67 была пазбаўлена акрэдытацыі за «паводзіны, не сумяшчальныя са статусам назіральніка».

7 кастрычніка з участка № 10 у Першамайскім раёне Мінска быў выдалены назіральнік ад ПАГА «Рух «За Свабоду» Пётр Маркелаў, які спрабаваў наладзіць відэаназіранне за працэсам галасавання. Па ягоных словах, на яго былі пададзеныя 8 скаргаў — ад праўладных назіральнікаў, сябраў камісіі — па абсалютна розных надуманых прычынах. у назіральніка быў адабраны фотаздымач: «Мы пачалі другі дзень назірання. Я паклаў побач з сабой фотаздымач і нават нічога ім не здымаў, аднак намеснік старшыні камісіі адабраў у мяне здымач і паклаў яго ў сейф, а старшыня камісіі яго там зачыніў», — распавёў Пётр Маркелаў. Аналагічным чынам на ўчастку № 22 Цэнтральнага раёна Мінска УВК забараніла назіральнікам выкарыстоўваць смартфоны. З участка № 49 Мікашэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці за ажыццяўленне відэаздымкаў быў выдалены назіральнік Л. Дубаносаў.

Назіральнік Максім Аляmoўскі, акрэдытаваны на выбарчым участку № 69 Ленінскага раёна Магілёва, заявіў аб забароне старшынём участковай камісіі Андрэем Міхайлавым сфатаграфаваць пратакол галасавання за 6 кастрычніка. Падобныя ж забароны для фатаграфавання былі зафіксаваны назіральнікамі на ўчастках № 26 Маскоўскага раёна Брэста, № 29 Цэнтральнага раёна Мінска.

8 кастрычніка назіральніца кампаніі «Права выбару—2015» Марыя Паклонская была пазбаўлена акрэдытацыі на участку № 65 Першамайскага раёна Мінска за спробу сфатаграфаваць скрыню для галасавання, якая мела прыкметы сарванай пячаткі. Варта адзначыць, што ў гэтым і ў шэрагу іншых выпадкаў рашэнне пра пазбаўленне назіральніка акрэдытацыі прымалася старшынём камісіі адзінаасобна, што з'яўляецца парушэннем заканадаўства. Толькі пасля ўмяшальніцтва каардынатараў кампаніі «Права выбару—2015» пытанне пра пазбаўленне гэтага назіральніка акрэдытацыі было разгледжана на пасяджэнні УВК. Па гэтым факце кандыдатам у Прэзідэнты Таццянай Караткевіч была пададзена скарга ў Цэнтральную камісію.

9 кастрычніка сябра Рады «Руху «За Свабоду», назіральнік кампаніі «Права выбару—2015» Арцём Лява быў пазбаўлены акрэдытацыі на выбарчым участку № 29 Ленінскага раёна Мінска. у рашэнні камісіі гаворыцца пра

пяць дакладных запісак на назіральніка «Права выбару—2015» ад праўладных назіральнікаў. Па дадзеных камісіі, назіральнік «ствараў на ўчастку малапрыемную абстаноўку, праводзіў здымкі без дазволу грамадзян».

Пры гэтым назіральнікі ад лаяльных уладам арганізацый (БРСМ, Белая Русь ды інш.) мелі пры сабе загадзя падрыхтаваныя заявы пра адсутнасць парушэнняў на ўчастках, якія запаўняліся і падаваліся імі ва УВК нават пры наяўнасці відавочных парушэнняў. у шэрагу выпадкаў гэтыя назіральнікі перадузята негатыўна ставіліся да назіральнікаў кампаніі «Права выбару—2015», пісалі на іх беспадстаўныя скаргі, што ў асобных выпадках выкарыстоўвалася УВК як падстава для пазбаўлення назіральнікаў «Права выбару—2015» акрэдытацыі.

9 кастрычніка ў Барысаве з Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва была звольнена па пагадненні бакоў Таццяна Шаўчэнкава, якая была назіральнікам «Права выбару—2015» на ўчастку № 41: яе выклікала дырэктар і пранавала неадкладна звольніцца. «Я зразумела, што, калі не падпішу па пагадненні бакоў, то пачнецца траўля, мне гэта абсалютна не трэба, у мяне для гэтага слабыя нервы. Пад мяне пачалі капаць, таму маглі проста звольніць па службовай неадпаведнасці», — распавяла Таццяна Шаўчэнкава.

6 кастрычніка на выбарчым участку № 29 у а.г. Акцябр Буда-Кашалёўскага раёна, а таксама на выбарчым участку № 33 ў Наваполацку назіральнікі не змаглі прыступіць да назірання, бо начальства з іх працы пагражала ім растаржэннем працоўных кантрактаў.

8—9 кастрычніка зафіксаваныя чатыры факты ціску на назіральнікаў ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне. З чатырох назіральнікаў адзін адмовіўся назіраць, трое засталіся ў назіранні, аднак не хочуць агалоскі. Вядома, што назіральнікам тэлефанавалі з установы адукацыі, установы аховы здароўя, з райвыканкама і адміністрацыі прадпрыемства.

Ціск ажыццяўляўся таксама і на сябраў выбарчых камісій, вылучаных арганізацыямі-суб'ектамі кампаніі «Права выбару—2015». Напрыклад, сябра УВК Дзеравянчыцкага ўчастка для галасавання № 32 (вёска Дзеравянчыцы Слонімскага раёна) ад Слонімскай арганізацыі Грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэнне» сутыкнулася з ціскам па месцы працы на малочна-таварнай ферме: загадчыца фермы папярэдзіла яе, каб яна не хадзіла дзяжурыць ва УВК, інакш будзе звольнена за прагулы. Потым загадчыца фермы сказала, што нікуды не пускаць Таццяну Бялько ёй загадаў выконваючы абавязкі дырэктара РУСП «Пераможац» Мікалай Грачышнікаў.

ТВК ў вялікай колькасці выпадкаў не разглядалі скаргі назіральнікаў на дзеянні УВК, асабліва гэта датычыць скаргаў, што паступалі пасля дня выбараў. ТВК Віцебскай вобласці пасля завяршэння выбарчай кампаніі не ажыццяўлялі разгляд скарг на незаконнае выдаленне назіральніка з участка № 5 у горадзе Гарадку Віцебскай вобласці.

На большасці ўчасткаў назіральнікі не мелі магчымасці паўнавартасна назіраць за падлікам галасоў. Выбарчыя камісіі і іншыя дзяржаўныя структуры стваралі перашкоды для назіральнікаў, што выявілася ў непрадстаўленні інфармацыі пра спіскавую колькасць выбаршчыкаў на ўчастку, супрацьзаконнай адмове ў акрэдытацыі назіральнікаў, пазбаўленні назіральнікаў акрэды-

тацыі і іх выдаленні з участкаў, ціску на назіральнікаў па месцы працы з мэтай прымусіць іх да адмовы ад удзелу ў назіранні, стварэнні нязручных умоў размяшчэння назіральнікаў у памяшканнях ўчасткаў і іх паўнавартаснай працы па назіранні за выдачай бюлэтэняў камісіямі. Вельмі часта ўчастковыя выбарчыя камісіі перашкаджалі назіральнікам рабіць фатаздымкі і весці відэазапіс, што часам клалася ў аснову рашэнняў пра пазбаўленне назіральнікаў акрэдытацыі. Гэта сталася адметнасцю выбараў 2015 года. Агулам за час выбараў 36 назіральнікаў кампаніі «Права выбару—2015» былі пазбаўленыя акрэдытацыі і выдаленыя з участкаў, што складае 2,79 % ад агульнай колькасці назіральнікаў кампаніі.

Па заканчэнні выбарчай кампаніі была звольнена з працы ў дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву № 4 г. Віцебска Людміла Церашонкава, якая была назіральнікам ад Партыі БНФ на выбарчым участку № 15, разьмешчаным у будынку сярэдняй школы № 31. За кароткі тэрмін на дзеянні камісіі ёю былі складзены тры скаргі. у дзень асноўнага галасавання падчас падліку галасоў назіральніцай была пададзена скарга адносна адсутнасці галоснай і адкрытай працэдуры падліку галасоў.

Матэрыялы і сведчанні парушэнняў, назапашаныя кампаніяй «Права выбару—2015», былі пакладзены ў аснову скаргі пра непрызнанне вынікаў выбараў, пададзенай кандыдатам у Прэзідэнты Таццянай Караткевіч (паводле Выбарчага кодэкса, права абскарджання вынікаў выбараў у цэлым па краіне належыць выключна кандыдатам у Прэзідэнты, прычым такая скарга павінна быць пададзеная ў трохдзённы тэрмін). ЦВК разгледзела скаргу на сваім пасяджэнні, падчас якога пазіцыя непрызнання выбараў была агучана намеснікам старшыні Партыі БНФ Ігарам Ляльковым, які карыстаўся статусам сябры ЦВК з правам дарадчага голаса. Аднак ЦВК некрытычна падыйшла да разгляду скаргі, не ацэньваючы выкладзеных у ёй сведчанняў парушэнняў заканадаўства на канкрэтных учатках. Рашэннем ЦВК ў задавальненні скаргі было адмоўлена.

# 9. Рэкамендацыі па выніках назірання

На падставе зробленых па выніках назірання высноў, кампанія «Права выбару—2015» патрабуе ад Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, органаў заканадаўчай і выканаўчай улады, у тым ліку Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь:

Выпрацаваць крытэры адбору прэтэндэнтаў у склад выбарчых камісій, замацаваўшы абавязковае ўключэнне ў склад камісій усіх асоб, прапанаваных палітычнымі партыямі. у выпадку, калі колькасць вылучаных асоб большая за максімальны склад камісіі, прыярытэт павінны надавацца вылучэнцам ад палітычных партый. Замацаваць магчымасць вылучэння ў склад выбарчых камісій прадстаўнікоў зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты, у Прэзідэнты.

Зарэгістраваць палітычную партыю Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, Партыю свабоды і прагрэса, грамадскае аб'яднанне «Гавары праўду!», арганізацыйныя структуры Праваабарончa-асветніцкага грамадскага аб'яднання «Рух «За свабоду», усталяваць заяўны парадак рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў, скасаваць забарону дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў без дзяржаўнай рэгістрацыі ды крымінальную адказнасць за такую дзейнасць (артыкул 1931 Крымінальнага кодэкса), а таксама заканадаўча дазволіць рэгістрацыю арганізацыйных структур партый і грамадскіх аб'яднанняў у жылых памяшканнях, што належаць іх сябрам.

Стварыць адзіны нацыянальны публічны рэестр выбаршчыкаў, які б выключыў магчымасць адвольнай маніпуляцыі выбарчымі спісамі на выбарчых участках.

Выпрацаваць адзіныя і зручныя для грамадскасці крытэры вызначэння месцаў, забароненых для збору подпісаў ініцыятыўнымі групамі, і дазволеных для правядзення агітацыйных масавых мерапрыемстваў. Пашырыць працягласць перыяду агітацыі падчас выбарчай кампаніі. Замацаваць паведамляльны парадак арганізацыі масавых мерапрыемстваў усімі грамадзянамі і арганізацыямі, як у перыяд выбараў, так і па-за межамі выбарчых кампаній.

Разгледзець магчымасць скасавання датэрміновага галасавання, замяніўшы яго іншымі працэдурамі, што забяспечаць рэалізацыю выбарчага права асобам, якія не маюць магчымасці прагаласаваць у дзень выбараў па месцы жыхарства. у якасці першачарговага крока варта абмежаваць тэрмін датэрміновага галасавання да двух дзён і замацаваць на ўзроўні метадычных

палажэнняў патрабаванні да захоўвання скрыняў для датэрміновага галасавання ва ўмовах, якія б выключалі доступ да іх пабочных асоб.

Замацаваць пісьмовую форму падачы заяў аб галасаванні па месцы знаходжання выбаршчыкаў, якая падпісваецца выбаршчыкам уласнаручна.

Стварыць умовы для аб'ектыўнага і рэальнага судовага кантролю за ходам выбарчага працэса, у тым ліку ў сферы разгляду скарг на дзеянні выбарчых камісій, на рашэнні мясцовых органаў улады пра стварэнне выбарчых камісій, на рэгістрацыю ініцыятыўных груп кандыдатаў.

Спыніць практыку палітычнага пераследу кандыдатаў-апанентаў дзеючай улады і журналістаў недзяржаўных СМІ, блогераў ды фрылансэраў, у тым ліку выключыць неабгрунтаваныя арышты і іншыя спагнанні па абвінавачванні ў адміністратыўных правапарушэннях (парушэнне парадку арганізацыі масавых акцый, парушэнне заканадаўства аб СМІ, дробнае хуліганства).

Увесці ў заканадаўства механізмы дзяржаўнага фінансавання агітацыйных кампаній кандыдатаў і палітычных партый. Спыніць практыку ўмяшальніцтва органаў выканаўчай улады ў агітацыйную дзейнасць кандыдатаў і палітычных партый, а таксама перашкоды ў правядзенні мірных сходаў агітацыйнага характару. Выключыць з заканадаўства забарону агітацыі на карысць няўдзелу ў выбарах.

Пашырыць правы назіральнікаў, у тым ліку забяспечыўшы ім рэальную магчымасць назірання за захоўваннем выбарчых бюлетэняў, скрыняў для галасавання, а таксама за падлікам галасоў, які павінны ажыццяўляцца выбарчымі камісіямі калегіяльна, быць празрыстым і галосным. Замацаваць права назіральнікаў праводзіць фотаздымкі альбо відэазапісы падчас галасавання на ўчастку і пры падліку галасоў.

Рэабілітаваць усіх незаконна асуджаных па палітычных матывах дзеля забеспячэння роўных магчымасцяў рэалізацыі грамадзянскіх правоў усімі палітычнымі суб'ектамі і грамадзянамі Беларусі.

# Факты і сведчанні парушэнняў у паведамленнях назіральнікаў і СМІ

## Узлом сайта ЦВК — сведчанне непадрыхтаванасці да выбарчай кампаніі

**09.05.2015**

У ноч з 6 на 7 мая быў узламаны сайт Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў. Асобамі, якія называюць сябе «паўстанцамі Кіркук-Курдыстана», была мадыфікаваная галоўная старонка сайту.



*Скрыншот з сайту ЦВК пасля атакі хакераў*

У сувязі з гэтым кампанія па назіранні «Права выбару—2015» «выказвае занепакоенасць неабароненасцю ад хакерскіх атак сайта, які з'яўляецца асноўнай крыніцай інфармацыі пра ход выбарчых кампаній у Беларусі. Гэта сведчыць пра непадрыхтаванасць да працы ў сучасных умовах інфармацыйнага рэсурса галоўнага органа, на якім палягае адказнасць за правядзенне выбарчай кампаніі». Кампанія па назіранні «Права выбару—2015» заклікае праваахоўныя органы правесці праверку па факце ўзлому сайта і прыцягнуць вінаватых да крымінальнай адказнасці.

«Прапануем таксама праверыць рацыянальнасць і мэтавы характар выкарыстання сродкаў, выдаткаваных на стварэнне і падтрымку сайта ЦВК: ён з'яўляецца важным элементам дзяржаўнай інфармацыйнай сістэмы і каштуе далёка не малых грошаў, каб мець падобныя хібы, якія дазваляюць праз хакерскія атакі супрацьпраўным чынам змяняць яго кантэнт. Па выніках праверкі патрабуем прыняць захады па недапушчэнні падобных выпадкаў і публічна паведаміць пра прынятыя дзеянні грамадскасці», — гаворыцца ў звароце кампаніі «Права выбару—2015».

*Крыніца:*
*ПАГА «Рух «За Свабоду»*
*http://рух.by/bel/news/4088/*

## Ініцыятыва «Права выбару–2015» пачала кампанію назірання за выбарамі

**01.07.2015**



Ініцыятыва «Права выбару—2015» пачала кампанію назірання за выбарамі. Пра гэта аб’яўлена 1 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

У ініцыятыву ўваходзяць восем арганізацый: Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, рухі «Гавары праўду!» і «За Свабоду», Партыя БНФ, Беларуская партыя

«Зялёныя», прафсаюз РЭП, аргкамітэт Партыі свабоды і прагрэсу.

Каардынатар «Права выбару—2015» Дзяніс Садоўскі падкрэсліў, што сваёй галоўнай мэтай ініцыятыва ставіць прадухіленне парушэнняў заканадаўства на ўсіх этапах выбарчай кампаніі ў Беларусі. Ён адзначыў, што па ўсіх зафіксаваных фактах парушэнняў назіральнікі кампаніі будуць адразу ж падаваць скаргі. Акрамя таго, плануецца публікаваць справаздачы па асноўных этапах выбарчага працэсу (фармаванне выбарчых камісій, збор подпісаў і рэгістрацыя кандыдатаў, агітацыя, датэрміновае галасаванне, дзень выбараў).

*Крыніца:*
*Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН*
*http://by.belapan.by/archive/2015/07/01/by_media_nabliudenie/*

## Лунінецкі райвыканкам не хацеў прымаць заявы на пікеты

**02.07.2015**

З праблемамі сутыкнуўся старшыня Лунінецкай раённай БСДП (Г) Віталь Каліноўскі, калі спрабаваў зарэгістраваць у выканкаме дзве заявы на правядзенне пікетаў 16-17 ліпеня з мэтай прыцягнення людзей у ініцыятыўную групу ў падтрымку патэнцыйнага кандыдата ў Прэзідэнты Таццяны Караткевіч. «Больш за паўгадзіны скандалу і званок да незалежнага юрыста спатрэбіліся для такой нескладанай працэдуры», — кажа Віталь Каліноўскі.

Сакратарка старшыні гарвыканкама Наталлі Аляшкевіч наадрэз адмовілася зарэгістраваць заяву і накіравала актывіста ў аддзел арганізацыі кадравай працы да Алены Качаноўскай, якая ў сваю чаргу «адфутболіла» яго ў аддзел эканомікіі.

На думку супрацоўніц выканкама, заявы рэгістраваць немагчыма, паколькі яшчэ не пачалася выбарчая кампанія. Актывісту прыйшлося даводзіць, чым адрозніваецца публічнае прыцягненне як мага большай колькасці люд-

зей у ініцыятыўную групу Караткевіч ад збору подпісаў за яе як магчымага кандыдата ў Прэзідэнты. Толькі пасля гэтага з неахвотай заявы былі зарэгістраваныя ў межах закона «Аб звароце грамадзян».

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78138*

## Гродзеншчына: не ўсе сайты выканкамаў аператыўна інфармавалі пра выбарчы працэс

**08.07.2015**

З 1-га па 19-га ліпеня ў межах кампаніі па выбарах Прэзідэнта ў раённых адміністрацыях адбываўся прыём дакументаў па вылучэнні прадстаўнікоў у склад тэрытарыяльных камісій. Аднак на афіцыйных сайтах раённых выканкамаў Гродзенскай вобласці інфармацыя пра гэта была не ўсюды і не была аператыўнай. Так, на сайце Астравецкага і Гродзенскага райвыканкамаў у рубрыцы «Выбары 2015» не было ніякіх звестак пра гэты этап выбарчай кампаніі. А на афіцыйным сайце Смаргонскага райвыканкама асобнай рубрыкі, прысвечанай выбарам, адшукаць увогуле не ўдалося. На некаторых сайтах такія банеры і інфармацыя з'явіліся 7-га – 8-га ліпеня.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78223*

## Гродзенскі гарвыканкам скараціў тэрмін прыёма дакументаў у ТВК на два дні

**09.07.2015**



Чыноўнікі Гродзенскага гарвыканкама размесцілі на сваім сайце інфармацыю аб прыёме дакументаў па вылучэнні прадстаўнікоў у склад тэрытарыяльных выбарчых камісій. Пры гэтым 18 і 19 ліпеня чыноўнікі вырашылі зрабіць выходнымі: у адпаведнасці з іх раскладам атрымліваецца, што субота і нядзеля ў гарвыканкаме з'яўляюцца выходнымі днямі. Пра адмысловы расклад працы чыноўнікаў паведаміў старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Вадзім Саранчукоў. З гэтай нагоды ён збіраецца пісаць скаргу ў Цэнтрвыбаркам. Тым часам Мінскі гарвыканкам працуе, як трэба: падаць дакументы там можна і 18 і 19 ліпеня.




*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/37-grodzensk-garvykankam-skarac-termn-pryetu-dakumenta-u-terytaryyalnyya-kams-na-dva-dn.html*

## Парушэнні ў зборы подпісаў за Аляксандра Лукашэнку

**12.08.2015**

На Гродзеншчыне назіральнікі грамадскай кампаніі «Права выбару–2015» фіксуюць парушэнні выбарчага заканадаўства ў часе збору подпісаў па вылучэнні кандыдатам у Прэзідэнты краіны Аляксандра Лукашэнкі. Сябры ініцыятыўнай групы дзейнага Прэзідэнта збіраюць подпісы, выкарыстоўваючы адміністрацыйны рэсурс, і гэтаму, паводле каардынатара кампаніі «Права выбару–2015» па Гродзенскай вобласці Сяргея Трафімчыка, з'яўляецца ўсё больш доказаў:

– У Бярозаўцы выпадак: адзін з начальнікаў ЖЭСа сабраў дворнікаў, раздаў ім падпісныя лісты і сказаў, каб тыя абышлі людзей і сабралі подпісы. Гэтыя дворнікі ў сваёй большасці – паднявольная маса, яны сабралі гэтыя подпісы. І калі інфармацыя прасачылася, то падпісныя лісты, наколькі я ведаю, былі ліквідаваныя. Мая знаёмая працуе настаўніцай. Ёй загадалі сабра-

ць 400 подпісаў. Яна ходзіць па кватэрах і ўпрошвае людзей падпісацца. Бо ў адваротным выпадку, калі не збярэ гэтых 400 подпісаў, вынікі будуць прадказальныя.

*Крыніца:*
*Беларускае Радыё Рацыя*
*http://www.racyja.com/palityka/parushenni-u-zbory-podpisau-za-alyaksan/*

## Круглянскі райвыканкам вызначыў месцы, забароненыя для правядзення пікетавання: пад забарону патрапілі найбольш людныя

**12.07.2015**

Круглянскі раённы выканаўчы камітэт 9 ліпеня прыняў рашэнне, згодна якому вызначаныя месцы ў Круглянскім раёне, забароненыя для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў за вылучэнне кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Рашэнне было надрукавана ў круглянскай раённай газеце «Сельскае жыццё» (№ 53 ад 11 ліпеня 2015 г.).

Згодна рашэнню Круглянскага райвыканкама, забаронена ладзіць пікетаванне на адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў Круглянскага райвыканкама, сельскіх выканаўчых камітэтаў, суда, пракуратуры і аддзела ўнутраных спраў Круглянскага РВК. Таксама забараняецца збіраць подпісы на адлегласці менш 50 метраў ад тэрыторый дзіцячых дашкольных установаў і агульнаадукацыйных установаў Круглянскага раёна, установаў аховы здароўя Круглянскага раёна, на адлегласці менш за 50 метраў ад праходных прадпрыемстваў і арганізацый Круглянскага раёна, на прыпынках грамадскага транспарта, скрыжаваннях, пешаходных пераходах.

Аддзелу ўнутраных спраў РВК даручаецца забяспечыць ахову грамадскага парадку ў месцах збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандадатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь і прыняць захады па прадухіленні збору подпісаў у неадведзеных для гэтых мэт месцах.

Кантроль за выкананнем рашэння ўскладзены на намесніка старшыні Круглянскага райвыканкама Т. Аксёнаву, аддзел унутраных спраў Круглянскага РВК, аддзел ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі, аддзел арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама, старшыняў сельскіх выканаўчых камітэтаў.

Намеснік старшыні Круглянскага райвыканкама Тамара Аксёнава адказвае за правядзенне выбарчых кампаній у раёне ўжо шмат гадоў і заўсёды забяспечвае патрэбныя ўладзе вынікі галасавання.

Паводле слоў грамадскай актывісткі з Круглага Зінаіды Мілешчанка, якая неаднаразова ўдзельнічала ў выбарчых кампаніях розных узроўняў, пад забарону правядзення пікетавання, згодна райвыканкамаўскаму рашэнню, традыцыйна патрапілі найбольш людныя месцы ў невялікім гарадскім пасёлку. Да таго ж зараз у Круглым актыўна вядуцца працы па

падрыхтоўцы да восеньскіх абласных «Дажынак», таму рэальных месцаў для правядзення пікетавання па зборы подпісаў за кандыдатаў у Прэзідэнты застаецца зусім няшмат.

Вечарам 9-га ліпеня ў Круглянскім райвыканкаме адбылася адмысловая нарада па пытаннях арганізацыйнага забеспячэння выбарчай кампаніі, куды былі запрошаныя прадстаўнікі ўсіх зацікаўленых службаў, шэраг гаспадарчых кіраўнікоў. Як паведамляе «Сельскае жыццё», для дапамогі раённай і ўчастковым выбарчым камісіям, якія яшчэ патрэбна стварыць, у Круглянскім раёне ўжо створана адпаведная працоўная група і штаб. Каардынатарам працы па правядзенні выбарчай кампаніі вызначана ўсё тая ж намесніца старшыні Круглянскага райвыканкама па ідэалогіі Тамара Аксёнава.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78315*

## Круглянскі райвыканкам адмяніў уласнае рашэнне наконт вызначэння месцаў, забароненых для пікетавання

**17.07.2015**

На інтэрнэт-сайце Круглянскага райвыканкама з'явілася новае рашэнне «Аб вызначэнні месцаў, забароненых для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь». Рашэнне Круглянскага райвыканкама № 10-32 прынята 15 ліпеня 2015 г..

Згодна новаму рашэнню, на тэрыторыі Круглянскага раёна забаронена правядзенне пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў з 23 ліпеня па 21 жніўня 2015 г. ўключна на тэрыторыі ўстаноў адукацыі, аховы здароўя, культуры, фізічнай культуры і спорту, сацыяльнай абароны насельніцтва, аўтавакзалах (станцыях), а таксама на адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў і іх структурных падраздзяленняў, органаў пракуратуры, судоў, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва.

Гэтым жа рашэннем прызнаецца страціўшым сілу папярэдняе рашэнне Круглянскага райвыканкама ад 9 ліпеня № 10-18 «Аб вызначэнні месцаў у Круглянскім раёне, забароненых для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь».

Новае рашэнне Круглянскага райвыканкама аб вызначэнні месцаў для правядзення пікетавання нашмат больш ліберальнае за папярэдняе, зараз у Круглым сапраўды ёсць незабароненыя людныя месцы, дзе можна арганізаваць збор подрісаў у падтрымку вылучэння кандыдатаў у Прэзідэнты. Згодна ж рашэнню ад 9 ліпеня, забаранялася ладзіць пікетаванне на

адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў Круглянскага райвыканкама, сельскіх выканаўчых камітэтаў, суда, пракуратуры і аддзела ўнутраных спраў Круглянскага РВК. Таксама забаранялася збіраць подпісы на адлегласці менш 50 метраў ад тэрыторый дзіцячых дашкольных устаноў і агульнаадукацыйных устаноў Круглянскага раёна, устаноў аховы здароўя Круглянскага раёна, на адлегласці менш за 50 метраў ад прахадных прадпрыемстваў і арганізацый Круглянскага раёна, на прыпынках грамадскага транспарта, скрыжаваннях, пешаходных пераходах. Фактычна пад забарону для правядзення пікетавання траплялі ўсе найбольш людныя месцы ў невялікім гарадскім пасёлку.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78472*

## Баранавічы: збіраць подпісы можна, але не там, дзе шмат людзей

**17.07.2015**

На сайце Баранавіцкага гарвыканкама з’явілася рашэнне № 1908 ад 07.07.2015 года «Аб вызначэнні месцаў, забароненых для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў па вылучэнні кандыдатаў у Прэзідэнты Беларусі».

– Добра, што згаданае рашэнне гарадскіх уладаў не забараняе збіраць подпісы, як гэта было раней, каля крамаў, дамоў культуры, прахадных прадпрыемстваў, гандлёвага дома «Вясёлка». Але нас засмучае той факт, што па-ранейшаму забараняецца збіраць подпісы ў самых «хлебных» месцах: на цэнтральнай плошчы горада, каля аб’ектаў аўтамабільнага і чыгуначнага транспарта, на рынках, а таксама каля будынкаў органаў мясцовага самакіравання, – пракаментаваў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Аднак найбольшыя спрэчкі ў мясцовых праваабаронцаў, партыйцаў і грамадскіх актывістаў выклікаў пункт 1 рашэння гарвыканкама, які забараняе збіраць подпісы каля тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва. Праваабаронца Сяргей Гоўша лічыць, што ў сваім рашэнні Баранавіцкі гарвыканкам не зусім зразумела паведамляе: якія менавіта арганізацыі можна аднесці да катэгорыі «забяспечваючых абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва»? Таму, адзначыў Сяргей Гоўша, гарадскія ўлады могуць фактычна забараніць пікетаванне там, дзе яны палічаць мэтазгодным.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78467*

## У Салігорску і Нясвіжы вызначылі «зоны адчужэння» для збору одпісаў

**17.07.2015**

У Салігорскім і Нясвіжскім раёнах чыноўнікі забаранілі збор подпісаў за патэнцыйных кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта ў большасці шматлюдных месцаў.

На Салігоршчыне правядзенне пікетаў па зборы подпісаў забаранілі на адлегласці 50 метраў ад будынкаў прадстаўнічых і выканаўчых ораганаў, суда, пракуратуры, бальніц, паліклінік, дзіцячых садкоў, навучальных устаноў, а таксама арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць і бяспеку дзяржавы. Збіраць подпісы таксама забараняецца на пасадачных пляцоўках чыгуначных прыпынкаў, на прыпынках грамадскага транспарта, каля перакрыжаванняў і пешаходных пераходаў. Цяжка зразумець, якімі прававымі стандартамі кіраваліся салігорскія чыноўнікі, але збор подпісаў забаронены нават каля помнікаў архітэктуры, гісторыі, культуры, воінскіх пахаванняў і ў радыусе 50 метраў ад іх. Таксама ў спіс забароненых патрапілі тэрыторыі культавых будынкаў рэлігійных грамад. Асабліва моцную шкоду гэткія маштабныя абежаванні раённых уладаў нанясуць жыхарам райцэнтра. Салігорск з'яўляецца найшчыльнейшым горадам краіны з невялікай плошчай, а, значыцца, сябрам ініцыятыўных груп давядзецца прыкласці сур'ёзныя намаганні ў пошуку пляцоўкі для правядзення пікетаў.

Забарону на збор подпісаў у найбольш шматлюных месцах абвясціў і Нясвіжскі райвыканкам. У пяцідзесяці мятровую «зону адчужэння» патрапілі будынкі райвыканкама, раённага Савета дэпутатаў, суда, пракуратуры, райаддзела ўнутраных спраў, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць ды бяспеку дзяржавы і нават жыццядзейнасць насельніцтва. Зладзіць пікет будзе нельга каля арганізацый грамадскага транспарта, прадпрыемстваў вода- і энергазабеспячэння, устаноў дашкольнай і агульнай сярэдняй адукацыі. Установы ж аховы здароўя ў Нясвіжскім раёне апынуліся ізаляванымі ад зборшчыкаў подпісаў на адлегласці 100 метраў.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78446*

## Смаргонь: улада аддаляла ад сваіх будынкаў пікеты па зборы подпісаў

**18.07.2015**

Паводле публікацыі ў раённай газеце «Светлы шлях» ад 17 ліпеня 2015 года, Смаргонскі райвыканкам рашэннем ад 14 ліпеня ўвёў забарону для пікетавання: на адлегласці менш 50 метраў ад будынкаў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, суда, пракуратуры, на тэрыторыі ўстаноў адукацыі і аховы здароўя, на тэрыторыі чыгуначных вакзалаў, аўтавакзала, у пасажырскім транспарце.

На погляд смаргонскіх праваабаронцаў, у параўнанні з выбарчай кампаніяй 2010 г. зроблены крок назад. Напрыклад, у 2010 годзе забаранялася пікетаваць толькі каля ўваходаў ва ўстановы ўлады, суда, пракуратуры. А праз пяць гадоў дэмакратыя «адкацілася» ажно на 50 метраў – менавіта на такую адлегласць адсунула пікетоўцаў рашэнне мясцовага райвыканкама.

Зноў жа, падчас кампаніі 2010 г. нельга было пікетаваць каля ўваходу ва ўстановы адукацыі, аховы здароўя. Цяпер жа дадалася забарона збіраць подпісы на тэрыторыі гэтых устаноў. І гэта прытым, што межы тэрыторый тых жа паліклінік ды і большасці школ могуць узгадаць, бадай, толькі архітэктары ды вузкае кола кіраўнікоў, ды і то, добра пакорпаўшыся ў паперах. Напрыклад, у Смаргоні адна паліклініка знаходзіцца ў інтэрнаце, другая – у шматпавярховым доме. Як тут вызначыцца?

Акрамя таго, распаўсюджана забарона на аўтавакзал і пасажырскі транспарт. Што тычыцца апошняга, то гэта – недарэчная забарона. Бо цяжка ўявіць пікет, размешчаны ў аўтобусе ці таксоўцы.

Тое, што знятая забарона на пікетаванне каля ўваходаў у іншыя арганізацыі і культавыя ўстановы, не кампенсуе забарону на пікетаванне бліжэй 50 метраў ад пералічыных вышэй устаноў улады, суда, пракуратуры. Бо, паводле практыкі выбарчых кампаній у Смаргоні, пікеты каля ўваходаў у арганізацыі і культавыя ўстановы кандыдатамі і да выбарчай кампаніі 2010 г. ніколі не ладзіліся. Таму гэта забарона не мела практычнага значэння.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78498*

## На Случчыне і Піншчыне таксама забаранілі збор подпісаў у шматлюдных месцах

**18.07.2015**

З месцамі, забароненымі для збору подпісаў за патэнцыйных кандыдатаў у Прэзідэнты, вызначыліся выканаўчыя камітэты Случчыны і Піншчыны. Як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, тут ладзіць пікеты па зборы подпісаў забаранілі ў найбольш шматлюдных месцах.

У Пінскім раёне ўлады не дазволілі збіраць подпісы за кандыдатаў на адлегласці менш пяцідзесяці метраў ад органаў улады, агранізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва. У гэты спіс, у прыватнасці, уваходзяць прадпрыемствы вода-, цепла- і энергазабеспячэння, дзіцячыя садкі і школы, а таксама ўстановы аховы здароўя і культуры. Асобным пунктам раённыя ўлады забаранілі збор подпісаў у грамадскім транспарце.

Пінскі гарвыканкам зрабіў «чорны спіс» шмат у чым падобны да спісу сваіх раённых калег. Пяцідзесяціметровая «зона, вольная ад выбараў» уключае тыя ж будынкі органаў улады і іншыя месцы, якія забяспечваюць жыццядзейнасць насельніцтва, у тым ліку ўстановы гандлю і прыпынкі грамадскага

транспарта. Нельга збіраць подпісы не толькі каля будынкаў, але і ўнутры памяшканняў усіх прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў горада Пінска.

На фоне падобных суворых абмежаванняў рашэнне Слуцкага райвыканкама выглядае верхам лібералізму. «Зону адчужэння» для збору подпісаў каля ўстаноў і арганізацый горада тут абмежавалі адлегласцю «ўсяго толькі» ў 20 метраў. Зрэшты, на цэнтральнай плошчы горада збор подпісаў слуцкія чыноўнікі забаранілі цалкам. Чыгуначны і аўта- вакзалы адмежавалі ад зборшчыкаў подпісаў на адлегласць у 50 метраў.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78495*

## У Мінску медыкаў з 1-ай паліклінікі падпісалі прымусова

**18.08.2015**

1-ая цэнтральная клінічная паліклініка ў Мінску адна з першых падпісала сваіх супрацоўнікаў за вылучэнне дзеючага Прэзідэнта. Галоўны ўрач Крамко Л.Р. не стала «замарочвацца» пашпартамі: патрэбныя звесткі ўзятыя з аддзелу кадраў, спісы падрыхтаваныя загадзя. Заставалася толькі падсунуць для подпісу.

Жыхарка сталіцы, якая дала інфармацыю, прасіла не паведамляць яе прозвішча, інакш «яе выганяць з паліклінікі або дадуць не той укол». Пры гэтым яна прыгадала лёс былога старшыні ЦВК Віктара Ганчара. Факт сведчыць не толькі пра падкантрольнасць усёй сістэмы аховы здароўя пануючай ідэалогіі, але і пра сур'ёзную запалоханасць насельніцтва.

*Крыніца:*
*Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя*
*http://pvby.org/54-u-mensku-medyka-z-1-ay-palklnk-padpsal-prymusova.html*

## Крычаў: сумеснае пасяджэнне па стварэнні ТВК доўжылася 6 хвілін 30 секунд

**21.07.2015**

У Крычаве 21 ліпеня адбылося сумеснае пасяджэнне прэзідыума Крычаўскага раённага Савета дэпутатаў і Крычаўскага райвыканкама па стварэнні Крычаўскай раённай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. За 6 хвілін і 30 секунд раённыя чыноўнікі зацвердзілі склад камісіі колькасцю 11 чалавек.

На пасяджэнні камісіі прысутнічаў прадстаўнік БХК Сяргей Няроўны, іншых прадстаўнікоў грамадскасці на пасяджэнні не было. Паводле слоў Сяргея Няроўнага, вечарам 20-га ліпеня яму адмыслова патэлефанаваў начальнік арганізацыйна-кадравага аддзела Крычаўскага райвыканкама Міхаіл Мешкура і запрасіў папрысутнічаць на пасяджэнні, паведаміўшы, што

яно адбудзецца 21 ліпеня а 10:00 у зале пасяджэнняў Крычаўскага райвыканкама.

Сяргей Няроўны адзначае, што большасць зацверджаных членаў Крычаўскай раённай выбарчай камісіі ўжо ўваходзілі ў склад выбарчых камісій падчас папярэдніх выбарчых кампаній.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78579*

## Бабруйск: ТВК сфармаваны за 16 хвілін

**21.07.2015**

21 ліпеня ў Бабруйску былі сфармаваны тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі. На пасяджэнне дапусцілі прадстаўніка БХК Сяргея Лацінскага.

Камісіі двух раёнаў былі сфармаваны за 16 хвілін. У Ленінскім раёне вылучаліся 16 чалавек, у Першамайскім – 18 чалавек. У склад кожнай ТВК уключылі па 13 сябраў. Прадстаўнікі Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Альберт Секержыцкі і Арцём Мігалкін у іх лік не патрапілі.

У склад ТВК увайшлі сябры Фонду міру, Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў, БРСМ, «Белай Русі», КПБ, Федэрацыі прафсаюзаў, Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці. 11 чалавек вылучаліся ад грамадзян шляхам збору подпісаў. Кандыдатуры прэтэндэнтаў не абмяркоўваліся, галасавалі спісам, называўся толькі шлях вылучэння.

Традыцыйна чыноўнікі выканкама і дэпутаты аддалі галасы «кампетэнтным і вопытным». Такім жа чынам ТВК фармаваліся і на мінулых выбарах.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78577*

## Прадстаўніка БХК не дапусцілі на пасяджэнне ТВК у Віцебску

**22.07.2015**

Леанід Свецік хацеў трапіць на першае пасяджэнне выбарчай камісіі Кастрычніцкага раёна Віцебска. Але намеснік старшыні Віцебскага гарвыканкама Пётр Падгурскі заявіў, што ягоная прысутнасць «непажаданая». Віцебскі праваабаронца Леанід Свецік кажа, што нават не паспеў паказаць накіраванне ад БХК – толькі прадставіўся ў вуснай форме:

«Пётр Падгурскі адразу сказаў, што менавіта на гэтае пасяджэнне, дзе абіраецца старшыня камісіі і ўвогуле кіраўнічы склад, мяне дапускаць «немэтазгодна». Тады я сказаў, што хацеў бы прысутнічаць проста як шараговы выбаршчык, жыхар Кастрычніцкага раёна, грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Тады паступіла прапанова, каб сябры камісіі прагаласавалі, ці згодныя яны, каб я прысутнічаў. Спадар Падгурскі абвясціў, што ўсе прысутныя «мусяць падумаць», перш чым прагаласаваць. І праз колькі хвілін усе 12 сябраў ка-

місіі – яшчэ адзін сябра камісіі не прысутнічаў, бо быў у камандзіроўцы – прагаласавалі супраць.

Паводле Леаніда Свеціка, перад сыходам яму прапанавалі прыйсці заўтра, каб зарэгістравацца ў якасці назіральніка, і тады ўжо прыходзіць на наступнае пасяджэнне камісіі.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78633*

## У Слоніме ціснуць на людзей, якія падалі заяўкі на ўключэнне ў выбаркамы

**22.08.2015**

У Слоніме адзначаны ціск на людзей, якія падалі заявы на ўключэнне іх у выбарчыя камісіі не ад арганізацый, якія падтрымліваюць уладу. Так, Уладзіміру Уласенку, які сумняваўся ў тым, што выбары ў Беларусі фальсіфікуюцца, прапанавалі сабраць дзясятак подпісаў і падаць заяву ў Слонімскую раённую выбарчую камісію, каб самому пераканацца ў гэтым.

Доўга чакаць не давялося. Прыкладна праз тры гадзіны пасля падачы заявы да яго на працоўнае месца на Слонімскім ільнозаводзе прыйшоў сам дырэктар прадпрыемства Бірук У.М., які прапанаваў забраць заяву з раённай выбарчай камісіі.

Таксама дырэктар раіў не ўступаць ні ў якія арганізацыі.

*Крыніца:*
*Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя*
*http://pvby.org/55-u-slonme-csnuc-na-lyudzey-yakya-padal-zayak-na-klyuchenne-vybarkamy.html*

## Маладзечанскі райвыканкам парушае пастанову ЦВК

**23.07.2015**

У пятніцу 17 ліпеня каля 16:45 прадстаўніца Маладзечанскай арганізацыі Партыі БНФ Вольга Лагвіновіч прынесла ў Маладзечанскі райвыканкам дакументы на вылучэнне прадстаўнікоў партыі ў тэрытарыяльную выбарчую камісію (ТВК), але не змагла знайсці нікога, каму належала аддаць гэтыя дакументы.

На старонцы афіцыйнага сайта Маладзечанскага райвыканкама ніякіх звестак пра месца і гадзіны прыёму такіх дакументаў апублікавана не было.

Але такая інфармацыя павінна быць, згодна з п. 2 пастановы ЦВК № 22 ад 01.07.2015 г. «Аб інфармаванні грамадзян пра працу па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2015 годзе»:

«Інфармацыя па пытаннях падрыхтоўкі і правядзення выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2015 годзе публікуецца ў мясцовых газетах і размяшчаецца на інтэрнэт-сайтах абласных, Мінскага гарадскога, раённых, гарадскіх





выканаўчых камітэтаў і адміністрацый раёнаў у гарадах у наступным парадку і тэрміны:

2.2. інфармацыя пра гадзіны прыёму дакументаў аб вылучэнні прадстаўнікоў у склад тэрытарыяльных камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (далей – тэрытарыяльныя камісіі) – на інтэрнэт-сайтах абласных, Мінскага гарадскога, раённых, гарадскіх выканаўчых камітэтаў на наступны дзень пасля зацвярджэння Цэнтральнай камісіяй Каляндарнага плана арганізацыйных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама ў чарговым нумары адпаведнай мясцовай газеты».

Гэта азначае, што патрэбная Вользе Лагвіновіч інфармацыя павінна была з'явіцца на сайце Маладзечанскага райвыканкама ўжо другога ліпеня. Аднак ні 17 ліпеня (дзень звароту прадстаўніцы Партыі БНФ), ні 19 ліпеня (апошні тэрмін падачы дакументаў) такой інфармацыі апублікавана не было.

Пазней на сайце райвыканкама з'явілася інфармацыя пра зацверджаны склад тэрытарыяльнай выбарчай камісіі ў колькасці 13 чалавек: «У складзе камісіі – прадстаўнікі арганізацый рэспубліканскай, камунальнай, прыватнай форм уласнасці, сацыяльнай сферы, дзяржаўных органаў. 46,2% сябраў камісіі – прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый».

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78659*

## Мінская гарадская камісія: 38,5% – складу 2010 года, 61,5% – складу 2014-га

**23.07.2015**

З вылучаных дзевяці прадстаўнікоў апазіцыйных партый толькі тры будуць працаваць у тэрытарыяльных камісіях сталіцы. Зміцер Каспяровіч ад Партыі БНФ – у Мінскай гарадской, Юры Суарэс ад Беларускай партыі

левых «Справядлівы свет» — у Савецкай раённай і Надзея Шомчанка ад Беларускай сацыял-дэмакратычный партыі (Грамада) — у Заводскай.

Пры гэтым у гарадскую камісію ўвайшло 5 чалавек са складу адпаведнай камісіі па прэзідэнцкіх выбарах 2010 г., а ў параўнанні са спісам 2014-га (мясцовыя выбары), мінскую гарадскую камісію папоўнілі ўсяго 5 новых сябраў. Гэта Арцём Цуран — кіраўнік упраўлення арганізацыйна-кадравай працы Мінгарвыканкама, Павел Кікель — сакратар Мінскага гаркама партыі КПБ (на выбарах-2010 быў назіральнікам у гэтай жа камісіі ад КПБ), Зміцер Каспяровіч — актывіст Партыі БНФ, а таксама спадары Клішэвіч і Шаўцоў.

— Калі суаднесці склад Мінскай гарадской выбарчай камісіі 2015 г. з яе складам ў 2010-м, то ў нязменным выглядзе засталося 38,5% яе складу, а ў параўнанні з 2014-м — 61,5%, — зазначыла Валянціна Свяцкая, прадстаўніца кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары». — Перад тым, як прыйсці на пасяджэнне, я паспрабавала знайсці інфармацыю пра склад камісій на былых выбарчых кампаніях — прэзідэнтскай 2010 г. і зусім нядаўняй — выбараў у мясцовыя Саветы 2014-га. Ні на сайце ЦВК, ні Мінгарвыканкама гэтых звестак няма. Але, дзякуючы архіву газеты «Мінскі кур'ер» і інтэрнэт-старонцы адміністрацыі Фрунзенскага раёна, я здабыла адпаведныя матэрыялы. Падчас абвяшчэння складу гарадской камісіі на пасяджэнні прэзідыумаў Мінгарвыканкама і Мінгарсавета, я ўзяла спіс 2014 года і проста стала адзначаць «птушачкай» прозвішчы тых, хто ўвайшоў у склад сёлетняй камісіі — іх набралася 8 чалавек.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78650*

## Салігорск: подпісы за Лукашэнку збіраюць з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу

**28.07.2015**

Салігорскія праваабаронцы пачынаюць атрымліваць першыя сігналы аб выкарыстанні камандай Аляксандра Лукашэнкі адміністрацыйнага рэсурсу для збору подпісаў.

Распавядае рэгіянальны прадстаўнік БХК Леанід Мархотка:

— Намі ўжо атрыманыя некалькі сведчанняў грамадзян аб зборы подпісаў у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі дзяржаўнымі службоўцамі ў розных установах. Паказальны выпадак адбыўся ў Салігорскім цэнтры занятасці насельніцтва падчас правядзення там заняткаў па падвышэнні кваліфікацыі. Адна з работніц цэнтру ледзь не ў загадным тоне запатрабавала ад удзельнікаў заняткаў падпісацца за дзейнага кіраўніка краіны. На заўвагі некаторых навучэнцаў аб сумнеўнай законнасці такога збору подпісаў у дзяржаўнай установе і ў працоўны час прадстаўніца каманды Аляксандра Лукашэнкі адрэагавала нервова. На законнае патрабаванне

грамадзян паказаць сваё пасведчанне сябра ініцыятыўнай групы супрацоўніца цэнтра занятасці адказала адмовай і пачала проста збягаць. Падобная інфармацыя аб выкарыстанні адміністрацыйнага рэсурсу камандай грамадзяніна Лукашэнкі трапляла да нас і з горна-хімічнага каледжа, — кажа праваабаронца.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78781*

## Партыя БНФ абскарджвае ў судзе неўключэнне ў ТВК

**28.07.2015**

Арганізацыйныя структуры Партыі БНФ падалі скаргі ў Мінскі абласны суд і суд горада Мінска з мэтай аспрэчыць рашэнні аб неўключэнні прадстаўнікоў партыі ў склад тэрытарыяльных выбарчых камісій.

Сёлета ад Партыі БНФ у склад тэрытарыяльных выбарчых камісій было вылучана 15 прадстаўнікоў: 11 франтаўцаў былі вылучаны ад зарэгістраваных мясцовых структур партыі, яшчэ чацвёра — шляхам збору подпісаў. Аднак, паводле рашэнняў мясцовых улад, у склад тэрытарыяльных камісій былі ўключаны толькі два сябры Партыі БНФ: Кастусь Смолікаў і Зміцер Касьпяровіч увайшлі, адпаведна, у Віцебскую абласную і Мінскую гарадскую камісіі. Астатнім франтаўцам адмовілі. Ніводзін прадстаўнік партыі не быў уключаны ў раённыя камісіі, што ажыццяўляюць непасрэдны кантроль над працай участковых камісій.

Такім чынам, паўтараецца досвед выбараў 2010 года, калі ў складзе тэрытарыяльных камісій працавалі толькі два прадстаўнікі Партыі БНФ.

Партыя БНФ сцвярджае, што неўключэннем яе прадстаўнікоў у склад камісій улады парушылі правы партыі на ўдзел у выбарах, гарантаваныя часткай 1 арт. 21 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб палітычных партыях». Абсалютнае дамінаванне ў складзе тэрытарыяльных камісій лаяльных да ўлад структур парушае прынцып роўнасці ўмоў для ўсіх кандыдатаў на выбарах.

Мінская абласная арганізацыя Партыі БНФ патрабуе ад Мінскага абласнога суда змяніць рашэнне Мінскага абласнога выканаўчага камітэта і прэзідыума Мінскага абласнога Савета і ўключыць у склад абласной выбарчай камісіі прадстаўніка Партыі БНФ Іллю Дабратвора. На дадзены момант у Мінскай абласной камісіі няма ніводнага прадстаўніка апазіцыйных сіл.

Раённыя структуры Партыі БНФ у Мінску патрабуюць уключэння прадстаўнікоў партыі Юрыя Чавусава і Яўгена Рыбакова ў склад Цэнтральнай і Кастрычніцкай выбарчых камісій. Цяпер у гэтых камісіях таксама няма ніводнага прадстаўніка апазіцыі.

Згодна з артыкулам 34 Выбарчага кодэкса, суды павінны разгледзець скаргі на фармаванне выбарчых камісій цягам трох дзён.

*Крыніца:*
*Партыя БНФ*
*http://narodny.org/?p=8905*

# У гомельскай школе № 27 у працоўны час збіралі подпісы за Аляксандра Лукашэнку

**29.07.2015**

Праваабаронцам і журналістам паступіла інфармацыя, што 29 ліпеня а 13:00 у кабінеце дырэктара сярэдняй школы № 27 будуць збірацца подпісы ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі. Паводле слоў супрацоўнікаў школы, ім было загадана прыйсці а 13:00 да кабінета дырэктара з пашпартамі. І сапраўды: а 12:50 пад кабінетам дырэктара сядзела 12 чалавек – тэхнічны персанал школы, якія трымалі ў руках пашпарты. Яны сказалі, што «прыйшлі выбіраць Прэзідэнта», і, што для гэтага чакаюць нейкага прадстаўніка. Пытанні, чаму подпісы збіраюцца ў кабінеце дырэктара, у працоўны час, то бок, з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу, журналісты і праваабаронцы накіравалі дырэктару школы Святлане Кубышкінай. Спачатку яна адказала, што «людзі самі выказалі такое жаданне», але потым выйшла на хвілінку і вярнулася з іншымі адказамі.

Атрымаўся такі дыялог:

– Людзі сабраліся, таму што ў нас заўтра прыёмка школы, і я працую з тэхперсаналам, праводзіла планёрку.

– А чаму тады людзі з пашпартамі і сказалі, што прыйшлі паставіць подпісы?

– Яны маглі вам сказаць што заўгодна, гэта тэхперсанал.

– Дык яны што – неадэкватныя?

– Па-рознаму бывае.

– А чаму яны ўсе трымалі ў руках пашпарты?

– Не ведаю, я зараз выйшла – ніякіх пашпартоў няма.

– А чаму вы адразу адказалі нам, што гэта людзі самі выказалі жаданне?

– Я няправільна вас зразумела, я думала, вы прыйшлі з пікету, таму што мае педагогі, якія з’яўляюцца сябрамі «Белай Русі», працуюць на пікеце каля ўнівермага «Гомель».

Як толькі журналісты выйшлі з кабінета дырэктара – ужо ніякіх людзей пад дзвярыма не было. «Куды падзеліся людзі?» – зноў спыталіся ў дырэктара школы. Яна ж адказала, што «я з імі правяла нараду, і яны пайшлі працаваць». Нарада доўжылася, дарэчы, каля хвіліны.

«Гэта чаканая сітуацыя для мяне, таму што па горадзе мала пікетаў па зборы подпісаў у падтрымку дзейнага Прэзідэнта, і па кватэрах яны не асабліва ходзяць, бо для гэтага трэба шмат намаганняў, а я мяркую, што ўлады не хочуць укладаць вялікія сілы. Таму чакана, што подпісы збіраюцца па працоўных калектывах у працоўны час, у кабінеце дырэктара. Тым больш, калі кіраўніцтва кажа, што трэба прыйсці і падпісацца – то як падначалены адмовіцца?», – пракаментаваў праваабаронца Віктар Адзіночанка.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78801*

## Вобшук у сябра Сойма Партыі БНФ Вітольда Ашуркі ў Бярозаўцы

**29.07.2015**

У кватэры сябра Сойма Партыі БНФ Вітольда Ашуркі ў Бярозаўцы адбыўся вобшук. Супрацоўнікі Следчага камітэта сканфіскавалі камп'ютар, прынтар і флэшку актывіста. Паводле яго слоў, падставай для вобшука стаў флэш-моб, які незадоўга да гэтага невядомыя зладзілі каля транспартнай прахадной і цэха па вырабе шклаваты на шклозаводзе „Нёман».

Невядомыя мужчыны ў чорных масках зладзілі флэш-моб у Бярозаўцы Лідскага раёна. Паводле слоў відавочцаў, да транспартнай прахадной шклозавода „Нёман», дзе вырабляецца шклавата, былі складзеныя аўтамабільныя пакрышкі, раскіданыя ўлёткі. Таксама невядомыя пакінулі побач бутэлькі з невядомай вадкасцю і запалілі дымавыя шашкі.

«Тое, што побач са шкоднай вытворчасцю адбылася такая акцыя, не выклікае здзіўлення», — адзначыў сябра Сойму Партыі БНФ Вітольд Ашурка. — Калі знайшліся людзі, якім лёс горада неабыякавы, то я здзіўляюся, што толькі цяпер, а не раней. Вось гэты флэш-моб, ён павінен быў адбыцца. Жыхары нашага горада проста зведзеныя да ўзроўню статыстаў. Ніхто не пытаецца, ніякай інфармацыі ніхто не дае, хіба што мы пачнем тут зараз паміраць, і тады штосьці зменіцца.

*Крыніца:*
*Беларускае радыё Рацыя*
*http://www.racyja.com/hramadstva/nevyadomyya-u-maskakh-zladzili-flesh-mob-u/*

## Мікашэвічы: пры зборы подпісаў запрацаваў адміністрацыйны рэсурс

**30.07.2015**

У Мікашэвіцкай бальніцы, якая з'яўляецца філіялам Лунінецкай цэнтральнай бальніцы, у працоўны час з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу, адбываўся збор подпісаў у падтрымку кандыдата ў Прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі. Пра гэта 30 ліпеня стала вядома сябру БСДП (Г) Віталю Каліноўскаму ад супрацоўнікаў медычнай установы, якія пажадалі не называць свае прозвішчы:

— Санітарачкі падыходзяць і кажуць: «Нас усіх выклікалі да галоўурача з пашпартамі і тыкалі ў твар паперай: «Падпісвай!» — Падпісацца прымусілі за вылучэнне Лукашэнкі.

«Ініцыятыва» такога збору подпісаў, хутчэй за ўсё, сыходзіла ад Андрэя Ганісеўскага, загадчыка філіяла.

Віталь Каліноўскі паведамляе, што з падобным прымусам сутыкаліся і працаўнікі Мікашэвіцкага РУВП »Граніт». Іх таксама выклікалі з пашпартамі ў кантору, дзе сядзіць кіраўніцтва, каб падпісвацца за Аляксандра Лукашэнку.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78847*

## У Наваполацку невядомыя напалі на пікет у падтрымку Таццяны Караткевіч

**30.07.2015**



Пікет Таццяны Караткевіч у Наваполацку.

У Наваполацку на пікеце па зборы подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатам у Прэзідэнты актывісткі кампаніі «Гавары праўду!» Таццяны Караткевіч 29 ліпеня невядомыя зламалі флагшток.

Як паведаміла БелаПАН актывістка БСДП (Г) Таццяна Ладукас, пікет быў размешчаны ля ўвахода ў гандлёвы цэнтр «Стралецкі капітал».

– Недзе а 16:30 каля крамы прыпаркаваўся джып, прычым заехаў на бардзюр. Выйшлі два чалавекі гадоў трыццаці, даволі вялікай накачанай знешнасці. Адзін паводзіў сябе агрэсіўна, зламаў адзін з флагштокаў. Лаяўся нецэнзурнымі выразамі. Нас фактычна абаранілі людзі. Мы – дзве дзяўчыны – у шоку, нават не запісалі нумар машыны, – распавяла яна.

Актывістка мяркуе, што гэта не былі выпадковыя людзі.

– Іх асноўны аргумент быў той, што мы развесілі перад іх дамамі свае сцягі. Але тут акрамя крамы перад намі дамоў няма, бліжэйшыя знаходзяцца за 100-150 метраў, – патлумачыла Таццяна Ладукас.

Таксама дзяўчына адзначыла, што збірае подпісы не першы раз, але з такой «шокавай сітуацыяй» сутыкаецца ўпершыню.

– Калі збіраеш подпісы, сустракаеш абураных людзей, але такой агрэсіі я ніколі не бачыла, – сказала яна. Па факце гэтага здарэння былі пададзены заявы ў аддзел міліцыі і гарадскую камісію па выбарах.

*Крыніца:*
*Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН*

## Магілёў: пры зборы подпісаў за Лукашэнку выкарыстоўваецца адміністрацыйны рэсурс

**31.07.2015**

Грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі, які збірае подпісы ў падтрымку вылучэння старшыні АГП Анатоля Лябедзькі, паведамляе, што ў Магілёве грамадзян прымушаюць падпісвацца за Лукашэнку.

У сувязі з парушэннем выбарчага заканадаўства Паўлоўскі накіраваў скаргі ў ЦВК і Магілёўскую пракуратуру.

– 30-га ліпеня, падчас збору подпісаў у інтэрнаце па адрасе вул. Грышына, 106, выбаршчыкі паведамілі мне, што ім загадалі прыйсці з пашпартамі і

цягам дня аддзеламі выходзіць на вуліцу да пікета ў падтрымку Лукашэнкі і ставіць за яго подпісы. За гэтым працэсам назіраў сам старшыня гарвыканкама Уладзімір Цумараў, які стаяў недалёка ад пікета і сачыў за тым, як падпісваюцца, – гаворыць Аляксей Паўлоўскі.

Грамадскі актывіст паведамляе, што грамадзяне таксама распавялі пра тое, што 29 ліпеня рабочых завода імя Кірава адміністрацыя прадпрыемства і прафкам абавязалі прыйсці на завод з пашпартамі і цягам дня падпісацца за Лукашэнку.

Паўлоўскі лічыць, што ў гэтых выпадках выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс. У скарзе ён просіць правесці комплексную праверку і спыніць здзек з людзей і даць ім магчымасць самім вырашаць, за каго ставіць подпіс, а за каго не.

Пра прымусовы збор подпісаў і стварэнне «карцінкі» гарвыканкамам раней таксама паведамляў на сваёй старонцы ў сетцы «Фэйсбук» актывіст кампаніі «Гавары праўду!» Сяргей Лапуцін.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78858*

## У Чавусах не хаваюць, як стваралася ініцыятыўная група ў падтрымку вылучэння Лукашэнкі

**02.08.2015**

На інтэрнэт-сайце чавускай раённай газеты «Іскра» з’явіўся матэрыял «У Чавускім раёне пачалі збіраць подпісы», у якім аўтар распавёў пра сапраўдную тэхналогію стварэння ініцыятыўнай групы ў падтрымку вылучэння кандыдатам у Прэзідэнты дзейнага кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі.

У прыватнасці, у артыкуле пішацца пра тое, што «ў Чавускім раёне стартавала перадвыбарчая прэзідэнцкая кампанія-2015. У мінулы чацвер, 23 ліпеня, у райвыканкаме адбылося пасяджэнне пад кіраўніцтвам намесніка старшыні раённага выканаўчага камітэта Віталя Лебедзева і старшыні раённага Савета дэпутатаў Анатоля Мацюліна, на якім была вызначана ініцыятыўная група ў складзе 30 чалавек, якія будуць збіраць подпісы ў падтрымку кандыдатуры дзеючага цяпер Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Старшынёй ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў прызначана Тамара Мацюліна. Чальцы ініцыятыўнай групы падзеленыя па тэрытарыяльным прызнаку, г.зн., збор подпісаў па арганізацыях, установах і прадпрыемствах праводзіцца не будзе. Акрамя гэтага, штодзённа ў горадзе арганізаванае пікетаванне, на якім таксама магчыма аддаць свой голас у падтрымку кандыдатуры дзеючага зараз Прэзідэнта»…

З прыведзенай вышэй інфармацыі відавочна бачна, што мясцовая ўлада напоўніцу выкарыстоўвае адміністрацыйны рэсурс, падтрымліваючы вылучэнне ў якасці кандыдата дзейнага кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі.

Намеснікам старшыні Чавускай раённай камісіі па выбарах Прэзідэнта РБ «абраны» кіруючы справамі Чавускага райвыканкама (ён жа намеснік старшыні мясцовага райсавета) Аляксандр Леўшуноў, сакратаром камісіі з'яўляецца начальнік арганізацыйна-кадравага аддзела райвыканкама Наталля Васількова. Узначальвае Чавускую раённую камісію па выбарах Прэзідэнта РБ прадстаўнік Беларускага аб'яднання ветэранаў Уладзімір Зелянкоў, які, па дзіўным супадзенні, не так даўно, да выхаду на заслужаны адпачынак, таксама працаваў на пасадзе начальніка арганізацыйна-кадравай працы Чавускага райвыканкама і неаднаразова ўваходзіў у склад разнастайных выбарчых камісій.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78887*

## На «Магілёўхімвалакно» подпісы за Лукашэнку збіралі ў працоўны час і не сябры ініцыятыўнай групы

**03.08.2015**

Як паведамляюць рабочыя прадпрыемства, пачатак збору подпісаў быў арганізаваны з 23 ліпеня. Напярэдадні начальнікі ўсіх аддзелаў давялі да ведама сваіх падначаленых інфармацыю аб тым, што неабходна прыйсці на працу з пашпартамі, бо ідзе збор подпісаў па вылучэнні прэтэндэнта ў Прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі, і ўсім неабходна паставіць подпіс у яго падтрымку.

Рабочыя таксама адзначалі, што подпісы збіраліся выключна ў працоўны час. Паводле атрыманай інфармацыі, кіраўніцтва горада прыняла рашэнне ў Кастрычніцкім раёне Магілёва збіраць подпісы на прадпрыемствах, а ў Ленінскім раёне – праз абыход кватэр.

Спачатку грамадзяне ішлі, не спяшаючыся, аднак, калі адміністрацыя прадпрыемства гэта заўважыла, то выкарыстала адміністрацыйны рэсурс, і людзей стала нашмат больш. Каб з усімі справіцца і зафіксаваць у падпісных лістах, да працы далучылі некалькі супрацоўнікаў прадпрыемства, якія не з'яўляліся членамі ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі.

– Калі я падпісваўся за Лукашэнку, то падпісныя лісты не былі запоўненыя належным чынам. Пасведчанняў членаў ініцыятыўнай групы Лукашэнкі мне ніхто так і не паказаў, як і не былі ўпісаныя прозвішчы ў падпісныя лісты таго чалавека, які збірае подпісы, – гаворыць рабочы прадпрыемства Пётр.

Тым часам, рабочыя «Магілёўхімвалакно» задаваліся пытаннем, дзе і за каго акрамя Лукашэнкі можна паставіць свой подпіс, і чаму на іх заводзе не збіраюць подпісы ў падтрымку іншых кандыдатаў. На гэтыя пытанні ім так ніхто і не даў выразнага адказу.

На «Магілёўхімвалакно» працуе больш за шэсць тысяч чалавек. Прадпрыемства з'яўляецца найбуйнейшым у горадзе.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78910*

## Раёнкі Магілёўшчыны распавядаюць пра збор подпісаў за вылучэнне толькі Аляксандра Лукашэнкі

**04.08.2015**

На інтэрнэт-сайтах раённых газет Магілёўскай вобласці з'яўляецца не вельмі шмат матэрыялаў, прысвечаных кампаніі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У асноўным раённыя выданні на сваіх старонках перадрукоўваюць матэрыялы БелТА перадвыбарчай тэматыкі і выказванні старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай на тэму выбараў.

Большасць раённых выданняў Магілёўшчыны таксама размясцілі на сваіх старонках інфармацыю пра збор подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у Прэзідэнты РБ, аднак падалі яе вельмі своеасабліва: абсалютна ўсе раёнкі ў сваіх матэрыялах распавядалі толькі пра збор подпісаў у падтрымку вылучэння дзейнага кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі і ілюстравалі гэтыя матэрыялы адпаведнымі фотаздымкамі.

Больш за тое, большая частка раёнак Магілёўшчыны, якія далі інфармацыю пра збор подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатаў у Прэзідэнты, умудрыліся ў гэтых матэрыялах нават не ўзгадаць прозвішчы іншых прэтэндэнтаў, за выключэннем дзейнага кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78940*

## У гомельскай паліклініцы ў працоўны час збіралі подпісы з медыкаў

**04.08.2015**

У філіяле № 1 Гомельскай гарадской цэнтральнай паліклінікі (вуліца Косарава, 11) 4 жніўня зладзілі збор подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатам у Прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі. Па паведамленнях працаўніка сферы аховы здароўя, супрацоўнікам паліклінікі было загадана прыйсці 4 жніўня з 12:00 да 14:00 з пашпартамі ў актавую залу паліклінікі. У зале прысутнічала жанчына, якая прадставілася сябрам ініцыятыўнай групы па вылучэнні кандыдатам у Прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі, і збірала подпісы. Варта дадаць, што такая сітуацыя нікога, відаць, не здзіўляе і не абурае: супрацоўнікі паліклінікі паслухмяна прынеслі пашпарты і паставілі подпісы, а сябра ініцыятыўнай групы сцвярджала, што тут няма нічога супрацьзаконнага, людзей ніхто не прымушае, яны дабраахвотна ставяць подпісы. Пра роўныя правы кандыдатаў, забарону на выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу кіраўніцтва паліклінікі ці не чула, ні не бярэ пад увагу.

Сігналы пра «добраахвотна-прымусовы» збор подпісаў у працоўны час у кабінетах кіраўніцтва ці актавых залах арганізацый і прадпрыемстваў

паступаюць перыядычна. Так, на ўмовах ананімнасці жыхары Гомеля паведамілі «Праваабаронцам за свабодныя выбары», што на мінулым тыдні подпісы за Аляксандра Лукашэнку збіраліся ў Гомельскай абласной клінічнай бальніцы, прычым было загадана абавязкова падпісацца ўсім медыкам, «каб не мець потым праблем».

У кабінеце дырэктара школы № 27 г. Гомеля, таксама ў працоўны час, збіраліся подпісы ў падтрымку дзейнага Прэзідэнта з тэхнічнага персаналу. Жыхары Гомеля таксама інфармавалі, што подпісы за Аляксандра Лукашэнку збіраліся на ЗАТ »Гомельскі вагонабудаўнічы завод» і на ААТ »Гомельскі завод жалезабетонных вырабаў».

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/78959*

## У Магілёве зафіксаваны прымусовы збор подпісаў за Аляксандра Лукашэнку на прадпрыемствах «Стужка» і «Магатэкс»

**10.08.2015**

Члены ініцыятыўных груп па вылучэнні дэмакратычных прэтэндэнтаў распавялі назіральнікам, што падчас стасункаў з выбаршчыкамі яны выявілі ўжыванне адміністрацыйнага рэсурсу на прадпрыемствах «Стужка» і «Магатэкс» пры зборы подпісаў за дзейнага кіраўніка дзяржавы.

На прадпрыемстве «Стужка» збор подпісаў за дзеючага Прэзідэнта ажыццяўляўся праз аддзел кадраў, а на «Магатэксе» падобным заняткам кіраваў намеснік дырэктара па ідэалогіі спадар Свірэпа.

У абодвух выпадках людзей, якія першапачаткова адмаўляліся падпісвацца за Лукашэнку, прымушалі зрабіць гэта пад ціскам: аразу ўзгадвалі пра працоўныя кантракты, якія могуць быць не працягнутыя.

Тым часам эканамічная сітуацыя на прадпрыемствах не самая лепшая. Заробкі на «Магатэксе» ледзь перавальваюць мяжу ў 2 млн. рублёў.

Акрамя ўзгаданых прадпрыемстваў, магілёўскія праваабронцы зафіксавалі прымусовы збор подпісаў за Аляксандра Лукашэнку на «Магілёўхімвалакно», «Магілёўліфтмаш», заводзе «Зеніт», філіяле ААТ »БЕЛАЗ» «Магілёўскі аўтамабільны завод імя С.М. Кірава», у гарвыканкаме і іншых сацыяльных аб’ектах Магілёва. Збор подпісаў адбываўся выключна ў працоўны час і ў большасці выпадкаў не сябрамі ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79129*

# Праваабаронца заклікае ЦВК і пракуратуру прыняць меры ў дачыненні да «Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў» за парушэнне заканадаўства

**14.08.2015**

Каардынатар кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Уладзімір Лабковіч накіраваў у Цэнтральную выбарчую камісію і пракуратуру скаргу на парушэнне заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Прычынай напісання скаргі стала Пастанова № 18 Праўлення Рэспубліканскага дзяржаўнага грамадскага аб’яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў» ад 21 ліпеня 2015 г., размешчаная ў спецыялізаванай газеце «Паляўнічы і рыбалоў» за жнівень 2015 г..

«Праўленне РДГА «БТПР» пастанаўляе:

1) Падтрымаць вылучэнне кандыдатуры дзеючага Галавы дзяржавы Лукашэнкі А.Р. на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на новы тэрмін на маючых адбыцца выбарах 11 кастрычніка 2015 г.

2) Рэкамендаваць старшыням абласных арганізацыйных структур РДГА «БТПР» давесці да ведама ўсіх працоўных абласных, раённых арганізацыйных структур парадак падачы подпісаў за кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь», – пазначана ў Пастанове.

Праваабаронца лічыць, што дадзеныя палажэнні парушаюць шэраг артыкулаў выбарчага заканадаўства.


2

№ 15 (595), жнівень 2015 г.

Тэмы дня

ПАЛЯЎНІЧЫ І РЫБАЛОЎ

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

К СВЕДЕНИЮ

ПРЕДЛАГАЙТЕ

– Так, у ч. 2 арт. 73 Выбарчага кодэкса зазначана, што кандыдат у Прэзідэнты не мае права выкарыстоўваць перавагі свайго службовага становішча ў інтарэсах абрання. Пад выкарыстаннем пераваг службовага становішча ў Кодэксе разумеюцца: прыцягненне асоб, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні ці іншай службовай залежнасці, да ажыццяўлення ў працоўны час дзейнасці, якая спрыяе вылучэнню і (або) абранню. У дадзеным выпадку такая падтрымка звязана са службовай залежнасцю дадзенай арганізацыі непасрэдна ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які сваім Указам усклаў на яе дзяржаўна значныя задачы, якія таварыства рэалізуе на працягу ўсёй сваёй дзейнасці, – адзначае праваабаронца.

Тым больш, сама Пастанова накіравана на падтрымку толькі аднаго кандыдата ў Прэзідэнты, і гэтым самым дадзенае рашэнне парушае ч. 10 арт. 61 Выбарчага кодэкса, дзе сказана, што «ўдзел адміністрацыі арганізацыі ў зборы подпісаў, роўна як і прымус у працэсе збору подпісаў і ўзнагароджанне выбаршчыкаў за ўнясенне подпіса, не дапускаюцца». Акрамя таго, Праўленне Рэсупбліканскага Савета РДГА «БТПР» парушае і закон «Аб рэспубліканскіх дзяржаўна-грамадскіх аб'яднаннях», бо, выдаўшы такую пастанову, выйшла за сферу сваіх мэт, задач і паўнамоцтваў, замацаваных як у законе, так і ў Статуце самой арганізацыі.

У сувязі з гэтым, Уладзімір Лабковіч просіць ЦВК абавязаць РДГА «БТПР» прыняць захады па ліквідацыі парушэнняў выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, а пракуратуру – на падставе арт. 13 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб рэспубліканскіх дзяржаўна-грамадскіх аб'яднаннях» прыняць меры пракурорскага рэагавання па факце парушэння РДГА «БТПР» заканадаўства Рэспублікі Беларусь і свайго Статута.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79235*

## Затрыманыя ў Магілёве сябры БНФ вызвалены, сцягі вернуты

**16.08.2015**

16 жніўня ў Магілёве былі затрыманы сябры Партыі БНФ Аляксандр Шаўцоў і Валянціна Шчэтнікава, чальцы ініцыятыўнай групы вылучэнкі на прэзідэнцтва Таццяны Караткевіч. Актывіст Партыі БНФ збіраў подпісы пад бел-чырвона-белым сцягам на Віленскім рынку ў абласным цэнтры.

Паводле старшыні гарадской партыйнай арганізацыі Валянціны Шчэтнікавай, трое супрацоўнікаў АМАПа спрабавалі забраць сцяг, але актывіст яго бараніў. Урэшце АМАПаўцы забралі і актывіста, і сцяг. Інцыдэнт адбыўся, калі ў абласным цэнтры знаходзілася сама Таццяна Караткевіч.

Трое АМАПаўцаў завезлі Шаўцова ў аддзяленне міліцыі. Як сцвярджае актывіст, у машыне і ў аддзяленні супрацоўнікі яго зневажалі. Ён настойвае, што затрыманне было міліцэйскай правакацыяй:

– Гэта была правакацыя супраць нашага пікета. Яны прыехалі з уключанай мігалкай. Выскачылі з машыны, нібы быў захоп банка, і адразу

кінуліся зрываць сцяг, – сказаў Аляксандр Шаўцоў. – Калі я запытаў у іх, на якой падставе яны зрываюць сцяг, то мне сказалі: «Пройдзем з намі і мы патлумачым».

– У машыне зневажалі, акцэнтуючы ўвагу на маёй прыналежнасці да БНФ. Дапытваліся, што мы тут робім. Казалі, што мы хочам утварыць у Беларусі тое, што адбываецца ва Украіне. У аддзяленні загадалі зняць кашулю і нагавіцы да калена. Аглядалі, відаць, шукалі нейкія татуіроўкі. Гэтак здзекаваліся з мяне, нічога не тлумачачы. Суняліся міліцыянеры, калі прыехаў іх начальнік, – распавёў актывіст.

Валянціну Шчэтнікаву затрымалі неўзабаве пасля Шаўцова, але да аддзялення не давезлі. Як яна распавяла, пасля праверкі ў машыне дакументаў і тэлефонных перамоваў міліцыянераў з іх начальствам, яе вярнулі на тое ж месца, з якога забралі. Людзі, заяўляе актывістка, пасля інцыдэнту з міліцыяй далёка абыходзілі пікет. Паводле Шчэтнікавай, калі яна даводзіла міліцыянерам, што мае законнае права выстаўляць пікет, бо праходзіць перадвыбарчая кампанія, тыя не разумелі, пра што ідзе гаворка.

У аддзяленне міліцыі, куды прывезлі Шаўцова, прыехала сама вылучэнка на прэзідэнцтва Таццяна Караткевіч. Таксама там сабралася нямала журналістаў.

Забраны з пікета сцяг міліцыянеры аддалі, але, паводле актывістаў, збор подпісаў ім удалося сарваць.

*Крыніца:*
*Радыё Сывабода*
*http://www.svaboda.org/content/article/27191678.html*

## У Магілёве студэнтаў Беларуска-расійскага ўніверсітэта адклікалі з практыкі, каб яны падпісаліся за Лукашэнку

**19.08.2015**

Пра гэта паведаміў стараста адной з груп электратэхнічнага факультэта БРУ. З яго слоў, студэнты традыцыйна раз'ехаліся на выкананне практыкі па ўсёй Магілёўскай вобласці. 22-га ліпеня на яго мабільны тэлефон прыйшла смс аб тым, што трэба прыйсці ва ўніверсітэт на кафедру з пашпартам.

Калі ён з'явіўся туды, то яму паведамілі, што варта падпісацца ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі. Калі хто са студэнтаў адмаўляўся гэта рабіць, то ім пагражалі праблемамі са здачай сесіі.

Каб падпісацца за Лукашэнку, студэнты ехалі з усёй вобласці ва ўніверсітэт.

У сувязі з гэтым грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі накіраваў скаргу ў Магілёўскую абласную выбарчую камісію. Паўлоўскі просіць правесці праверку у сувязі з інцыдэнтам.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79346*

## Нацыянальныя сцягі ў цэнтры Мінска

**21.08.2015**

21 жніўня, у апошні дзень збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у Прэзідэнты, актывісты Партыі БНФ правялі масавы пікет пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Падчас пікета праводзіўся збор подпісаў у падтрымку Таццяны Караткевіч.

Актывісты ініцыятыўнай групы Караткевіч, Партыі БНФ і іншых дэмакратычных арганізацый сталі на праспекце Пераможцаў ад гарадской ратушы ў бок Палаца спорту. Усяго было разгорнута каля 20 сцягоў. За падзеямі назіралі супрацоўнікі праваахоўных органаў, аднак не ўмешваліся ў сітуацыю.

Адзначым, што менавіта ў гэты час на пуцеправодзе над Нямігай задумалі рамонтныя работы, прычым на тратуарах з абодвух бакоў праспекта.

*Крыніца:*
*Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН*
*http://naviny.by/rubrics/elections/2015/08/21/ic_articles_623_189565/*

## Ва ўчастковых камісіях Случчыны – толькі адзін прадстаўнік апазіцыі

**27.08.2015**

У склад 69-і ўчастковых выбарчых камісій Случчыны ўключаныя 712 чалавек, з якіх толькі адзін – прадстаўнік апазіцыйнай структуры.

Усяго дэмакратычныя сілы на Случчыне вылучылі 23 сваіх прадстаўнікі. БНФ дэлегаваў 15 чалавек. Яшчэ 8 чалавек вылучаліся ад БСДП (Г). Ніводнага з бэнээфаўцаў без тлумачэння прычын у склад выбарчых камісій не ўключылі. Аднаму з сябраў БСДП (Г) удалося атрымаць месца ва ўчастковым выбаркаме. Аднак прычын адмовы 7-і іншым прадстаўнікам гэтай партыі на пасяджэнні Слуцкага райвыканкама ніхто не патлумачыў.

Агулам пасяджэнне па стварэнні 69-і ўчастковых выбаркамаў заняло 13 хвілін. Ніякага абмеркавання кандыдатур падчас пасяджэння не было, усе спісы былі падрыхтаваны загадзя без якога-кольвек кантролю з боку грамадскасці. Паводле прадстаўнікоў Слуцкага райвыканкама, у склад камісій уключаліся асобы з досведам такой працы ў папярэднія гады, а таксама тыя, хто ўмее працаваць з людзьмі, у камандзе і мае аўтарытэт у сваім працоўным калектыве. Як за такі кароткі тэрмін чыноўнікам удалося даведацца пра гэткія суб'ектыўныя навыкі і якасці сотняў прэтэндэнтаў у чальцы выбарчых камісій, застаецца загадкай. Затое вядома, што значную частку з іх традыцыйна складаюць сябры розных праўладных арганізацый, кшталту «Белай Русі», БРСМ, Беларускага саюза жанчын ды Рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў.

Мясцовыя прадстаўнікі БНФ катэгарычна не пагадзіліся з неўключэннем у склад участковых выбарчых камісій і рыхтуюць з гэтай нагоды звароты ў суд.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79547*

## Салігорск: апазіцыянераў не пусцілі ва ўчастковыя выбарчыя камісіі

**27.08.2015**

Шэсцьдзясят дзевяць участковых выбарчых камісій на Салігоршчыне было сфармавана за 35 хвілін. Ніводны прадстаўнік апазіцыі ў гэтыя выбаркамы ўключаны не быў.

Прысутны на пасяджэнні Салігорскага райвыканкама назіральнік ад Беларускага Хельсінкскага Камітэта Леанід Мархотка адзначыў фармальнасць мерапрыемства:

– Галоўны ідэолаг раёна Мікалай Маскевіч абвясціў з трыбуны, што ўсе адабраныя кімсці яшчэ да пасяджэння чальцы гэтых шасцідзесяці дзевяці камісій нібыта добрыя, годныя і дасведчаныя асобы. Персанальнага ж разгляду сябраў камісій не было. Уся працэдура насіла фармальны характар. Ніводнага прадстаўніка партыі АГП, партыі і грамадскай арганізацыі БНФ ці прадстаўнікоў іншых апазіцыйных структур у склад камісій не ўключылі, хоць іх колькасць і была зусім невялікая.

За праект рашэння чыноўнікі прагаласавалі адзінагалосна, хаця дакументаў па прапанаваных чальцах камісій ніхто з прысутных не бачыў.

– Нават там, дзе былі альтэрнатыўныя кандыдаты ад апазіцыі, ніякіх амберкаванняў на пасяджэнні не было. Ніякіх тлумачэнняў, чаму іх не дапусцілі, чым яны горшыя за іншых. На маю заўвагу аб парушэнні працэдуры адказалі літаральна, што так ім давядзецца да вечара сядзець. Але з такой логікай можна і ўвогуле выбары адмяніць, каб па вечарах не сядзець. Старшыня райвыканкама Аляксандр Рымашэўскі пад канец пачаў нервавацца ды абвінаваціў мяне ў крытыканстве. Узгадаў гісторыю з будаўніцтвам шматпавярховіка ў адным з мікрараёнаў, супраць якога нядаўна масава выступілі жыхары горада, хоць да мэты пасяджэння гэта аніякага дачынення ня мела, – сказаў Леанід Мархотка.

Па словах праваабаронцы, пасля пасяджэння так і не стала вядома, хто будзе лічыць галасы выбарцаў на Салігоршчыне. Пакуль вядомыя толькі агульнастатыстычныя дадзеныя аб шляху вылучэння сябраў камісій. Фактычна ж галасаванне ўдзельнікамі пасяджэння адбывалася за «ката ў мяху».

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79540*

## Суд Салігорскага раёна не задаволіў скаргу БНФ

**02.09.2015**

Скаргі Мінскай абласной арганізацыі Партыі БНФ і Мінскай рэгіянальнай арганізацыі Грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэнне» на адмовы ва ўключэнні ў склад участковых выбарчых камісій іх прадстаўнікоў судом Са-

лігорсага раёна задаволеныя не былі. Суддзя А. Бураўцоў парушэння заканадаўства ў дзеяннях чыноўнікаў пры фармаванні выбаркамаў не ўгледзеў.

Прадстаўнік Салігорскага райвыканкама Аляксей Страпко пад час судовага пасяджэння патлумачыў прычыну неўключэння прадстаўнікоў БНФ у склад камісій адсутнасцю ў іх досведа працы ў камісіях. На гэткую аргументацыю чыноўніка сябра БНФ Павел Батуеў адрэагаваў з іроніяй:

– Як бы ні было, усе ж людзі рана ці позна паміраюць. Таму я пацікавіўся ў спадара Страпко, калі ўсе дасведчаныя сябры камісій памруць, значыцца ў Беларусі выбары скончацца? Выявілася, што ўключалі ў камісіі і недасведчаных. На жаль, чаму адных недасведчаных уключылі, а недасведчаных прадстаўнікоў БНФ – не, чыноўнік выразна патлумачыць не змог, – кажа актывіст Беларускага народнага фронта.

У сваім рашэнні суд спаслаўся на адпаведнасць абраных чальцоў камісій прадугледжанай Выбарчым кодэксам квоце для палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Таксама адным з улічаных судом довадаў на карысць райвыканкама была прысутнасць на выніковым пасяджэнні па фармаванні камісій прадстаўнікоў розных праўладных арганізацый. Гэтыя абставіны нібыта засведчылі выкананне прынцыпа адкрытасці і галоснасці.

З такой пазіцыяй суда Салігорскага раёна катэгарычна не пагаджаецца назіральнік Беларускага Хельсінкаскага Камітэта Леанід Мархотка, які яшчэ раней заявіў аб тым, што з працэдуры фармавання ўчастковых выбарчых камісій улады фактычна зрабілі таямніцу:

– На выніковым пасяджэнні ніякага абмеркавання не было. Ніхто пратаколаў аб спосабах вылучэння кандыдатур не глядзеў. Чым адны былі горшыя за іншых, не высвятлялася. Узялі – і спісам за ўсіх прагаласавалі. Мяне непасрэдна да працэдуры праверкі подпісаў не запрасілі. Таму пра якую галоснасць і адкрытасць кажа суддзя Бураўцаў, абсалютна незразумела. Да таго ж, ёсць не толькі літара, але і дух закона. А гэта значыць, што ў камісіі мусіць быць не проста трацiна ад партый і арганізацый, але і ад апазіцыі, каб чальцы камісіі ад розных палітычных сіл маглі кантраляваць адзін аднаго. Цяпер жа мы маем цалкам кантраляваныя ўладамі ўчастковыя выбаркамы, і рашэнне Салігорскага суда, якое гэтую беззаконнасць апраўдвае.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79679*

## Суд Бярозаўскага раёна палічыў неўключэнне сяброў Партыі БНФ ва ўчастковыя камісіі абгрунтаваным

**01.09.2015**

Суд Бярозаўскага раёна 31 жніўня разгледзеў скаргу Брэсцкай абласной арганізацыі Партыі БНФ на неўключэнне 5-і яе прадстаўнікоў ва ўчастковыя камісіі. Старшыня абласной арганізацыі партыі Зміцер Шыманскі ў скарзе зазначыў, што неўключэнне сяброў партыі ў камісіі ўціскае інтарэсы Пар-

тыі БНФ і прывядзе да адсутнасці грамадскага кантролю за выбарамі. Суддзі Алена Нямкова і Наталля Мінчанка палічылі такія довады галаслоўнымі, нічым не абгрунтаванымі і надуманымі. З імі пагадзіліся і прадстаўнікі Бярозаўскай Пракуратуры Юрый Пракапчук і Сяргей Мяшэчка.

Прадстаўнікі райвыканкама – загадчык юрыдычнай службы Яўген Кашталян і начальнік арганізацыйна-кадравай працы – сцвярджалі, што камісіі складаюцца з 1/3 сябраў палітычных партый і грамадскіх аб’яднанняў. На пытанне няўключаных у камісіі прадстаўнікоў апазіцыйнай партыі, чаму чыноўнікі ўвесь час карыстаюцца словамі «палітычных партый», хаця ў камісіях № 5, № 10, № 11, № 15, № 26 ніводнага прадстаўніка ад партый няма, Яўген Кашталян адказаў, што так напісана ў выбарчым заканадаўстве. На прапанову даўключыць у камісію хаця б аднаго прадстаўніка Партыі БНФ – Таццяну Тарасевіч, якая збірала подпісы за вылучэнне Таццяны Караткевіч, – Кашталян сказаў, што нельга, бо Тарасевіч зацікаўленая асоба і падчас выбараў, будучы чальцом камісіі, можа займацца агітацыяй за пэўнага кандыдата. На заўвагу, што кожная камісія кожныя выбары складаецца з адных і тых жа прадстаўнікоў «Белай Русі», БРСМ, Беларускага саюза жанчын і г.д., прагучаў адказ: «Бачыце, Вы самі зазначылі, што адны і тыя ж, то бок, людзі вопытныя, якія будуць зладжана працаваць».

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79651*

## Старшыні ўчастковых камісій Савецкага раёна Гомеля – спрэс начальнікі, а сябры камісій – іх падначаленыя

**03.09.2015**

Аналіз складу ўчастковых камісій Савецкага раёна г. Гомеля дазволіў выявіць заканамернасць, якая наўрад ці спрыяе як свабоднаму волевыяўленню выбарцаў, так і таму, што меркаванне асобных чальцоў участковых камісій будзе ўлічана ці прынята пад увагу іх старшынямі. Наўрад ці будуць мець магчымасць неяк супрацьстаяць (пры жаданні) магчымым парушэнням выбарчага заканадаўства сябры ўчастковых камісій, якія з’яўляюцца падначаленымі старшынь камісій.

Так, участак № 2 (Савецкі раён) размешчаны ў інтэрнаце ЗАТ «Гомельскі вагонабудаўнічы завод». Участковую камісію ўзначаліў дырэктар вагонабудаўнічага завода Ігар Красноў. У складзе камісіі – яго падначаленыя. Галасаваць жа будуць, сярод іншых, і жыхары інтэрнату, якія таксама працуюць на заводзе.

У спісах сябраў камісій не пазначаныя пасады старшынь камісій, яны прадстаўляюць ці групы грамадзян, ці грамадскія арганізацыі.

Дырэктар завода пускавых рухавікоў Аляксандр Ксяндзоў – старшыня ўчастковай камісіі № 11. Намеснік дырэктара завода «Цэнтраліт» Уладзімір Сайкоў узначаліў камісію № 13, размешчаную ў інтэрнаце гэтага прадпрыемства.

Дырэктар РУП «Гомельвоблгаз» Андрэй Конік — старшыня ўчастковай камісіі № 14. Дырэктар філіяла «Энергазбыт» «Гомельэнерга» Уладзімір Сіліч — старшыня камісіі № 15. На ўчастку № 27 камісію ўзначаліў генеральны дырэктар ААТ «Мілкавіта» Віктар Гамолка. Дырэктар школы № 47 Васіль Шабуня — старшыня камісіі № 30 у гэтай жа школе. Не сакрэт, што сябры камісіі — яго падначаленыя. Дырэктар гімназіі № 46 Алена Шаўцова тут жа будзе кіраваць участковай камісіяй № 39.

Дырэктар філіяла «Завод энергаабсталявання» Уладзімір Ціханенка — старшыня камісіі № 31.

Начальнік аднаго з філіялаў «Гомельтранснафта» «Дружба» Аляксандр Дзялец узначаліў камісію № 32.

Калі ўчастак для галасавання размешчаны ў Гомельскай абласной бальніцы, то няцяжка здагадацца, што старшынём камісіі будзе галоўны ўрач установы Уладзімір Бугакоў, а яго падначаленыя — чальцы камісіі. А галасаваць будуць так ці інакш людзі, якія залежаць ад галоўнага ўрача. Такая ж сітуацыя на ўчастку ў Гомельскай абласной спецыялізаванай бальніцы, дзе ўчастковую камісію ўзначаліў галоўны ўрач Сцяпан Крот.

Участак № 48 размешчаны ў інтэрнаце Гомельскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта імя П. Сухога. Канечне, кіраваць камісіяй будзе рэктар ВНУ Сяргей Цімошын.

У будынку машынабудаўнічага каледжа размешчаныя дзве камісіі. Старшыня адной з іх — дырэктар каледжа, другой — намеснік дырэктара.

Дзяржаўныя СМІ паведамілі, што ва ўчастковых камісіях Гомельскай вобласці больш за 75 % складаюць жанчыны. Толькі вось узначальваюць камісіі пераважна мужчыны. Напрыклад, у Савецкім раёне Гомеля — 69 участковых камісій, 56 з якіх узначалілі мужчыны.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79700*

## Драгічын: мясцовыя ўлады афіцыйна падзялілі назіральнікаў на «канструктыўных» і «апазіцыйных»

**05.09.2015**



На інтэрнэт-старонцы Драгічынскага райвыканкама змешчана інфармацыя пра вылучаных у выбарчыя камісіі, створаныя ў раённым цэнтры, назіральнікаў.

Гэтыя звесткі сведчаць, што у раённую выбарчую камісію вылучаныя ў якасці назіральнікаў 4 асобы, а ва ўчастковыя камісіі — 28. Самае цікавае тое, што з адпаведнай табліцы вынікае, што ўлады ўжо афіцыйна ужываюць тэрмін «канструктыўныя» і «апазіцыйныя» ў дачыненні да палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў

Сведения о выдвижении наблюдателей в избирательные комиссии Дрогичинский район (город)

04.09.2015 14:41

| Количество наблюдателей | Районная (городская) комиссия | Участковые комиссии |
|---|---|---|
| **Субъекты, направившие наблюдателей, в том числе:** | | |
| **от граждан путем подачи заявлений, в том числе:** | | |
| конструктивных | - | - |
| оппозиционных | - | - |
| **от трудовых коллективов, в том числе:** | | |
| конструктивных | 1 | 4 |
| оппозиционных | - | - |
| **от политических партий, в том числе:** | | |
| ***конструктивных:*** | | |
| Коммунистическая партия Беларуси | - | 1 |
| Белорусская аграрная партия | - | - |
| Белорусская патриотическая партия | - | - |
| Белорусская социально-спортивная партия | - | 4 |
| Республиканская партия | - | 4 |
| Республиканская партия труда и справедливости | - | 3 |
| иные конструктивные политические партии | - | - |
| ***оппозиционных:*** | | |
| Партия БНФ | - | - |
| Консервативно-Христианская Партия-БНФ | - | - |
| Партия «Белорусская социал-демократическая Грамада» (БСДГ) | - | - |
| Объединенная гражданская партия | - | - |
| Белорусская социал-демократическая партия (Грамада) (БСДП (Г)) | - | - |
| Белорусская партия левых «Справедливый мир» | - | - |
| Либерально-демократическая партия | - | - |
| иные неконструктивные политические партии | - | - |
| **от общественных организаций, в том числе:** | | |
| ***конструктивных:*** | | |
| Федерация профсоюзов Беларуси | 1 | - |
| РОО «Белая Русь» | 1 | - |
| Белорусский республиканский союз молодежи | - | 5 |
| Белорусский союз женщин | 1 | - |
| Белорусское общественное объединение ветеранов | - | 5 |
| Белорусский союз офицеров | - | - |
| иные конструктивные общественные организации | - | - |
| ***оппозиционных*** | - | - |
| **От депутатов** | | 2 |
| **ВСЕГО ВЫДВИНУТО НАБЛЮДАТЕЛЕЙ, В ТОМ ЧИСЛЕ:** | | |
| конструктивных | 4 | 28 |
| оппозиционных | - | - |

і працоўных калектываў. Падзеленыя нават грамадзяне, якія вылучаюць назіральнікаў шляхам падачы заяў.

Так, да «канструктыўных» партый аднесеныя Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя (вылучыла ў якасці назіральнікаў 4 асобы), Рэспубліканская партыя (4), Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці (3), Камуністычная партыя Беларусі (1), а таксама Беларуская аграрная партыя і Беларуская патрыятычная партыя, якія назіральнікаў не вылучалі.

У спіс «апазіцыйных» трапілі Партыя БНФ, Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя БНФ, партыя «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада» (БСДГ), Аб'яднаная грамадзянская партыя, БСДП (Г), Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», Ліберальна-дэмакратычная партыя. Калі верыць звесткам драгічынскіх уладаў, ніводная з іх на сёлетніх выбарах не вылучала сваіх прадстаўнікоў у якасці назіральнікаў.

«Канструктыўнымі» грамадскімі аб'яднаннямі пазначаныя: Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, РГА »Белая Русь», Беларускі саюз жанчын (усе яны вылучылі па адным назіральніку ў раённы выбаркам), Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі і Беларускае аб'яднанне ветэранаў (вылучылі па пяць назіральнікаў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі), а таксама Беларускі саюз афіцэраў.

Пералік «апазіцыйных» грамадскіх арганізацый і працоўных калектываў не прыведзены, аднак адпаведная графа ў складзеным Драгічынскім райвыканкамам спісе існуе. З яго вынікае, што «канструктыўныя» працоўныя калектывы раёна вылучылі 5 назіральнікаў у выбарчыя камісіі розных узроўняў, а яшчэ дзве асобы вылучаныя ад дэпутатаў мясцовых Саветаў.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79716*

## Бялыніцкія ўлады адправілі кандыдатаў агітаваць у Ліпавы гай

**07.09.2015**



На сайце Бялыніцкага райвыканкама з'явілася рашэнне № 25-8 ад 4 верасня 2015 г. «Аб стварэнні ўмоў для правядзення перадвыбарчай агітацыі кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь».

Агітацыйныя матэрыялы кандыдаты змогуць размяшчаць у памяшканнях, дзе знаходзяцца ўчастковыя камісіі (да пачатку датэрміновага галасавання), на інфармацыйных стэндах у памяшканнях адміністрацыйных будынкаў сельскіх Саветаў дэпутатаў, крам, устаноў культуры і адукацыі, арганізацый раёна. З незразумелых прычын Бялыніцкі райвыканкам не даз-

воліў размяшчэнне агітацыйных друкаваных матэрыялаў на інфармацыйных стэндах, дошках аб'яў каля шматкватэрных жылых дамоў, дзе пра кандыдатаў у Прэзідэнты РБ і іх праграмы змаглі б прачытаць нашмат больш людзей.

Згодна райвыканкамаўскаму рашэнню, таксама вызначаныя месцы для правядзення сустрэч кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта з выбаршчыкамі на тэрыторыі Бялыніцкага раёна. У гарадскім пасёлку Бялынічы такім месцам будзе раённы Цэнтр культуры, на тэрыторыі сельскіх Саветаў раёна – памяшканні мясцовых клубаў і дамоў культуры.

Адзінае і вельмі цікавае месца вызначылі бялыніцкія ўлады для правядзення ў апавяшчальным парадку масавых мерапрыемстваў (сходаў па-за памяшканнямі, пікетавання, мітынгаў), якія арганізуюцца кандыдатамі на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і іх даверанымі асобамі на тэрыторыі раёна. Гэтым месцам стала пляцоўка перад сцэнай у Ліпавым гаі г. п. Бялынічы, дзе ў звычайныя дні людзей пабачыць даволі цяжка. Праводзіць масавыя мерапрыемствы ў гэтым месцы кандыдатам не мае абсалютна ніякага сэнсу, бо звычайна ў Ліпавы гай людзі прыходзяць толькі на канцэрты альбо на святкаванне нейкіх гарадскіх святаў. У параўнанні з прэзідэнцкімі выбарамі 2010 года, умовы для правядзення агітацыйных пікетаў таксама рэзка пагоршыліся, бо тады іх правядзенне было дазволена ў значна большай колькасці месцаў, іх можна было праводзіць практычна па ўсім гарадскім пасёлку.

Мясцовыя дэмакратычныя актывісты лічаць, што рашэнне Бялыніцкага райвыканкама скіравана на тое, каб стварыць цяжкасці ў працы для каманды Таццяны Караткевіч. Таццяна Караткевіч – адзіная з прэтэндэнтаў у кандыдаты, якая падчас перадвыбарчай кампаніі двойчы наведала Бялыніцкі раён. У Бялынічах жыве і працуе прадпрымальнік Алег Мяцеліца, які з'яўляецца намеснікам старшыні кампаніі «Гавары праўду!» і, верагодна, будзе даверанай асобай Таццяны Караткевіч у выпадку яе рэгістрацыі ў якасці кандыдата.

Райвыканкам таксама вызначыў, што ўсе перадвыбарчыя мерапрыемствы кандыдатаў у Прэзідэнты РБ і іх даверaных асоб будуць праводзіцца «ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь».

Кантроль за выкананнем рашэння ўскладзены на намесніка старшыні Бялыніцкага райвыканкама па ідэалогіі Андрэя Ганчука.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79750*

## У Віцебску ў бацькоў школьнікаў патрабуюць распіскі, што яны прагаласуюць за Лукашэнку

**09.09.2015**

У Віцебску ў сярэдняй школе № 38 ад бацькоў на бацькоўскіх сходах патрабуюць распіскі, што яны прыйдуць на датэрміновае галасаванне і прагаласуюць за Лукашэнку. Пра гэта каардынатару Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі па Віцебшчыне Таццяне Севярынец паведаміла маці аднаго з першакласнікаў падчас збору подпісаў за якасную медыцыну.

«Калі раней яны рабілі сходы падчас датэрміновага і прасілі бацькоў прыйсці з пашпартамі, то зараз нахабна бяруць распіскі з такімі абавязацельствамі», – адзначае Таццяна Севярынец.

*Крыніца:*
*Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя*
*http://pvby.org/60-u-vcebsku-backo-shkolnka-patrabuyuc-raspsk-shto-yany-pragalasuyuc-za-lukashenku.html*

## Кіраўніцтва «Беларуськалія», якое кіруе і выбарчымі камісіямі, адкрыта заяўляе пра арганізацыю адміністрацыйнага кантролю над яўкай

**11.09.2015**



*Злева Іван Галаваты, справа – Аляксандр Гарбачоў*

9 верасня на першым рудніку ААТ »Беларуськалій» адбылася сустрэча кіраўніцтва прадпрыемства з інжынерна-тэхнічным персаналам – кіраўнікамі і начальнікамі ўсіх узроўняў гэтага рудаўпраўлення. Звычайных працоўных туды не паклікалі, затое прысутнічалі генеральны дырэктар Іван Галаваты, яго намеснік па ідэалагічнай працы і кадрах Анатоль Махлай і сам дырэктар першага рудніка Аляксандр Гарбачоў.

Падчас сустрэчы генеральны дырэктар распавёў калектыву пра крызісныя з'явы на сусветным калійным рынку і пра праблемы, якія могуць чакаць «Беларуськалій» у сувязі з цяжкасцямі ў эканоміках Бразіліі і КНР. Пасля гэтага Галаваты пакінуў мерапрыемства.

Пасля пачаў выступаць спадар Махлай. Тэма яго выступу датычылася прэзідэнскіх выбараў у краіне. Увесь сэнс прамовы зводзіўся да наступнага: мы жывем добра, вакол нас адныя праблемы, а ў нас спакой і стабільнасць, нашай краіне не трэба ніякага іншага кіраўніка, вы павінны зрабіць свой выбар, і вы ўсе ведаеце, якім ён павінен быць. Фактычна, на адным з найбуйнейшых дзяржаўных прадпрыестваў краіны адміністрацыя ў працоўны час агітавала за Аляксандра Лукашэнку, хаця афіцыйна старт агіткампаніі Цэнтрвыбаркамам яшчэ абвешчаны не быў. Да таго ж варта адзначыць, што Анатоль Махлай з'яўляецца намеснікам старшыны Салігорскай раённай выбарчай камісіі.

Канчатковую кропку ў сустрэчы паставіў дырэктар першага рудаўпраўлення Аляксандр Гарбачоў, які да таго ж узначальвае адну з участковых выбарчых камісій Салігорска. Пасля непрыхаванай агітацыі за дзеючую ўладу спадар Гарбачоў, груба парушаючы Выбарчы кодэкс, абвясціў усім прысутным аб уласным кантролі за яўкай усіх падначаленых яму працаўнікоў перашага рудаўпраўлення на выбары:

– Што я ад вас запатрабую, як кіраўнік, і пастараюся максімальна гэта пракантраляваць, гэта яўка ў дзень выбараў на выбарчыя ўчасткі. Усе кіраўнікі будуць абавязаныя ў дзень выбараў дакласці сваім вышэйшым кіраўнікам аб сваіх людзях, якія прыйшлі на выбарчыя ўчасткі, ці не прыйшлі. Для гэтага зусім няшмат патрэбна з улікам наяўнасці мабільнай сувязі. А яшчэ лепш не даводзьце справу да апошняга дня, калі нехта не ўпэўнены, што гэта ў яго атрымаецца ў дзень выбараў, – заявіў Аляксандр Гарбачоў.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*https://spring96.org/be/news/79841*

## Ярмошына: Галоўнае – яўка, а не вынікі выбараў

**11.09.2015**

«Наколькі сур'ёзныя асцярогі, што на прэзідэнцкіх выбарах будзе нізкая яўка?» – запытаўся вядучы СТБ Ягор Хрусталёў у старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай.

«Зразумела, такія асцярогі заўсёды ёсць. Гэта мой, напэўна, страшны сон. Дарэчы, мяне хвалюе больш за ўсё нават не вынік выбараў, а ці прыйдзе выбаршчык. Гэта з'яўляецца самым галоўным.

І ўвогуле, для дзяржавы самым важным з'яўляецца не вынік, магчыма, не нейкае прызнанне, а як адрэагуе ўласнае насельніцтва. У рэшце рэшт, насельніцтва потым вызначае сваім стаўленнем усё жыццё ў краіне наогул. І легітымізацыя таго ці іншага палітыка перш за ўсё залежыць ад прызнання яго насельніцтвам, наколькі яны прызнаюць яго ў якасці бацькі нацыі, дэпутата, прэзідэнта і гэтак далей. Тое, што працаваць над яўкай трэба, гэта абавязкова. І, дарэчы, можа быць, там, дзе над яўкай не працуюць, то бок пускаюць на самацёк, там сапраўды ёсць такія асцярогі, а выбаршчыкі прагаласуюць нагамі. У рэшце рэшт, у нас дзяржава над яўкай працуе», – адказала Лідзія Ярмошына

*Крыніца:*
*Наша Ніва*
*http://nn.by/?c=ar&i=156236*

## Акцыя «Мы – разам!» тэлеканала АНТ і Міністэрства культуры па часе правядзення ўжо ў другі раз «выпадкова» супала з прэзідэнцкай кампаніяй

**17.09.2015**

У Беларусі ўжо нікога не здзіўляе, што адзін з кандыдатаў у Прэзідэнты, ён жа – дзейны кіраўнік дзяржавы, не выступае па тэлевізары ў вызначаны ЦВК час з выбарчай праграмай, не праводзіць сустрэч з электаратам. Здаецца, ужо і не імкнецца «заваяваць сэрцы мільёнаў». Звычайна так не праводзяцца вы-

барчыя кампаніі, напрыклад, без сустрэч з выбарцамі, у іншых краінах, але толькі не ў нашай. Навошта «першай асобе дзяржавы» самаму нешта рабіць, калі функцыю агітацыі і прапаганды можна спакойна перадаверыць іншым.

Напрыканцы жніўня тэлеканал АНТ і Міністэрства культуры распачалі «агульнанацыянальную акцыю» «Мы – разам!». Скончыцца акцыя якраз пад выбары. «Мы, беларусы, мірныя людзі» – гэта не толькі словы дзяржаўнага гімна, але і назва гала-канцэрту, які прайшоў у Баранавічах у межах акцыі «Мы – разам!». «На урачыстым вечары гучалі шлягеры застойных 70-х, перабудовачных 80-х, хіты нялёгкіх 90-х і стабільных для рэспублікі 2000-х,» – передае канал АНТ. Гала-канцэрт прайшоў ужо і ў Гомелі. «Мэта акцыі – нагадаць кожнаму жыхару аб тым, што, калі мы разам, то і ёсць Беларусь – незалежная, моцная дзяржава,» – падала справаздачу аб канцэрце газета «Гомельскія ведамасці».

Здавалася б: ну праехаліся зоркі беларускай эстрады па гарадах, а пры чым тут палітыка?

Тым не менш у Гомелі ўдзельнікаў акцыі вітаў старшыня аблвыканкама Уладзімір Дворнік. Ён гаварыў пра любоў да Беларусі, гонар за яе дасягненні. «Дарагія сябры! – звярнуўся Дворнік да гледачоў у зале. – Як вядома, жыццё без мэты – пустое. Наша мэта – квітнеючая Беларусь. І толькі разам мы здолеем зрабіць нашу Беларусь яшчэ больш моцнай, утульнай, прыгожай,» – перадае словы губернатара газета «Гомельскія ведамасці». Пасля слоў чыноўніка на экране трансляваліся міні-рэпартажы аб дасягненнях рэгіёна ў розных сферах дзейнасці. Затым перад жыхарамі Гомеля выступілі «Сябры», Алена Ланская, Жанет, Юзары, Іна Афанасьева, Тэа, Ларыса Грыбалёва і іншыя.

Назва акцыі і словы кіраўніка вобласці «выпадкова» адлюстроўваюць перадвыбарчыя «ідэі» кіраўніка дзяржавы, нязменныя з года ў год: «стабільнасць», «усе разам», «моцная і квітнеючая Беларусь» і так далей.

Пяць гадоў таму, перад выбарамі-2010, якія прайшлі 19 снежня, тэлеканал АНТ і Міністэрства культуры таксама праводзілі падобную «агульнанацыянальную акцыю», толькі пад назвай «Беларусь – гэта мы». Таксама зоркі эстрады каталіся па ўсёй краіне і «аб'ядноўвалі нацыю». Фінал акцыі адбыўся 12 снежня – за тыдзень да прэзідэнцкіх выбараў. Ды і на фінальным шоу з'явіўся і сам Прэзідэнт.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/79978*

## У Мінскім ЦУМе прадаюць цішоткі з выбарчым слоганам Аляксандра Лукашэнкі

**19.09.2015**

У Мінскім Цэнтральным універмагу прадаюцца цішоткі з выбарчым слоганам Аляксандра Лукашэнкі «За будучыню незалежнай Беларусі!». Адметна тое, што вытворцам цішотак з'яўляецца прадпрыемства «Світанак».

Інфармацыю пра гэта даслаў адзін з першых карыстальнікаў новай мабільнай прылады «Вочы», мэта якой – выяўляць парушэнні выбарчага заканадаўства падчас правядзення прэзідэнцай выбарчай кампаніі. Высланая інфармацыя з’явілася на мапе сайта electby.org.




*Іх можна набыць у аддзеле продажу нацыянальнай сімволікі.*

Сітуацыю каментуе юрыст кампаніі назірання «Права выбару–2015» Юрый Чавусаў:

– Гэтыя цішоткі, безумоўна, адносяцца да агітацыйнай прадукцыі: на іх нанесены слоган выбарчай кампаніі Аляксандра Лукашэнкі і адпаведны лагатып, які выкарыстоўваўся як на стадыі збору подпісаў, так і цяпер на стадыі агітацыйнай кампаніі.

Юрыст паведамляе, што продаж гэтых цішотак з’яўляецца яскравым прыкладам парушэння ўстаноўленага заканадаўствам парадка агітацыі. Згодна з ч. 8 арт. 48 Выбарчага кодэкса, грамадскія аб’яднанні, іншыя арганізацыі не маюць права аказваць матэрыяльную дапамогу пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, апроч унясення грашовых сродкаў у пазабюджэтны фонд і ў выбарчыя фонды кандыдатаў у Прэзідэнты. Продаж агітацыйнай прадукцыі выбарчым заканадаўствам не прадугледжаны.

– У гэтым выпадку парушэнне здзейсненае як вытворцам гэтай прадукцыі, так і тым, хто ажыццяўляе яе рэалізацыю на камерцыйнай аснове. Можна меркаваць, што робіцца гэта сіламі дзяржаўных прадпрыемстваў і лаяльнымі да ўладаў грамадскімі аб’яднаннямі, якія абвесцілі пра гэтак званую акцыю «За будучыню незалежнай Беларусі!». Дадзеная акцыя адбываецца пад слоганам Лукашэнкі і рэалізуецца грамадскімі аб’яднаннямі, якія фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, – гаворыць Юрый Чавусаў.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/63-u-mnskm-cume-pradayuc-cshotk-z-vybarchym-sloganam-alyaksandra-lukashenk.html*

## Узброенае вока назіральніка – з ласкі выбарчай камісіі

**21.09.2015**

Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына адказала на зварот ПАГА «Рух «За Свабоду», датычны правоў назіральнікаў падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. З адказу вынікае, што яны будуць абмежаваныя ва ўжыванні відэа- і аўдыязапісваючага абсталявання. Карыстацца ім будзе можна толькі з дазволу выбарчых камісій.

У сваім звароце ПАГА «Рух «За Свабоду», якое мае намер вылучыць больш як 200 назіральнікаў за правядзеннем прэзідэнцкіх выбараў, папрасіў ЦВК ўдакладніць іх правы і магчымасці.



*Першы намеснік старшыні «Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.*

У прыватнасці, арганізацыю цікавіла »права назіральнікаў мець пры сабе і карыстацца фотаапаратурай, відэа- і аўдыязапісваючай тэхнікай, а таксама аптычнымі прыстасаваннямі».

ПАГА «Рух «За Свабоду» намагалася высветліць, »ці атрымаюць назіральнікі такую магчымасць і ці будзе гэта рэгламентавацца якімі-небудзь афіцыйнымі дакументамі кшталту інструкцый Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў?».

Таксама Цэнтравыбаркаму было адрасавана наступнае пытанне: »У выпадку наяўнасці права назіральнікаў на карыстанне ўзгаданым вышэй абсталяваннем ці будзе прадугледжана адказнасць за перашкоды з боку сябраў выбарчых камісій або супрацоўнікаў міліцыі, якія будуць занятыя на ахове правапарадку падчас галасавання?».

«Аптычныя і відэапрыстасаванні прыдаліся б назіральнікам, бо часта іх саджаюць за стол, размешчаны вельмі далёка ад уласна працэсу галасавання і падліку галасоў. У такіх умовах няўзброеным вокам мала што можна пабачыць», – пракаментаваў зварот у ЦВК першы намеснік старшыні «Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

Аўдыя- і відэатэхніка, паводле ягоных слоў, »дапамаглі б фіксаваць розныя спрэчныя моманты, у тым ліку звязаныя з выдаленнем назіральнікаў з выбарчага ўчастка нібыта за тое, што яны замінаюць працы выбарчых камісій».

Апрача таго, выкарыстанне назіральнікамі відэакамер магло б замяніць на шэрагу выбарчых участкаў арганізацыю анлайн-трансляцыі з іх: »З такой ідэяй некаторы час таму выступіла кампанія назірання «Права выбару–2015», але ЦВК адмовіла ў яе рэалізацыі. Назіральнікі маглі б ладзіць відэафіксацыю стану скрыняў для галасавання, каб была магчымасць схапіць за руку тых, хто ўкідвае бюлетэні ці маніпулюе з паказчыкамі яўкі».

ЦВК ў асобе яе старшыні Лідзіі Ярмошынай адказала, што ў артыкуле 13 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь змешчаны вычарпальны пералік паўнамоцтваў асобаў, якія з'яўляюцца назіральнікамі: »Такім чынам, названыя Вамі дзеянні выходзяць за рамкі нарматыўных прадпісанняў вышэй названага артыкула, і задавальненне просьбы назіральніка аб вядзенні фота- і відэаздымкі, а таксама аўдыязапісу з'яўляецца правам, але не абавязкам выбарчай камісіі».

Што тычыцца спецыяльных аптычных прылад, то »іх выкарыстанне для ажыццяўлення назірання на ўчастку для галасавання выбарчым заканадаўствам не прадугледжана».

*Крыніца:
ПАГА «Рух «За Свабоду»
http://pyx.by/*

# У Гарадку ўжо гатовы забяспечыць масавае галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў

**25.09.2015**

На некаторых выбарчых участках чвэрць грамадзян будзе галасаваць па месцы знаходжання.

23 верасня, у першы дзень дзяжурства ўчастковых камісій, назіральнік Леанід Гаравы, які з'яўляецца каардынатарам назірання «Руху «За Свабоду!» па Віцебскай вобласці, зафіксаваў парушэнні на пяці выбарчых участках г. Гарадка, дзе за лічаныя хвіліны ў спісы для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў было ўнесена ад 87 да 360 чалавек. Падобнае парушэнне на Савецкім участку № 3 зафіксаваў і Леанід Аўтухоў, актывіст Партыі БНФ, які налічыў 157 такіх выбаршчыкаў.

Леанід Гаравы, акрэдытаваўшыся 23 верасня ў якасці назіральніка на пяці выбарчых участках, адразу ж зафіксаваў на кожным з іх аднатыпныя парушэнні. Атрымліваючы інфармацыю пра колькасць унесеных у спісы выбаршчыкаў на ўчастку і выбаршчыкаў, якія ўключаны ў спіс для галасавання па месцы знаходжання, ён убачыў апошнюю старонку адпаведных спісаў, якая была запоўнена з парушэннем нормаў, зацверджаных у дадатку № 10 да пастановы ЦВК № 11. Згодна з гэтай нормай, трэба зафіксаваць не толькі асноўныя дадзеныя выбаршчыка, але таксама дату і час прыняцця заявы, што зроблена не было.

Але яшчэ больш гарадоцкага праваабаронцу здзівіла колькасць грамадзян, якія амаль за два тыдні да выбараў вырашылі прагаласаваць, не пакідаючы межаў уласнага жытла. Такая надзвычайная актыўнасць на фоне ўсеагульнай палітычнай апатыі ў краіне падалася абсалютна ненатуральнай. Глядзіце самі: на выбарчым участку № 1 Баграмянаўскім зафіксавана 1 912 выбаршчыкаў, з іх – 87 пажадалі галасаваць па месцы свайго знаходжання; на ўчастку № 2 Камсамольскім – 2 106, па месцы знаходжання – 172; на участку № 4 Зарачанскім – 924, па месцы знаходжання – 109; на ўчастку № 5 Гагарынскім – 1 500, па месцы знаходжання – 360; на ўчастку № 6 Вакзальным – 1 091, па месцы знаходжання – 193. Гэткая ж сітуацыя была зафіксавана грамадскім актывістам Леанідам Аўтуховым, які атрымаў акрэдытацыю ў якасці назіральніка на выбарчым участку № 3 Савецкім (агулам – 1 539 і па месцы знаходжання – 157 выбаршчыкаў).




Згодна каляндарнаму плану, 23 верасня ўчастковыя камісіі пачалі сваю працу. Дзяжурства было арганізавана з 17:00 да 19:00 гадзін, і за гэты час нават два члены камісіі фізічна не змаглі б запісаць такую колькасць жадаючых прагаласаваць

па месцы знаходжання. Відавочна, што гэта было зроблена загадзя. Дадзеныя абставіны дазваляюць меркаваць, што выбаршчыкі не звярталіся з заявамі ва ўчастковыя камісіі, а камісіі самастойна афармілі спісы без усялякіх заяў выбаршчыкаў.

24 верасня з прычыны яўнага парушэння заканадаўства – самаўпраўнай арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў – у Гарадоцкую раённую камісію па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праваабаронцам Леанідам Гаравым было пададзена адразу пяць скаргаў на парушэнне свабоды волевыяўлення выбаршчыкаў адпаведнымі ўчастковымі камісіямі г. Гарадка. У гэтых скаргах назіральнік Гаравы патрабуе прызнаць створаныя спісы для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў несапраўднымі, абавязаць участковыя камісіі весці дадзеныя спісы толькі па заявах выбаршчыкаў і паінфармаваць выбаршчыкаў раёна пра дакладнае выкананне нормы выбарчага заканадаўства па арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў.

– У гэтых парушэннях абурае той факт, што сябрамі ўчастковых камісій парушаецца не толькі выбарчае заканадаўства, але ў першую чаргу Канстытуцыя краіны, якая ў артыкуле 64 гарантуе кожнаму грамадзяніну права прымаць альбо не прымаць удзел у выбарах. І другі момант, на які варта звярнуць увагу: гэткім чынам камісія арганізоўвае штучны рост колькасці ўдзельнікаў выбараў, яўка выбаршчыкаў штучна завышаецца праз масавае галасаванне па-за межамі памяшкання камісіі, адсачыць якое незалежным назіральнкам будзе практычна немагчыма. Гэты этап выбараў з'яўляецца даволі спрыяльным для фальсіфікацый. Існавалі ўчасткі, на якіх амаль чвэрць выбаршчыкаў галасавала па месцы свайго жыхарства. Праўда, з такой вялікай колькасцю «жадаючых» у першы ж дзень працы ўчастковых камісій запісацца для галасавання па месцы знаходжання прыходзіцца сутыкацца ўпершыню. Але, што зробіш, прававая беспакаранасць падштурхоўвае да прававога бязмежжа, – кажа Леанід Гаравы.

З падобнага кшталту парушэннямі Гаравому давялося мець справу і ў мінулым годзе пры назіранні за выбарчай кампаніяй ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Ужо тады ім была заўважана пэўная заканамернасць: колькасць жадаючых прагаласаваць па месцы знаходжання на адным і тым жа ўчастку павялічвалася ад адной выбарчай кампаніі да другой (80, 115, 350 грамадзян), а тут – 360 выбаршчыкаў у першы дзень працы ўчастковых камісій. Ёсць над чым задумацца.

З улікам усяго вышэй сказанага можна канстатаваць, што нават тады, калі на выбарчыя ўчасткі прыйдзе менш за палову выбаршчыкаў, ва ўлады застанецца досыць эфектыўны інструмент падвышэння колькасці тых, хто прыняў удзел у галасаванні. І тут ужо не важна, ці то гэтыя грамадзяне прагаласавалі самастойна, ці то пад ціскам чальцоў выбарчых камісій, якія прыехалі наўпрост на месца іхняга жыхарства.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/68-u-garadku-zho-gatovy-zabyaspechyc-masavae-galasavanne-pa-mescy-znahodzhannya-vybarshchyka.html*

## Хакеры спрабавалі ўзламаць сайт кампаніі назірання «Права выбару–2015»

**24.09.2015**

Сайт кампаніі назірання «Права выбару—2015» спрабавалі ўзламаць хакеры. Пра гэта паведаміў адзін з каардынатараў кампаніі назірання за прэзідэнцкімі выбарамі Дзяніс Садоўскі.

Спроба ўзлому адбылася 23 кастрычніка каля 13-й гадзіны. Паводле адміністратара сайта, гэта была спроба DDOS-атакі з вялікай колькасці IP-адрасоў. З якой краіны ішла атака, вылічыць не ўдалося.

Потым, праз дзве гадзіны, нехта спрабаваў падабраць паролі для ўваходу на сайт. Адміністратар рэсурса кажа, што сайт працуе ў штатным рэжыме, ніякая шкода яму не была нанесена. У сувязі з інцыдэнтам на сайце ўзмоцненыя меры бяспекі.

Каардынатары кампаніі «Права выбару—2015» звязваюць спробу DDOS-атакі на сайт з жаданнем перашкодзіць незалежнаму назіранню за выбарчай кампаніяй і яе інфармацыйнаму суправаджэнню.

*Крыніца:*
*Эўрарадыё*
*http://euroradio.fm/hakery-sprabavali-uzlamac-sayt-kampanii-nazirannya-prava-vybaru-2015*

## Слонімскі райвыканкам адмовіў Івану Шэгу ў правядзенні трох пікетаў

**02.10.2015**



У верасні слонімскі актывіст Партыі БНФ Іван Шэга падаваў у Слонімскі райвыканкам заяўкі на правядзенне трох пікетаў — 3-га, 4-га і 5-га кастрычніка — у падтрымку агульнабеларускай акцыі «За мірную, нейтральную Беларусь!».

Праводзіць усе тры пікеты Слонімскі райвыканкам не дазволіў, прычым нічым не матывуючы сваю адмову. У афіцыйным адказе толькі сказана: «Накіраваныя Вамі ў выканкам дакументы не адпавядаюць артыкулу 5 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1997 года «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь». І подпіс старшыні Слонімскага райвыканкама Алега Таргонскага. Рашэнне райвыканкама Івану Шэгу прапаноўваецца абскарджваць у Гродзенскім абласным выканаўчым камітэце.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80264*

## У Слуцку зазываюць на выбары, каб азнаёміцца з праграмай Лукашэнкі

**05.10.2015**

Пікеты Лукашэнкі ў Слуцку зазываюць жыхароў горада на галасаванне 11 кастрычніка абяцаннем магчымасці азнаёміцца з праграмай кандыдата ў Прэзідэнты.

4 кастрычніка ў гарадскім парку культуры і адпачынку г. Слуцка працаваў пікет за Аляксандра Лукашэнку. Аднак ніякіх звестак ні пра кандыдата, ні пра яго праграму на інфармацыйным стэндзе знайсці не ўдалося. Пра гэты факт сайту «Права выбару–2015» паведаміла каардынатар назіральнікаў кампаніі па Мінскай вобласці ад «Руху «За свабоду» Аліна Нагорная.

Паміж пікетоўшчыкамі і Алінай Нагорнай адбыўся наступны дыялог:

– Скажыце, а што прапануе ваш кандыдат?

– Чытайце інфармацыю на стэндзе (між тым, на фота відаць, што ніякай інфармацыі там не было).

– Там жа нічога няма.

– Дык прыходзьце на выбары 11-га. А ўвогуле можна з 6-га кастрычніка.

«Па сутнасці, гэты кандыдат прапануе прыйсці на выбары – значыць, даць яму яўку. Інтрыгуе», – саркастычна заўважыла назіральніца Аліна Нагорная.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/113-u-slucku-zazyvayuc-na-vybary-kab-aznaemcca-z-pragramay-lukashenk.html*

## Назіральнікі ў Мінску паведамляюць пра перашкоды ў рэгістрацыі на ўчастках

**05.10.2015**

Графік працы ўчастковых камісій на шэрагу ўчасткаў Мінска стварае перашкоды для рэгістрацыі назіральнікаў.

– Я і яшчэ адна назіральніца ад «Права выбару–2015» прыйшлі для акрэдытацыі на ўчастак № 16 Партызанскага раёна на вул. Уральскай у школе № 108 а 12:00, – распавяла прэс-службе кампаніі назірання актывістка «Руху «За Свабоду» Галіна Міхнюк.

Паводле яе слоў, на ўваходзе ў школу вісеў дзіўны расклад працы камісіі, згодна з якім 5-га кастрычніка яна працавала толькі з 17:00 да 19:00.

– Жанчына-вахцёр у фае пацвердзіла, што нікога з камісіі зараз няма, будуць толькі а 17:00, – дадала Міхнюк.

Падобную гісторыю распавёў і назіральнік ад кампаніі «Права выбару–2015» на ўчастку № 2 у школе № 180 у Цэнтральным раёне Мінска актывіст «Руху «За Свабоду» Алесь Марчанка.

– Калі я прыйшоў на ўчастак, мяне не хацелі пускаць у школу. Вахцёркі сказалі, што на ўчастку зараз нікога няма і паказалі распарадак працы, па-

водле якога сёння ўчастак працуе з 17 да 19 гадзін, — адзначыў прэс-службе «Права выбару—2015» Алесь Марчанка.

З яго слоў, вахцёркі пасля рэгістрацыі ў журнале ўліку дазволілі яму падняцца на другі паверх і праверыць графік працы ўчастка самастойна.

— Там стаялі два міліцыянты, якія мяне прапусцілі, але дзверы былі зачыненыя, на іх напісана, што працаваць участак будзе з 17:00 да 19:00, — дадаў Марчанка.

Ён падкрэсліў, што супрацоўнікі школы і міліцыянеры пры гэтым паводзілі сябе карэктна.

— Жанчыны-вахцёркі адзначылі: «Значыцца, прыйдзецца вам прыйсці яшчэ раз», — дадаў актывіст.

Па дадзеных каардынатара кампаніі назірання «Права выбару—2015» па Мінску ад «Руху «За Свабоду» Алеся Славінскага, такая ж сітуацыя склалася на ўчастку № 43 на вул. Сурганава ў інтэрнаце каледжа імя Кедышкі. Там таксама ўчастковая камісія 5-га кастрычніка працавала з 17 да 19 гадзін. Дырэктар школы № 118 у Ленінскім раёне паведаміў, што рэжым працы быў падрыхтаваны «згодна з вусным загадам ЦВК».

— Ім цэнтралізавана прыйшла рассылка, у якой быў указаны такі графік працы, — сцвярджае Славінскі. Ён падкрэсліў, што загадзя пра такі рэжым нікому вядома не было, таму гэта стварыла нязручнасці для незалежных назіральнікаў, якія для акрэдытацыі вымушаныя ездзіць туды-сюды.

— Падобныя графікі працы ствараюць перашкоды пры акрэдытацыі незалежных назіральнікаў, — лічыць нацыянальны каардынатар кампаніі «Права выбару—2015» Алесь Сілкоў.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/114-nazralnk-mnsku-pavedamlyayuc-pra-perashkody-regstracy-na-chastkah.html*

## Датэрміновае галасаванне пачалося: міліцыя выставіла назіральніцу ў Калодзішчах

**06.10.2015**



Назіральніца кампаніі «Права выбару—2015» Ірына Осіпава раніцой 6 кастрычніка ішла на Мінскі выбарчы ўчастак № 43 ў Калодзішчах, а патрапіла ў пустое памяшканне: без скрыняў, без сталоў і кабінак для таемнага галасавання. На заўвагу назіральніцы яе проста выставілі з памяшкання пры дапамозе міліцыі.

Ірына Осіпава прыйшла а 8:35 на Мінскі ўчастак для галасавання № 43, які знаходзіцца ў пасёлку Ка-

лодзішчы (вуліца Мінская, 3, ДУА «Калодзішчанская сярэдняя школа»), каб назіраць за ходам датэрміновага галасавання на прэзідэнцкіх выбарах. Для «аховы» ўчастка адміністрацыя школы выставіла ачапленне з дзяцей. Прычым сам участак абсалютна не быў падрыхтаваны для правядзення галасавання: адсутнічалі сталы, скрыні для галасавання і кабінкі. Да здзіўленне назіральніцы, старшыня ўчастковай камісіі Святлана Бейербах адрэагавала неадэкватна: выклікала нарад міліцыі, які папросту выставіў назіральніцу. За інцыдэнтам назіралі дзеці і іх бацькі.

Старшыня камісіі патлумачыла, што прафсаюз РЭП не мае рэгістрацыі ў Мінскай вобласці, таму Ірыну Осіпаву і пазбавілі акрэдытацыі.

Назіральніца адразу патэлефанавала ў ЦВК і раённую камісію, якія літаральна праз паўгадзіны аднавілі яе акрэдытацыю.

Прадстаўнік прафсаюза РЭП Ілля Дабратвор, які прыехаў на месца інцыдэнту, паспеў зрабіць некалькі фотаздымкаў, пасля чаго і яго выставілі за дзверы.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/116-datermnovae-galasavanne-pachalosya-mlcyya-vystavla-nazralncu-kalodzshchah.html*

## Участковыя камісіі адмаўляюцца ад празрыстага падліку галасоў

**05.10.2015**



Участковая комиссия по выборам Президента Республики Беларусь
участка для голосования №27
г.Могилев, ул. Крупской, 137, тел. 40-10-96

От 06.10.2015 №1
На №1 от 05.10.2015

Хамратову А.Г.
212000, г.Могилев

Уважаемый Александр Геннадьевич!

Ваше предложение рассмотрено в установленном порядке в соответствии с требованиями Избирательного кодекса Республики Беларусь.

Процедура подсчета голосов избирателей на участке для голосования №27 будет производиться в порядке, установленном статьей 55 Избирательного кодекса Республики Беларусь.

Благодарим за Ваше предложение!

Председатель участковой избирательной комиссии №27 — А.В. Кантылев

Старшыні ўчастковых камісій адмаўляюцца галосна і адкрыта лічыць бюлетэні. Аб гэтым сведчаць адказы назіральнікам у Магілёве і Мінску.

5 кастрычніка назіральнік ад прафсаюза РЭП на 27-м участку ў Магілёве Аляксандр Хамратаў звярнуўся да старшыні ўчастковай камісіі Андрэя Кантылёва з прапановай зрабіць падлік бюлетэняў адкрытым і празрыстым. «Каб усе бюлетэні з адзнакамі, калі іх дастаюць са скрыні, паказваліся не толькі чальцам камісіі, але і назіральнікам», – патлумачыў Хамратаў.

У сваю чаргу старшыня ўчастковай камісіі паведаміў, што працэдура падліку галасоў выбаршчыкаў на ўчастку для галасавання № 27 будзе адбывацца ў парадку, вызначаным артыкулам 55 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

«Гэты адказ расцэньваю як адмову на маю прапанову, накіраваную на тое, каб выбары былі празрыстымі і галоснымі. Значыць, у асноўны дзень падлік галасоў будзе праходзіць нягласна, я як назіральнік не буду мець магчымасці

бачыць таго, што пазначана ў кожным бюлетэні», — заявіў Аляксандр Хамратаў.

Аналагічны па змесце адказ атрымала і назіральніца на 50-м участку г. Мінска Вольга Алейнік, якая таксама прасіла забяспечыць празрастасць падліку галасоў. У адказе пазначаецца, што вызначэнне парадка падліку галасоў на ўчастку для галасавання не адносіцца да кампетэнцыі ўчастковай камісіі.

Згодна артыкулу 55 Выбарчага кодэкса, ніякай дэманстрацыі бюлетэняў назіральнікам не прадугледжваецца. Камісія мусіць толькі абвесціць вынікі падліку галасоў. Разам з тым, артыкул не забараняе праводзіць падлік галасоў так, як прасілі зрабіць гэта назіральнікі ў мэтах забеспячэння празрыстасці выбараў.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/119-uchastkovyya-kams-admalyayucca-ad-prazrystaga-padlku-galaso.html*

## Межы выбарчага ўчастка № 35 у Брэсце не вызначаныя

**05.10.2015**





На ўчастку для галасавання № 35 у Маскоўскім раёне г. Брэста арганізацыя самога працэсу галасавання ўладкавана досыць цікава. Участак знаходзіцца ў СШ № 10 г. Брэста, побач з участкам № 34. Размяшчаюцца ўчасткі настолькі блізка адзін ад другога, што выбаршчыкі ўчастка № 34 праходзяць праз участак № 35, парушаючы таемнасць галасавання і, адпаведна, нормы Выбарчага кодэкса РБ.

Як паведамілі назіральнікі кампаніі «Права выбару—2015», участковая камісія (разам са спісам выбаршчыкаў, сейфам з пячаткай і іншымі дакументамі і скрыняй для датэрміновага галасавання) знаходзіцца ў памяшканні кабінета школы, а інфармацыйны стэнд, кабінка для таемнага галасавання і назіральнікі — у школьным калідоры, шырынёй каля 4 метраў. Калідор злучае два школьных корпусы, і для бесперапыннасці навучальнага працэсу дзверы калідора адчыненыя для школьнікаў, настаўнікаў, бацькоў.

Што бачыць назіральнік з калідора? Толькі частку стала, прыкрытага спінамі выбаршчыкаў (якія потым праходзяць міма назіральніка з незапоўне-

нымі бюлетэнямі), кабінку і тое, як выбаршчыкі выходзяць з яе з запоўненым бюлетэнем, часта нават і не складзеным. А далей – зноў спіна выбаршчыка, які кідае бюлетэнь у скрыню для галасавання.

Такім чынам, межы памяшкання ўчастка для галасавання № 35 дакладна не вызначаныя. На ім, па сутнасці, знаходзяцца вучні школы, назіральнікі з іншых участкаў, выбаршчыкі і сябры камісіі суседняга ўчастка. Дзяжурныя сябры камісіі (часцей іх двое) не могуць кантраляваць сітуацыю каля кабінкі для галасавання, а назіральнікі – стол камісіі і скрыню для галасавання.

УВК разводзіць рукамі: яны ў гасцях у школы і выбіраць ім не даводзіцца. Аднак, яны відавочна парушаюць арт. 51 Выбарчага кодэкса: галасаванне праводзіцца ў двух памяшканнях, адно з якіх знаходзіцца ў скразным калідоры, па якім увесь час ідзе рух людзей, якія не маюць дачынення да выбарчага працэсу.

Скрыня для галасавання знаходзіцца на стале, дзе сябра камісіі працуе са спісамі і выдае бюлетэні. Акрамя таго, скрыні для галасавання не знаходзяцца ў полі зроку асоб, указаных у ч. 4 артыкула 13 Выбарчага кодэкса.

Нагадаем, што адказнасць за арганізацыю галасавання, забеспячэнне таямніцы волевыяўлення выбаршчыкаў, удзельнікаў рэферэндума, абсталяванне памяшканняў і падтрыманне ў іх неабходнага парадку нясе ўчастковая камісія.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/120-mezhy-vybarchaga-chastka-34-bresce-nyavyznachanyya.html*

## У Оршы з участкаў выдалілі ўсіх назіральнікаў ад «Справядлівага свету»

**06.10.2015**

Каля 30 назіральнікаў ад Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» выдалілі з участкаў, бо камісіям падалася неадэкватнай фармулёўка ў пратаколах аб іх вылучэнні.

Ва ўсіх пратаколах аб вылучэнні назіральнікаў напісана, што чалавека накіроўваюць назіраць на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 11 кастрычніка 2015 года – менавіта такі поўны назоў маюць сёлетнія выбары. Так пішацца і на сайце ЦВК. Але ў першы дзень датэрміновага галасавання назіральнікаў-партыйцаў выдалілі з участкаў у Оршы: нібыта іх накіравалі назіраць толькі на адзін дзень, дзень выбараў 11 кастрычніка.

Старшыня абласной партыйнай арганізацыі Мікалай Селівашка, які неаднаразова быў сябрам абласной выбарчай камісіі, абураны дзеяннямі старшыняў аршанскіх камісій.

– У партыйных пратаколах была ўжыта афіцыйная назва выбараў. Аднак сёння выдалілі ўсіх нашых назіральнікаў, нават тых, хто раней акрэдытаваўся на ўчастках, і чыё з'яўленне там ва ўсе папярэднія дні пытанняў не выклікала. Назіральнік мае права назіраць за выбарчым працэсам на ўсім

яго працягу, калі ў пратаколе асобна не агаворана, што ён накіроўваецца на адзін дзень, ці на шэсць дзён. У нашых пратаколах аніякіх такіх агаворак не было.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80330*

## У Мінску на выбарчым участку за дзве гадзіны прагаласавалі 80 студэнтаў

**06.10.2015**

На выбарчым участку № 11, размешчаным у Кастрычніцкім раёне Мінска ў будынку Беларускага дзяржаўнага медыцынскага каледжа, па стане на 12:00 6-га кастрычніка — за дзве гадзіны — прагаласавала 85 чалавек, з іх 80 — студэнты. Гэты факт зафіксаваны назіральнікам кампаніі «Права выбару—2015».

— Відавочна, што ўжо ў першыя дні студэнтаў прымусова заганяюць на галасаванне, — адзначыла каардынатар Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі па г. Мінску Вольга Кавалькова.

Таксама стала вядома, што жыхарам інтэрнатаў БНТУ, пры ўмове, што тыя прагаласуюць датэрмінова, даюць магчымасць не наведваць універсітэт у перадвыбарчыя дні 9 і 10 кастрычніка і з'ехаць з Мінска,.

*Крыніца:*
*Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя*
*http://bchd.info/9935-u-menu-na-ybarchym-uchatu-sa-dse-gadsiny-pragalaaali-80-tudenta.html*

## У дзяржаўных ВНУ пачаўся ціск на студэнтаў у сувязі з выбарамі

**06.10.2015**

6 кастрычніка на электронную скрыню «Праваабаронцаў за свабодныя выбары» прыйшлі паведамленні пра прыцягненне студэнтаў на датэрміновае галасаванне і вызваленне іх ад заняткаў 6-га, 9-га і 12-га кастрычніка.

Так, студэнт Д. з Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта паведаміў:

«У прыватнасці, ад асобы нашага дэкана праз старастаў груп нашаму патоку было аб'яўлена аб тэрміновым і як найхутчэйшым прыняцці ўдзелу ў датэрміновым галасаванні, у сувязі з чым, сёння, 6-га кастрычніка, былі адмененыя ўсе заняткі. Акрамя таго, заняткі адмянілі ў пятніцу (9 кастрычніка) і ў панядзелак (12 кастрычніка) ў сувязі з выбарамі Прэзідэнта, і прымусілі ўвесь паток напісаць заявы з просьбай пра прадстаўленне выходных на гэтыя дні з прычыны сямейных абставін. З боку дэканата ў выпадку няўдзелу студэнтаў у датэрміновым галасаванні былі абяцаны праблемы ў далейшым навучанні. У выніку, з маёй групы, якая складаецца з 19-і чалавек, паводле

маіх назіранняў, у датэрміновым галасаванні не прыняў удзел толькі адзін студэнт».

Таксама інфармацыя прыйшла і ад студэнта БДУ:

– У шостым інтэрнаце, па адрасе вул. Кастрычніцкая, 10, к. 1, сёння да 19:00 заганяюць усіх студэнтаў галасаваць датэрмінова.

Такога кшталту інфармацыю паведамляюць і праз сацыяльныя сеткі.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80354*

## Выкладчыца Гомельскага політэхнічнага каледжа прывяла галасаваць дзве групы навучэнцаў

**06.10.2015**



Назіральнік ад АГП Аляксандр Герд стаў сведкам, як майстар вытворчага навучання Гомельскага політэхнічнага каледжа Ала Шпадарук прывяла галасаваць дзве групы навучэнцаў сярэдне-спецыяльнай установы. Варта заўважыць, што ўчастак для галасавання № 12 Цэнтральнага раёна Гомеля размешчаны ў будынку ГКЦ – грамадска-культурнага цэнтра. Участковую камісію ўзначальвае дырэктар політэхнічнага каледжа Аляксандр Савіцкі. «Аб 11:25 на ўчастак прыйшла жанчына, якая бадзёра адрапартавала сябрам участковай камісіі, што прывяла галасаваць навучэнцаў каледжа, дзве групы – Ф-31 СК і ЭО-31 СК. Сама жанчына, як аказалася, майстар вытворчага навучання каледжа, выбаршчыкам на дадзеным участку не з'яўляецца. Арганізавана прыводзіць галасаваць навучэнцаў – гэта прамое парушэнне заканадаўства», – пракаментаваў сітуацыю Аляксандр Герд.

Паводле яго звестак, на дадзеным участку № 12 на 13:30 6-га кастрычніка прагаласавала ўжо 126 чалавек, у асноўным гэта навучэнцы каледжа. Сярод тых, хто прагаласаваў, былі толькі 5-7 пенсіянераў. Усяго на участку больш за 1 900 выбаршчыкаў.

На іншых участках – больш сціплыя лічбы тых, хто прагаласаваў датэрмінова. Так, на ўчастку № 10 Цэнтральнага раёна назірае Аляксандр Шарыпаў, каардынатар кампаніі «Права выбару–2015». З яго слоў, з 10:00 да 13:00 на ўчастку прагаласавала 19 чалавек, у асноўным пенсіянеры. Участак № 10, размешчаны ў будынку школы № 24, адметны тым, што тут усталявана празрыстая скрыня для галасавання.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80346*

## На прадпрыемствах і ў інтэрнатах людзей прымушаюць галасаваць датэрмінова

**07.10.2015**

У першы ж дзень датэрміновага галасавання – 6 кастрычніка – да «Праваабаронцаў за свабодныя выбары» пачалі звяртацца з інфармацыяй неабыякавыя людзі, якія фіксуюць парушэнні выбарчага заканадаўства.

Пра парушэнні паведаміў супрацоўнік прадпрыемства «Белаз-холдынг»:

– У сувязі з будучымі важнымі падзеямі ў нас на прадпрыемстве кіраўніцтва ў тэрміновым парадку збірае інфармацыю пра супрацоўнікаў. І падаецца, што нічога страшнага: тэлефон, адрас прапіскі і пражывання, але неяк непрыемна. Але і гэта не ўсё! Ужо тыдзень як ціснуць, маўляў, схадзіце на выбары абавязкова, прагаласуйце датэрмінова. Пры гэтым ёсць і «пернік»: выдаюць службовыя звальняльныя на пару гадзінаў, якія аплочваюцца, для таго, каб працаўнік схадзіў і прагаласаваў датэрмінова. Начальнікі нізкага звяна апраўдваюцца так: «Нам далі ўказанне – мы выконваем».

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80400*

## Актывістку АГП з Брэста звальняюць з працы пасля ўдзелу ў выбарчай кампаніі

**07.10.2015**




Сябра АГП Людміла Захаранка, якая актыўна збірала подпісы за вылучэнне кандыдатам на пасаду Прэзідэнта лідара АГП Анатоля Лябедзькі, атрымала паведамленне ад адміністрацыі Брэсцкага электрамеханічнага завода, што з ёй не будзе працягнуты працоўны кантракт.

Прычыну такога рашэння ніхто з кіраўніцтва завода не тлумачыць, а сама Людміла Захаранка лічыць непрацягненне кантракта палітычна матываваным. «Ніякіх дысцыплінарных спагнанняў і заўваг не было, і падстаў для таго, каб мяне пазбавілі працы, я не бачу», – кажа Людміла Захаранка.

Яна адзначае, што непрыемнасці пачаліся пасля таго, як нехта з адміністрацыі прадпрыемства ўбачыў яе падчас збору подпісаў за Анатоля Лябедзьку. «Мне далі зразумець, што рабіць гэта не варта, бо можа адбіцца на працягу маёй працоўнай дзейнасці. Так і атрымалася», – заўважае Людміла Захаранка.

Актывістка АГП мае намер абскарджваць рашэнне прадпрыемства, у тым ліку накіраваць да кіраўніцтва ліст з просьбай даць афіцыйныя тлумачэнні.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80394*

## Адзін з назіральнікаў «Права выбару–2015» распавёў пра «карусель» на выбарчым участку

**07.10.2015**



Адзін з назіральнікаў кампаніі «Права выбару—2015» распавёў пра «карусель» у Ленінскім раёне Мінска на выбарчым участку № 33.

Па словах назіральніка, «упрыгожаныя жанчынкі бальзакаўскага ўзросту не маглі назваць, з якой яны вуліцы, але ўпэўнена перадавалі пашпарты і распісваліся, атрымаўшы бюлетэнь!»

Потым жанчыны пачалі размаўляць са сваімі калегамі настаўніцамі. На пытанне назіральніка: «З якой вы арганізацыі ці ўстановы?», жанчыны пажартавалі, што маньякам не адказваюць.

Відаць, што назіральнік моцна напалохаў жанчын, бо яны ўсе адразу разбегліся, хто ў бліжэйшы пад’езд, хто ў краму, хто ў поле, толькі не да аўтобуса.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/128-adzn-z-nazralnka-prava-vybaru-raspavey-pra-karusel-na-vybarchym-uchastku.html*

## Салігорск: назіральнікі фіксуюць арганізаваны характар яўкі выбарцаў на ўчасткі і прымус да датэрміновага галасавання

**07.10.2015**

Салігорскія незалежныя назіральнікі не зафіксавалі надзвычай высокай яўкі выбарцаў у першы дзень датэрміновага галасавання, але ўжо адзначаюць яе прымусовы ды арганізаваны характар.

На ахопленых незалежным наізараннем участках у беларускай сталіцы шахцёраў у першы дзень прагаласавала ад двух да чатырох адсоткаў выбаршчыкаў. Найбольш актыўна ў датэрміновым галасаванні ўдзельнічалі супрацоўнікі міліцыі.

— Міліцыя, канешне, ужо пайшла галасаваць. Яны ж людзі дысцыплінаваныя. Прыходзілі на ўчастак у форме і, відавочна, у працоўны час, — кажа

Уладзімір Шыла, які акрэдытаваны назіральнікам у салігорскай участковай выбарчай камісіі № 32. — З размоваў паміж сябрамі ўчастковай камісіі стала зразумела, што іх таксама прымушаюць галасаваць датэрмінова. Самі яны, здаецца, нават не ўважаюць гэта за ненармальнасць і нейкае парушэнне.

Інфармацыю аб прымусе сябраў выбаркамаў да датэрміновага галасавання пацвердзіў і незалежны назіральнік з салігорскага выбарчага ўчастка № 33 Павел Батуеў.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80393*

## Брэст: намеснік дэкана, яна ж назіральнік, забараняе студэнтам распавядаць пра прымус да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні

**07.10.2015**

Студэнты Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта паскардзіліся, што іх прымушаюць галасаваць датэрмінова. Незалежныя журналісты паспрабавалі высветліць падрабязнасці і ўзяць інтэрв'ю ў студэнтаў, якія прыйшлі на выбарчы ўчастак, але прадстаўнікам СМІ замінала працаваць супрацоўніца ўніверсітэту, што прадставілася назіральнікам.

Журналісты Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава спачатку наведалі галоўны корпус тэхнічнага ўніверсітэта, а пасля іншыя ўчасткі, што месцяцца ў кавярні «Зодчыя», якая таксама належыць гэтай навучальнай установе. Тут яны пачулі ад студэнтаў, што апошніх прымушаюць браць удзел у датэрміновым галасаванні, а прадстаўнік універсітэта кантралюе яўку на выбарчым участку.

Высветлілася, што гэтым прадстаўніком з'яўляецца намеснік дэкана па выхаваўчай працы Святлана Куган, якая была акрэдытавана на ўчастку для галасавання ў якасці назіральніка ад грамадскага аб'яднання «Белая Русь». Менавіта яна фактычна забараніла студэнтам даваць каментары незалежным журналістам, а іншыя студэнты пасля гутаркі са спадарыняй Куган заявілі, што прыйшлі галасаваць датэрмінова паводле ўласнай ініцыятывы.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80376*

## Яшчэ адзін назіральнік ад «Права выбару–2015» пазбаўлены акрэдытацыі

**07.10.2015**

Назіральнік ад ПАГА »Рух «За Свабоду» ў межах кампаніі «Права выбару—2015» Пётр Маркелаў пазбаўлены акрэдытацыі на ўчастку № 10 Першамайскага раёна г. Мінска.

– У абед участковая выбарчая камісія правяла пасяджэнне, на якім пазбавіла мяне акрэдытацыі, – распавёў прэс-службе «Права выбару–2015» Пётр Маркелаў.

Па ягоных словах, на яго былі пададзеныя 8 скаргаў: ад праўладных назіральнікаў, сябраў камісіі, з абсалютна розных надуманых прычын.

– Я хацеў сфатаграфаваць паперы, але старшыня камісіі не дазволіў, – патлумачыў назіральнік.

Паводле назіральніка, ён плануе застацца назіраць, бо на гэты момант яго адсадзілі з пакоя на месцы ў калідоры.

Пётр Маркелаў рыхтуе скаргу з прычыны рашэння камісіі пра пазбаўленне яго акрэдытацыі. Акрамя таго, рыхтуюцца яшчэ дзве скаргі па парушэннях на гэтым участку: пра неапячатванне пакоя са скрыняй для галасавання і знаходжанне на ўчастку невядомых асоб.

На гэтым жа ўчастку быў зафіксаваны яшчэ адзін інцыдэнт, у выніку якога назіральнікі выклікалі міліцыю на чальцоў камісіі.

– Мы пачалі другі дзень назірання. Я паклаў побач з сабой фотаапарат і нават нічога ім не здымаў, аднак намеснік старшыні камісіі адабраў у мяне прыладу і паклаў яе ў сейф, а старшыня камісіі яго зачыніў, – распавёў сябра ПАГА «Рух «За Свабоду» Пётр Маркелаў.

Назіральнікі выклікалі міліцыю, прыехаў нарад, Маркелаў падаў заяву ў міліцыю, якая была прынятая да разгляду. Фотаапарат яму вярнулі.

Маладыя актывісты арганізавалі на ўчастку № 10 акцыю назірання «87 %», у яе межах на ўчастку дзяжураць чатыры назіральнікі. Арганізаваная анлайн-трансляцыя, яе працяг пакуль знаходзіцца пад пытаннем, бо чальцы камісіі забаранілі карыстацца электрычнасцю.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/126-yashche-adzn-nazralnk-ad-prava-vybaru-pazbaleny-akredytacy.html*

## У Магілёве назіральнік заявіў аб забароне фатаграфаваць пратакол аб галасаванні

**07.10.2015**



Назіральнік Максім Алямоўскі, акрэдытаваны на выбарчым участку № 69 у Магілёве, заявіў аб забароне старшынём участковай камісіі Андрэем Міхайлавым сфатаграфаваць пратакол аб галасаванні за 6-га кастрычніка.

– Пасля 19:00 не далі зрабіць копію пратакола сіламі і сродкамі назіральніка. Старшыня закрыў рукой пратакол, калі я спрабаваў яго сфатаграфаваць. Аднак больш дакладнай копіі пратакола, чым яго фотаздымак,

стварыць немагчыма, – заявіў Максім Алямоўскі, адзначыўшы, што таксама не меў магчымасці фатаграфаваць скрыню датэрміновага галасавання пасля яе апячатвання.

Назіральнік таксама паведаміў, што напярэдадні стаў сведкам, як адзін выбаршчык, узяўшы бюлетэнь для галасавання, не ўкінуў яго ў скрыню, а пакінуў у кабіне для галасавання. «Наступны выбаршчык зайшоў у кабіну, узяў там бюлетэнь папярэдняга і аддаў яго старшыні камісіі. Што з гэтым бюлетэнем сталася – невядома. Калі я спытаў у старшыні, ён не даў мне зразумелага адказу, але ў пратаколе галасавання за той дзень не значылася ні аднаго сапсаванага бюлетэня», – сказаў спадар Алямоўскі.

Акрамя таго, увесь папярэдні дзень у месцы, адведзеным для назіральнікаў, адсутнічаў стол, што не давала магчымасці зручнага вядзення запісаў. У цяперашні час месца назіральнікаў абсталявана сталом.

Таксама Алямоўскі звярнуў увагу, што стэнд з інфармацыяй пра кандыдатаў у Прэзідэнты, які стаіць у будынку навучальнай установы, дзе месціцца ўчастак для галасавання, змяшчае біяграфічныя дадзеныя ўсіх чацвярых кандыдатаў, у той час, як агітацыйны плакат толькі адзін – за дзеючага Прэзідэнта.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/125-nazralnk-u-magleve-zayav-ab-zabarone-yatu-fatagrafavac-pratakol-galasavannya.html*

## У Мінску назіральніка «Права выбару–2015» пазбавілі акрэдытацыі

**07.10.2015**

У Мінску назіральніка кампаніі «Права выбару–2015» Дзмітрыя Захарава, сябра прафсаюза РЭП, пазбавілі акрэдытацыі.



Адпаведнае рашэнне прыняла ўчастковая выбарчая камісія № 23 Партызанскага раёна. Падставай для гэтага стала дакладная запіска назіральніка ад БРСМ і аднаго з чальцоў участковай выбарчай камісіі. Яны сцвярджаюць, што Захараў вёў апытанне навучэнкі каледжа, якая прагаласавала на ўчастку. Сваімі дзеяннямі ён нібыта парушыў арт. 13 Выбарчага кодэкса, які не дазваляе назіральніку праводзіць апытанні, пра што быў папярэджаны старшынём участковай выбарчай камісіі.

Аднак Дзмітрый Захараў пачаў тэлефанаваць апытанай ім дзяўчыне і зада-

ваць пытанні аб тым, хто прымушаў яе прагаласаваць датэрмінова. Пасля гэтага камісія прыняла рашэнне аб пазбаўленні назіральніка акрэдытацыі.

Па словах назіральніка, ён размаўляў з дзяўчынай за межамі выбарчага ўчастка. У сувязі з выдаленнем Захарава кампаніяй назірання «Права выбару—2015» рыхтуецца скарга.

*Крыніца:*
*Эўрарадыё*
*http://euroradio.fm/u-minsku-naziralnika-prava-vybaru-2015-pazbavili-akredytacyi*

## Гродна: выбары пад прымусам

**07.10.2015**






Першы дзень галасавання ў Гродне адбыўся пад прымусам. Незалежныя назіральнікі канстатуюць, што ў горадзе «заганяюць» на галасаванне студэнтаў.

Пра працу назіральнікаў і перавагі аднаго кандыдата над іншымі распавядае абласны міжпартыйны каардынатар кампаніі «Права выбару—2015» Сяргей Трафімчык:

— Улічваючы тое, што па тэлебачанні толькі адзін кандыдат, а астатніх можна ўбачыць толькі на улётках ці плакатах, — можна прыйсці да высновы, што ў агітацыі адбываецца яўны перакос у бок аднаго кандыдата. Усе дзяржаўныя СМІ дапамагаюць Аляксандру Лукашэнку ў агітацыі за яго, — гаворыць Сяргей Трафімчык.

Актывіст канстатуе, што на ўчастках назіраецца роўнасць правоў кандыдатаў, аднак у горадзе агітацыйнай кампаніі за кандыдатаў амаль не бачна. Яна з’явілася толькі сёння, а да гэтага адзіным кандыдатам, улёткі якога можна было бачыць у Гродне, быў Сяргей Гайдукевіч.

Незалежныя назіральнікі кажуць, што ўжо з першага дня галасавання пачалася актыўнасць гарадзенцаў. На некаторых участках за першы дзень прагаласавала больш за 50 чалавек. Аднак самы цікавы выпадак адбыўся на эксперыментальным участку для галасавання — які размешчаны ў галоўным корпусе Купалаўскага ўніверсітэта. Менавіта тут — адзіны ў горадзе ўчастак, дзе ёсць празрыстыя скрыні для галасавання, адмысловы сайт для выбарцаў.

За дзень на гэтым участку прагаласавала больш за 100 чалавек: сюды «прыгналі» для галасавання іншагародніх студэнтаў. Студэнты за гадзіну да галасавання вывесілі на старонцы «Вконтакте» спіс людзей, якіх запрасілі прагаласаваць у першы дзень датэрміновага галасавання. Для гэтага была вызвалена цэлая пара ў сярэдзіне дня. Студэнтам сказалі: «Прагаласуйце, і вяртайцеся ўжо на наступную пару».

Назіральнікі ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі заўважылі, што ў праўладных назіральнікаў на Гродзеншчыне ўжо падрыхтаваныя бланкі актаў аб парушэннях з боку незалежных назіральнікаў – засталося толькі ўпісаць прозвішча назіральніка і нумар выбарчага ўчастка.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/122-grodna-vybary-pad-prymusam.html*

## Назіральнікі «Права выбару–2015» паведамляюць пра «каруселі» і ўкіды бюлетэняў

**08.10.2015**

– Прыкладна з 12:10 да 12:38 7-га кастрычніка на ўчастку № 33 была заўважана «карусель», – заявіў прэс-службе «Права выбару–2015» назіральнік ад «Руху «За Свабоду» Алесь Талстыка.

Па ягоных словах, распазнаць «карусельшчыкаў» было даволі проста: у адзін момант на ўчастку з’явіліся апранутыя, як офісныя супрацоўніцы, жанчыны, якія яшчэ і чакалі, пакуль калегі прагаласуюць. Акрамя таго, у адрозненне ад звычайных выбаршчыкаў, гэтыя не называлі сваіх адрасоў і ў іх ніхто іх не запытваўся. Таўстыкам быў адшуканы і аўтобус, які прывёз групу – стаяў на суседняй вуліцы Пляханава.

– Сабраліся ў групу. Калі я падышоў з пытаннем, з якой яны арганізацыі, рассыпаліся, як курапаткі, – адзначыў назіральнік.

Ён прапанаваў параўнаць: да абеда прагаласавала прыкладна 20 чалавек, а прыехала гэтая група – і яўка павялічылася фактычна ўдвая.



*Пабочная асоба, якая была зафіксавана на выбарчым участку*

Па ягоных словах «карусель» працягвалася і ў другой палове дня: прагаласавалі яшчэ 11 жанчын паводле падобнай схемы.

– Мы з напарніцай назіралі без перапынкаў увесь першы дзень датэрміновага галасавання, – распавёў назіральнік на ўчастку № 2 у школе № 180 у Цэнтральным раёне Мінска, актывіст «Руху «За Свабоду» Алесь Марчанка.

Па ягоных словах, па іх – назіральнікаў – падліках, за дзень прагаласавалі 32 чалавекі, а па дадзеных камісіі – 62.

– Мы лічым, што гэта ўкід, яўная фальсіфікацыя вынікаў галасавання на гэтым участку, – заявіў Марчанка.

Паводле назіральніка, разыходжанне ў дадзеных павялічвалася ў геаметрычнай прагрэсіі: у папярэдні дзень яны налічылі 32 выбаршчыкі, а ў пратаколе было 94.

– На пытанне, чаму такая розніца, старшыня камісіі адказаў: «Я не ведаю, як вы лічылі, у мяне такая лічба». Сфатаграфаваць пратакол і пячатку сейфа, куды была пастаўлена скрыня, той не дазволіў. Памяшканне не апячатвалася, – адзначыў назіральнік.

Назіральнікі падрыхтавалі скаргу ў ТВК і пракуратуру.

– Калі я сказаў пра скаргі, старшыня пачаў пагражаць «сустрэчным іскам» з прычны таго, што я яго абражаў. Я дакладна не абражаў, але не ўпэўнены, што іншыя «назіральнікі» не падпішуць што заўгодна, таму прапанаваў старшыні камісіі сустрэцца ў судзе», – заключыў актывіст ПАГА «Рух «За Свабоду».

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/132-nazralnk-prava-vybaru-pavedamlyayuc-pra-karusel-kdy-byuletenya.html*

## У Баранавічах назіральнікі заяўляюць пра падробку дакументаў датэрміновага галасавання

**08.10.2015**

Назіральнікі з Баранавічаў Рыгор Грык і Таццяна Стрэльчык зафіксавалі падробку выбарчых дакументаў у два першых дні датэрміновага галасавання і накіравалі адпаведную скаргу ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру.

Увесь час назіральнікі прысутнічалі на выбарчым участку № 20 г. Баранавічы, лічылі і запісвалі колькасць выбаршчыкаў, што прагаласавалі. Паводле іх падлікаў, у першы дзень датэрміновага галасавання, 6-га кастрычніка, прагаласавала 39 выбаршчыкаў. Аднак у пратаколе пасля закрыцця ўчастка з'явілася лічба 143. На другі дзень, 7-га кастрычніка, сітуацыя паўтарылася: назіральнікі налічылі за ўвесь дзень 87 чалавек, якія прагаласавалі, у той час як у пратаколе было адзначана 146 чалавек.

Назіральнікі мяркуюць, што ўкід бюлетэняў мог адбыцца ў абед ці ўначы.

«Паколькі скрыні для датэрміновага галасавання захоўваюцца ноччу без нашага назірання, мы не можам быць упэўненымі ў іх захаванасці, магчымы ўкід бюлетэняў гэтых прыпісаных лішніх выбаршчыкаў. Дно скрыні не запячатана, і падчас галасавання было заўважана, як паміж бакавой сценкай

і дном высунуўся край выбарчага бюлетэня. На заўвагу назіральніка дзяжурны сябра камісіі падыйшоў і рукамі запхнуў бюлетэнь назад у скрыню», — пішуць у скарзе Р. Грык і Т. Стрэльчык і лічаць, што дадзеныя парушэнні паўплываюць на вынікі галасавання.

Таму назіральнікі просяць Баранавіцкую міжраённую пракуратуру правесці праверку па прыведзеных фактах, прызнаць вынікі датэрміновага галасавання на выбарчым участку № 20 несапраўднымі, а таксама прыцягнуць да крымінальнай адказнасці парушальнікаў выбарчага заканадаўства.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80479*

## У Гродне на ўчастку № 110 старшыня камісіі перарабіў ранейшы пратакол датэрміновага галасавання

**08.10.2015**

На ўчастку № 110 Кастрычніцкага раёна г. Гродна, які размешчаны ў СШ № 31, назіральнікі ад кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» выявілі парушэнне выбарчага заканадаўства.

7 кастрычніка да абеда назіральнік Раман Юргель зайшоў на ўчастак № 110 і на інфармацыйным стэндзе ўбачыў дадзеныя ў пратаколе УВК за 06.10.2015 г. з агульнай лічбай атрыманых камісіяй бюлетэняў — 2 500. У той жа дзень пасля 19-й гадзіны іншая назіральніца на гэтым участку, Святлана Брывач, паведаміла сп. Юргелю, што ў пратаколе за 07.10.2015 г. старшыня камісіі Юрый Бекіш памяняў лічбы колькасці атрыманых бюлетэняў. Новая лічба, якая фігуруе ў пратаколах — 2 400. Быў зменены і ранейшы пратакол за 06.10.2015 г. са зменай і іншых лічбаў.

Назіральнікі лічаць такія дзеянні старшыні камісіі грубым парушэннем выбарчага заканадаўства. Раман Юргель накіраваў адпаведныя заявы ў ТВК Кастрычніцкага раёна г. Гродна і ў ЦВК.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80476*

## Навучэнцы Гомельскага дарожна-будаўнічага каледжа: «Вадзілі галасаваць усіх у першы дзень, па спісе»

**09.10.2015**

Навучэнцы Гомельскага дарожна-будаўнічага каледжа на ўмовах ананімнасці распавялі, якім чынам ва ўстанове адукацыі было арганізавана датэрміновае галасаванне. Усе, хто жыве ў інтэрнаце, размешчаным на вуліцы Інтэрнацыянальнай, былі прымацаваныя да ўчастка для галасавання № 3 у будынку сярэдняй школы № 19 г. Гомеля. «У першы дзень датэрміновага галасавання нас усіх павялі галасаваць у школу № 19, прычым адміністрацыя

інтэрната мела на руках спіс усіх, хто дасягнуў 18-і гадоў. І па гэтым спісе ўсіх павялі галасаваць», — распавялі навучэнцы каледжа.

З іх слоў, практычна ўсе жыхары інтэрната пагадзіліся з такой формай «волевыяўлення», бо адміністрацыя пагражала высяленнем і выклікам да дырэктара каледжа. Былі і такія, што ўпіраліся.

— Але і на іх неяк націснулі, і яны пагадзіліся прагаласаваць датэрмінова, — дадалі навучэнцы.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80538*

## Назіральнікі сведчаць пра завышэнне камісіямі паказчыкаў яўкі выбаршчыкаў на датэрміновым галасаванні

**09.10.2015**

Назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» фіксуюць вялікую розніцу паміж фактычнай колькасцю выбаршчыкаў, што прыходзяць на ўчасткі, і тымі звесткамі, якія напрыканцы кожнага дня датэрміновага галасавання абвяшчаюць участковыя выбарчыя камісіі.

Так, у першы дзень розніца паміж налічанымі назіральнікамі выбаршчыкамі і дадзенымі пратаколаў камісій склала 605 чалавек (5,5 %) агулам па 155-і ўчастках. У другі дзень — 703 чалавекі (4,8 %) па 162-х участках, у трэці — 1 256 чалавек (7,13 %) па 140-а ўчастках.

Аляксей Колчын, які назірае за выбарамі ў Магілёве, паведамляе, што пры назіранні ў назіральнікаў атрымліваецца адна лічба, а ў камісіі — зусім іншая:

«Перад тым, як вывесіць пратакол, даволі працяглы час старшыня і іншыя чальцы камісіі раяцца паміж сабой шэптам, нібыта гэта таямніца, а потым вывешваюць гэтыя лічбы. Вельмі цяжка казаць пра нейкія матэматычныя памылкі, калі, да прыкладу, учора ў камісіі атрымалася лічба 97 чалавек, а, паводле нашых падлікаў, — усяго 49. Відавочна, што адбываецца штучнае перабольшванне паказчыкаў яўкі выбаршчыкаў».

Назіральнік з Мазыра Уладзімір Целяпун адзначае, што яны з калегамі лічуць кожнага чалавека з тых, што прыходзяць на ўчасткі, але чамусьці гэтыя лічбы ў канцы дня не супадаюць з вынікамі камісій.

«Магчыма, ўкіды адбываюцца ў перапынках, калі на ўчастках няма назіральнікаў. Пры гэтым цікава, што людзі не вельмі ахвотна прыходзяць галасаваць. Тым не менш, у складзе камісій у вялікай колькасці прадстаўлены кіраўнікі розных дзяржаўных прадпрыемстваў. І вось, напрыклад, сёння, у пятніцу, людзей заклікаюць пасля працоўнага дня прыйсці галасаваць, пры гэтым кажуць, што нават не патрэбна мець пры сабе пашпарт, дастаткова прад'явіць працоўны пропуск.

Акрамя таго, я ўчора хацеў падаць скаргу ў Мазырскую раённую камісію, але з 11:30 да 13:00 яна была зачынена: ніхто там не дзяжурыў, усе

аб'язджалі ўчастковыя выбарчыя камісіі. І я змог падаць сваю скаргу толькі пасля абеда».

Павел Левінаў назірае за ходам датэрміновага галасавання ў Віцебску і адзначае:

— Бярэм проста калькулятар і лічым: на ўчастак прыходзіць, па сведчаннях камісій, 193-198, груба кажучы — 200 чалавек у дзень. Участак працуе 7 гадзін. Дзелім 200 чалавек на 7 гадзін — атрымліваецца, ў гадзіну павінна прыйсці 28 з паловай чалавек, г. зн., кожных 2 хвіліны павінен прыходзіць выбаршчык. Нават чыстая арыфметыка паказвае, што такое немагчыма, пры тым, што сядзіць назіральнік і лічыць колькасць выбаршчыкаў.

Па нашых дадзеных, там, дзе мы назіралі, у першы дзень прыпісалі 50 чалавек, у другі — 50 чалавек, у трэці — 100. Атрымліваецца, за два дні прыпісалі 200 чалавек, а гэта 10% выбаршчыкаў.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80531*

## Паштоўкі за Лукашэнку разляцеліся на краіне. У Талачыне пададзена скарга на адсутнасць на іх выходных дадзеных

**09.10.2015**

Паштоўкі ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі атрымалі выбаршчыкі па ўсёй краіне.










У Бялынічах агітацыйную прадукцыю распаўсюджвалі супрацоўнікі мясцовых аддзяленняў РУП «Белпошта». Па словах супрацоўнікаў пошты, адпаведны загад яны атрымалі ад свайго кіраўніцтва.

Паштоўкі з факсімільным подпісам Аляксандра Лукашэнкі утрымліваюць тэкст: «Вместе мы создали независимую Беларусь! Вместе мы преодолеем любые невзгоды! Вместе мы построим счастливую и процветающую страну! Мы вместе!».

Мікалай Петрушэнка, актывіст з пасёлка Коханава, заўважыў, што на агітацыйнай паштоўцы няма належных выходных дадзеных. Пра гэта ён напісаў заяву ў Талачынскую раённую выбарчую камісію.

Сябар Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Мікалай Петрушэнка абураны:

– Абавязак чальцоў камісій – сачыць за выкананнем выбарчага заканадаўства! Кожны або амаль кожны з іх атрымаў такую ж паштоўку, як і я. Але чамусьці яны ўсе маўчаць. Нібыта не заўважаюць, што на зваротным баку толькі дробныя літаркі і лічбы, якіх без лупы і не разгледзіш! Зразумела толькі тое, што наклад паштоўкі – 2,5 мільёна штук. У той час як артыкул № 45 Выбарчага кодэкса патрабуе, каб на агітацыйнай прадукцыі былі пазначаны «назва і адрас арганізацыі (індывідуальнага прадпрымальніка), якая вырабіла агітацыйныя матэрыялы, нумар пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі вырабніка друкаваных выданняў і дата яго выдачы, наклад і нумар замовы, прозвішча і ініцыялы замоўніка».

Мікалай Петрушэнка напісаў заяву ў Талачынскую раённую камісію, каб там далі ацэнку факту з'яўлення на тэрыторыі раёна друкаванай прадукцыі без пазначэння выходных дадзеных, і каб праінфармавалі пра цэта Цэнтральную выбарчую камісію. Актывіст чакае разбіральніцтва па гэтым факце на пасяджэнні мясцовай камісіі па выбарах.

У Бярозе мясцовыя назіральнікі заўважылі, што шмат агітацыйных паштовак у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі жыхарамі проста выкідалася і зрабілі некалькі здымкаў з пад'ездаў бяразаўчан.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80528*

## У Брэсце назіральніцу кампаніі «Права выбару–2015» абвінавацілі ў крадзяжы пратакола

**09.10.2015**

Жанчына ўзяла яго, каб зрабіць копію, пра што паведаміла ахоўніку, які нічога не меў супраць.

У Брэсце назіральніца кампаніі назірання «Права выбару–2015» Ціханава па рашэнні ўчастковай выбарчай камісіі № 67 пазбаўлена акрэдытацыі за «паводзіны, не сумяшчальныя са статусам назіральніка».

Прычынай канфлікта стаў пратакол датэрміновага галасавання, які назіральніца зняла для вырабу копіі, паведаміўшы пра гэта супрацоўніку аховы. Калі раніцай назіральніца прынесла пратакол, то ёй паведамілі, што мае адбыцца пасяджэнне камісіі, на якім будзе разглядацца пытаннем аб пазбаўленні яе акрэдытацыі.

У пратаколе пасяджэння УВК сярод прычын пазбаўлення акрэдытацыі пазначаны пункт, які носіць відавочна дыскрымінацыйны характар: «Некампетэнтнасць у сувязі з узростам». Яшчэ адзін пункт, на які звяртаецца ўвага ў пратаколе – гэта «крадзеж пратакола». Вырашальным фактарам у высвятленні рашэння стала скарга назіральніка Мухіна, у якой ён сцвярджае аб «некампетэнтнасці і нявыхаванасці» назіральніцы Ціханавай.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/148-u-bresce-nazralnka-kampan-prava-vybaru-2015-abvnavacl-kradzyazhy-pratakola.html*

## У Барысаве звольнілі назіральніцу Таццяну Шаўчэнкаву: «Вы працуеце ў дзяржустанове, заробак вам плаціць дзяржава. І куды вы палезлі?»

**09.10.2015**

9-га кастрычніка з Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва ў Барысаве «па пагадненні бакоў» звольнілі Таццяну Шаўчэнкаву, якая з'яўляецца назіральнікам «Права выбару–2015» на ўчастку № 41 (вул. Чапаева, 19, ДУСУ «Барысаўская СДЮШАР»),

– Сёння мяне выклікала дырэктар Цэнтра і пранавала неадкладна звольніць мяне па пагадненні бакоў. Але я зразумела, што калі не падпішу па пагадненні бакоў, то пачнецца траўля – мне гэта абсалютна не трэба, у мяне для гэтага слабыя нервы. Пад мяне пачалі капаць, таму маглі проста звольніць па службовай неадпаведнасці, – распавяла Таццяна Шаўчэнкава.

Назіральніца ў шоку ад імклівасці звальнення: у яе на руках 10-ігадовы сын, якога яна выхоўвае адна.

– Мне было сказана так: «Вы працуеце ў дзяржустанове, заробак вам плаціць дзяржава. І куды Вы палезлі? Хацелі падзарабіць? Тады хай яны цяпер Вас і кормяць; Вы свабодны, пішыце заяву, – пераказала словы дырэктаркі Таццяна Шаўчэнкава.

Асаблівых парушэнняў на ўчастку № 41 назіральнікі за 6–8 кастрычніка не выявілі, сёння на ўчастку дзяжурыць яе напарнік.

– Я сёння адрабляю апошні працоўны дзень, з панядзелка я ўжо не працую. Я ўжо і працоўную кніжку забрала – усё адбылося настолькі хутка і аператыўна, – адзначыла Таццяна Шаўчэнкава.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/147-u-barysave-sennya-zvolnl-nazralncu-taccyanu-shachenkavu-vy-pracuece-dzyarzhustanove-zarobak-vam-plocc-dzyarzhava-kudy-vy-palezl.html*

## У Бабруйску старшыню ўчастковай камісіі пакаралі за адмову ў акрэдытацыі двух назіральнікаў

**09.10.2015**

Старшыня Ленінскай раённай у г. Бабруйску выбарчай камісіі Ірына Епіфанава сёння аб'явіла заўвагу старшыні ўчастковай камісіі ўчастка для галасавання № 28 Кацярыне Еўстратчык за неабгрунтаваную адмову ў акрэдытацыі двух назіральнікаў ад АГП.

Як паведаміў старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Шанцаў, старшыня ўчастковай камісіі Кацярына Еўстратчык спачатку не дапусціла да назірання накіраваную партыяй Таісію Кабанчук.

– Яна спачатку акрэдытавала ў якасці назіральніка ад нашай партыі Кабанчук, а праз гадзіну выставіла яе з выбарчага ўчастка на той падставе, што ў пратаколе не пазначаны яго нумар і не надрукаваныя цалкам імя і імя па

бацьку старшыні і сакратара пасяджэння выбарнага органа, няма пячаткі (а ў арганізацыі пячаткі няма), а таксама няправільна аформлена «шапка» бланка абласной арганізацыі АГП. Пры гэтым адмовілася прыняць скаргу ад Кабанчук, патлумачыўшы гэта тым, што запіс пра яе акрэдытацыю быў зроблены па памылцы, – распавёў сп. Шанцаў.

Паводле яго, праз некаторы час ад партыйнай арганізацыі на ўчастак быў накіраваны іншы назіральнік, Генадзь Родзічаў, з аформленымі па патрабаванні старшыні ўчастковай камісіі дакументамі. Аднак і яго Кацярына Еўстратчык адмовілася акрэдытаваць, спаслаўшыся на адсутнасць пячаткі арганізацыі. Уладзімір Шанцаў звярнуўся ў Цэнтральную выбарчую камісію.

Адказ кіраўніку абласной арганізацыі АГП сёння прыйшоў з Ленінскай раённай у г. Бабруйску выбарчай камісіі.

– Па сутнасці, пратакол ад 2015/10/01 і выпіска з пратакола пасяджэння Рады Магілёўскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі ад 2015/10/06 № 16 аб накіраванні Родзічава Г. і Кабанчук Т. ў якасці назіральнікаў на ўчастак для галасавання № 28 адпавядаюць патрабаванням Палажэння аб парадку накіравання назіральнікаў пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 20 ад 1 ліпеня 2015 года, зацверджанага пастановай Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, – паведаміла Шанцаву старшыня раённай камісіі Ірына Епіфанава.

Згодна дадзенаму адказу, Кацярыне Еўстратчык аб'яўлена заўвага і ўказана на адсутнасць перашкод для ажыццяўлення Генадзем Родзічавым і Таісіяй Кабанчук назірання за ходам галасавання на ўчастку № 28.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/145-u-babruysku-starshynyu-chastkovay-kams-pakaral-za-admovu-akredytacy-dvum-nazralnkam.html*

## «Мінсквадаканал» выклікае з адпачынка супрацоўнікаў, якія ўдзельнічаюць у назіранні

**09.10.2015**

«Мінсквадаканал» тэрмінова патрабуе выйсці на працу назіральнікаў ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў межах кампаніі «Права выбару–2015», пры гэтым ім пагражаюць праблемамі на працы.

Так, раніцай 8 кастрычніка з прадпрыемства патэлефанавалі назіральніцы Аксане Кавальковай (26-ы ўчастак, Заводскі раён), якая з 5-га кастрычніка знаходзіцца ў адпачынку, і папрасілі яе выйсці на працу. Пасля яе адмовы да яе на ўчастак у працоўны час прыехалі адна жанчына і два мужчыны, якія ўмалялі яе выйсці на працу, кажучы, што інакш іх звольняць. Але на гэта назіральніца заявіла, што хай яе звальняюць, але з адпачынку яна выходзіць не будзе.

Выйсці яе прасілі на 9-11-га кастрычніка з 08:00 да 20:00, нібыта на месячнік па добраўпарадкаванні. Пры гэтым Аксане Кавальковай сказалі, што ра-

біць ёй нічога не трэба будзе – можна будзе пасядзець пачытаць кнігу. Пры гэтым узгаданыя асобы ведаюць, ад якой арганізацыі назірае супрацоўніца. Тэлефанаванні назіральніцы працягваліся і 9-га кастрычніка.

– Я абураная такой сітуацыяй. Цісне кіраўніцтва, прыязджаюць людзі ў мой законны адпачынак. Пры тым, што я сачу за выкананнем законнасці на выбарах, – адзначыла назіральніца.

Яшчэ адзін назіральнік ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, які таксама працуе на «Мінскводаканале», мусіў адмовіцца ад назірання.

– Мы будзем узмацняць назіранне на ўчастках, дзе адбываецца такі ціск, бо зразумела, што робіцца гэта, каб схаваць фальсіфікацыі, – адзначыла каардынатарка Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі па г. Мінску, дачка назіральніцы Вольга Кавалькова.

*Крыніца:*
*Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя*
*http://bchd.info/9953-menakanal-yliae-s-adpachynu-upraconia-yaiya-dselnichayuc-u-nasiranni.html*

## Бабруйск: за адмову прагаласаваць датэрмінова жыхары «могуць выляцець з інтэрната»

**09.10.2015**

Незалежным назіральнікам, якія працуюць на выбарчым участку № 69 (ён, разам з участкам № 70, размешчаны ў школе № 8), сталі вядомы факты прымусу выбаршчыкаў да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні.

Аб тым, што камендант настойліва рэкамендаваў прагаласаваць датэрмінова, назіральнікам расказалі жыхары інтэрната № 10 па вуліцы 50 год ВЛКСМ.

Назіральнікам падалося дзіўным, што 8 кастрычніка яўка на ўчастку заўважна павялічылася, людзі ішлі цэлымі кампаніямі. Маладыя людзі, жыхары інтэрната № 10, распавялі, што «могуць вылецець з інтэрната», калі не прагаласуюць датэрмінова.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80502*

## Сябра Мінскай гарадской выбарчай камісіі выкрыў маніпуляцыі з бюлетэнямі для галасавання

**09.10.2015**

Сябра Мінскай гарадской выбарчай камісіі ад Партыі БНФ Зміцер Каспяровіч выкрыў маніпуляцыі з бюлетэнямі. Ён вырашыў абыйсці ўчастковыя камісіі і зверыць колькасць выдадзеных выбарцам бюлетэняў і рэальную колькасць подпісаў выбарцаў, якія атрымалі бюлетэні і ўласнаручна распісаліся за гэта ў спісе выбаршчыкаў.

Па стане на раніцу 8 кастрыніка, на выбарчым участку № 25 Савецкага раёна Мінска было выдадзена 146 бюлетэняў, аднак распісалася за іх атрыманне ўсяго 109 чалавек.

На выбарчым участку № 26 гэтага ж раёна Мінска быў выдадзены 351 бюлетэнь, аднак распісалася за іх 162 выбаршчыкі.

Раніцай 9 кастрычніка на выбарчым участку № 49 Савецкага раёна Мінска, за тры дні датэрміновага галасавання, было выдадзена 308 бюлетэняў, аднак у журнале выдачы бюлетэняў было ўсяго 170 подпісаў выбаршчыкаў.

У сувязі з інцыдэнтам прадстаўнік кампаніі «Права выбару–2015» накіраваў дакладную запіску на імя старшыні гарадской выбарчай камісіі.

Адзін з каардынатараў кампаніі «Права выбару–2015» Дзяніс Садоўскі лічыць, што таму ўлада і не ўключае ў склад камісій рознага ўзроўню прадстаўнікоў дэмакратычных партый і арганізацый, каб было цяжэй ускрыць падобныя факты маніпуляцый з бюлетэнямі для галасавання.

– Выяўленыя парушэнні сведчаць пра тое, што членамі ўчастковых выбарчых камісій штучна завышаюцца паказчыкі яўкі выбаршчыкаў і адбываецца ўкід бюлетэняў, – гаворыць Дзяніс Садоўскі.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/144-syabra-mnskay-garadskoy-vybarchay-kams-vykry-manpulyacy-z-byuletenyam-dlya-galasavannya.html*

## У Гарадку назіральнік «Права выбару–2015» запатрабаваў адстаўкі старшыні раённай выбарчай камісіі

**09.10.2015**

Леанід Гаравы атрымаў рашэнне камісіі толькі праз 14 дзён пасля рэгістрацыі сваёй скаргі.

8 кастрычніка, пасля запозненай рэакцыі на пададзеныя Леанідам Гаравым у Гарадоцкую раённую камісію па выбарах Прэзідэнта скаргі, назіральнік запатрабаваў ад Віцебскай абласной камісіі па выбарах прыцягнуць старшыню Гарадоцкай раённай камісіі да адказнасці і замяніць яе больш кампетэнтным і адказным чалавекам.

Як паведамлялася раней, 23 верасня Леанід Гаравы на шэрагу ўчасткаў г. Гарадка сутыкнуўся з самавольным складаннем участковымі камісіямі спісаў выбаршчыкаў для галасавання па месцы іх знаходжання. У гэтыя спісы без згоды грамадзян былі ўнесены ад 87 да 360 выбаршчыкаў. У сувязі з парушэннем Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, у Гарадоцкую раённую камісію па выбарах Прэзідэнта 24 верасня было пададзена некалькі скаргаў, разгляд якіх увесь час адкладаўся з фармальных, бюракратычных прычын.

У выніку толькі пасля звароту 2-га кастрычніка назіральніка кампаніі «Права выбару–2015» у Пракуратуру Гарадоцкага раёна ў той жа дзень а 17:15 адбылося пасяджэнне раённай камісіі па выбарах, на якое скаржніка, парушаючы нормы выбарчага заканадаўства, ніхто не запрасіў. Пра гэта пасяджэнне раённай камісіі, на якім была разгледжана толькі адна скарга (ад-

носна парушэння заканадаўства Баграмянаўскай участковай камісіяй № 1), Леанід Гаравы даведаўся толькі 5-га кастрычніка.

У гэты ж дзень ён папрасіў старшыню камісіі Наталлю Берасневу выдаць яму копію рашэння ад 2 кастрычніка. На законную просьбу старшыня камісіі адказала адмовай, спаслаўшыся на тое, што 3 кастрычніка адправіла адмысловы ліст па пошце. 6 кастрычніка ў сваёй паштовай скрыні праваабаронца знайшоў толькі адказ з Гарадоцкай пракуратуры на скаргу ад 2 кастрычніка.

І толькі 7 кастрычніка (на чатырнаццаты дзень), Леанід Гаравы атрымаў копію рашэння пасяджэння раённай камісіі праз пошту. Назіральнік лічыць гэта грубым парушэннем заканадаўства. Да таго ж, на 8-га кастрычніка не былі разгледжаны яшчэ чатыры скаргі, датычныя гэтага ж парушэння.

8 кастрычніка ў сувязі з тым, што раённая камісія па выбарах не знайшла ніякага парушэння з боку ўчастковай Баграмянаўскай камісіі № 1, Леанід Гаравы падаў скаргу ў Віцебскую абласную камісію па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у якой заяўляе аб парушэнні беларускага заканадаўства старшынёй Гарадоцкай раённай камісіі.

Вось, што кажа пра сітуацыю сам Леанід Гаравы:

– Дадзеныя факты сведчаць пра фармалізм, бюракратызм і цяганіну ў дачыненні да скаргі з боку грамадзянкі Берасневай Н.У., што з'яўляецца грубым парушэннем заканадаўства аб зваротах грамадзян і нормаў выбарчага заканадаўства. У камісіі таксама, па стане на 8 кастрычніка, не разгледжаны яшчэ чатыры маіх скаргі аб самавольнай арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў участковымі камісіямі №№ 2, 4, 5, 6 Гарадоцкага раёна.

У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам я патрабую:

1. Прыцягнуць Берасневу Н.У. да адказнасці, прыдугледжанай беларускім заканадаўствам.

2. Правесці пасяджэнне Гарадоцкай раённай камісіі з парадкам дня аб адстаўцы Берасневай Н.У. з пасады старшыні Гарадоцкай раённай камісіі і абранні больш адказнага, кампетэнтнага старшыні».

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/142-u-garadku-nazralnk-prava-vybaru-2015-zapatrabava-adstak-starshyn-raennay-vybarchay-kams.html*

## Як адбываецца перадвыбарчая агітацыя на Брэсчыне

**09.10.2015**

Да 11 кастрычніка засталося некалькі дзён, і частка брасчанаў ўжо паспела вызначыцца з выбарам прагаласаваць за таго ці іншага кандыдата. Агітацыйная і інфармацыйная кампанія ўсё яшчэ працягваецца ў Брэсцкай вобласці. Ці прыкметна яна для простага беларуса?

У абласным цэнтры ўсе вітрыны ўстаноў і крамаў рознай формы ўласнасці запоўненыя інфармацыйнымі плакатамі. Іх таксама можна набыць у кнігар-

нях Брэста, якія ўваходзяць у сетку ААТ «Брэсткніга». Маленькія – за 11 000 бел. руб., сярэднія – за 16 000 бел. руб..

Як распавяла загадчыца адной з крамаў, іх купляюць арганізацыі і прадпрыемствы, якім Цэнтральная выбарчая камісія не выдаткавала такія плакаты. Напрыклад, прадпрыемства «ЖКГ» масава закупіла інфармацыйныя плакаты аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. «На якія сродкі яны гэта зрабілі і чаму ЦВК не забяспечыла інфармацыйнымі матэрыяламі, на якія выдаткоўваюцца сродкі?» – адказ на гэтае пытанне ніхто з работнікаў крамаў не ведае.





У самім Брэсце размяшчаць плакаты можна на інфармацыйных стэндах і вітрынах прадпрыемстваў і ўстаноў усіх форм уласнасці пасля вуснага ўзгаднення з кіраўніцтвам. Рашэнне гарвыканкама дазваляе мясцовым кіраўнікам самастойна «даваць дабро» аб прадастаўленні месцаў для нагляднай агітацыі. Па словах даверанай асобы кандыдата ў Прэзідэнты Таццяны Караткевіч, адміністратары або самастойна прымаюць рашэнні, або, спасылаючыся на вышэйшае кіраўніцтва, адмаўляюць у размяшчэнні плакатаў. Праз тое, што працэдура ўзгаднення можа заняць шмат часу, без плакатаў засталіся дзяржаўныя аптэкі і крамы буйных сетак.

Брасчане могуць убачыць плакаты кандыдата ў Прэзідэнты Сяргея Гайдукевіча на гарадскіх інфармацыйных тумбах, Таццяны Караткевіч – на выбарчых участках і вітрынах крамаў, Аляксандра Лукашэнкі – у прадпрыемствах гандлю.

Рашэнне аб выдзяленні месцаў раённыя выканаўчыя камітэты прымаюць самастойна і рамкі Выбарчага кодэкса тлумачацца ў кожным раёне своеасабліва. Калі праверыць ўсе раённыя рашэнні па шкале лаяльнасці да дэмакратыі, то Кобрынскі раён апынецца найбольш дэмакратычным: агітацыйныя матэрыялы можна размяшчаць на інфармацыйных стэндах і вітрынах прадпрыемстваў любых форм уласнасці.

Праўда, агітацыйнай прадукцыі ў горадзе мала: заўважны інфармацыйныя плакаты аб даце выбараў і адзінкавыя плакаты кандыдатаў Караткевіч і Лукашэнкі. Праблемы ў перадвыбарчых штабаў узнікаюць толькі з аб'ектамі гандлю сеткі «Еўраопт»: адміністратары спасылаюцца на забарону любой рэкламы без узгаднення з галаўным офісам.

Мінімум перадвыбарчай свабоды і наогул згадак пра выбары – у Драгічынскім раёне. Пустыя вітрыны крамаў і пошты. Толькі ў цэнтры горада па доўгай расцяжцы ў гарадскім парку разумееш, што ў краіне выбары. Рашэннем Драгічынскага райвыканкама прадугледжана пісьмовае ўзгадненне пры размяшчэнні матэрыялаў. Працэдура ўзгаднення, вядома ж, не прадугледжаная, што дае магчымасць пры дапамозе бюракратычнай машыны перашкаджаць агітацыі. У выніку жыхары горада Драгічына могуць убачыць толькі агульныя інфармацыйныя плакаты на ўчастках і адзінкавыя плакаты Таццяны Караткевіч на адзінай гарадской тумбе.

Бярозаўскі райвыканкам у сваім рашэнні прадугледзеў, што ўзгадненне павінна быць вусным. На вітрынах прадпрыемстваў гандлю і ўстановах сферы абслугоўвання ёсць інфармацыйныя плакаты. Улічваючы той факт, што сетка крамаў мае аднаго ўласніка, дазвол на размяшчэнне было атрымаць нескладана.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/141-yak-adbyvaecca-peradvybarchaya-agtacyya-na-berasceyshchyne.html*

## Толькі падчас датэрміновага галасавання высветлілася: салігорская выбарчая камісія № 19 цалкам сфармавана з педагогаў начале з дырэктарам

**10.10.2015**

Падчас ажыццяўлення назірання прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага Камітэта высветліў, што ўвесь склад салігорскай выбарчай камісіі на ўчастку № 19 сфармаваны з супрацоўнікаў школы № 1.

– Усяго ў склад выбарчай камісіі ўваходзіць адзінаццаць чалавек. Знаходзіцца яна ў памяшканні салігорскай сярэдняй школы № 1. Старшынёй камісіі з'яўляецца дырэктарка школы Валянціна Каштальян. Выявілася, што з ліку сябраў камісіі толькі адзін, магчыма, ужо і не з'яўляецца працаўніком школы. Гэта былы дырэктар навучальнай установы, а цяпер пенсіянер. Усе астатнія – педагогі і бібліятэкарка, якія з'яўляюцца падначаленымі дырэктаркі школы Каштальян, – кажа прадстаўнік БХК ў рэгіёне Леанід Мархотка.

Варта адзначыць, што фармальна ўсе работнікі школы на чале са спадарыняй Каштальян аформленыя ў сябры выбарчай камісіі пратаколамі ад розных праўладных грамадскіх арганізацый і шляхам збору подпісаў.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80582*

## «Карусельшчыкі», якім плацілі за выбары, збілі назіральніка і спрабавалі забраць у яго ноўтбук

**10.10.2015**

Падчас датэрміновага галасавання на выбарчым участку № 24 г. Мінска назіральнікі зафіксавалі двух «карусельшчыкаў» і ўбачылі, як ім плацілі грошы за фіктыўны ўдзел у выбарах. На назіральніка ад АГП Мікалая Казлова, які пачаў пераслед «карусельшчыкаў», на вуліцы Багдановіча напалі і спрабавалі адабраць у яго ноўтбук. Назіральнік выклікаў міліцыю і патрабуе завядзення крымінальнай справы.

Мікалай Казлоў распавёў карэспандэнту «Свабоды», што з ім адбывалася на 24-ым участку 10-га кастрычніка:

— Да 12 гадзінаў нібыта было ўсё нармальна, ішло звычайнае датэрміновае галасаваньне — то бок, людзі пакрыху падыходзяць, галасуюць. І раптам маю ўвагу прыцягнуў адзін выбаршчык сталага веку: на ім быў капялюш яўна не ягонага памеру і паводзіў ён сябе на ўчастку неяк няўпэўнена. Але зарэгістраваўся, кінуў бюлетэнь. На выхадзе я падыйшоў да яго і папрасіў паказаць дакументы, а міліцыянера, які дзяжурыць на ўчастку, папрасіў іх праверыць. Ці сапраўды ён тут жыве і мае права тут галасаваць? Але міліцыянт і супрацоўнікі выбарчай камісіі адмовіліся правяраць, сказалі, што на гэта ў іх няма права. Той чалавек адразу сышоў, а я пайшоў за ім. На вуліцы Багдановіча ўбачыў, што ён далучыўся да кампаніі такіх жа, як ён, людзей сталага веку, недзе іх было 4-5, у тым ліку жанчына. Я пайшоў за імі і пазней убачыў, як ужо іншая жанчына, маладзейшая, дае ім грошы — тым, якія ўжо прагаласавалі. Пачаў здымаць іх праз ноўтбук і тады двое з іх на мяне накінуліся, ударылі па нагах, спрабавалі адабраць ноўтбук. Цяпер я знаходжуся на выбарчым участку, выклікаў сюды аператыўна-следчую групу і чакаю, калі прыедуць. Хачу хадайнічаць, каб завялі крымінальную справу на »карусельшчыкаў» за напад і тое, што яны ўдзельнічалі ў фальсіфікацыі выбараў. Цяпер я дакладна ведаю, што ім плацяць за гэта грошы і падазраю, што супрацоўнікі выбарчай камісіі могуць у гэтым удзельнічаць, — сказаў Мікалай Казлоў.

Паводле Мікалая Казлова, два дні таму на выбарчы ўчастак № 24 ужо прыходзіла 6 «карусельшчыкаў», але прагаласаваць ім не ўдалося . «Ім, відаць, падалі сыгнал, што тут назіральнікі, і яны сышлі. На вуліцы я засняў іх твары на відэа, яно выкладзенае на сайце АГП — «карусельшчыкаў» можна вызначыць. Між тым, у камісіі на мяне за гэта склалі пратакол, што нібыта перашкаджаю выбаршчыкам. Магчыма, камісія захоча пазбавіць мяне акрэдытацыі назіральніка», — распавядаў Мікалай Казлоў 9-га кастрычніка.

Мікалай Казлоў — актывіст АГП, былы падпалкоўнік міліцыі, які на парламенцкіх выбарах 2008 года выкрыў укідванне фальшывых бюлетэняў падчас датэрміновага галасавання, пасля чаго быў звольнены з міліцыі.

*Крыніца:*
*Радыё Свабода*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80575*

## У Клецкім раёне скрыні для галасавання захоўваюцца ў неапячатаным памяшканні

**10.10.2015**

За чатыры дні датэрміновага галасавання ні разу не апячатваліся дзверы на ўчастку № 18 у вёсцы Гурнаўшчына Клецкага раёна, дзе захоўваюцца скрыні для галасавання.

Назіральніца Наталля Бордак зрабіла фотаздымкі неапячатанага пакоя, якія дырэктар школы і ён жа – старшыня ўчастковай камісіі прымусіў назіральніцу выдаліць.

– Усе гэтыя дні дзверы пакоя, дзе захоўваюцца скрыні для галасававання, не апячатваюцца: ні наноч, ні на перапынак. Ніводнага дня, ніводнага абеда дзверы не апячатваліся. Я сфатаграфавала гэтыя дзверы. Якраз праходзіў дырэктар школы, ён жа – старшыня камісіі, які заявіў, што я не маю права фатаграфаваць і прымусіў мяне выдаліць фотаздымкі. І прыгразіў пазбаўленнем акрэдытацыі, – распавяла Наталля Бордак карэспандэнту «Права выбару–2015».

Наталля Бордак напісала скаргу на самаўпраўства старшыні камісіі.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/155-u-kleckm-raene-skryn-dlya-galasavannya-zahovayucca-nezatknenym-pako.html*

## Кандыдат у Прэзідэнты патрабуе адстаўкі старшыні камісіі, які не дае працаваць назіральніцы ад «Права выбару–2015»

**10.10.2015**

Таццяна Караткевіч, кандыдат у Прэзідэнты Беларусі, звярнулася ў ЦВК з патрабаваннем вывесці са складу ўчастковай выбарчай камісіі № 65 Першамайскага раёна Мінска яе старшыню Аляксандра Яўсеева.

– Прашу ЦВК паставіць перад адміністрацыяй Першамайскага раёна Мінска пытанне пра вывад са складу ўчастковай выбарчай камісіі № 65 яе старшыню Аляксандра Яўсеева, – сказана ў звароце.

8 кастрычніка назіральніцу кампаніі «Права выбару–2015» Марыю Паклонскую двойчы за дзень пазбавілі акрэдытацыі.

У штабе Караткевіч лічаць, што пазбаўленне акрэдытацыі было незаконным. Акрамя таго, былі дапушчаны і іншыя парушэнні: адсутнасць інфармаванне пра пасяджэнне камісіі і разгляд скаргаў назіральнікаў, спробы правядзення паўторнага галасавання камісіі для дасягнення адзінагалоснага рашэння.

– Акрамя таго, давераныя асобы кандыдата ў Прэзідэнты знайшлі, што Яўсееў няправільна афармляе пратакол пра датэрміновае галасаванне. У пратаколе за 7 кастрычніка, які быў вывешаны на выбарчым участку, у графе пра колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі датэрмінова, былі



ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАМІСІЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

ЦЕНТРАЛЬНАЯ КОМИССИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ВЫБОРАМ И ПРОВЕДЕНИЮ РЕСПУБЛИКАНСКИХ РЕФЕРЕНДУМОВ

Коротькевич Т.Н.

г. Минск

Уважаемая Татьяна Николаевна!

Сообщаем, что Ваше заявление по вопросу прекращения полномочий председателя участковой комиссии по выборам Президента Республики Беларусь участка для голосования №65 Первомайского района г. Минска направлено для рассмотрения в соответствии с частью третьей статьи 36 Избирательного кодекса Республики Беларусь в администрацию Первомайского района г. Минска с просьбой о результатах рассмотрения Вас проинформировать.

Председатель комиссии Л.М. Ермошина



Коротькевич Т.Н.

220006, г. Минск

Уважаемая Татьяна Николаевна!

Администрация Первомайского района г. Минска рассмотрела Ваше обращение от 09.10.2015 г. поступившее в Центральную комиссию Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов и благодарит за высказанное предложение. В дальнейшем оно будет учтено при формировании комиссии.

Одновременно сообщаем, в соответствии со ст. 44 Избирательного кодекса Республики Беларусь полномочия участковой комиссии прекращаются после завершения на территории участка для голосования выборов Президента Республики Беларусь.

Глава администрации И.А.Кудревич

запісаныя дадзеныя не за 7 кастрычніка, а сумарныя за 6 і 7 кастрычніка, – адзначана ў заяве.

Штаб кандыдата паведамляе, што гэтая памылка так і не была выпраўлена, у тым ліку пасля звароту давераных асоб, на заўвагі якіх старшыня камісіі не рэагаваў.

– Яўсееў прадэманстраваў поўную прафесійную непрыдатнасць у якасці старшыні ўчастковай камісіі і не можа ў далейшым выконваць гэтыя паўнамоцтвы без шкоды для правядзення выбараў, – падкрэсліла Таццяна Караткевіч.

У тым ліку, лічаць аўтары зварота, Яўсееў не можа не толькі кіраваць камісіяй, але і працаваць у яе складзе ў якасці шэраговага сябра.

– Прафесійнасць старшыняў камісій павінна жадаць трохі лепшага, – пракаментаваў зварот адзін з нацыянальных каардынатараў кампаніі «Права выбару–2015» Алесь Сілкоў. «Па выніках назірання, – кажа ён, – мы бачым, што некаторыя старшыні ніколі ў жыцці не адкрывалі Выбарчы кодэкс».

– Ім давялі, што яны асноўныя людзі на ўчастку, і яны інтэрпрэтуюць законы, як хочуць, – падкрэсліў Сілкоў.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/154-kandydat-u-prezdenty-patrabue-adstak-starshyn-kams-yak-ne-dae-pracavac-nazralncy-ad-prava-vybaru-2015.html*

## Гродзеншчына: на ўчастках без назіральнікаў яўка зашкальвае

**10.10.2015**

Большасць участкаў Гродзеншчыны, дзе няма незалежнага назірання, запоўнілі «выбаршчыкі». У школы і каледжы нагналі студэнтаў і папрыходзілі пенсіянеры.

За першыя тры дні працэнт прагаласаваўшых склаў больш за 20. За першыя дні з 1 800 – 2 000 выбаршчыкаў, што павінны галасаваць на гэтых участках, прагаласавала 300 – 450 чалавек. А там, дзе сядзяць назіральнікі ад кампаніі «Права выбару–2015», ці людзі, што вылучаліся зборам подпісаў, яўка засталася ў межах, пра якія піша сайт ЦВК Беларусі.

На маладых журналістаў, што назіраюць ад кампаніі «Права выбару–2015» у Гродне, «наехала» старшыня камісіі, якая паабяцала выгнаць іх з участка, калі яны нешта напішуць пра выбары на незалежных сайтах. У Слоніме выгналі двух назіральнікаў. На ўчастку № 33 г. Гродна старшыня камісіі на ноч з 7 на 8 кастрычніка не апячатвала памяшканне. Да таго ж не жадае падаваць афіцыйныя дадзеныя агульнай колькасці выбаршчыкаў.

Пра тое, як адбываецца незалежнае назіранне, распавядае Сяргей Трафімчык, абласны міжпартыйны каардынатар кампаніі «Права выбару–2015»:

– За некалькі дзён я праехаў больш за 60 участкаў і ўлады рэагуюць вельмі карэктна. Дзесьці выпраўляюць памылкі, дзесьці кажуць, што дзейнічаюць у рамках заканадаўства. На некаторых участках у Слоніме было заўважана, што старшыні камісій даволі нервова рэагуюць на заўвагі. Нават былі моманты, калі пазбаўлялі акрэдытацыі назіральнікаў праз розныя такія дробязі. Паказальным таксама з'яўляецца выпадак у адзінай на Гродзеншчыне камісіі, куды патрапіла жанчына-прадстаўніца дэмакратычнай супольнасці Слонімшчыны. Гэту жанчыну не адпускаюць з яе афіцыйнай працы, куды яна нядаўна ўладкавалася, на працу ў выбарчай камісіі. З гэтым момантам мы будзем працаваць і дамагацца, каб яна змагла выконваць свае абавязкі ў камісіі.

Большасць незалежных назіральнікаў з Лідчыны канстатуюць, што на выбары ідуць у асноўным людзі пенсійнага ўзросту. Былі такія выпадкі, што на ўчастак прыходзілі людзі і па 85 і па 90 гадоў. Гэта ў асноўным старэйшыя бабулькі, на якіх уздзейнічае прапаганда. Назіральнік з Бярозаўкі, сябра Партыі БНФ Вітольд Ашурка канстатуе:

– Людзі настолькі старыя, што іншы раз яны проста не бачаць, куды ставіць тую галачку. Яны пытаюць: «Дзе Лукашэнка?». Я заплюшчваю вочы, калі іх сяброўкі дапамагаюць ім знайсці Лукашэнку. Такое ўражанне, што гэта апошнія выбары, на каторых электарат Лукашэнкі праявіць сябе на ўсю моц.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/153-garadzenshchyna-na-chastkah-bez-nazralnka-yaka-zashkalvae.html*

## У Оршы датэрмінова прагаласаваць «запісаўся» памерлы ў верасні мужчына

**11.10.2015**

Пра гэта паведамляе назіральніца кампаніі назірання «Права выбару—2015» Вольга Булай.

11 кастрычніка ўчастковая выбарчая камісія № 8 у Оршы паведаміла, што прагаласаваць па месцы знаходжання выявілі жаданне 350 чалавек з 1 904 выбаршчыкаў на ўчастку. Гэта лічба складае больш за 18 % ад агульнай колькасці.

Камісія прыняла рашэнне адправіць дзве мабільныя групы ў колькасці па два чалавекі кожная для галасавання па месцы знаходжання. Першая мабільная група з ліку членаў участковай выбарчай камісіі мусіць ахапіць 300 выбаршчыкаў, другая — 50.

Назіральнікаў кампаніі «Права выбару—2015» для назірання працэдуры галасавання па месцы знаходжання ніхто з сабой не ўзяў, аднак яны здолелі прасачыць за тым, куды паехала мабільная група, якая мусіла абыйсці 50 выбаршчыкаў. Калі камісія абыходзіла адрасы грамадзян, якія запісаліся для галасавання па месцы знаходжання, пяты з такіх грамадзян аказаўся памерлым яшчэ ў верасні.

У адпаведнасці з ч. 2 арт. 54 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, для таго, каб прагаласаваць па месцы сайго знаходжання, выбаршчык мусіць звярнуцца да сябраў участковай камісіі ў вуснай альбо пісьмовай форме да пачатку галасавання.

Трэба таксама адзначыць, што, каб паспець да ўсіх 300 выбаршчыкаў, якія нібыта пажадалі прагаласаваць па месцы знаходжання, камісія мусіць траціць на кожнага з іх па 2,4 хвіліны без перапынку.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/163-u-orshy-datermnova-pragalasavac-zapsasya-pamerly-verasn-muzhchyna.html*

## У Магілёўскай вобласці ўчастковыя камісіі засакрэцілі колькасць выбаршчыкаў

**11.10.2015**

— Старшыні ўчастковых камісій адмаўляюцца даваць лічбы па колькасці зарэгістраваных на ўчастку выбаршчыкаў, — паведаміў міжпартыйны каардынатар кампаніі «Права выбару—2015» па Магілёўшчыне Алег Аксёнаў.

— Сёння шмат на якіх участках павялічылася разбежка паміж дадзенымі камісій і назіральнікаў пра колькасць тых, хто прагаласаваў. Акрамя таго, старшыні камісій захоўваюць у таямніцы, колькі выбаршчыкаў зарэгістравана на ўчастках. Гэта значыць, што пра празрыстыя выбары размовы ніякай не ідзе. Калі нават такія лічбы трымаюць у таямніцы, — распавёў Алег

Аксёнаў, адзначыўшы, што лягчэй пералічыць тыя камісіі, якія далі звесткі назіральнікам, чым тыя, якія адмовіліся гэта зрабіць.

Па словах каардынатара, на некаторых участках памяняліся памяшканні, дзе праходзіць галасаванне, і шмат дзе месцы назіральнікам адведзеныя такія, з якіх амаль нічога не бачна.

– Колькасць скаргаў, пададзеных нашымі назіральнікамі, перавысіла сотню. Скаргі падаем не толькі старшыням участковых камісій, але і ў тэрытарыяльныя камісіі, калі справа тычыцца больш сур'ёзных парушэнняў, – распавёў Алег Аксёнаў, паведаміўшы, што ўжо быў адзін выпадак, калі скаргу ў назіральніка не прынялі, спаслаўшыся на тое, што яна падпісана іншым назіральнікам.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/168-u-magleskay-voblasc-chastkovyya-kams-zasakrecl-kolkasc-vybarchshyka.html*

## Тэрытарыяльная камісія аднавіла акрэдытацыю назіральніка ад «Права выбару–2015»

**11.10.2015**

Раніцай 11-га кастрычніка на ўчастку № 38 Першамайскага раёна г. Мінска акрэдытацыі была пазбаўлена назіральніца ад «Права выбару–2015» Марына Кулагіна. Яна абскардзіла гэта ў тэрытарыяльнай камісіі, якая аднавіла яе ў правах.

– У першыя дні датэрміновага галасавання камісія дазваляла Кулагінай фатаграфаваць на ўчастку. Сёння зраніцы, да таго, як участак адкрыўся, яна сфатаграфавала пустое памяшканне, проста інтэр'ер, – распавёў прэс-службе «Права выбару–2015» намеснік старшыні мінскай гарадской арганізацыі партыі БСДП (Грамада) Аляксей Сігаеў.

Паводле ягоных слоў, назіральніцы адразу вынеслі папярэджанне, правялі пасяджэнне камісіі, на якім прынялі рашэнне аб выдаленні. Усё гэта адбылося 11-га кастрычніка прыкладна а 8-ай гадзіне раніцы. Гэтае рашэнне Марына Кулагіна абскардзіла ў вышэйшай камісіі – тэрытарыяльнай.

– Ёй патэлефанавалі з ТВК і паведамілі, што акрэдытацыю аднаўляюць. Але яна павінна напісаць распіску, што не будзе больш фатаграфаваць, – адзначыў Сігаеў.

– Кулагіна накіравалася на ўчастак, – дадаў прадстаўнік партыі, – напэўна, ужо напісала распіску.

Адзначым, што гэта рэдкі выпадак – аднаўленне акрэдытацыі назіральніка, хаця і з дзіўнымі ўмовамі. Так, назіральнік ад «Права выбару–2015», сябра «Руху «За Свабоду» Пётр Маркелаў быў пазбаўлены акрэдытацыі 7 кастрычніка. З таго часу ён ужо прайшоў дзве інстанцыі – тэрытарыяльную і гарадскую камісіі.

– На пасяджэнні ТВК паўтаралася ўсё тое ж, былі старшыня камісіі, намеснік і назіральнік ад БРСМ, якога камісія называла «галоўным назіральнікам», – распавёў прэс-службе «Права выбару–2015» Пётр Маркелаў.

— Яны абгрунтоўваюць рашэнне не заканадаўствам, а сваёй мараллю, нейкімі паняццямі. Не баяцца казаць пра гэта на камеру. Ім пофіг, яны адчуваюць сябе беспакаранымі і сваю безадказнасць, — падкрэсліў Маркелаў. Ён адзначыў, што адзін з сябраў гарадской камісіі заявіў яму, што старшыня камісіі можа забараніць дыхаць назіральніку. «Яны ўжо сябе багамі адчуваюць», — лічыць Маркелаў.

11-га кастрычніка сваё рашэнне вынесла і гарадская выбарчая камісія, якая адмовілася аднаўляць акрэдытацыю назіральніку. Пётр Маркелаў накіраваўся ў ЦВК, каб абскардзіць рашэнне выбаркама ў апошняй інстанцыі.

Група актыўных маладых людзей арганізавала на гэтых выбарах акцыю «87 %»: яны два дні вялі трансляцыю з участка. Аднак 7 кастрычніка Пётр Маркелаў быў пазбаўлены акрэдытацыі, і трансляцыя была перарвана.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/167-terytaryyalnaya-kamsya-adnavla-akredytacyyu-nazralnka-ad-prava-vybaru.html*

## На назіральніка і яго сваякоў аказваюць ціск

**11.10.2015**

Сябра Рады ПАГА «Рух «За Свабоду» Андрэй Юркоў заявіў пра зрыў паўнавартаснага назірання на Дрыбінскім выбарчым участку № 2 у нядзелю 11 кастрычніка, асноўны дзень галасавання.

Рэч у тым, што ён планаваў назіраць разам з іншым сябрам «Руху», Уладзімірам Пратасенкам, але той напярэдадні адмовіўся ад назірання. Па словах Юркова, «з прычыны адміністрацыйнага ціску на яго самога і сваякоў».

У выніку, выбары ў Дрыбінскім раёне прайшлі, на думку Андрэя Юркова, без кантролю грамадства, гарантаванага Канстытуцыяй.

*Крыніца:*
*ПАГА «Рух «За Свабоду»*
*http://pyx.by/bel/news/4282/*

## У Магілёўскай вобласці назіраецца розніца ў звестках аб колькасці прагаласаваўшых ад камісій і назіральнікаў

**11.10.2015**

— Амаль на ўсех участках розніца ў дадзеных пра колькасць прагаласаваўшых паміж назіральнікамі і камісіямі — ад некалькіх чалавек да некалькіх дзясяткаў, — распавёў каардынатар кампаніі «Права выбару—2015» па Магілёўскай вобласці Алег Аксёнаў.

Паводле яго, таксама адным з найбольш распаўсюджаных парушэнняў ёсць адмова апячатваць памяшканні, у якіх знаходзяцца скрыні для галасавання.

— Нашы назіральнікі пісалі скаргі ў ЦВК. Атрымалі за подпісам Лідзіі Ярмошынай адказ, што не абавязкова апячатваць памяшканні, што гэта, на

погляд старшыні камісіі, усё роўна – ці апячатваць, ці міліцыі здаваць пад пост. Але ж на участку № 49 у Бабруйску пасля скаргі нашага назіральніка на наступны дзень памяшканне было апячатана», – адзначыў абласны каардынатар.

Ён распавёў, што многія камісіі чапляліся ледзьве не да кожнай коскі ў накіраваннях назіральнікаў.

– Таксама ў Бабруйску два дні не давалі магчымасці нашай назіральніцы выконваць свае абавязкі. Гэта было на ўчастку № 28, дзе старшыня ўрэшце атрымала афіцыйную заўвагу ад раённай камісіі. Але ж два дні наш назіральнік не мог выконваць свае абавязкі. Добра, што там быў другі чалавек і ён падмяняў, але быў прамежак часу, калі каміся заставалася сама па сабе», – кажа Алег Аксёнаў.

Паводле яго, зараз на ўсіх участках, дзе працуюць назіральнікі кампаніі «Права выбару–2015», месцы назірання нармальна абсталяваны і ёсць магчымасць бачыць ход галасавання, але ад пачатку так не было, і пісалі скаргі. «У некаторых месцах назіральнік увогуле знаходзіўся ў іншым памяшкані ад таго, дзе стаіць скрыня і стол выдачы бюлетэняў. Так, на 43-м участку ў будынку бабруйскага прадпрыемства «Вадаканал» скрыня і стол стаялі ў адным памяшканні, а за дзвярыма далі месца назіральніку. Натуральна, што ён нічога не мог убачыць. Пасля нашай скаргі перанеслі выбарчы ўчастак у іншае памяшканне, дзе можна было размесціць назіральніка», – распавёў Аксёнаў.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/161-u-magleskay-voblasc-nazraecca-roznca-zvestkah-ab-kolkasc-pragalasavashyh-ad-kamsy-nazralnka.html*

## Назіральнік Юрый Ляшэнка: «Выбарчы ўчастак не забяспечаны безбар'ерным асяроддзем»

**11.10.2015**



Назіральнік Юрый Ляшэнка, які не змог патрапіць на выбарчы ўчастак

Як стала вядома ПЦ «Вясна», 11 кастрычніка назіральнік кампаніі «Права выбару–2015» ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Юрый Ляшэнка не змог назіраць за выбарамі на ўчастку № 15 ў п. Лясны Мінскага раёна, бо ўваход у яго не прадугледжвае варыянтаў для інвалідаў-вазочнікаў.

Таксама не змог ён і прыпаркавацца: паркоўка ля будынкаў участка і сельсавета (месцяцца побач) не





прадугледжвае паркоўку для інвалідаў. Пры гэтым, толькі тыдзень таму скончыўся вялікі рамонт у п. Лясны перад прыездам А. Лукашэнкі.

Юрый Ляшэнка распавёў:

«Першапачаткова мне было цікава назіраць менавіта на гэтым участку, дзе я быў акрэдытаваны, але я не змог на яго патрапіць, таму што ўчастак не забяспечаны безбар’ерным асяроддзем. Няма ні пандусу, ні заходу. Я спрабаваў падняцца самастойна, але не змог.

Праз некаторы час да мяне выйшла старшыня камісіі, якая пацвердзіла, што на ўчастку не забяспечана безбар’ернае асяроддзе і прапанавала нейкім чынам дапамагчы. Але якая менавіта дапамога прапаноўваецца – не было пракаментавана. Акрамя таго, я хачу адчуваць сябе паўнавартасным чалавекам, свабодна перасоўвацца, адчуваць сваю незалежнасць ад каго-кольвек, але гэта не было забяспечана.

І для мяне гэта вельмі складана: я не змог скарыстацца сваім правам назіраць за выбарамі і быў вымушаны з’ехаць на іншы ўчастак, дзе такія ўмовы былі забяспечаны».

Таксама назіральнік адзначае, што зараз яны з калегамі рыхтуюць скаргу па факце нядопуску да назірання за выязным галасаваннем:

– Я звярнуўся да старшыні камісіі ўчастка № 1 п. Бараўляны з просьбай назіраць за выязным галасаваннем. Але нам было адмоўлена ў гэтым і прапанавана, калі ёсць асабісты аўтамабіль, ехаць на ім. Мы з калегам селі у мой аўтамабіль і паехалі за машынай, дзе была скрыня для галасавання. Мы зафіксавалі на камеру гэтую машыну, дзе ехалі толькі два чалавекі, а тры месцы былі вольныя. Але нам не далі магчымасці назіраць за выбарамі на выездзе.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80634*

## З бабруйскага ўчастка № 2 выдалілі двух назіральнікаў

**11.10.2015**

З бабруйскага участка № 2 выдалілі адразу двух назіральнікаў. Нагодай сталі пытанні, якія назіральнікі задавалі, і якія вельмі нервавалі старшыню камісіі Ксенію Лапцеву. Участак размяшчаецца ў Цэнтры вольнага часу і творчасці, Ксенія Лапцева – яго дырэктарка.

– Я здзіўлена тым, што нас пазбавілі магчымасці назіраць, – кажа назіральніца Людміла Баева. – На гэтым участку добрыя паказчыкі па яўцы, баяцца нас сябрам камісіі няма сэнсу. Але чамусьці ўвесь час да нас тут ставіліся перадузята. Я задавала шэраг пытанняў, па справе, яшчэ ўчора, але старшыня не адказвала на іх, «бо не абавязана». Таму я сфармулявала пытанні пісьмова, і сёння раніцай передала ёй. Да абеду была цішыня... А 14.00 я падыйшла да яе, папрасіла даць мне азнаёміцца з колькасцю людзей, якія прагаласавалі, хацела параўнаць са сваімі лічбамі. Ксенія Лапцева пачала моцна нервавацца, казала, што я перашкаджаю ёй працаваць, што залічвае гэта мне ў другое парушэнне.

Першае парушэнне ў старшыні камісіі назіральніца «зарабіла», калі распісалася на паперцы побач з сябрамі камісіі падчас пламбіроўкі скрыні. Людміла Баева кажа, што так яна рабіла на мінулых выбарах, але зараз ёй сказалі, што гэта забаронена.

– Ксенія Лапцева ўзгадала мне ўсе мае пытанні, у тым ліку тое, што 10-га кастрычніка я пыталася, дзе буду знаходзіцца падчас падліку галасоў. Сказала, што я прыдзіраюся. Мой калега сказаў нешта кшталту: «Мы назіральнікі, нас і вучылі прыдзірацца». І гэта канчаткова раззлавала старшыню камісіі, яна выдаліла нас з участка. Пакуль мы знаходзімся ў будынку цэнтра творчасці, але наўрад ці нам дадуць магчымасць працягнуць назіраць, – мяркуе Людміла Баева.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80628*

## Глуск: падлік галасоў на выбарчым участку № 2 быў закрытым

**11.10.2015**



*Падлік галасоў на адным з участкаў – сфатаграфаваны з месца, адведзенага для назіральнікаў*

Назіральнік Ігар Кірын адзначае, што працэс падліку галасоў выбаршчыкаў на Глускім выбарчым участку № 2 быў закрытым для назірання. Па яго словах, чальцы ўчастковай выбарчай камісій цалкам акружылі стол, дзе падлічваліся выбарчыя бюлетэні, павярнуліся спінамі да назіральнікаў, і працэдура падліку галасоў выбаршчыкаў была фактычна закрытай для назірання.

Ігар Кірын кажа, што калі ён паспрабаваў сказаць пра тое, што працэдура падліку галасоў нябачная для назіральнікаў, сваё адрознае меркаванне адразу ж выказаў іншы назіральнік, супрацоўнік ідэалагічнага

аддзела Глускага райвыканкама Сяргей Слічонак, які заявіў «а нам усё бачна». Іншыя праўладныя назіральнікі проста прамаўчалі.

Па словах Ігара Кірына, не толькі ён, але і некаторыя з праўладных назіральнікаў былі здзіўлены «ашаламляльнымі» вынікамі галасавання на Глускім выбарчым участку № 2. Згодна выніковаму пратаколу, на гэтым выбарчым участку, паводле падлікаў выбарчай камісіі, за Сяргея Гайдукевіча аддаў свой голас 21 выбаршчык, за Таццяну Караткевіч прагаласавала 16 чалавек, Мікалая Улаховіча падтрымалі 14 выбаршчыкаў, а яшчэ 1 305 чалавек прагаласавалі за дзеючага кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнку. Галасы выбаршчыкаў, прагаласаваўшых датэрмінова, па месцы знаходжання і прыйшоўшых на выбарчы ўчастак у дзень асноўнага галасавання, падлічваліся асобна.

Паводле падлікаў Ігара Кірына, непасрэдна ў дзень выбараў 11 кастрычніка на Глускім выбарчым участку № 2 прагаласавала 595 чалавек. У галасаванні па месцы знаходжання прыняло ўдзел больш за 100 выбаршчыкаў. Назіральнік кажа, што ў пэўны момант старшыня камісіі сказаў яе чальцам выпісаць са спісаў прозвішчы ўсіх пажылых людзей, і пасля яны пайшлі абыходзіць гэтых выбаршчыкаў. Са слоў Ігара Кірына, першапачаткова ў спіс для галасавання па месцы знаходжання было ўнесена толькі крыху больш за трыццаць чалавек. Падчас працэдуры падліку бюлетэняў нават прысутная на выбарчым участку дэпутат мясцовага Савета была здзіўлена колькасцю выбаршчыкаў, што прагаласавалі па месцы свайго знаходжання.

Раніцай 11 кастрычніка Глускі выбарчы ўчастак № 2 наведвалі міжнародныя назіральнікі місіі АБСЕ. Яны пабылі там каля паўгадзіны, station назіралі за працэдурай апячатвання скрыні для галасавання і паехалі далей.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80670*

## За гадзіну да сканчэння выбараў дзвюх назіральніц незаконна выдалілі з участка

**11.10.2015**

Каля сямі гадзін вечара 11 кастрычніка з участка № 4 Кастрычніцкага раёна г. Мінска жанчына, якая прадставілася «каардынатарам назіральнікаў», выдаліла назіральніц ад БХК Юлію Філіпчык і Алену Малько.

На працягу тыдня назіральніцы лічылі выбаршчыкаў, якія прыходзілі галасаваць, і на вечар суботы атрымалі лічбу ўсяго ў 284 чалавекі, а ў пратаколе камісіі гэтая лічба была перабольшана амаль удвая – 456 чалавек. Аднак, у нядзелю зранку лічба ў пратаколе значна адрознівалася ад папярэдняй і складала ўжо 589 чалавек. Да пратаколу незалежных назіральніц не дапускалі. Калі прыйшлі міжнародныя назіральнікі АБСЕ, яны звярнулі іх увагу на гэтыя факты і працягнулі назіранне. Акрамя таго, паводле дадзеных назіральнікаў, колькасці выбаршчыкаў не хапае, каб выбары на гэтым участку ўвогуле адбыліся.

Пасля гэтага жанчына, якая прадставілася каардынатарам па назіральніках Кастрычніцкага раёна, спрабавала выдаліць назіральнікаў з участка.

— Недзе каля 19-ай гадзіны да нас падыйшла жанчына з пашпартам і нейкім пасведчаннем, якая прадставілася галоўнай па ўсіх назіральніках у Кастрычнікім раёне, і сказала нам, што, каб вылучыцца назіральнікам на пасяджэнні па вылучэнні павінна было прысутнічаць 10 чалавек, а ў нас ад Беларускага Хельсінкскага камітэта прысутнічала 7 і 6 чалавек адпаведна. І, з яе словаў, ўвесь тыдзень мы ўвогуле не мелі права прысутнічаць на ўчастку, і таму яны вымушаны выдаліць нас, — паведаміла назіральніца Юлія Філіпчык.

Назіральнікі сышлі на некаторы час. Пасля невялікага перапынку і абмеркавання сітуацыі, яны зноў вярнуліся на выбарчы ўчастак.

Аднак сітуацыя паўтарылася: на гэты раз ужо сам старшыня камісіі ў вуснай форме выганяў назіральнікаў, пагражаў міліцыяй, падбухторваў іншых назіральнікаў падпісаць паперу аб парушэннях, якія нібыта чынілі Ю. Філіпчык і А. Малько падчас галасавання. Ніякіх пісьмовых дакументаў з абгрунтаваннем выдалення назіральнікам не выдалі. Аднак стала вядома прозвішча «каардынатара па назіральніках Кастрычніцкага раёна» — Берасцевіч Святлана Іосіфаўна.

Калі назіральнікі ў трэці раз вярнуліся на ўчастак, там чакалі супрацоўнікі міліцыі, якія канчаткова выдалілі іх.

Намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч адзначае:

— Выдаленне з’яўляецца незаконным, паколькі назіральнікі былі вылучаныя РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» і прадставілі адпаведны пратакол пасяджэння Рады, якая складаецца з 7-і чалавек. У дадзеным выпадку старшыня камісіі блытае шляхі вылучэння. Узгаданыя 10 чалавек — гэта колькасць грамадзян, якія могуць вылучыць назіральніка на ўчастак для галасавання і якія пражываюць на тэрыторыі гэтага ўчастка. А калі гаворка вядзецца аб вылучэнні ад арганізацыі, то там вылучае Рада ў тым складзе, у якім яна замацаваная ў Статуце. У дадзеным выпадку — 7-і чалавек. Таму такое пазбаўленне акрэдытацыі з’яўляецца незаконным.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80655*

## У Віцебскай вобласці не будзе адкрытага і галоснага падліку галасоў

**11.10.2015**

Ніводная ўчастковая камісія вобласці, у якія назіральнікі кампаніі «Права выбару—2015» пры сваёй акрэдытацыі падавалі прапанову «Аб адкрытым і галосным падліку галасоў», не пагадзілася з выкладзенымі там пунктамі.

Вось як ацэньвае дадзеную сітуацыю сябра абласной камісіі па выбарах Прэзідэнта Кастусь Смолікаў:

— Прапановы, што ўтрымліваюцца ў звароце «Аб адкрытым і галосным падліку галасоў», ні ў чым не супярэчаць арт. 55 Выбарчага кодэкса, але іх

трэба найперш разглядаць, як разуменне арт. 13, дзе сцвярджаецца, што выбары ў Рэспубліцы Беларусь праводзяцца адкрыта і галосна. Таму менавіта прынцып адкрытасці і галоснасці ў працэдуры падліку галасоў і мусіць з'яўляцца найгалоўнейшым. У чым, скажыце мне, непрымальнасць прапановы, пры якой усе прысутныя на ўчастку сябры камісіі і назіральнікі бачаць кожны бюлетэнь, і адзнаку, пастаўленую насупраць пэўнага кандыдата, а абраны сябра ўчастковай камісіі агучвае гэтыя дадзеныя ўголас і адкладае бюлетэнь у асобны стос? Гэтыя прапановы цалкам законныя і адпавядаюць Выбарчаму кодэксу.

Рэакцыя УВК на звароты назіральнікаў амаль ідэнтычная і адрозніваецца толькі нюансамі, аргументацыяй, формай і тэрмінамі адказу. Найчасцей камісіі спасылаюцца на неадпаведнасць выкладзеных у зваротах прапаноў Выбарчаму кодэксу і пастанове ЦВК ад 14 мая 2015 года, якая дакладна рэгламентуе працэдуру падліку галасоў выбаршчыкаў.

Вось якой, напрыклад, была рэакцыя сябраў камісіі выбарчага ўчастка № 34 горада Віцебска пры падачы звароту Змітром Літвіным: «Ну, хлопцы! Ну, што вы творыце? Вы хочаце з намі паспрачацца? Яно ні нам, ні вам не патрэбна. З гэтай прапановай мы будзем суткі лічыць галасы». А вось пры непасрэдным разглядзе зварота на пасяджэнні выбарчай камісіі было сказана наступнае: «Ёсць Выбарчы кодэкс, у якім напісана, як і што мы мусім рабіць».

А вось зварот, пададзены назіральнікам участка № 9 Віцебска Сяргеем Салодкім, і наогул не быў разгледжаны на пасяджэнні выбарчай камісіі. У дасланым на ягоны адрас пісьмовым адказе старшыня выбарчай камісіі Таццяна Сямашка спаслалася на частку дзясятую арт. 55 Выбарчага кодэкса РБ, які нібыта патрабуе калегіяльнага разгляду толькі скаргі і заявы пры галасаванні і падліку галасоў.

Аляксандру Ільінцу, які назіраў на ўчастку № 36 г. Віцебска, у пісьмовым адказе было заяўлена, што ягоныя «прапановы прынятыя да ведама», але адзначана, што «працэдура падліку галасоў на ўчастку для галасавання ўжо вызначана выбарчым заканадаўствам, дзе звернута асаблівая ўвага на працэдуру падліку галасоў».

Участковая камісія ўчастка для галасавання № 5 горада Гарадка спаслалася на тое, што «паслядоўнасць дзеянняў сябраў камісіі пры правядзенні падліку галасоў і ўстанаўленні вынікаў галасавання рэгламентуецца арт. 55 Выбарчага кодэкса і пастановай ЦВК ад 14 мая 2015 года № 11. А правы назіральнікаў агаворваюцца ў арт. 13 Выбарчага кодэкса. Таму ніякіх падстаў для прыняцця прапаноў, унесеных назіральнікам Леанідам Гаравым, няма».

Даволі нетыпова паставілася да звароту назіральніцы Таццяны Шафіравай выбарчая камісія на ўчастку № 16 (Амбрасавіцкім) Шумілінскага раёна. Пасля калегіяльнага разгляду пададзеных прапановаў у вуснай форме ёй было паабяцана, што пры падліку галасоў яна будзе мець магчымасць бачыць кожны бюлетэнь і пастаўлены ў ім знак. Аднак пісьмовага пацверджання вусным выказванням заяўніца ад камісіі так і не дачакалася. Гэткія паводзіны камісіі могуць тлумачыцца тым, што ў яе слад быў уключаны прадстаўнік дэмакратычнай супольнасці Аляксандр Шчамлёў.

Ва ўсёй гэтай справе непакояць тыя абставіны, што ніводзін сябра выбарчых камісій не ўбачыў рацыянальнага зерня і цвярозага падыходу ў прапанаванай назіральнікамі кампаніі «Права выбару—2015» працэдуры падліку галасоў, якая цалкам адпавядае міжнародным прынцыпам і даўно стала нормай у суседніх з Беларуссю краінах.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/158-u-vcebskay-voblasc-na-vybarah-prezdenta-ne-budze-adkrytaga-galosnaga-padlku-galaso.html*

## У Магілёве старшыня ўчастковай камісіі адмовіўся лічыць галасы з дэманстрацыяй бюлетэняў

**11.10.2015**



Наблюдателю на участке для голосования № 126 Шанцевой Л.В.

На Ваше предложение о порядке подсчета голосов сообщаем, что указанные Вами пункты 1, 3, 4 не противоречат статье 55 Избирательного кодекса Республики Беларусь.

Пункт 2 Вашего предложения подсчет производить вслух с демонстрацией каждого бюллетеня членам комиссии, наблюдателям считаем не рациональным. При наличии 2533 зарегистрированных избирателей и соответствующего количества бюллетеней такой подсчет займет слишком много времени.

Председатель участковой избирательной комиссии участка для голосования № 126 В.А.Толкачев

Старшыня ўчастковай выбарчай камісіі № 126 Валерый Талкачоў назваў нерацыянальным падлік галасоў услых з дэманстрацыяй бюлетэняў назіральнікам.

Як паведаміў старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Шанцаў, яго дачка Людміла Шанцава, акрэдытаваная назіральнікам на ўчастку № 126, які знаходзіцца ў СШ № 37 г. Магілёва, звярнулася з прапановай да кіраўніцтва камісіі ажыццяўляць падлік галасоў выбаршчыкаў услых з дэманстрацыяй кожнага бюлетэня назіральнікам.

— Падлік ажыццяўляць услых з дэманстрацыяй кожнага бюлетэня членам участковай камісіі, назіральнікам лічым не рацыянальным. Пры наяўнасці 2 533 зарэгістраваных выбаршчыкаў і адпаведнай колькасці бюлетэняў такі падлік зойме занадта шмат часу, — адказаў на зварот назіральніцы старшыня участковай выбарчай камісіі Валерый Талкачоў, які з’яўляецца таксама дырэктарам школы № 37.

— Старшыня камісіі ўласнаручна распісаўся ў тым, што ён добрасумленна выканаць свае абавязкі не хоча па прычыне таго, што гэта зойме занадта шмат часу, — заявіў Уладзімір Шанцаў. Ён адзначае, што любая справа, калі яе рабіць добра, патрабуе шмат часу.

Адмову старшыні ўчастковай камісіі адкрыта лічыць галасы Шанцаў лічыць або «лянотай добрасумленна выконваць свае абавязкі, або нежаданнем рабіць лішнюю працу, калі ўсё даўно вырашана, а кантрольныя лічбы не падлягаюць змене». Па словах абласнога лідара АГП, адкрытага падліку галасоў назіральнікі «не бачаць ужо 15 гадоў, а ва ўчастковыя выбарчыя камісіі дапускаюць толькі прадстаўнікоў партый улады».

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/156-u-magleve-starshynya-chastkovay-kams-admovsya-lchyc-galasy-z-demanstracyyay-byuletenya.html*

# Назіральнікі ў Жодзіне патрабуюць рассакрэціць спісы выбаршчыкаў: у горадзе галасуюць расіяне

**11.10.2015**

Назіральнік кампані «Права выбару–2015» Аляксей Лапіцкі зафіксаваў факт галасавання па расійскім пашпарце на Будаўнічым выбарчым участку № 9 у Жодзіне. Назіральнік падаў заяву ва ўчастковую камісію па факце парушэння і запатрабаваў рассакрэціць спісы выбаршчыкаў.

Вось што расказаў праваабаронца Аляксей Лапіцкі карэспандэнту «Права выбару–2015».

– Ілля Туміловіч, які прыйшоў на выбарчы ўчастак з іншым грамадзянінам, прагаласаваў і на выхадзе сказаў свайму напарніку: «У іх усё так адбываецца». «У іх» – у каго? Я западозрыў, што ён расіянін. Выйшаў услед за імі і задаў колькі пытанняў (размова ў аўдыяфайле). Напарнік сказаў: мы з Беларусі, а Ілля Туміловіч прызнаўся: з Расіі, а што? І пачалася размова.

Высветлілася, што Ілля Туміловіч пражыве ў доме №16. Сам ён беларус, але вельмі доўга жыў у Расіі – трэніраваў дзяцей пры футбольнай камандзе «Аланія» ва Уладзікаўказе. Ён мае від на жыхарства ў Беларусі, але галасаваў па расійскім пашпарце.

– Я спытаўся ў намесніка старшыні ўчастковай камісіі Даны Волкавай, якая выдавала Іллю Туміловічу бюлетэнь для галасавання, – яна



пацвердзіла, што Ілля Туміловіч доўгі час пражываў у Расіі, але выдавала бюлетэнь па расійскім пашпарце. Яна палічыла, што выдаючы бюлетэнь чалавеку з расійскім пашпартам, яна не парушае заканадаўства.

Мы падалі заяву ва ўчастковую камісію, каб праверылі гэты факт. А 10 кастрычніка я звярнуўся з вуснай заявай у гарадскую камісію (11-га пацвердзілі, што сітуацыю ўзялі на кантроль). Я папрасіў пераправерыць спісы выбаршчыкаў па горадзе Жодзіна: спісы фактычна засакрэчаныя, назіральнікі з імі азнаёміцца не могуць.

Сёння назіральніку Аляксандру Рупшынскаму (прафсаюз РЭП) не паказалі, як выглядае выбарчы бюлетэнь і, фактычна, па факце развязанага такім чынам кнфлікта ў далейшым з дапамогаю назіральніцы Марыны Верамей («Белая Русь», адміністрацыя бальніцы) быў складзены пратакол на актыўнага назіральніка, на падставе якога потым, на закрытым пасяджэнні камісіі, яму было абвешчана папярэджанне, – адзначыў Аляксей Лапіцкі.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/157-nazralnk-zhodzne-patrabuyuc-rassakrecc-spsy-vybarshchyka-u-goradze-galasuyuc-rasyane.html*

## Назіральнік «Права выбару–2015» выдалены з участка ў Мінску

**11.10.2015**

Актывіст ПАГА «Рух «За Свабоду» і назіральнік кампаніі «Права выбару–2015» Арцём Лява зноў выдалены з участка, на гэты раз № 33 у Ленінскім раёне Мінска.

– Мы ўчора добра расталіся з камісіяй, але калі я прыйшоў сёння на ўчастак, мне паведамілі, што камісія мяне пазбаўляе акрэдытацыі. Сказалі, што я быццам бы хадзіў па ўчастку і апытваў выбаршчыкаў. Яны правялі пасяджэнне, і выдалі мне копію рашэння, – распавёў Арцём Лява прэс-службе «Права выбару–2015».

З ягоных словаў, у рашэнні паведамляецца, што ён хадзіў па ўчастку, не хацеў займаць месца, вызначанае для яго камісіяй, апытваў выбаршчыкаў. Лява абвяргае гэтую інфармацыю.

– Я адзін раз паразмаўляў з выбаршчыкам, але гэта адбывалася па-за межамі ўчастка, – падкрэсліў Арцём Лява.

Назіральнік паспеў папрацаваць на ўчастку № 33 толькі адзін дзень, бо раней яго пазбавілі акрэдытацыю за фотаздымкі на ўчастку № 29 Ленінскага раёна Мінска. Справа ў тым, што Лява быў там зарэгістраваны ў якасці назіральніка-прадстаўніка СМІ і быў у сваім праве. Гэта выдаленне назіральнік абскарджвае ў вышэйшай камісіі і пракуратуры.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/166-nazralnk-prava-vybaru-vydaleny-z-uchastku-u-mnsku.html*

## У Рэчыцы за цэлую сям’ю прагаласавалі невядомыя

**11.10.2015**

Пра гэта паведаміў міжпартыйны каардынатар кампаніі назірання «Права выбару—2015» па Гомельшчыне Алег Шабетнік.

Са словаў Шабетніка, ён стаў сведкам таго, як дзяўчына Яўгенія Маркоўская прыйшла на выбарчы ўчастак № 27, што ў Рэчыцы і ўбачыла, што за яе ўжо нехта прагаласаваў. У журнале выдачы бюлетэняў нехта паспеў распісацца за яе. Акрамя таго, невядомыя таксама распісаліся і за бацькоў дзяўчыны.

У сувязі з інцыдэнтам Алег Шабетнік рыхтуе скаргі ў камісію і пракуратуру.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/171-u-rechycy-za-celuyu-syamyu-pragalasaval-nevyadomyya.html*

## У Магілёве назіральніка выдалілі з участка

**11.10.2015**



Назіральніка кампаніі «Права выбару—2015» Максіма Алямоўскага выдалілі з участка для галасавання № 69, абвінаваціўшы ў перашкодзе працы ўчастковай камісіі.

— Выдалілі за тое, што я нібыта цягам галасаваня перашкаджаў выбарчай камісіі: падыходзіў да скрыні, спрабаваў паглядзець, як праходзіць апячатванне. Старшыня камісіі мне паведаміў, што я нібыта падыходзіў да скрыні і кабінак», — распавёў Максім Алямоўскі.

Ён паведаміў, што раней падыходзіў да кіраўніцтва камісіі з просьбай распавесці пра колькасць прагаласаваўшых па стане на 14:00 дня асноўнага галасавання. Намесніца старшыні адказала: «Самі лічыце». «І вось зараз старшыня мне заявіў, нібыта я ўмешваюся ў працу камісіі. То бок, калі назіральнік хоча даведацца пра дадзеныя на дзве гадзіны, а потым пра дадзеныя аб галасаваўшых па месцы знаходжання, то ён перашкаджае працы камісіі. Якім чынам гэта магчыма — незразумела. Я ні з кім, акрамя старшыні і яго намесніцы, не размаўляў. Не падыходзіў ні да стала камісіі, ні да кабінак, ні да скрыні», — сцвярджае Алямоўскі.

Паводле назіральніка, ён быў выдалены пасля пачатка падліку галасоў. «Яны зблізілі два сталы, а вакол іх стала выбарчая камісія. Што адбываец-

ца за сталом – не бачна. Нам не дазволілі падыходзіць бліжэй за чатыры метры. Таксама ўскрылі скрыні датэрміновага галасавання. Хутка раскідалі стос бюлетэняў, адкінулі на іншы стол, дзе ўвогуле нічога не бачна, і абвесцілі лічбы. Але ж падлічыць усе бюлетэні за 2-3 хвіліны было немагчыма», – кажа назіральнік.

Ён таксама распавёў пра тое, як ішло галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў: «А 18:00 павінен быў быць сфармаваны спіс для галасавання па месцы знаходжання. Дадзеныя мне не сказалі, сказалі, што ўсё ўбачу ў пратаколе. Людзі пайшлі са скрынямі, але потым іх бачыла іншая наша назіральніца – каго ў жаночым туалеце, каго ў сталоўцы. Праз паўгадзіны яны вярнуліся. Зараз выклалі кіпу папер на стол. Там бюлетэняў было, можа, сто. І гэта пры тым, што галасаваць павінны былі людзі, якія жывуць у прыватным сектары. Яго аб'ехаць і даць ім прагаласаваць за паўгадзіны не рэальна», – кажа сп. Алямоўскі. Ён адзначыў, што лічбы прагаласаваўшых і вынікі галасавання па месцы знаходжання абвяшчаліся, але праўладныя назіральнікі пачалі гучна кашляць, і таму нічога не было чутна.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/173-u-magleve-nazralnka-vydall-z-uchastku.html*

## Назіральніка «Права выбару–2015» міліцыянеры са зброяй вынеслі з участка

**11.10.2015**

Пра гэта ў інтэрв'ю распавёў актывіст «Руху «За свабоду» Юрый Меляшкевіч, які назіраў за выбарамі ў Савецкім раёне г. Мінска:

– Я назіраў на участку № 65, дзе таксама былі назіральнікі ад кампаніі «Права выбару–2015», «Руху «За свабоду», Партыі БНФ. Я быў накіраваны «Рухам «За свабоду». Таксама на ўчастку «назіралі» прадстаўнікі розных праўладных арганізацый і партый.

На працягу ўсяго тыдня мы фіксавалі яўку і ў дзень асноўнага галасавання хацелі падыйсці да сталоў і ўбачыць, як сапраўды размяркоўваюцца галасы за кандыдатаў. На што старшыня камісіі заявіла, што мы мусім знаходзіцца на адлегласці ня менш за 5 метраў ад месца падліку галасоў.

Я зрабіў спасылку на нормы Выбарчага кодэкса, падыйшоў на адлегласць у паўметра ад камісіі і пачаў непасрэдна назіраць за тым, як яны раскладаюць бюлетэні. Старшыня камісіі спыніла «падлік», патэлефанавала ў ЦВК і сказала, што, пакуль назіральнік не адыдзе ад стала, падліку галасоў не будзе.

Я адказаў ёй, што буду знаходзіцца каля стала і чакаць, пакуль «падлік» адновіцца. Пасля невялікай паўзы да мяне пачалі «чапляцца» так званыя «назіральнікі» з праўладных арганізацый. Яны пачалі адштурхоўваць мяне і станавіцца паміж мной і чальцамі камісіі.

Калі яны пабачылі, што ў мяне ўсё роўна атрымліваецца стаць побач з камісіяй, быў выкліканы нарад міліцыі. Прыехалі два сяржанты дэпартамента

аховы, на ўчастку тады ўжо знаходзіўся чалавек у цывільным, які вёў відэазапіс, і сабраліся міліцыянеры з участка. Усяго іх было каля васьмі чалавек і столькі ж — так званых «назіральнікаў» ад дзяржустаноў.

Яны актыўна адцягвалі мяне ад стала, спрабавалі запалохаць. Супрацоўнік у цывільным загадаў выкліканым міліцыянерам, каб яны мяне «ізалявалі без прымянення сілы». Паколькі я не паводзіў сябе агрэсіўна, стаяў, склаўшы рукі за спінай, ні з кім не размаўляў і нікога не чапаў — у міліцыянераў не было аніякай нагоды прымяняць сілу. Таму спачатку яны папросту стаялі побач.

Але, калі пачаўся «падлік» бюлетэняў з дня асноўнага галасавання, старшыня камісіі зрабіла так, каб усе бюлетэні апынуліся ў адным стосе. Я запатрабаваў, каб яна сказала, як тога патрабуе Выбарчы кодэкс, якія менавіта бюлетэні ў гэтым стосе. Яна адмовілася гэта зрабіць. І ў гэты момант мяне як раз пачалі хапаць за паліто і выцягваць на колідор.

Спачатку мяне цягнуў чалавек у цывільным, потым да яго далучыліся два супрацоўнікі міліцыі дэпартамента аховы з аўтаматамі. Мне парвалі паліто, але я чалавек высокі, і ім было цяжка мяне одцягнуць. У выніку, у гэтай штурханіне я паваліўся, а яны мяне падхапілі і выцягнулі на калідор. На калідоры ў іх ужо атрымалася не даваць мне прайсці ў памяшканне для галасавання, пакуль ні скончыўся «падлік» галасоў, і камісія ні прыступіла да напісання выніковага пратакола.

Я зняў дадзеныя з гэтага пратакола: яны вельмі моцна адрозніваліся ад тога, што мы назіралі на «выбарах». Яўка была завышана на 39 %, у выноснай скрыні для галасавання па месцы знаходжання аказалася ў два разы больш бюлетэняў, чым мы назіралі, калі хадзілі за ёй па ўчастку.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/184-yuriy-meleshkevich-s-izbiratelnogo-uchastka-menya-vynosili-milicionery-s-oruzhiem.html*

## У Гродне выганялі назіральнікаў

**11.10.2015**



На гродзенскім участку № 33 назіральнік Мікола Верамеенка выдалены ў абед 11-га кастрычніка. Міліцыя на ўчастку правакавала назіральнікаў на інцыдэнты, не дазваляла ім знаходзіцца нават ў фае школы, ніхто з супрацоўнікаў міліцыі не паведаміў сваё прозвішча.

Пад вечар, за 10 хвілін да заканчэння галасавання, з гэтага участка быў выдалены Сяргей Верамеенка. Адбылося гэта наступным чынам:

каардынатар праўладных назіральнікаў пасля падачы трэцяй па ліку скаргі Сяргея Верамеенкі пачала казаць, што «Верамеенка занадта адцягвае на сябе ўвагу!». Старшыня камісіі Луня прыняла «саламонава рашэнне»: выдаліла з участка ўсіх назіральнікаў. Нават тых, хто і слова не сказаў. Выніковы пратакол, што трымала сакратарка, так і не з'явіўся на стэндзе.

На назіральніцу Алену Кавальчук старшыня камісіі аднаго з гродзенскіх участкаў абяцала падаць у суд за тое, што назіральніца яе нібыта абылгала.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/184-yuriy-meleshkevich-s-izbiratelnogo-uchastka-menya-vynosili-milicionery-s-oruzhiem.html*

## У Гродне выганялі назіральнікаў

**11.10.2015**



Сяргей Трафімчык, абласны міжпартыйны каардынатар кампаніі «Права выбару–2015» адзначае, што асноўнай праблемай на гэтых выбарах было тое, што падлік галасоў быў, як заўсёды, неадкрытым і на некаторых участках былі прыпіскі паказчыкаў яўкі.

Алег Рамашкевіч, партыйны каардынатар па назіранні ад Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай партыі (Грамада) адзначае, што на тых участках, дзе назіралі прадстаўнікі сацыял-дэмакратаў, камісія маніпулявала спісамі выбарцаў.

– Яны спрабавалі ўсучыць назіральніку заніжаныя лічбы ў параўнанні з першаснымі днямі галасавання, – кажа Алег Рамашкевіч. – Гэта было бачна на некалькіх участках. На трох участках г. Гродна ўвогуле не давалі інфармацыю пра агульную колькасць выбаршчыкаў у спісах на ўчастках і не давалі інфармацыі пра тое, колькі людзей захацела галасаваць па месцы свайго знаходжання.

На некаторых участках у Гродне можна было сустрэць маладзёнаў, што ладзяць экзытпулы. Гэта былі прадстаўнікі Моладзевай лабараторыі сацыялагічных даследаванняў, а таксама Інстытута параўнальных сацыяльных даследаванняў «Еўразійскі барометр». Іх прадстаўнікі адмаўляліся размаўляць на дыктафон і нават забаранялі сябе фатаграфаваць.

Апроч гэтага, на большасці ўчасткаў Гродзеншчыны старшыні камісій забаранялі прадстаўнікам незалежных СМІ фатаграфаваць працэс галасавання.

Таксама на некаторых участках Гродна можна было сустрэць так званых «карусельшчыкаў» – маладзёнаў, якія ездзілі з участка на ўчастак, каб прагаласаваць у некалькіх месцах.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару–2015»*
*http://pvby.org/182-u-grodna-vyganyal-nazralnka.html*

# На Брэстчыне назіральнікі зафіксавалі шматлікія парушэнні выбарчага заканадаўства

**11.10.2015**



На працягу ўсяго перыяда датэрміновага галасавання назіральнікамі ў Брэсцкай вобласці было пададзена больш за 140 скарг і прапаноў да 90 выбарчых камісій.

Толькі адзінкавыя ўчастковыя камісіі забяспечылі належнае захоўванне скрынь для датэрміновага галасавання, пры якім апячатвалася не толькі скрыня для галасавання і сейф, але і памяшканне, у якім знаходзіліся ўсе матэрыялы для правядзення выбараў. Немагчымасць забеспячэння такога захоўвання старшыні камісій тлумачылі выдзяленнем для правядзення выбараў непрыстасаваных памяшканняў вучэбных кабінетаў школ. Гаворачы аб камісіях у навучальных установах, назіральнікі адзначаюць, што сябры камісій з'яўляліся ў непасрэдным падначаленні ў старшынь камісій – дырэктароў школ.

Па меркаванні назіральнікаў, галоснасці і адкрытасці на выбарах у асноўны дзень галасавання стала менш. Камісіі адмаўляліся даваць звесткі пра колькасны склад спісаў выбаршчыкаў, змены па іх цягам дня. На такіх участках пры падліку галасоў былі дапушчаны парушэнні арт. 55 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь: вынікі галасавання па кожнай скрыні і па кожнай кандыдатуры не абвяшчаліся старшынём камісіі, а выніковы пратакол складаў старшыня і член камісіі, які з'яўляецца работнікам мясцовай адміністрацыі.

Прыкладам абуральных парушэнняў заканадаўства стала ўчастковая выбарчая камісія № 35 Маскоўскага раёна г. Брэста, дзе чальцы камісіі прыступілі да выніковага пасяджэння праз 50 хвілін пасля закрыцця ўчастка, не ўстанавіўшы колькасць бюлетэняў, пададзеных за кожнага кандыдата. На скаргу назіральнікаў старшыня камісіі Ласіца заявіла, што ўсе бачылі памеры стосаў бюлетэняў і гэтага, на яе думку, цалкам дастаткова для забеспячэння галоснага і адкрытага падліку галасоў.

Яўка выбаршчыкаў была сапраўды фенаменальнай. Паводле дадзеных ЦВК, у Брэсцкай вобласці прагаласавала 90,4 % выбаршчыкаў. У абласным цэнтры, дзе яўка склала 81 %, датэрміновае галасаванне дасягала 40 % на асобных участках. У дзень асноўнага галасавання выбаршчыкаў прыцягвалі на ўчасткі нізкімі коштамі ў буфетах і наяўнасцю спіртнога ў школьных сталовых.

Але не ўсе камісіі рызыкнулі фальсіфікаваць вынікі галасавання. Так, на ўчастку № 3 Ленінскага раёна г. Брэста старшыня камісіі не толькі абвяшчаў вынікі галасавання па кожнай скрыні і кожным кандыдаце, але даў магчыма-

сць назіральнікам праглядзець усе бюлетэні. Як паведаміў назіральнік Аляксей Марчук, працэнт галасоў, аддадзеных выбаршчыкамі за Лукашэнку на датэрміновым галасаванні склаў 72 %, а ў дзень галасавання ўпаў да 56 %. Яго канкурэнтка Караткевіч набрала адпаведна 16 % і 30 %. Пры гэтым, як адзначае назіральнік, яўка на датэрміновым галасаванні склала больш за 40 %. Аднак скрыня пад час датэрміновага галасавання захоўвалася ў неапячатаным памяшканні.

Назіральнікі кампаніі «Права выбару—2015» працягваюць абскарджанне вынікаў падліку галасоў і правядзення галасавання ў тэрытарыяльных камісіях і ў пракуратуры.

*Крыніца:*
*Кампанія назірання «Права выбару—2015»*
*http://pvby.org/180-na-berasceyshchyne-nazralnk-zafksaval-shmatlkya-parushenn-vybarchaga-zakanadastva.html*

## На Брэстчыне камісія са скрыняй для галасавання аб'ехала 240 чалавек за 7 гадзін

**11.10.2015**

На Брэстчыне ў аграгарадку Любань на ўчастку прагаласавала толькі частка выбаршчыкаў. З 630-і выбаршчыкаў на 41-ым участку 390 прагаласавалі «стацыянарна», астатнія 240 выказвалі сваё волевыяўленне дома.

Як патлумачылі Еўрарадыё ва ўчастковай камісіі, палова выбаршчыкаў — людзі сталага веку, таму галасавалі дома.

Сябра камісіі: «Палова жыхароў — сталыя людзі. Хто па тэлефоне просіць прыехаць, хто праз суседзяў перадае. А яшчэ ў нас раскіданыя дамы, як хутары, па 4 кіламетры».

Незразумела толькі, як камісія здолела аб'ехаць 240 чалавек усяго за 7 гадзінаў. Бо датэрмінова на гэтым участку прагаласавалі толькі 17 % выбаршчыкаў.

*Крыніца:*
*Эўрарадыё*
*http://euroradio.fm/na-brestchyne-kamisiya-sa-skrynyay-dlya-galasavannya-abehala-240-chalavek-za-7-gadzin*

## Назіральніца зафіксавала, як за ноч бюлетэні ў празрыстай скрыні перамясціліся

**11.10.2015**

Назіральніца з Віцебска Алена Шабуня распавяла ў жывым эфіры Еўрарадыё, як зафіксавала парушэнні на выбарчым участку.

Паводле слоў жанчыны, увечары 10-га кастрычніка яна сфатаграфавала празрыстыя скрыні, у якіх ляжалі бюлетэні датэрміновага галасавання. Таксама сфатаграфавала апячатаныя дзверы ў памяшканне.



Празрыстыя скрыні не абараняюць ад фальсіфікацыяў

11 кастрычніка Шабуня прыйшла а 7:30 – ёй абяцалі, што ў гэты час выбарчая камісія адчыніць участак. Аднак у гэты час дзверы былі ўжо адчыненыя. А відовішча празрыстай скрынкі з бюлетэнямі назіральніцу вельмі здзівіла.

Спадарыня Шабуня: «Учора, калі сыходзіла, калі ўсё было закончана, я сфатаграфавала празрыстую скрыню, як там ляжалі бюлетэні. Сёння я прыйшла і таксама сфатаграфавала з тых самых бакоў гэтыя скрыні. І калі я паглядзела на фотаздымкі, у мяне ўсё закалацілася ўнутры».

*Крыніца:*
*Эўрарадыё*
*http://euroradio.fm/naziralnica-zafiksavala-yak-za-noch-byuleteni-u-prazrystay-skryni-peramyascilisya*

## Рэчыца: яўка была значна завышана, камісіі «махлявалі» з галасаваннем па месцы знаходжання

**12.10.2015**

Назіральнік Валер Пуціцкі адзначыў асаблівасці галасавання на ўчастку № 20 горада Рэчыца. – Істотна адрозніваюцца падлікі нашы і камісіі. У датэрміновым галасаванні, па дадзеных камісіі, прынялі ўдзел на 50 чалавек больш, чым па нашых падліках. На 100–140 чалавек завышаны лічбы галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў, на 150 – у дзень асноўнага галасавання, у выніку, як мінімум на 300 чалавек яўка завышана», – падлічыў назіральнік.

Ён заўважыў, што амаль кожны пяты, хто прыходзіў галасаваць, не быў у спісе, і яго дадзеныя заносілі ў дадатковы спіс. Такіх было каля 100 чалавек. «Разам з тым, колькасць выбаршчыкаў у пратаколе павялічылася нязначна – то бок, адных упісалі, іншых выкрэслілі», – заўважыў Валер Пуціцкі.

Па яго дадзеных, праз заявы выказалі жаданне галасаваць дома 67 выбаршчыкаў. Але ў скрыні для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў было налічана 205 бюлетэняў. «Прычым нерэальна за такі час, які адсутнічала камісія, каб прагаласавала столькі чалавек, так выходзіла на кожнага выбаршчыка па дзве хвіліны, такога не можа быць», – падкрэсліў назіральнік.

Яго і іншых назіральнікаў не дапусцілі да падліку галасоў, «адагнаўшы» на 8 метраў.

Па словах Валера Пуціцкага, на ўчастку № 18 назіралася іншая карціна: 247 чалавек падалі заяўкі, каб галасаваць дома, а ў выніку выйшла, што прагаласавала толькі 65 – такія лічбы ў пратаколе камісіі. «То бок, вялікая колькасць людзей – каля 190 чалавек – спачатку хацелі галасаваць дома, а

потым «перадумалі» і прыйшлі на ўчастак самастойна? Такое адчуванне, што спісы для галасавання па месцы знаходжання камісія сама складала, прабачце, «ад балды», — зазначыў назіральнік.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80717*

## Як выдалялі з выбарчага ўчастка маладога назіральніка

**12.10.2015**

На ўчастак № 31 Фрунзенскага раёна г. Мінска прыслалі двух шырокіх моцных дзецюкоў, каб справакаваць маладога назіральніка Арсэна Крамарэнку.

Быў асноўны дзень выбараў, папярэдні назіральнік (якога паспелі выдаліць) выявіў шмат парушэнняў. Новыя, таксама як бы з назіральніцкага шэрагу, пачалі «чапляцца» да Арсэна, агрэсіўна задаваць пытанні, пагражаць. Юнак, па сведчанні «напарніцы» Л. Нікановіч, паводзіў сябе бездакорна. У адказ на яго вусную скаргу старшыня камісіі В.І. Аўрамаў заявіў, што Крамарэнка парушае парадак на ўчастку, бо нібыта фатаграфуе прысутных на тэлефон.

Як толькі адбылося пазбаўленне акрэдытацыі, падстаўныя асобы тут жа зніклі з участка. Па сведчанні «іх» людзей, гэта былі прыезджыя з Гомельскай вобласці.

*Крыніца:*
*Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя*
*http://bchd.info/9973-ya-yklyali-s-ybarchaga-chata-maladoga-nasiralnia.html*

## У Баранавічах назіральнікі падалі скаргі па фактах разыходжання яўкі падчас датэрміновага галасавання

**12.10.2015**

Назіральнікі Рыгор Грык і Таццяна Стрэльчык накіравалі трэцюю скаргу ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру, а таксама Брэсцкую абласную пракуратуру і ЦВК па факце падробкі выбарчых дакументаў на выбарчым участку № 20 (сярэдняя школа № 15). У скарзе паведамляецца, што ўвесь час датэрміновага галасавання яны прысутнічалі на выбарчым участку, уважліва лічылі і запісвалі колькасць прагаласаваўшых выбаршчыкаў. Па іх падліках (табліца назірання прыкладзена), за 5 дзён датэрміновага галасавання прагаласавалі 593 выбаршчыкі, па дадзеных участковай камісіі — 855. Розніца складае 262 чалавекі. Прычым у апошні пяты дзень датэрміновага галасавання, 10-га кастрычніка, у назіральнікаў пазначана, што прагаласавала 206 чалавек, а ў камісіі — толькі 162. На думку Рыгора Грыка і Таццяны Стрэльчык, такое разыходжанне сведчыць пра тое, што старшыня ўчастко-

вай камісіі Віктар Дулуб ведаў колькасць укінутых раней бюлетэняў і, такім чынам, каардынаваў свае дзеянні так, каб дадзеныя аб колькасці бюлетэняў у скрыні адпавядалі выніковай лічбе ў пратаколе.

У сваёй скарзе Рыгор Грык і Таццяна Стрэльчык выказваюць меркаванне, што ўкід бюлетэняў мог адбыцца ў абед ці ноччу і лічаць, што дадзеныя парушэнні фактычна паўплывалі на выніку галасавання на выбарчым участку № 20.

Назіральнікі просяць Баранавіцкую міжраённую пракуратуру і ЦВК правесці праверку па названых фактах, прызнаць вынікі датэрміновага галасавання на выбарчым участку № 20 несапраўднымі, а таксама, у адпаведнасці з арт. 192 Крымінальнага кодэкса РБ, прыцягнуць да крымінальнай адказнасці парушальнікаў выбарчага заканадаўства.

Баранавіцкая міжраённая пракуратура не разгледзела гэтую скаргу 11 кастрычніка, а традыцыйна перанакіравала яе ў ТВК. Старшыня ТВК Тамара Шукала наведала выбарчы ўчастак № 20, узяла пісьмовае тлумачэнне ў Віктара Дулуба, але нават не пагаварыла з назіральнікамі Грыкам і Стрэльчык.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80715*

## На Гродзеншчыне лічбы на ўчастках, дзе вялося незалежнае назіранне, істотна адрозніваюцца ад сярэднестатыстычных

**12.10.2015**

Назіральнікі ў Гродзенскай вобласці адзначаюць істотныя разыходжанні ў агульных лічбах па выбарах паміж агульнымі афіцыйнымі дадзенымі і тымі ўчасткамі, дзе вялося незалежнае назіранне. Так, паводле афіцыйных дадзеных, агульная яўка па вобласці склала 80-85 %. На тых жа ўчастках, дзе вёўся падлік выбарцаў назіральнікамі структуры «Праваабаронцы за свабодныя выбары», яўка значна ніжэйшая. Так, паводле падліку назіральнікаў, яўка выбарцаў на ўчастку № 14 г. Гродна склала 71 % (паводле афіцыйных дадзеных камісіі гэтага ўчастка – 78 %), падчас датэрміновага галасавання на гэты ўчастак прыйшло 20 %. На ўчастку № 10 на датэрміновае галасаванне прыйшло 23 % выбарцаў. Гэтыя лічбы значна меншыя, чым на ўчастках, дзе не было незалежных назіральнікаў.

На ўчастку № 14 Аляксандр Лукашэнка, паводле афіцыйных дадзеных камісіі, набраў 70 %, Таццяна Караткевіч – 14 %, супраць усіх прагаласавала амаль 9 %. Паводле падліку назіральнікаў, яўка выбаршчыкаў была завышана на 80 чалавек.

У некаторых гарадах вобласці сітуацыя падобная. Як паведаміў назіральнік са Смаргоні Юрый Кутузаў, на ўчастку, дзе ён назіраў, яўка склала 77 %. Аляксандр Лукашэнка набраў там 58,9 % галасоў, Таццяна Караткевіч – 26,9 %, супраць усіх прагаласавала 8,4 % выбаршчыкаў.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80707*

## Нават калі выносіш бюлетэнь з участка, колькасць выбаршчыкаў не змяняецца

**12.10.2015**

Як адзначае назіральнік з Магілёва Аляксей Колчын, падлік галасоў аказаўся сфальсіфікаваным.

Падчас галасавання з участка быў вынесены як мінімум адзін бюлетэнь, аднак колькасць выдадзеных бюлетэняў і колькасць прагаласаваўшых выбаршчыкаў у фінальным пратаколе не адрозніваецца – 1 837 чалавек.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80694*

## Назіральнікі з Брэста: «Фактычна падліку галасоў не было»

**14.10.2015**

Галоўная прэтэнзія, якая не дазваляе асобам, што сачылі за ходам галасавання ў якасці назіральнікаў, лічыць гэтыя выбары адкрытымі і празрыстымі, тычыцца працэдуры падліку галасоў.

Яшчэ напачатку датэрміновага галасавання шмат хто з назіральнікаў звяртаўся да выбарчых камісій з прапановамі забяспечыць магчымасць адкрытага падліку галасоў, каб гэтую працэдуру маглі бачыць назіральнікі. Аднак станоўчай рэакцыі ад прадстаўнікоў выбаркамаў не было. Напрыклад, старшыня ўчастковай выбарчай камісіі № 2 г. Брэста Алена Шабуня палічыла немэтазгодным разглядаць такую прапанову на пасяджэнні выбаркама, спаслаўшыся на тое, што на такіх пасяджэннях нібыта разглядаюцца толькі скаргі на рашэнне камісіі.

У выніку, як адзначыла назіральнік Святлана Алясюк, у Брэсце было пададзена тры заявы ў пракуратуру, якія тычацца менавіта закрытай працэдуры падліку галасоў. У сваіх скаргах назіральнікі падаюць прыклады, тога, калі месцы для назірання знаходзіліся за 5 і болей метраў ад стала, дзе адбываўся падлік выбарчых бюлетэняў.

Назіральніца Ірына Сіняпкіна таксама звярнула ўвагу на тое, што на выбарчым участку № 18 у Брэсце камісія прыняла рашэнне лічыць сапсаваныя бюлетэні (дзе было некалькі пазнак насупраць прозвішчаў кандыдатаў) сапраўднымі. Больш за тое, такія бюлетэні палічылі на карысць Аляксандра Лукашэнкі. Назіральнік заўважае, што нават візуальна было бачна, што стос бюлетэняў за дзейнага Прэзідэнта большы за стос бюлетэняў у падтрымку Таццяны Караткевіч прыблізна ў два разы, аднак у выніковым пратаколе адзначалася розніца паміж гэтымі кандыдатамі больш чым у 10 разоў.

Уладзімір Ясковіч, які быў назіральнікам на выбарчым участку № 35 Маскоўскага раёна г. Брэста, паведаміў, што падчас датэрміновага галасавання сябры камісіі і назіральнікі фактычна знаходзіліся ў розных памяшканнях. «Месцы для назіральнікаў былі літаральна на школьным калідоры, а ўчаст-

ковай камісіі – у адным з навучальных кабінетаў, таму сачыць за ходам датэрміновага галасавання прыходзілася толькі праз адчыненыя дзверы, – кажа Ясковіч. – Зразумела, што цалкам мець уяўленне, як адбываюцца выбары, у такіх умовах немагчыма, але на патрабаванні забяспечыць належныя ўмовы для назіральнікаў нам адказвалі, што ў гэтай школе (№10) няма іншых памяшканняў, каб галасаванне не замінала навучальнаму працэсу». Толькі ў асноўны дзень выбараў, калі заняткаў у школе не было, назіральнікі і сябры камісіі працавалі ў адным памяшканні.

Пра парушэнні выбарчага заканадаўства на ўчастку № 67 у Брэсце распавяла назіральнік ад Прафсаюза працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасці Зінаіда Міхнюк. Паводле яе слоў, яўка выбаршчыкаў, якую зафіксавалі назіральнікі, на некалькі соцен чалавек адрознівалася ад выніковых дадзеных выбарчай камісіі. Акрамя таго, участковы выбаркам адхіліў прапанову аб адкрытым падліку галасоў. «Фактычна падліку галасоў не было: скрыні перакулілі, усе бюлетэні раскідалі па стосах, а пасля старшыня камісіі напісаў на паперы, што яму нашапталі сябры камісіі, і сышоў да сакратара. Было бачна, што ў выніковым пратаколе былі запісаны лічбы, якія камісія атрымала ад некага зверху», – заўважае Міхнюк, якая таксама склала скаргу паводле згаданых фактах.

Пра вельмі сур’ёзныя парушэнні выбарчага заканадаўства, якія з’явіліся падставай для звароту ў гарадскую пракуратуру, распавёў брэсцкі актывіст «Руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк, які быў назіральнікам на выбарчым участку № 60 Маскоўскага раёна Брэста. 9 кастрычніка Турчаняк атрымаў бюлетэнь для галасавання і пакінуў яго ў сябе, а ў выбарчую скрыню кінуў звычайны аркуш паперы. Паводле слоў Турчаняка, тое самае зрабілі яшчэ тры асобы, якія перадалі назіральніку выдадзеныя ім бюлетэні. У выніку Дзяніс Турчаняк меў чатыры выбарчых бюлетэні, атрыманых і не выкарыстаных падчас датэрміновага галасавання.

У асноўны дзень выбараў Турчаняк знаходзіўся на ўчастку № 60 у якасці назіральніка. Ён заўважыў, што пячатка на урне для датэрміновага галасавання мела іншыя прыкметы ў параўнанні з тым, як гэта было ў першы дзень галасавання. Назіральнік зрабіў выснову, што згаданая урна была незаконным шляхам адчынена (а пасля зноў апячатана), і паведаміў пра гэта старшыні ўчастковай камісіі Галіне Ківель.

На выбарчым участку № 60 у датэрміновым галасаванні ўзялі ўдзел 365 чалавек, якім была выдадзена адпаведная колькасць бюлетэняў. Падчас падліку галасоў высветлілася, што ў згаданай скрыні знаходзіліся 364 бюлетэні і не было аркушаў паперы, якія трапілі ў выбарчую урну замест бюлетэняў. Дзяніс Турчаняк лічыць, што «аркушы паперы былі прыбраныя з урны нявызначанай асобай і замененыя на фальшывыя бюлетэні».

Аналагічны «эксперымент» на ўчастку № 53 Маскоўскага раёна Брэста зладзіў і назіральнік Сяргей Вакуленка. Паводле яго слоў, там таксама замест двух бюлэтэняў у скрыню для датэрміновага галасавання былі кінуты аркушы паперы, якіх ніхто не знайшоў іх пры падліку галасоў.

Акрамя заўваг, якія тычацца працэдуры падліку галасоў, назіральнікі звяртаюць увагу, што падчас датэрміновага галасавання фактычна выкарыстоўваў-

ся адміністрацыйны рэсурс, каб прымусіць галасаваць не ў асноўны дзень выбараў (асабліва гэта было прыкметна на выбарчых участках, дзе галасуюць студэнты). Шмат пытанняў выклікала і працэдура галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў, якая ў некаторых выпадках істотна паўплывала на выніку выбараў на канкрэтным участку.

*Крыніца:*
*Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*
*http://elections2015.spring96.org/be/news/80777*

## Фальсіфікатараў выбараў патрабуюць прыцягнуць да адказнасці

**14.10.2015**

Чарговы факт фальсіфікацыі выбараў выявіў назіральнік ад Партыі БНФ на ўчастку № 64 у Савецкім раёне Мінска.



*Умовы працы назіральнікаў на участку №25 Цэнтральнага раёна Мінску падчас падліку галасоў*



Назіральнік Аляксандр Акуліч сцвярджае, што пры падліку галасоў камісія «дамалявала» больш за 200 выбаршчыкаў. Ён налічыў 615 чалавек, а ў пратакол унеслі… 851. Прычым, па словах назіральніка, пры абвяшчэнні вынікаў падліку галасоў сакратарка блыталася і некалькі разоў мяняла лічбы.

На ўчастку ўсталявалі адразу дзве скрыні для галасавання. Назіральнік Аляксандр Акуліч лічыў колькасць кінутых у іх бюлетэняў у дзень асноўнага галасавання асобна.

Па яго падліках, 11 кастрычніка ў левую скрыню апусцілі 264 бюлетэні, у правую – 351. Усяго, па дадзеных назіральніка, прагаласавалі 615 грамадзян.

Выбарчая камісія падчас падліку галасоў забараніла назіральнікам набліжацца да стала з бюлетэнямі бліжэй чым на 4 метры.

Спачатку агучылі колькасць тых, хто прагаласаваў датэрмінова – 277 чалавек. Гэтыя вынікі супалі з дадзенымі назіральніка.

А вось далей лічбы не супадалі. У правай скрыні камісія налічыла 299 бюлетэняў – менш, чым налічыў на-

зіральнік. Пры абвяшчэнні вынікаў з левай сакратар камісіі пачаў блытацца і на хаду мяняць лічбы. У выніку абвясцілі — 622 бюлетэні.

Усяго на ўчастку 11-га кастрычніка прагаласаваў 851 чалавек — паводле дадзеных камісіі. Назіральнік жа налічыў 615.

Такім чынам, на адным участку вынікі ў дзвюх скрынях для галасавання адрозніваліся на 100%.

Назіральнік просіць правесці паўторныя выбары на гэтым участку ў сувязі з фальсіфікацыяй вынікаў, а таксама адказных за гэта прыцягнуць да крымінальнай адказнасці ў адпаведнасці з законам.

*Крыніца:*
*Партыя БНФ*
*http://narodny.org/?p=9751*

## Таццяна Караткевіч абскардзіла ў ЦВК вынікі выбараў

**14.10.2015**

Экс-кандыдат у Прэзідэнты Беларусі Таццяна Караткевіч 14 кастрычніка падала ў ЦВК скаргу з просьбай прызнаць вынікі прэзідэнцкіх выбараў несапраўднымі па ўсёй краіне. Як паведаміла Караткевіч журналістам пасля наведвання ЦВК, скаргу прынялі і плануюць разглядзець на пасяджэнні камісіі 16 кастрычніка.

Паводле слоў экс-кандыдата, у скарзе ўтрымліваюцца звесткі кампаній назірання «Права выбару—2015» і «Праваабаронцы за свабодныя выбары», а таксама спіс парушэнняў, зафіксаваных актывістамі штаба Караткевіч, якія заняў 139 старонак. «Мы не спадзяемся на тое, што перагледзяць вынікі, але важна быць паслядоўнымі», — падкрэсліла Караткевіч.

Экс-кандыдат зазначыла, што ў пададзенай скарзе таксама ўтрымліваюцца прапановы для ЦВК па правядзенні наступных выбарчых кампаній. У прыватнасці, прапаноўваецца садзейнічаць рэгістрацыі арганізацый грамадзянскай супольнасці, абмежаваць датэрміновае галасаванне на выбарах, гарантаваць уключэнне ў выбарчыя камісіі прадстаўнікоў усіх кандыдатаў і забяспечыць адкрыты падлік галасоў.

Згодна з артыкулам 79 Выбарчага кодэкса, выбары Прэзідэнта «ў цэлым па рэспубліцы або па асобных участках для галасавання, раёнах, гарадах, раёнах у гарадах, абласцях, горадзе Мінску могуць быць прызнаныя несапраўднымі праз дапушчаныя падчас выбараў або пры падліку галасоў парушэнні патрабаванняў сапраўднага Кодэкса, калі яны паўплывалі на вынікі выбараў у цэлым па рэспубліцы».

Рашэнне аб прызнанні выбараў несапраўднымі прымаецца ЦВК. Скарга аб такім парушэнні павінна быць пададзена кандыдатам у Прэзідэнты не пазней чым на трэці дзень пасля выбараў. Рашэнне ЦВК аб прызнанні выбараў несапраўднымі можа быць абскарджана ў Вярхоўны суд цягам дзесяці дзён. Разам з тым рашэнне аб прызнанні выбараў сапраўднымі абскардзіць нельга.

*Крыніца:*
*Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН*

# У Баранавічах перапісалі пратакол галасавання

**15.10.2015**

Старшыня ТВК Тамара Шукала сцвярджае, што гэткім чынам проста выпраўлялі памылку.

Пра скандал з перапісваннем пратакола паведаміў у «Фэйсбуку» баранавіцкі журналіст Макар Маліноўскі. Вечарам у дзень галасавання ён разам з назіральнікамі сачыў за падлікам галасоў на участку № 36. Пратакол, падпісаны сябрамі камісіі, сфатаграфаваў. А праз некалькі дзён трапіў у тэрытарыяльную камісію.

«Пайшоў я туды, бо мне трэба было праверыць некаторыя лічбы. Дык я прыйшоў і заадно папрасіў пратаколы. Бо я быў на працэсе падліку на адным з участкаў і там Караткевіч набрала афіцыйна каля 17 %», — расказвае Макар.

Хлопец усяго толькі хацеў паглядзець, колькі Таццяна Караткевіч набрала на іншых участках. Афіцыйныя вынікі галасавання моцна адрозніваліся ад тых 17 %, якія апазіцыянерка мела на яго ўчастку.

Версія пратакола, сфатаграфаваная Макарам Маліноўскім на участку № 36 у Баранавічах.

Старшыня тэрытарыяльнай камісіі Тамара Шукала пратаколы журналісту дае. Той глядзіць, і не верыць вачам — лічбы ў дакуменце з 36-га ўчастка зусім не такія, якімі былі вечарам 11-га кастрычніка. У Караткевіч на 130 галасоў менш, усяго прагаласавала на 118 выбаршчыкаў больш, а вынік Лукашэнкі павялічыўся з 1 014 да 1 283 галасоў. Макар Маліноўскі тым больш здзіўляецца, што не асабліва верыць і вынікам першага пратакола:



*Версія пратакола, сфатаграфаваная Макарам Маліноўскім на участку № 36 у Баранавічах.*



*Версія выніковага пратакола галасавання на 36-ым участку ў Баранавічах, якую Маліноўскі сфатаграфаваў у памяшканні тэрытарыяльнай камісіі.*

– Не было бачна сапраўднага выніку. Нас не падпускалі да месца, дзе лічылі галасы. Таму магчыма, што нават гэты вынік быў несапраўдным. Але ж усё адно за Караткевіч было 17 %. Гэты вынік большы, чым той, што агучылі пасля ў ЦВК.

У каментары парталу tut.by Тамара Шукала назвала сітуацыю «памылкай». Маўляў, у сябраў камісіі участка № 36 проста «не сышліся лічбы». Таму было вырашана пералічыць усе бюлетэні і абнавіць пратакол. Атрымаць больш падрабязны каментар у Шукалы (якая датаго ж з’яўляецца членам Савета рэспублікі) не атрымліваецца — тэрытарыяльная камісія спыніла сваю працу. А ў аддзеле ідэалогіі Баранавіцкага райвыканкама спадарыню Шукала так і не змаглі знайсці — «мабільны не адказвае», а «ў трох кабінетах яе няма». Тая ж гісторыя і з іншымі чальцамі камісіі.

Версія выніковага пратакола галасавання на 36-ым участку ў Баранавічах, якую Маліноўскі сфатаграфаваў у памяшканні тэрытарыяльнай камісіі.

*Крыніца:*
*Эўрарадыё*
*http://euroradio.fm/u-baranavichah-perapisali-pratakol-galasavannya-yuryst-geta-kryminal*

## Пракуратура адмовілася займацца справай пра фальсіфікацыі выбараў у Брэсце

**19.10.2015**


Турчаняку Д.В.
ул.
г.Брест

Уважаемый Денис Вячеславович!

Московская районная в г.Бресте комиссия по выборам Президента Республики Беларусь по существу Вашего обращения от 12.10.2015 в прокуратуру города Бреста сообщает следующее.

Выборы Президента Республики Беларусь на избирательном участке № 60 по выборам Президента Республики Беларусь проводились в соответствии с нормами Избирательного кодекса Республики Беларусь.

В случае несогласия с ответом Вы вправе обжаловать его в Брестскую областную территориальную комиссию по выборам Президента Республики Беларусь (г.Брест, ул.Ленина, 13, каб. 207).

Председатель Московской Районной в г.Бресте комиссии по выборам Президента Республики Беларусь Г.А.[illegible]

Сябра Рады ПАГА «Рух «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк, які быў адным з ініцыятараў правядзення ў Брэсце «кантрольнага галасавання», атрымаў адказ на свой зварот у пракуратуру. Папера прыйшла з раённай выбарчай камісіі, і з яе вынікае, што справай ніхто займацца не плануе.

Нагадаем, актывісты «Руху «За Свабоду» ў Брэсце правялі выбарчы эксперымент: прыйшлі прагаласаваць на ўчасткі пад час датэрміновага галасавання, узялі бюлетэні, але апускаць іх у урны не сталі, а кінулі туды лісты паперы. На двух участках камісіі не знайшлі ні недахопу бюлетэняў, ні лістоў паперы пры падліку. Пададзеныя заявы ў пракуратуру па факце падробкі дакуме--нтаў і заведама няправільнага падліку галасоў. Дзяніс Турчаняк прапанаваў правесці такі эксперымент больш шырока на парламенцкіх выбарах.

«Маскоўская раённая ў г. Брэсце камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сутнасці вашага звароту ад 12 кастрычніка ў пракуратуру г. Брэста паведамляе наступнае. Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на выбарчым участку № 60 праводзіліся ў адпаведнасці з нормамі Выбарчага кодэкса», – сказана ў адказе за подпісам старшыні выбаркама Янгаленкі.

У выпадку нязгоды з адказам у выбаркаме прапануюць абскарджваць яго ў Брэсцкай абласной тэрытарыяльнай камісіі.

– Пракуратура парушыла Крымінальна-працэсуальны кодэкс і накіравала нашыя заявы пра ўзбуджэнне крымінальнай справы ў орган, які не паўнамоцны прымаць рашэнне пра ўзбуджэнне крымінальнай справы, г.зн., у камісію Маскоўскага раёна Брэста, – пракаментаваў сайту Рух.by Дзяніс Турчаняк.

Па ягоных словах, актывісты плануюць абскарджваць гэтыя дзеянні ў абласной пракуратуры, а калі не падзейнічае – у Генеральнай.

– У камісіі досыць шырокая трактоўка норм Выбарчага кодэкса, бо для іх нормай паводзін сталі фальсіфікацыі. Справа павінна быць расследавана, і мы будзем працягваць яе далей, – адзначыў першы намеснік старшыні ПАГА «Рух «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

*Крыніца*
*ПАГА «Рух «За Свабоду»*
*http://pyx.by/bel/news/4295/*

## Сябра БНФ звольненая за ўдзел у назіранні за выбарамі

**21.10.2015**

Людміла Церашонкава, якая працавала ў дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе (ДЮСШ) алімпійскага рэзэрву № 4 дворнікам, лічыць сваё звальненне палітычна матываваным.

Людміла Ігнацьеўна была звольнена 10-га кастрычніка ў сувязі са сканчэннем тэрміна працоўнага кантракта. Паколькі з боку адміністрацыі ніякіх прэтэнзій наконт стаўлення актывісткі Партыі БНФ да сваіх працоўных абавязкаў не было, яна мяркуе, што адмову ў працягненні кантракта можна растлумачыць толькі непрыманнем той актыўнай грамадскай і палітычнай пазіцыі, якую яна займае.

Спадарыня Людміла распавядае: «Дворнікам (на 0,75 стаўкі) я працавала добрасумленна, ніякіх нараканняў на мяне не было, у канфлікты не ўступала. Калектыў ведаў, што я з'яўляюся сябрам БНФ, што ў якасці назіральніка ўдзельнічаю ў выбарах, але адмоўна з гэтай нагоды ніхто не выказваўся. Так, адмаўляць не буду, часам тым, хто цікавіўся, я прыносіла сякія-такія газеты пачытаць. Непасрэдна перад выбарамі нашым дырэктарам было заяўлена, каб ніякіх газет і ніякай агітацыі на працы не было. Мне пра яго папярэджанні распавялі калегі. Ніякай агітацыі ў гэтыя дні я і не праводзіла, і ніякіх газет не прыносіла.

За месяц да сканчэння майго кантракта мне нагадалі пра гэта. Я напісала заяву на працягненне кантракта, дзе пазначыла, што мяне задаволіць нават такі варыянт, пры якім мне дадуць дапрацаваць хоць бы да снежня. Мне адмовілі. Я не пагадзілася з такім рашэннем і напісала дзве заявы: адну – ва Упраўленне спорту і турызму Віцебскага аблвыканкама, другую – у аналягічную структуру гарвыканкама. Адказаў пакуль няма.

З улікам таго, што на дадзены момант працу дворніка вымушаны выконваць мой муж, бачна, што мяне звольнілі без усялякай сувязі з вытворчай неабходнасцю або з магчымым абнаўленнем кадраў. А вось тая актыўнасць, якую я праяўляла раней і цяпер, падчас гэтай прэзідэнцкай кампаніі, – яна досыць прыкметная і відавочная. Таму я схільная меркаваць, што маё звальненне адбылося выключна па палітычных матывах».

У перыяд прэзідэнцкай кампаніі Людміла Церашонкава актыўна праявіла сябе ў ролі назіральніка на выбарчым участку № 15, размешчаным у будынку 31-й школы. За кароткі тэрмін на дзеянні камісіі ёю былі складзены тры скаргі.

Напрыканцы аднаго з дзён датэрміновага галасавання сп. Людміла зазірнула ў кабінку для тайнага волевыяўлення і ўбачыла, што ва ўзоры запаўнення бюлетэня знак прастаўлены насупраць трэцяга кандыдата – акурат там, дзе ў бюлетэні для галасавання стаіць прозвішча Лукашэнкі. І хоць прозвішча ва ўзоры было прыдуманае, яна напісала скаргу, у якой запатрабавала ад камісіі змяніць размяшчэнне знака на ўзоры. Камісія прыслухалася да патрабавання назіральніцы, і размяшчэнне галачкі змянілі, паставіўшы яе насупраць першага прозвішча (дзе ў бюлетэні знаходзілася імя кандыдата ў Прэзідэнты С. Гайдукевіча).

Другая скарга, пададзеная ёю, тычылася вынасу скрыні для датэрміновага галасавання з памяшкання для галасавання. Яе выносілі далёка па калідоры ў кабінет, размешчаны на другім канцы будынка. Апроч таго, назіральніца запатрабавала, каб кабінет на ноч апячатваўся. На наступны дзень камісія знайшла кабінет для скрыні, размешчаны бліжэй да месца галасавання.

У дзень асноўнага галасавання падчас падліку галасоў актывісткай БНФ была пададзена скарга адносна адсутнасці галоснай і адкрытай працэдуры падліку галасоў.

Як мяркуе Людміла Церашонкава, на выніκі выбараў вельмі істотна паўплывала тая акалічнасць, што ўлада цалкам выкарыстала магчымасці адміністрацыйнага рэсурсу. Праз сродкі масавай інфармацыі народ проста падрыхтавалі, падвялі да неабходнага для ўлады выніку.

Як паказвае практыка, у сучаснай Беларусі звычайнаму грамадзяніну аспрэчыць сваё незаконнае звальненне настолькі ж цяжка, а часам і немагчыма, як немагчыма кандыдату ў Прэзідэнты, які прайграў, дамагчыся пераліку галасоў хаця б па адным выбарчым участку, нават маючы для таго досыць важкія падставы.

*Крыніца:*
*Партыя БНФ*
*http://narodny.org/?p=9631*

## Назіральніцы, якая заявіла пра фальсіфікацыі на выбарах, далі 2,7 млн штрафу

**04.11.2015**




Увечары 4 лістапада суд Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці пастанавіў даць маладому палітыку Алёне Луцковіч штраф у 15 базавых велічыняў (2,7 млн рублёў) за несакцыянаваны пікет. Гісторыя пачалася з таго, што жанчына падчас выбараў прэзідэнта была назіральніцай на ўчастку №2 г. п. Акцябрскі. Яна прыйшла да высновы, што вынікі былі сфальсіфікаваныя. Каб паведаміць пра гэта шырокай грамадскасці, Алёна Луцковіч выйшла з плакатам на мясцовы рынак. 30 кастрычніка там якраз быў рынкавы дзень.

Пасля пікету жанчына выправілася ў Следчы камітэт і напісала заяву аб парушэнні артыкула №192 крымінальны кодэксу. Мясцовы СК знаходзіцца ў адным будынку з міліцыяй, таму прама там Луцковіч затрымалі і склалі на яе пратакол за несанкцыянаваны пікет.

«Са сведак былі два індывідуальныя прадпрымальнікі. Адна з іх сказала, што бачыла жанчыну з плакатам, яка была ў сіняй куртцы, і апазнаць мяне не можа. Я ж была ў шэрым паліто. Паказанні другога сведкі супярэчылі пратаколу апытання. Ён сказаў, што падпісаў пратакол, не чытаючы. Яшчэ было два міліцыянеры, якія назіралі за мной падчас пікету. Чакала, што рашэне суда будзе больш жорсткім, але адвакат мяне добра бараніў», — паведамляе Луцковіч Еўрарадыё пра ход судовага працэсу. Цяпер палітык чакае вынікаў праверкі, якую праводзіць Следчы камітэт.

Нагадаем, пасля публікацыі ЦВК вынікаў выбараў Андрэй Павук, які быў назіральнікам участку №2 у Акцябрскім (дзе назірала і Алёна Луцковіч), апублікаваў у інтэрнэце фота копіі пратакола свайго ўчастка. Згодна з дадзенымі ЦВК, ва ўсім Акцябрскім раёне Гомельскай вобласці за кандыдата ў прэзідэнты Таццяну Караткевіч прагаласавалі 94 жыхары, за Сяргея Гайдукевіча – 116, за Мікалая Улаховіча – 32, а супраць усіх – 39 чалавек. У той жа час, толькі згодна з копіяй пратакола выбарчага ўчастка №2, за Караткевіч прагаласавала 226 чалавек, а супраць усіх – 63. Назіральнікі напісалі скаргу.

*Крыніца:*
*Эўрарадыё*
*http://euroradio.fm/naziralnicy-yakaya-zayavila-pra-falsifikacyi-na-vybarah-dali-27-mln-shtrafu*

# Сябру выбарчай камісіі ад апазыцыі звальняюць з працы

**11.12.2015**

Прыхільніцу БНФ Тацяну Бялько зь вёскі Дзеравянчыцы Слонімскага раёну, якая працавала прыбіральшчыцай на мясцовай фэрме сельгаспрадпрыемства «Пераможца», прымусілі звольніцца з працы пасьля таго, як яна аслухалася начальніцу і ўвайшла ў склад участковай камісіі па выбарах прэзыдэнта.

Паводле Тацяны Бялько, падчас выбараў яна была вылучаная ў сябры ўчастковай камісіі ад раённага аддзяленьня партыі БНФ і была адзінай прадстаўніцай дэмакратычных партый у раёне, каму ўдалося трапіць у склад участковых камісій.

Загадчыца фэрмы, паводле Бялько, адразу яе папярэдзіла, каб ня ўдзельнічала ў працы камісіі, маўляў, ведаю я вашую партыю.

Тлумачэньні Бялько аб тым, што яна займаецца цалкам законнай дзейнасьцю, на загадчыцу не падзейнічалі, але і сама Бялько не паслухала сваю кіраўніцу і, як належыць, брала ўдзел у працы участковай камісіі № 32 у сваёй роднай вёсцы.

— Калі на ўчастку пачалі разьмяркоўваць час, каму і калі дзяжурыць, то я сказала, што не магу з-за працы і папрасіла, каб мне ў зручны час паставілі дзяжурства 3 гадзіны. Загадчыцу я папярэдзіла, што ўсё пасьпею зрабіць, нават пазьней прыеду на працу і ўсё прыбяру, але яна мяне ўсё роўна не адпускала з працы. Тады я папросту села і сама паехала. У нядзелю я хадзіла са скрыняй для галасаваньня па хатах і, відаць, яна бачыла. Потым у інтэрнэце зьявілася інфармацыя, што мяне загадчыца не пускала працаваць у камісію, і яна сказала, што гэтага мне не даруе.

А потым, ужо пасьля выбараў, паводле Бялько, пачалася помста:

— А чаму ты села? Падыдзеш да сваіх аднавяскоўак паразмаўляць — а чаму ты тут? Выносіш сьмецьце — а чаму ты тут спынілася… Я аднойчы ня вытрымала і напісала заяву на звальненьне.

Дырэктар гаспадаркі Мікалай Грэчышнікаў на маё пытаньне, чаму для працы ва ўчастковай камісіі не адпускалі Бялько — адказаў, што гэта не адпавядае рэчаіснасьці. Паводле яго, загадчыца фэрмы адпускала Бялько на працу ў камісіі, калі тая адпрошвалася.

— Асабіста сказаў загадчыцы фэрмы, каб адпускала Бялько для працы ў камісіі. А Бялько звольнілася па ўласным жаданьні, хаця ейная праца цалкам задавальняла і загадчыцу фэрмы. Ну, і як можна стварыць умовы, немагчымыя для працы? Гэта сельская гаспадарка, яна павінна выконваць сваю працу і ўсё.

Спадарыня Тацяна кажа, што ёй надакучылі прыніжэньні ад начальніцы, яна не баіцца працы, але не разумее, калі адзін чалавек ставіцца да іншага не па-людзку.

Спадарыня Тацяна, як сама кажа, чалавек неканфліктны, ёй надакучылі прыніжэньні ад начальніцы, яна не баіцца працы, але не разумее, калі адзін чалавек ставіцца да іншага не па-людзку. Ёй засталося да пэнсіі

паўтара году, і цяпер яна шукае іншую працу. Праўда, у сваёй гаспадарцы яе ўжо нікім не бяруць, як сама кажа, за палітычную дзейнасьць.

Цікаўлюся ў спадарыні Тацяны — ці шукала яна працу ў іншым месцы акрамя сваёй вёскі? Была ў Слоніме, але і там складанасьці.

— Цяжка знайсьці працу, асабліва калі даведваюцца твой узрост. Зьвярталася ў гатэль «Шчара» — там была вакансія — адмовілі, тэлефанавала на камвольны камбінат, і напачатку, нібыта, хацелі ўзяць, а потым раптам — не…

Дарэчы, у сельгаспрадпрыемстве «Пераможца» ўжо два месяцы не выплочваюць заробак. Дырэктар Грачышнікаў сказаў Свабодзе, што ёсьць часовыя складанасьці, але якія канкрэтна, не патлумачыў.

*Крыніца:*
*Радыё Свабода*
*http://www.svaboda.org/content/article/27420893.html*

## Міліцыя адмовілася распачынаць крымінальную справу па замененых бюлетэнях

**30.12.2015**

Актывісты ПАГА «Рух «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк і Сяргей Вакуленка атрымалі адказ наконт міліцэйскай праверкі, што адбывалася на падставе заяў, датычных здарэнняў падчас датэрміновага галасавання.

Нагадаем, што актывісты правялі эксперымент на выбарчых участках № 60 і № 53 Маскоўскага раёна горада Брэста, калі прынялі ўдзел у датэрміновым галасаванні, але замест атрыманых бюлетэняў (іх яны забралі с сабой) апусцілі ў скрыню чыстыя лісты паперы. Па такім жа сцэнары дзейнічалі яшчэ некалькі чалавек, і ў выніку ў Дзяніса Турчаняка аказаліся 4 бюлетэні з участку № 60, а ў Сяргея Вакуленкі — 2 бюлетэні з участку № 53.

«Паводле логікі ўчастковыя камісіі пры падліку галасоў павінны былі выявіць нястачу бюлетэняў, якія знаходзіліся ў мяне і Вакуленкі, але гэтага не адбылося, — распавядае Турчаняк. — У выніковым пратаколе была пазначана такая колькасць бюлетэняў, быццам ніхто іх не выносіў. Я падазраю, што кінутыя намі лісты паперы былі заменены на фальшывыя бюлетэні, якія дадалі галасы каму-небудзь з кандыдатаў».

Дзяніс Турчаняк абурае і тое, што пасля азнаямлення з матэрыяламі міліцэйскай праверкі сярод дакументаў не было арыгінальных бюлетэняў, якія актывісты перадалі ўчастковаму інспектару. «Гэтыя бюлетэні з'яўляюцца важным доказам, але на дадзены момант невядома, дзе яны знаходзяцца. Не хочацца думаць, што ў міліцэйскіх памяшканнях бюлетэні хтосьці незаконна выкраў і знішчыў. Мы просім пракурора горада правесці праверку паводле гэтага фактагэтага факту», — кажа Турчаняк.

Актывісты просяць пракурора адмяніць пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, бо лічаць, што міліцыя правяла правер-

ку не ў поўным аб'ёме. У скарзе яны звярнулі ўвагу на тое, што не былі апытаныя супрацоўнікі міліцыі, якія кругласутачна дзяжурылі на згаданых выбарчых участках. Таксама не далучаны да матэрыялаў праверкі і не прааналізаваны пратаколы аб выніках галасавання; не зроблена ніякіх дзеянняў, накіраваных на выяўленне падробленых бюлетэняў, якімі былі заменены ўкінуты лісты паперы.

*Крыніца:*
*ПАГА «Рух «За Свабоду«*
*http://pyx.by/bel/news/4448/*

Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека

# РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

## ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ
## 11 кастрычніка 2015 года

**Канчатковая справаздача Місіі па назіранні за выбарамі АБСЕ/БДІПЧ**

Office for Democratic Institutions and Human Rights

**Варшава**
**28 студзеня 2015**

## ЗМЕСТ

**РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ**
**ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ**
**11 КАСТРЫЧНІКА 2015 ГОДА**

**Канчатковая справаздача Місіі па назіранні за выбарамі АБСЕ/БДІПЧ[1]**

## I. КАРОТКАЕ РЭЗЮМЭ

Услед за афіцыйным запрашэннем ад уладаў Рэспублікі Беларусь Бюро АБСЕ па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (АБСЕ/БДІПЧ) стварыла Місію па назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі (МНВ), прызначанымі на 11 кастрычніка 2015 г. МНВ АБСЕ/БДІПЧ ажыццяўляла назіранне дзеля таго, каб вызначыць, ці адпавядаюць выбары абавязацельствам у рамках АБСЕ, іншым міжнародным абавязацельствам і стандартам па правядзенні дэмакратычных выбараў і нацыянальнаму заканадаўству. Для назірання ў дзень выбараў, АБСЕ/БДІПЧ аб'яднала намаганні з дэлегацыямі назіральнікаў з Парламенцкай асамблеі АБСЕ (ПА АБСЕ) і Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ), каб сфармаваць Міжнародную місію па назіранні за выбарамі (ММНВ). Кожная з устаноў, якія ўдзельнічаліў гэтай ММНВ прытрымліваюцца Дэкларацыіпрынцыпаў міжнароднага назірання за выбарамі 2005 года.

Прэзідэнцкія выбары, якія адбыліся 11 кастрычніка, паказалі, што Беларусь яшчэ мае прайсці значны шлях да выканання сваіх абавязкаў у рамках АБСЕ па правядзенні дэмакратычных выбараў. Гэта падкрэслівае неабходнасць палітычнай волі для ажыццяўлення комплексных рэформаў. Былі адзначаныя некаторыя пэўныя паляпшэнні і спрыяльнае стаўленне. Наяўнасць істотных праблемаў, у прыватнасці, падчас падліку галасоў і занясення вынікаў у пратаколы, ставіць пад сумнеў сумленнасць выбарчага працэсу. Кампанія і дзень выбараў прайшлі мірна.

Нягледзячы на спрыяльную дзейнасць дзяржаўных органаў улады, прававая база істотна не змянілася ад моманту мінулых прэзідэнцкіх выбараў. У папярэдніх справаздачах было выяўлена, што яна недастаткова забяспечвае выкананне патрабаванняў Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года і іншых міжнародных стандартаў падчас правядзення выбараў. У папраўках ў Выбарчы кодэкс, унесеных у 2013 і 2014 гадах, не быў ўлічаны шэраг рэкамендацыяў АБСЕ/БДІПЧ і Венецыянскай камісіі Савета Еўропы, сярод якіх такія ключавыя рэкамендацыі, як неабходнасць у збалансаваным складзе выбарчых камісій, а таксама рэкамендацыі адносна правядзення датэрміновага галасавання. Такія прававыя недахопы абмяжоўваюць свабоднае волевыяўленне выбаршчыкаў.

У адказ на адкрытае і неабмежавальнае запрашэнне з боку беларускіх уладаў структураў Міжнароднай місіі па назіранні за выбарамі, Цэнтральная выбарчая камісія праявіла добразычлівае стаўленне да міжнародных назіральнікаў. Яна ажыццявіла тэхнічную падрыхтоўку і прыняла ўсе рашэнні ў вызначаныя законам тэрміны. Усе рашэнні былі прынятыя адзінагалосна і разам з нормамі і метадычнымі рэкамендацыямі былі апублікаваныя на сайце ЦВК. Аднак адсутнасць ясных і празрыстых прававых крытэраў фарміравання складу тэрытарыяльных выбарчых камісій (ТВК) і ўчастковых выбарчых камісій (УВК) дазволіла мясцовым органам улады прызначаць сябраў камісіі цалкам паводле свайго меркавання, што не забяспечвае інклюзіўнасці. Агулам некаторыя зацікаўленыя бакі, якія маюць дачыненне да выбарчага працэсу, паставілі пад сумнеў незалежнасць і непрадузятасць выбарчых камісій.

[1] Англійская версія дадзенай справаздачы з’яўляецца адзіным афіцыйным дакументам. Існуе неафіцыйны пераклад на беларускую і рускую мовы.

ЦВК не апублікавала агульную колькасць надрукаваных і размеркаваных бюлетэняў, і ў цэлым, працэсу бракавала адказнасці і ён не быў даступны для назіральнікаў. ТВК арганізавалі базавую падрыхтоўку для кіраўніцтва УВК па датэрміновым галасаванні і працэдурах у дзень выбараў, курсы навучання адрозніваліся па комплекснасці і метадалогіі.

УВК адказваюць за рэгістрацыю выбаршчыкаў па падставе інфармацыі, перададзенай мясцовымі ўладамі, пры гэтым адсутнічае пастаянны ці цэнтралізаваны спіс выбаршчыкаў, што не забяспечвае прававых гарантый недапушчэння рэгістрацыі выбаршчыка на некалькіх участках. Перад днём выбараў ЦВК абвесціла, што ўсяго зарэгістравана 6 997 181 выбаршчыкаў. Сістэма рэгістрацыі выбаршчыкаў мае празмерна дазвольны характар і дапускае рэгістрацыю на выбарчым участку ў дзень галасавання без забеспячэння дастатковых прававых гарантый. Увогуле, МНВ АБСЕ/БДІПЧ адчувала цяжкасці ў атрыманні базавай інфармацыі пра выбаршчыкаў ад выбарчых камісій, што значна паменьшыла празрыстасць выбарчай адміністрацыі.

ЦВК зарэгістравала 8 ініцыятыўных групаў з 15, якія падалі заяву на збор подпісаў, а пасля зарэгістравала чатырох кандыдатаў. Усе ініцыятыўныя групы мелі магчымасць збіраць подпісы ў падтрымку кандыдатаў па ўсёй краіне. Насуперак закону, аб'яднані, якія субсідуюцца дзяржавай, ўдзельнічалі ў зборы подпісаў на карысць дзеючага прэзідэнта. Праверка подпісаў была недастаткова празрыстая і падрывала давер да працэсу.

Сярод станоўчых момантаў варта адзначыць, што пасля серыі вызваленняў, якія адбыліся ў 2014 годзе, ў жніўні 2015 года прэзідэнт вызваліў астатніх міжнародна прызнаных палітычных вязняў, аднак ім было адмоўлена ва ўдзеле ў якасці кандыдатаў.

Упершыню ў якасці кандыдата ў прэзідэнты удзельнічала жанчына. Жанчыны былі шырока прадстаўленыя ў выбарчых камісіях: 59 і 71,5 адсоткаў сябраў ТВК і УВК адпаведна. Пасады сакратара ва ўсіх ТВК займалі жанчыны, але толькі траціна старшыняў ТВК была прадстаўленая жанчынамі. Чацвёра сябраў ЦВК, у тым ліку і старшыня, – жанчыны.

Усе кандыдаты праводзілі перадвыбарчую агітацыю па ўсёй краіне і маглі бесперашкодна звяртацца са сваімі пасланнямі да электарату. Перадвыбарчая агітацыя насіла стрыманы характар, але актывізавалася ў апошнія два тыдні. Дзейсныя палажэнні і законы 2011 і 2012 гадоў абмяжоўваюць фундаментальныя свабоды аб’яднанняў, сходаў і выказванняў. Толькі адзін кандыдат, які ў сваёй выбарчай праграме акцэнтаваў увагу на сацыяльна-эканамічных праблемах, адкрыта крытыкаваў дзеючага прэзідэнта. Гэта абмежавала выбар электарату.

У перыяд кампаніі дзейнічалі няроўныя ўмовы правядзення агітацыі, што прывяло да размывання межаў паміж партыйнымі інтарэсамі і дзяржавай, што супярэчыць пунктам 5.4, 7.6 і 7.7 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 г. У той час, як старшыня штабу дзеючага прэзідэнта сышла ў адпачынак са свайго міністэскага паста, высокапастаўленыя дзяржслужачыя і службовыя асобы праводзілі агітацыйную дзейнасць у свой працоўны час ад імя дзеючага прэзідэнта. Шэраг агітацыйных мерапрыемстваў быў праведзены на дзяржаўных прадпрыемствах і некаторыя грамадскія аб’яднанні і ўстановы, якія субсідзіруюцца дзяржавай, праводзілі кампанію ў падтрымку дзеючага прэзідэнта.

Дапаўненні ў заканадаўства, прынятыя ў 2013 годзе, павысілі максімальны памер ахвяраванняў і ліміт выдаткаў, але скасавалі дзяржаўнае фінансаванне. Кандыдаты мелі права выкарыстоўваць свае асабістыя сродкі і ахвяраванні на правядзенне кампаніі. Падаўжэнне тэрміну для збору і выкарыстання фінансавых сродкаў стала крокам, які быў пазітыўна ацэнены кандыдатамі ў прэзідэнты. Дабрачынным і рэлігійным арганізацыям і арганізацыям, якія фінансуюцца дзяржавай, правамоцна не дазволена рабіць унёс ў выбарчыя фонды, аднак

некаторыя грамадскія аб’яднанні, якія фінансуюцца з бюджэту, выдаткоўвалі фінансавыя сродкі і ўнёскі ў неграшовай форме падчас збору подпісаў і правядзення кампаніі ў падтрымку дзеючага прэзідэнта. ЦВК публікавала інфармацыю аб агульнай суме паступленняў і выдаткаў кандыдатаў. Поўных фінансавых справаздачаў кандыдатаў не было ў адкрытым доступе. Гэта, разам з адсутнасцю патрабавання па правядзенні аўдыту, не забяспечыла дастатковай празрыстасці фінансавання кампаніі.

Нягледзячы на абмежаваныя ўмовы выкарыстання СМІ, кандыдаты мелі магчымасць данесці свае ідэі да грамадства. Вынікі маніторынгу СМІ, які ажыццяўляла МНВ АБСЕ/БДІПЧ, паказалі, што дзеючы прэзідэнт быў найбольш заўважны, дзякуючы шырокаму асвятленню яго асобы падчас выканання ім сваіх службовых абавязкаў. Апроч таго, некаторыя дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі працавалі такім чынам, каб сфармуліраваць палітычныя пасланні на ягоную карысць, і актыўна стымулявалі ўдзел выбаршчыкаў. Быў забяспечаны бясплатны роўны доступ да дзяржаўных СМІ без цэнзуры, што было станоўча ацэнена кандыдатамі, а таксама СМІ даносілі да грамадства інфармацыю для выбаршчыкаў. Трэцяга кастрычніка адбыліся дэбаты ў прамым эфіры паміж трыма перадвыбарчымі штабамі, апроч дзеючага прэзідэнта.

Некаторыя рашэнні выбарчых камісій, у тым ліку адносна канчатковых вынікаў галасавання, не падлягаюць юрыдычнаму абскарджванню, і існуюць неапраўданыя абмежаванні кола асобаў, якія могуць падаваць скаргі, у залежнасці ад іх прадмета. Больш за 2 000 скаргаў і зваротаў былі падазденыя ў перыяд выбараў, амаль усе яны былі адхіленыя. Большасць скаргаў тычылася парушэнняў ў час галасавання і падліку, злоўжывання адміністратыўным рэсурсам для збору подпісаў і правядзення кампаніі ў падтрымку дзеючага прэзідэнта і прызначэня складу ТВК і УВК. ЦВК разгледзела толькі 4 з 400 скаргаў на адкрытых паседжэннях, але не апублікавала інфармацыю пра іх. Агулам, урэгуляванне скаргаў выбарчымі камісіямі было недастаткова празрыстым і не з’яўлялася сродкам абароны правоў.

Канстытуцыя і прававая база прадугледжваюць роўны ўдзел мужчын і жанчын у выбарчым працэсе. Упершыню ў якасці кандыдата ў прэзідэнты удзельнічала жанчына. Жанчыны добра прадстаўленыя ў выбарчых камісіях: 59% і 72% сябраў ТВК і УВК адпаведна. Пасады сакратара ва ўсіх ТВК займалі жанчыны, але толькі траціна старшыняў ТВК была прадстаўленая жанчынамі. ЧацвёЗ дванаццаці сябраў ЦВК чатыры – жанчыны, у тым ліку і старшыня ЦВК.

Усяго былі акрэдытаваныя 43 572 грамадзянскіх назіральніка і 928 міжнародных назіральнікаў. Прыблізна дзве траціны ўсіх акрэдытаваных грамадзянскіх назіральнікаў прадстаўлялі грамадскія аб’яднанні, якія субсідуюцца дзяржавай. Правы грамадзянскіх і міжнародных назіральнікаў тлумачыліся і ажыццяўліся амбежавальна. Назіральнікі не маглі сачыць за ўсімі этапамі выбарчага працэсу, а выбарчыя камісіі былі надзеленыя вырашальнымі паўнамоцтвамі па адмаўленні ў доступе назіральнікам, што пярэчыць міжнародным нормам добрасумленнай практыкі. Тры незалежныя грамадзянскія назіральніцкія групы ажыццяўлялі доўгатэрміновае назіранне і рэгулярна публікавалі вынікі сваёй працы. Старшыня ЦВК публічна крытыкавала працу некаторых грамадзянскіх назіральнікаў. Хоць грамадзянскія назіральнікі ад грамадскіх аб'яднанняў прысутнічалі на большасці выбарчых участкаў у дзень выбараў, яны часта не маглі назваць арганізацыю, якую яны прадстаўлялі.

Згодна з законам, усе выбаршчыкі маюць права прагаласаваць датэрмінова за пяць дзён без неабходнасці тлумачыць прычыну. У цэлым працэдуру датэрміновага галасавання МНВ АБСЕ/БДІПЧ ацаніла станоўча. Аднак, у 50 адсотках выпадкаў назіральнікам не было дазволена праверыць спісы выбаршчыкаў, а ў некаторых выпадках назіральнікам не давалі магчымасці сачыць за працэсам. У шэраг УВК былі пададзеныя скаргі наконт меркаванага

несупадзення паміж яўкай і колькасцю подпісаў, пастаўленых у спісах выбаршчыкаў, а таксама наконт супярэчнасцяў у запаўненні штодзённых пратаколаў.

У дзень выбараў працэс галасавання быў ацэнены станоўча ў 94 адсотках назіранняў. Вялікай колькасці назіральнікаў ММНВ адмовілі ў доступе да спісаў выбаршчыкаў, а тыя, хто меў доступ да спісау, заўважылі на 47 участках групы ідэнтычных подпісаў. Прыкметы ўкідвання бюлетэняў — пачкі бюлетэняў — прысутнічалі на 5 выбарчых участках. Такія назіранні сведчаць аб сур'езных парушэннях.

Назіральнікі ацанілі падлік галасоў як негатыўны, пры гэтым прыблізна 30 адсоткаў выбарчых участкаў, на якіх вялося назіранне, атрымалі адзнаку "кепска" ці "вельмі кепска", што сведчыць аб наяўнасці значных праблем. Адзін з пяці УВК не выконваў базавыя працэдуры звядзення, такія як падлік колькасці подпісаў у спісах выбаршчыкаў і абавязковая перакрыжаваная праверка, якая з'яўляецца важнай мерай перасцярогі. Назіральнікі ММНВ паведамілі аб значных працэдурных памылках або хібах ў адным з трох выпадкаў назірання, у тым ліку аб фальсіфікацыі вынікаў. У пяці выпадкаух назіральнікі паведамілі пра наяўнасць прыкмет укідвання бюлетэняў падчас падліку. Такія элементы ставяць пад сумнеў дакладнасць прадстаўленых вынікаў.

Працэс звядзення быў ацэнены негатыўна ў 33 з 133 ТВК, на якіх вялося назіранне, што з'яўляецца істотнай лічбай. Некаторыя ТВК адклалі звязденне атрыманых ад УВК пратаколаў да наступнага дня без усялякай на тое прычыны і без апрацоўкі іх у прысутнасці сябраў участковай выбарчай камісіі. Такія дзеянні не дадаюць ўпэўненасць у дакладнасці паведамляных вынікаў. ЦВК абвясціла канчатковыя вынікі выбараў 16 кастрычніка, аднак не публікавала вынікі выбараў з разбіўкай па выбарчых участках, такім чынам абыходзячы асноўную гарантыю празрыстасці і падрываючы давер грамадскасці.

Увогуле, праблемы з доступам і празрыстасцю былі адзначаныя назіральнікамі ММНВ на ўсіх этапах у дзень выбараў. Назіральнікі ММНВ заявілі, што на 6 адсотках выбарчых участкаў, на якіх вялося назіранне, сябры УВК не ішлі з імі на паўнавартаснае супрацоўніцтва. У адной трациіне выбарчых участкаў падчас падліку галасоў назіральнікі ММНВ паведамлялі, што некалькі УВК прыняла наўмысныя дзеянні, каб паменшыць доступ назіральнікаў.Акрамя таго, падвядзенню вынікаў у ТВК бракавала празрыстасці.Назіральнікі ММНВ былі абмежаваныя ў сваёй працы ў 77 ТВК і не маглі добра бачыць працэс ў 23 ТВК. Паўнавартаснае назіранне не было магчымае ў 14 ТВК.

Незалежныя грамадзянскія арганізацый назіральнікаў і адзін кандыдат аспрэчвалі вынікі выбараў на розных узроўнях. 1 326 скаргаў былі пададзеныя датычна парушэнняў датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў. Адзін кандыдат падаў агульную скаргу ў ЦВК, якая налічвала 1 287 меркаваных парушэнняў, патрабуючы ад ЦВК прызнаць несапраўднымі вынікі выбараў па ўсёй краіне; гэтая скарга была адхіленая. У цэлым, разгляд скаргаў не з'явіўся эфектыўным сродкам прававой абароны і, магчыма, пакінуў парушэнні без санкцый.

## II. УВОДЗІНЫ І ПАДЗЯКІ

Услед за афіцыйным запрашэннем ад уладаў Рэспублікі Беларусь і на падставе рэкамендацыі Місіі па ацэнцы патрэбаў, праведзенай з 14 па 17 ліпеня, Бюро АБСЕ па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (АБСЕ/БДІПЧ) стварыла 26 жніўня Місію па назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі (МНВ), прызначанымі на 11 кастрычніка 2015 г.[2] МНВ ўзначаліў пасол

[2] Гл. усе папярэднія справаздачы АБСЕ/БДІПЧ па Беларусі.

Жак Фор, яна складалася з 13 экспертаў, якія працавалiў Мінску, і 36 доўгатэрміновых назіральнікаў, размешчаных па ўсёй краіне. Сябры місіі былі ўзятыя з 21 дзяржаў-удзельніц АБСЕ.

Для назірання ў дзень выбараў АБСЕ/БДІПЧ аб'яднала намаганні з дэлегацыямі назіральнікаў з Парламенцкай асамблеі АБСЕ (ПА АБСЕ) і Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ), каб сфармаваць Міжнародную місію па назіранні за выбарамі (ММНВ). Дзеючы Старшыня АБСЕ прызначыў Кента Харштэдта (Швецыя) Спецыяльным каардынатарам і кіраўніком місіі кароткатэрміновых назіральнікаў АБСЕ. Джым Уолш (Ірландыя) ачоліў дэлегацыю ПА АБСЕ і Рэха Дэнемеч (Турцыя) узначаліў дэлегацыю ПАСЕ. У агульнай складанасці назіранне ажыццяўлялі 399 назіральнікаў з 36 краін, у тым ліку 327 доўгатэрміновых (ДН) і кароткатэрміновых назіральнікаў (КН), разгорнутых АБСЕ/БДІПЧ, а таксама 59 парламентарыяў і супрацоўнікаў ПА АБСЕ і 13 ад ПАСЕ. Назіранне за галасаваннем праводзілася на 1 520 з 6 129 выбарчых участках, назіранне за падлікам — на 173 выбарчых участках, звод вынікаў у табліцы назіраўася ў 133 з 146 тэрытарыяльных выбарчых камісій (ТВК).

МНВ АБСЕ/БДІПЧ ажыццяўляла назіранне дзеля таго, каб вызначыць, ці адпавядаюць выбары абавязацельствам у рамках АБСЕ і стандартам Савета Еўропы, а таксама міжнародным абавязацельствам па правядзенні дэмакратычных выбараў і нацыянальнаму заканадаўству. Гэтая канчатковая справаздача выдаецца за Заявай аб паряэдніх выніках і заключэннях, якая была апублікаваная на прэс-канферэнцыі ў Мінску 12 кастрычніка.

МНВ АБСЕ/БДІПЧ жадае выказаць падзяку ўладам Беларусі за запрашэнне да назірання за выбарамі, Цэнтральнай камісіі па правядзенні выбараў і рэспубліканскіх рэферэндумаў (ЦВК) за яе супрацоўніцтва і прадастаўленне акрэдытацыі, таксама Міністэрству замежных спраў і іншым органам улады за іх дапамогу. Місія таксама выказвае сваю ўдзячнасць прадстаўнікам палітычных партый, сродкаў масавай інфармацыі, грамадзянскай супольнасці і іншым суразмоўцам за абмен поглядамі. МНВ АБСЕ/БДІПЧ таксама выказвае падзяку дыпламатычным прадстаўніцтвам дзяржаў-удзельніц АБСЕ за іх супрацоўніцтва і падтрымку.

## III. ПАЛІТЫЧНАЯ АБСТАВІНЫ

30 чэрвеня Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу прызначыла прэзідэнцкія выбары на 11 кастрычніка. Гэта былі пятыя прэзідэнцкія выбары ад моманту набыцця Беларуссю незалежнасці ў 1991 годзе. У Канстытуцыю 1994 года былі двойчы ўнесеныя папраўкі шляхам рэспубліканскага рэферэндуму: у 1996 годзе былі пашыраныя паўнамоцтвы прэзідэнта, у 2004 годзе было скасаванае палажэнне, якое абмяжоўвала права адной асобы абірацца прэзідэнтам больш за два тэрміны.[3] Гэтыя папраўкі дазволілі дзеючаму прэзідэнту Аляксандру Лукашэнка балатавацца ў прэзідэнты на пяты тэрмін.

Беларусь – гэта прэзідэнцкая рэспубліка, у якой выканаўчая ўлада валодае шырокімі паўнамоцтвамі. Палітычная сістэма характарызуецца слабай партыйнай сістэмай.

АБСЕ/БДІПЧ ажыццяўляла назіранне за шасцю апошнімі выбарамі з 2001 года, усе з якіх былі ацэненыя як неадпавядаючыя абавязацельствам у рамках АБСЕ і міжнародным стандартам па

---

[3] Камісія Савета Еўропы за дэмакратыю праз права (Венецыянская камісія) у сваім заключэнні аб Рэферэндуме, праведзеным у Беларусі 17 кастрычніка 2004 года, тады заявіла, што "пытанне адносна магчымасці сп-ра Лукашэнкі яшчэ раз вылучацца ў кандыдаты на наступных выбарах проста і выразна супярэчыць гэтаму закону (Канстытуцыі). Такім чынам, яно не можа вырашацца шляхам рэферэндуму".

правядзенні дэмакратычных выбараў. Апошнія прэзідэнцкія выбары адбыліся ў снежні 2010 года і прывялі да вулічных пратэстаў і арышту сямі кандыдатаў у прэзідэнты і некалькіх сотняў грамадзян, грамадскіх актывістаў і журналістаў. 22 жніўня астатнія палітычныя вязні, асуджаныя ў тым ліку і за ўдзел у тых падзеях, былі вызваленыя да заканчэння поўнага тэрміну пакарання. З ўлікам таго, што права вылучацца ў кандыдаты выключае асоб з наяўнасцю папярэдняй судзімасці, яны не змаглі быць вылучаны ў кандыдаты, а далейшая дзейнасць, такая як удзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах, можа прывесці да ўзнаўлення судовых выракаў.

Выбары праводзіліся падчас эканамічнага спаду і ў атмасферы заклапочанасці сітуацыяй з рэгіянальнай бяспекай. Гэта можна разглядаць як сур'ёзнае выпрабаванне на шляху паляпшэння адносінаў з партнёрамі краіны.

## IV. ПРАВАЯ БАЗА І ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

### A. ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

Прэзідэнт абіраецца на пяцігадовы тэрмін пасродкам выбараў у два туры па мажарытарнаму прынцыпу ў рамках адзінай нацыянальнай выбарчай акругі. У выпадку, калі ніхто з кандыдатаў не здоляе набраць больш за 50% пададзеных галасоў у першым туры, то праз два тыдні праводзіцца другі тур галасавання з удзелам двух кандыдатаў, якія набралі найбольшую колькасць галасоў у першым туры. Для прызнання выбараў адбыўшыміся, яўка выбаршчыкаў павінна скласці больш за 50% ад агульнай колькасці зарэгістраваных выбаршчыкаў. У выпадку прызнання выбараў не адбыушыміся паўторныя выбары таксама патрабуюць яўкі не ніжэй за 50%. Гэта патрабаванне адносіцца да абодвух тураў, што патэнцыйна можа прывесці да цыклаў неадбыўшыхся выбараў.

### B. ПРАВАВАЯ БАЗА

Выбарчы працэс рэгулюецца непасрэдна Канстытуцыяй і Выбарчым кодэксам.[4] Прававая база істотна не змянілася ад моманту мінулых прэзідэнцкіх выбараў; у папярэдніх справаздачах АБСЕ/БДІПЧ было выяўлена, што яна недастаткова забяспечвае выкананне абавязацельстваў у рамках АБСЕ і міжнародных стандартаў падчас правядзення выбараў. Нягледзячы на спрыяльную паслявыбарчую дзейнасць, у папраўках, прынятых у 2013 і 2014 гадах, не былі ўлічаныя ключавыя рэкамендацыі АБСЕ/БДІПЧ.[5]Апроч таго, насуперак пункту 5.8 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года, не праводзілася грамадскіх абмеркаванняў з удзелам зацікаўленых бакоў да прыняцця гэтых папраавак.[6]

*Трэба разгледзець магчымасць комплекснай прававой рэформы і распрацаваць яе на аснове папярэдніх рэкамендацый АБСЕ/БДІПЧ, у тым ліку Сумеснага меркавання АБСЕ/БДІПЧ і Венецыянскай камісіі, і праз інклюзіўны працэс з усімі зацікаўленымі бакамі.*

---

4 Дадатковымі крыніцамі рэгулявання з'яўляюцца Закон "Аб масавых мерапрыемствах" 1997 г., Закон "Аб сродках масавай інфармацыі" 2008 г., Грамадзянскі працэсуальны кодэкс 1999 г., Крымінальны кодэкс 1999 г., Кодэкс аб адміністратыўных парушэннях 2003 г. і пастанаўленні Цэнтральнай выбарчай камісіі.

5 У сваіх выніковых справаздачах, прысвечаных выбарам 2010 і 2012 гадоў, МНВ АБСЕ/БДІПЧ вынесла ўсяго 38 рэкамендацый, 16 з якіх паўтараліся ў справаздачах па выбарах у абодвух выпадках. З гэтых рэкамендацый толькі тры былі часткова выкананыя. У 2013 годзе Беларусь двойчы запрашала і прымала ў сябе місіі АБСЕ/БДІПЧ, дзеля таго каб абмеркаваць папярэднія рэкамендацыі і запланаваныя папраўкі. У далейшым ад Беларусі не паступала ніякіх запытаў правесці афіцыйную прававую экспертызу папярэдніх ці прынятых папраавак.

6 Паводле пункта 5.8 заканадаўства прымаецца пасля сканчэння публічных працэдур.

Заўважаныя недахопы прававой базы ўключаюць у сябе няясныя правілы фарміравання выбарчых камісій і ажыццяўлення працэсу праверкі подпісаў з боку тэрытарыяльных выбарчых камісіяў (ТВК), а таксама адсутнасць працэсуальных гарантыяў пры падліку галасоў і падвядзенні вынікаў галасавання, у тым ліку, адсутнасць патрабавання публікацыі неагрэгіраваных вынікаў выбараў, што супярэчыць пункту 7.4 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 г.[7] Прававыя сродкі супраць злоўжывання дзяржаўнымі рэсурсамі не з'яўляюцца дастатковымі, правы назіральнікаў і іншых удзельнікаў выбарчага працэсу абмежаваныя, а юрыдычная дапамога не эфектыўная. Усе разам гэтыя прававыя недахопы перашкаджаюць забеспячэнню празрыстасці і справядлівасці выбарчага працэсу.

*Выбарчы кодэкс трэба змяніць, каб уключыць істотныя працэсуальныя гарантыі, якія забяспечваюць надзейнасць і празрыстасць ўсіх этапаў выбарчага працэсу, у прыватнасці, складу выбарчых камісій, праверкі подпісаў у падтрымку, правоў назіральнікаў, правядзення датэрміновага і мабільнага галасавання, а таксама сумленнага падліку галасоў і звядзення вынікаў.*

У больш шырокім сэнсе, змены у палажэнні і законы, прынятыя ў 2011 і 2012 гг. яшчэ больш абмяжоўваюць свабоды аб'яднанняў, сходаў і слова.[8] Закон надае органам улады дыскрэцыйныя паўнамоцтвы адмаўляць ў рэгістрацыі палітычным партыям і грамадскім аб'яднанням і пазбаўляць іх рэгістрацыі, а таксама крыміналізуе замежнае фінансаванне праваабарончых арганізацыяў.[9] Нягледзячы на неаднаразовыя заявы, ніводная новая палітычная партыя не змагла зарэгістравацца з 2000 года, што суперэчыць пункту 7.6 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 г.[10] У выніку паправак былі ўведзеныя складаныя працэдуры атрымання дазволу на правядзенне грамадскіх сходаў і сталі больш жорсткімі меры пакарання за арганізацыю несанкцыянаваных мітынгаў.[11]Свабода слова была дадаткова абмежаваная забаронай заклікаў і ажыццяўлення дзеянняў, накіраваных на зрыў, адмену і перанос выбараў, у дадатак да існуючага крымінальнага і адміністратыўнага пераследу за дыскрэдытацыю і абразу. Такія непрапарцыйныя і неабгрунтаваныя прававыя абмежаванні не гарантуюць свабодную волю выбаршчыкаў і супярэчаць Капенгагенскаму дакументу АБСЕ 1990 года, Заўваге агульнага парадку № 25 Камітэта Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па правах

---

7 Паводле пункта 7.4 дзяржавы-ўдзельніцы абавязуюцца забяспечваць таемнае галасаванне або ўжыванне раўнацэннай працэдуры вольнага галасавання, а таксама сумленны падлік і абвяшчэнне галасоў, публічнае абвяшчэнне афіцыйных вынікаў.

8 Папраўкі былі ўнесеныя ў Выбарчы кодэкс, Законы "Аб масавых мерапрыемствах", "Аб грамадскіх аб'яднаннях", "Аб сродках масавай інфармацыі", "Аб палітычных партыях", Крымінальны кодэкс, Адміністратыўна-працэсуальны кодэкс і Кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях.

9 Закон аб палітычных партыях і закон аб грамадскіх аб'яднаннях прызначаюць празмерна цяжкі працэс рэгістрацыі і надаюць Міністэрству юстыцыі шырокія паўнамоцтвы адхіляць заяўкі на фармальных падставах, у тым ліку з-за граматычных і арфаграфічных памылак у заяўках. Ўказы Прэзідэнта № 24 ад 28 лістапада 2003 года і № 5 ад 31 жніўня 2015 года забараняюць грамадскім аб'яднанням карыстацца замежнымі сродкамі для розных мэтаў, уключаючы выбары, нарады, семінары і іншую палітычную дзейнасць. Атрыманне замежных фондаў з'яўляецца адміністрацыйным правапарушэннем ў адпаведнасці з артыкулам 23.24 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Паўторнае адміністрацыйнае правапарушэнне ў тым жа годзе з'яўляецца крымінальным злачынствам у адпаведнасці з артыкулам 369.2 Крымінальнага кодэкса.

10 Пункт 7.6 прадугледжвае, што краіны-ўдзельніцы павінны паважаць права асобных асобаў і груп асобаў ствараць ва ўмовах поўнай свабоды свае палітычныя партыі і іншыя арганізацыі. Зусім нядаўна, 14 жніўня, аргкамітэту Беларускай хрысціянскай дэмакратыі было адмоўлена ў рэгістрацыі ў Міністэрстве юстыцыі. 14 кастрычніка Вярхоўны суд пакінуў у сіле рашэнне пасля звароту.

11 У Сумесным заключэнні АБСЕ/БДІПЧ і Венецыянскай камісіі аб Законе аб масавых мерапыемствах адзначаецца, што дзейсныя нормы, якія тычацца свабоды сходаў, выклікаюць сур'ёзную заклапочанасць адносна іх адпаведнасці міжнародным стандартам.

чалавека (СПЧ ААН) 1996 года, Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП) і іншым міжнародным абавязацельствам і стандартам.

*Ва ўсе адпаведныя законы і ўказы неабходна ўнесці папраўкі для таго, каб якія-небудзь абмежаванні асноўных свабод мелі характар выключэнняў, накладваліся толькі тады, калі неабходна ў дэмакратычным грамадстве, былі суразмернымі з легітымнай мэтай і не прымяняліся адвольным і празмерна абмежавальным чынам.*

Выбарчы кодэкс прадугледжвае два віды санкцый, папярэджанні і зняцце з уліку, якія могуць быць накладзеныя выбарчымі камісіямі на кандыдата за шэраг парушэнняў. Акрамя таго, суды могуць накладаць штрафы і турэмныя тэрміны. У той час, як штрафы за цяжкія парушэнні, як уяўляецца, нязначныя і, такім чынам, недастаткова стрымліваючыя, пазбаўленне рэгістрацыі кандыдата павінна быць толькі санкцыяй крайняга выпадку, пасля сур'ёзных і паўтаральных парушэнняў закона.

*Закон трэба змяніць, каб прапісаць вычарпальны пералік магчымых выбарчых парушэнняў і адпаведных санкцый, якія павінны быць суразмернымі і мець стрымліваючае ўздзеянне.*

## V. ВЫБАРЧАЯ АДМІНІСТРАЦЫЯ

Падрыхтоўка і правядзенне выбараў ажыццяўляецца з выкарыстаннем трохузроўневай сістэмы выбарчых камісіяў, якая складаецца з ЦВК, 153 ТВК і 6 129 участковых выбарчых камісіяў (УВК). 49 УВК былі сфарміраваныя пры дыпламатычных прадстаўніцтвах за мяжой.
ЦВК, створаная ў 2001 г., з’яўляецца адзіным пастаянна дзеючым выбарчым органам, пры гэтым толькі старшыня і сакратар працуюць на ўмовах поўнай занятасці. Шэсць з 12 сябраў ЦВК прызначаюцца прэзідэнтам, у тым ліку старшыня, а шэсць – абіраюцца Саветам Рэспублікі з кандыдатураў, рэкамендаваных сумеснымі рашэннямі абласных і Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў і выканаўчых камітэтаў. ЦВК мае восем штатных супрацоўнікаў, у тым ліку кіраўніка юрыдычнага і адміністрацыйнага аддзела ЦВК, які таксама з'яўляецца сябрам ЦВК. Чацвёра сябраў ЦВК, у тым ліку і старшыня, – жанчыны. Старшыня ЦВК рэгулярна з’яўлялася ў СМІ на працягу ўсяго перыяду выбараў, часам робячы катэгарычныя каментары пра кандыдатаў і назіральнікаў. Тры кандыдаты ў прэзідэнты накіравалі ў ЦВК сваіх прадстаўнікоў з правам дарадчага голасу, і ўсе чатыры кандыдаты прызначылі 117 давераных асобаў агулам па краіне.[12]

*Уладам варта перагледзець механізм прызначэння сябраў ЦВК, каб забяспечыць дастатковыя гарантыі яе незалежнасці і бесстароннасці і павысіць даверу грамадскасці да выбарчай адміністрацыі.*

Цэнтральная выбарчая камісія праявіла добразычлівае стаўленне да міжнародных назіральнікаў. Яна ажыццявіла тэхнічную падрыхтоўку і прыняла ўсе рашэнні ў вызначаныя законам тэрміны. Усе рашэнні былі прынятыя адзінагалосна і разам з нормамі і метадычнымі рэкамендацыямі былі своечасова апублікаваныя на сайце ЦВК.

ЦВК распрацавала кіраўніцтва для ТВК і УВК і базавыя навучальныя матэрыялы для

[12] Згодна з Выбарчым кодэксам, кандыдаты маюць права накіроўваць у ЦВК сваіх прадстаўнікоў з правам дарадчага голасу і да 30 давераных асобаў па ўсёй краіне. Дзеючы прэзідэнт не вылучыў дарадчага сябра камісіі.

ніжэйстаячых камісій.[13] ЦВК пакінула шэраг пытанняў істотна неўрэгуляванымі, у тым ліку выкарыстанне фота-прылад на выбарчых участках, размяшчэнне спісаў выбаршчыкаў і парадак мадыфікацыі спісаў выбаршчыкаў, што не забяспечыла адзіны падход пры вырашэнні гэтых пытанняў камісіямі ніжэйшага ўзроўню.

*ЦВК трэба выпрацаваць падрабязныя працэдуры для аспектаў, якія да гэтага часу не ўрэгуляваныя Выбарчым кодэксам дзеля павышэння падсправаздачнасці, празрыстасці, усёахопнасці, надзейнасці і цэласнасць працэсу і забяспячэння зразумелых і адзіных правілаў для выбарчых камісій ніжэйшага ўзроўню.*

Нягледзячы на тое, што Выбарчы кодэкс прадугледжвае незалежнасць выбарчых камісіяў ад любых органаў улады, дзяржаўныя органы выконвалі ключавую ролю ў прызначэнні сябраў камісіяў. ТВК фарміруюцца сумеснымі рашэннямі абласных і Мінскага гарадскога савета дэпутатаў і выканаўчых камітэтаў, а УВК – рашэннем раённых ці гарадскіх камітэтаў альбо мясцовых органаў улады. Не менш за адну траціну сябраў ТВК і УВК павінна быць вылучана палітычнымі партыямі і грамадскімі аб'яднаннямі, дзяржаўныя служачыя могуць складаць не больш за траціну сябраў камісіі, а ў склад кожнай камісіі не можа ўваходзіць больш за аднаго прадстаўніка ад кожнай арганізацыі, якая вылучае сваіх чальцоў. Нягледзячы на тое, што Выбарчы кодэкс забараняе ўваход у склад выбарчых камісій кіраўнікам мясцовых выканаўчых і адміністратыўных органаў, МНВ АБСЕ/БДІПЧ адзначыла, што іншыя прадстаўнікі вышэйшага кіраўніцтва гэтых органаў, такія як намеснікі старшыняў ці загадчыкі аддзелаў, займаюць кіруючыя пасады ў некаторых ТВК альбо кіруюць іх працай.[14]

Юрыдычныя прынцыпы фарміравання складу чальцоў ТВК і УВК патэнцыйна маглі б забяспечыць збалансаванае прадстаўленне разнастайных поглядаў. Аднак адсутнасць ясных прававых крытэраў абрання ў склад выбарчых камісій пакоідае гэты працэц цалкам у кампетэнцыіі мясцовых органаў улады.[15] Гэта дало ім фактычныя паўнамоцтвы па прыняцці рашэнняў у выбарчых камісіях. Толькі некалькі прадстаўнікоў апазіцыйных групаў трапілі ў склад ТВК і УВК, пры гэтым ніводны з іх не атрымаў кіруючую пасаду.[16] Іхнія скаргі, якія тычаліся адмовы ў прызначэнні прадстаўнікоў у склад камісій, былі, як правіла, адхіленыя як "беспадстаўныя". І наадварот, праўладныя грамадскія аб'яднанні былі паспяховымі у вылучэнні — па меншай меры 8 з 10 з іх кандыдатаў быў прызначаны у камісіі.[17] У агульнай складанасці, мясцовыя органы ўлады прызначылі паводле 2 623 сябраў ТВК і 66 941 сябраў УВК. Працэс вылучэння не з'яўляўся інклюзіўным і быў недастаткова празрыстым. Апазіцыя і шэраг прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці, у тым ліку грамадзянскіх назіральнікаў і праваабаронцаў, паставілі пад сумнеў незалежнасць і неперадузятасць выбарчай адміністрацыі.

---

[13] У прыватнасці, Пастанова ЦВК №11 ад 14 мая (Кіраўніцтва для УВК) сцвярджае, што "Старшыня УВК не мае права ігнараваць запыты назіральнікаў і павінны гарантаваць, што яны знаходзяцца ў месцы, дзе яны могуць назіраць за падлікам галасоў." Аднак, кіраўніцтва УВК атрымала шырокую свабоду дзеянняў ў стануленні да назіральнікаў. Гл."дзень выбараў".

[14] МНВ АБСЕ/БДІПЧ мела магчымасць назіраць гэта у ТВК Мінску (Заводскі раён), у Гомельскай вобласці (Буда- Кашалёўскі і Рагачоўскі раёны), Гродзенскай (Ленінскі раён г. Гродна, Бераставіцкі і Свіслацкі раёны) і ў некалькіх ТВК у Магілеўскай вобласці.

[15] Раней падобная заклапочаннасць выказвалася у Сумесным заключэнні АБСЕ/БДІПЧ і Венецыянскай камісіі аб папраўках у Выбарчы кодэкс.

[16] Суразмоўцы з кааліцыі "Права выбару 2015", грамадскай назіральніцкай групы, праінфармавалі МНВ АБСЕ/БДІПЧ, што з 374 прадстаўнікоў, вылучаных імі ў УВК, толькі 10 былі прызначаныя ў склад камісіяў, ўвогуле, каля паловы аднаго адсотка прызначаных сябраў камісій належалі да незалежных арганізацый або апазіцыйных партый.

[17] *Белая Русь* атрымала 90,1 адсоткаў прызначэнняў намінантаў; *Рэспубліканскі саюз моладзі* (БРСМ) – 87,8 дсоткаў; і *Федэрацыя прафсаюзаў* (ФПС) – 84 адсоткаў.

*Дзеля таго каб забяспечыць сапраўды плюралістычны склад выбарчых камісій і ўмацаваць давер да выбарчай адміністрацыі, варта разгледзець магчымасць перагляду сістэмы вылучэння і прызначэння сябраў выбарчых камісій і забяспечыць уключэнне сябраў камісіі, якіх вылучаюць удзельнікі выбараў, на ўсіх узроўнях выбарчай адміністрацыі.*

ТВК праводзілі паседжанні, на якіх маглі прысутнічаць назіральнікі. ТВК арганізавалі базавы інструктаж для кіраўніцтва УВК па датэрміновым галасаванні і па выбарчым працэсе ў дзень галасавання. Паводле паведамленняў доўгатэрміновых назіральнікаў МНВ АБСЕ/БДІПЧ, курсы навучання адрозніваліся па комплекснасці і метадалогіі. Жанчыны былі шырока прадстаўленыя ў выбарчых камісіях: 59% і 71,5% сябраў ТВК і УВК адпаведна. Пасады сакратара ва ўсіх ТВК займалі жанчыны, але толькі траціна старшыняў ТВК была прадстаўленая жанчынамі.

ЦВК падрыхтавала агульныя біяграфічныя звесткі пра кандыдатаў, якія былі дасланыя выбаршчыкам па пошце і размешчаныя ў адмыслова прызначаных месцах і на выбарчых участках. ЦВК надрукавана плакаты з агульнай інфармацыяй для выбаршчыкаў; аднак яна не ініцыявала ніякай інфармацыйнай кампаніі для выбаршчыкаў ў сродках масавай інфармацыі. Інваліды па зроку мелі магчымасць атрымаць трафарэты і звесткі пра кандыдатаў на шрыфце Брайля.[18]Большасць выбарчага матэрыялу была падрыхтаваная на беларускай і рускай мовах, але некаторая частка была даступная толькі па-руску.

ЦВК замовіла друк 7 285 000 бюлетэняў паводле звесткау пра колькасць выбаршчыкоу, аднак не апублікавала агульную колькасць надрукаваных і размеркаваных бюлетэняў. У цэлым, працэсу друку і размеркавання бюлетэняў не хапала падсправаздачнасці і ён не быў даступны для назіральнікаў.

## VI. РЭГІСТРАЦЫЯ ВЫБАРШЧЫКАЎ

Грамадзяне, якім споўнілася на дзень выбараў 18 год, маюць права прагаласаваць на ўчастку па месцы жыхарства. Згодна з Выбарчым кодэксам, у галасаванні ня могуць прымаць удзел грамадзяне, прызнаныя судом законна абмежаванымі ў праве і/ці дзеяздольнасці, а таксама асобы, якія ўтрымліваюцца па судовому выраку ў месцах пазбаўлення волі.[19] Пазбаўленне выбарчага права зняволеных, незалежна ад цяжкасці ўчыненага злачынства і асобаў, якія ўтрымліваюцца ў следчым ізалятары, не адпавядае прынцыпу ўсеагульнага выбарчага права.[20] Сярод пазітыўных момантаў варта адзначыць, што 24 верасня ЦВК прыняла пастанаўленне, якое надзяляе правам голасу грамадзян, асуджаных да арышту за ўчыненне злачынства на тэрмін да трох месяцаў.[21]

---

[18] У адказ на крытыку датычна незварота належнай увагі да галсавання інвалідаў, 24 верасня ЦВК прыняла рашэнне, якое разам з іншымі мерамі, патрабавала ад БРСМ забяспечыць добраахвотнікаў для палягчэння доступу інвалідаў-выбаршчыкаў на выбарчыя ўчасткі і дапамогі ім у галасаванні. Такая мера з'яўляецца праблематычнай, улічваючы, што праўрадавае аб’яднанне БРСМ таксама было ўцягнута ў збор подпісаў і агітацыю на карысць дзеючага прэзідэнта.

[19] 28 верасня 2015 г. Беларусь падпісала Канвенцыю Арганізацыі Аб'яднаных Нацый аб правах інвалідаў, але яшчэ не ратыфікавала. Канвенцыя патрабуе, каб дзяржавы "гарантавалі інвалідам палітычныя правы і магчымасць карыстацца імі нароўні з іншымі".

[20] Згодна з пунктам 7.3 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года, краіны-удзельніцы “гарантуюць дарослым грамадзянам усеагульнае і роўнае выбарчае права”, а паводле пункта 24, абмежаванне правоў і свабодаў павінна быць “строга суразмерна прызначэнню гэтага закона”. У адпаведнасці з пунктам 14 Заўваг агульнага парадку 25, прынятых Камітэтам па правах чалавека ў 1996 годзе, прычыны пазбаўлення права голасу павінны быць “аб’ектыўнымі і абгрунтаванымі”.

[21] Пастанова ЦВК № 78 дазволіла тым, хто знаходзіцца пад хатнім арыштам, ажыццявіць сваё права голасу.

*Усеагульнае пазбаўленне выбарчых правоў грамадзянаў у дасудовым затрыманні або тым, якія адбываюць пакаранне, незалежна ад цяжару здзейсненага злачынства трэба перагледзець, каб забяспечыць прапарцыянальнасць абмежавання, якое накладаецца, цяжару здзейсненага злачынства. Усеагульнае абмежаванне выбарчых правоў асо прызнаных псіхічна недзеяздольнымі трэба скасаваць або прымаць рашэнне ў кожным індывідуальным выпадку ў залежнасці ад канкрэтных абставінаў.*

УВК адказваюць за рэгістрацыю выбаршчыкаў на падставе інфармацыі, перададзенай мясцовымі ўладамі, пры гэтым адсутнічае пастаянны ці цэнтралізаваны спіс выбаршчыкаў.[22] Гэта не забяспечвае прававых гарантыяў недапушчэння рэгістрацыі выбаршчыка на некалькіх участках. УВК выкарыстоўвалі розныя спосабы праверкі спісаў, у тым ліку шляхам наведвання выбаршчыкаў па месцу жыхарства. Спісы выбаршчыкаў публічна не абвяшчаюцца; аднак, яны былі даступныя для выбаршчыкаў па запыце на выбарчых участках для кантролю і выпраўлення. Пасля праверкі спісаў выбаршчыкаў, якая была завершана 25 верасня, ЦВК абвясціла, што ў агульнай складанасці было зарэгістравана 6 995 181 выбаршчыкаў, у тым ліку 5 742 выбаршчыкаў за мяжой. ЦВК не прадставіла дэзагрэгіраваную інфармацыю пра зарэгістраваных выбаршчыкоў ніжэй *абласнога* ўзроўню. Акрамя таго, АБСЕ / БДІПЧ і некаторыя групы грамадзянскіх назіральнікаў сутыкнуліся з цяжкасцямі ў доступе да спісаў выбаршчыкаў і атрыманні асноўнай інфармацыі выбаршчыкаў ад ТВК і УВК, у тым ліку падчас датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў. Гэта значна зменшыла празрыстасць працэсу адміністравання выбараў.

*Да дня галасавання выбаршчыкі павінны мець магчымасць праверыць спісы выбаршчыкаў і запытаць змяніць інфармацыю пра іх. Канчатковыя спісы выбаршчыкаў павінны быць апублікаваныя разам з дэталізаванай інфармацыяй. Назіральнікі і прадстаўнікі кандыдатаў павінны мець доступ да спісаў выбаршчыкаў.*

Згодна з заканадаўствам, выбаршчык можа быць зарэгістраваны толькі на адным участку для галасавання.[23] Аднак сістэма рэгістрацыі выбаршчыкаў мае празмерна дазвольны характар і дапускае рэгістрацыю на выбарчым участку ў дзень галасавання без забеспячэння дастатковых прававых гарантый.[24] Паводле пастановы ЦВК грамадзяне могуць быць дададзеныя ў спіс выбаршчыкаў па месцы часовага пражывання на падставе мінімальнай доказы (напрыклад, дагавора арэнды памяшкання) у дадатак да сапраўднага пашпарта, якая змяшчае інфармацыю пра жыхарства. У гэтым выпадку, ад УВК патрабавалася адправіць апавяшчэнне з просьбай выключыць такіх выбаршчыкаў са спісу выбаршчыкаў па месцы пастаяннага пражывання; пра агульны лік такіх выпадкаў не была даступна ніякая інфармацыя.[25] ЦВК таксама вырашыла прымаць некалькі тыпаў дакументаў у якасці надзейнай ідэнтыфікацыі выбаршчыкаў, але толькі для грамадзян, якія былі ўжо зарэгістраваныя ў спісе выбаршчыкаў

*Можна ўсталяваць прававы тэрмін рэгістрацыі выбаршчыкаў да дня галасавання, калі дадатковыя запісы дазваляюцца толькі ў адпаведнасці з пэўнымі юрыдычнымі патрабаваннямі, якія падлягаюць судоваму кантролю.*

---

22 Раздзел I.2 Кодэкса добрасумленнай практыкі па пытаннях выбараў Венецыянскай камісіі Савета Еўропы (Кодэкс добрасумленнай практыкі) патрабуе наяўнасць пастаяннага спісу выбаршчыкаў.

23 ЦВК не праінструктавала УВК па працэдуры складання і праверкі спісаў выбаршчыкаў. Больш за тое, інструкцыя ЦВК No23 ад 01.07.2015 г. адносна парадку галасавання грамадзянаў за мяжой не патрабавала выдалення зарэгістраваных выбаршчыкаў, якія будуць галасаваць за мяжой, са спісу выбаршчыкаў, якія будуць галасаваць у Беларусі.

24 Пункт I.1.2.vi Кодэкса добрасумленнай практыкі гаворыць, што рэгістрацыя выбаршчыкаў не павінна праводзіцца на выбарчых участках у дзень выбараў.

25 ЦВК выдала толькі інфармацыю аб колькасці выбаршчыкаў, дададзеных да спісаў выбаршчыкаў у дзень выбараў, якая склала 16 752 выбаршчыкаў.

праверкі подпісаў у цяперашнім выкананні дае магчымасць прымаць адвольныя рашэнні і з'яўляецца патэнцыйнай перашкодай для ўдзелу ў выбарах у якасці кандыдата праз сваю недастатковую празрыстасць і падрывае давер да працэсу.[31]

*Улады павінны забяспечыць роўныя ўмовы для збору подпісаў у падтрымку кандыдата. У адпаведнасці з добрай выбарчай практыкай, колькасць подпісаў у падтрымку можна было б знізіць, а празрыста і аб'ектыўнатрэба правяраць усе подпісы.*

## VIII. ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

### A. УМОВЫ ПРАВЯДЗЕННЯ ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ

Выбарчая кампанія афіцыйна распачалася 10 верасня пасля рэгістрацыі кандыдатаў. Усе кандыдаты праводзілі перадвыбарчую агітацыю па ўсёй краіне і маглі безперашкодна звяртацца са сваімі пасланнямі да электарату. Кампанія насіла стрыманы характар, але актывізавалася ў апошнія два тыдні і з большага праяўлялася ў сустрэчах з выбаршчыкамі і распаўсюдзе агітацыйных матэрыялаў. Адносная адсутнасць зацікаўленасці з боку грамадства пацвярджаецца сціплай яўкай на большасці агітацыйных мерапрыемстваў, якія наведала МНВ АБСЕ/БДІПЧ. І наадварот, матэрыялы, выраблены мясцовымі органамі выканаўчай улады, якія заклікаюць выбаршчыкаў галасаваць, былі вельмі прыкметныя.

Ключавымі тэмамі выбарчых праграмаў кандыдатаў з'яўляліся мір і стабільнасць, неабходнасць захаваць нейтральны статус краіны, эканамічны спад. У сваіх кампаніях дзеючы прэзідэнт акцэнтаваў увагу на сваіх дасягненнях, тым часам як і два іншыя кандыдаты між іншым згадвалі ягоныя дасягненні і крытыкавалі апазіцыю. Толькі адзін кандыдат, які ў сваёй выбарчай праграме акцэнтаваў увагу на сацыяльна-эканамічных праблемах, адкрыта крытыкаваў дзеючага прэзідэнта. Гэта абмежавала выбар электарату.

Некаторыя з давераных асобаў дзеючага прэзідэнта з'яўляліся высокапастаўленымі дзяржаўнымі служачымі, якія працягвалі выконваць свае дзяржаўныя функцыі падчас правядзення выбарчай кампаніі.[32] На сходзе, арганізаваным Міністэрствам абароны, гучаў заклік да ўсіх ваеннаслужачых і рэзервістаў і іх сем'яў падтрымаць кандыдатуру дзеючага прэзідэнта.[33] Гэтыя і іншыя аспекты стварылі няроўныя ўмовы правядзення кампаніі і прывялі да размывання межаў паміж партыйнымі інтарэсамі і дзяржавай, што супярэчыць пунктам 5.4, 7.6 і 7.7 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 19.[34]

Незадоўга да дня выбараў, Глава Беларускай Праваслаўнай Царквы падтрымаў кандыдатуру дзеючага прэзідэнта падчас царкоўнай службы, у якой прымалі ўдзел дзяржслужачыя, таксама іншыя рэлігійныя лідары. Сярод станоўчых момантаў варта адзначыць той факт, што Міністр Труда і Сацыяльнай абароны сышла у адпачынак дзеля таго, каб ачоліць выбарчы штаб дзеючага прэзідэнта.

---

[31] Гл. таксама рашэнне ЕСПЧ па справе *Тагіраў супраць Азербайджана, скарга №31953/11* ад 1 чэрвеня 2015.

[32] Старшыня Палаты прадстаўнікоў, чацвёра з шасці старшыняў аблвыканкамаў, старшыня Белтэлерадыёкампаніі, генеральны дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства "Беларуськалій".

[33] Заклік быў апублікаваны 25 верасня на вэб-сайце Міністэрства абароны. Пункт 23 Кодэкса паводзінаў АБСЕ адносна ваенна-палітычных аспектаў бяспекі гаворыць, што нягледзячы на неабходнасць гарантаваць кожнаму ваеннаслужачаму магчымасць ажыцяўляць свае грамадзянскія правы, дзяржавы павінны забяспечваць палітычны нейтралітэт сваіх узброеных сілаў.

[34] Пункт 5.4 прадугледжвае выразнае раздзяленне паміж дзяржавай і палітычнымі партыямі, у прыватнасці, палітычныя партыі не будуць зліваецца з дзяржавай. Пункт 7.6 гаворыць, што палітычныя партыі і арганізацыі будуць надзеленыя неабходнымі юрыдычнымі гарантыямі, якія дазволяць ім сапернічаць адзін з другім на падставе роўнасці перад законамі і органамі ўлады.

Шэраг грамадскіх аб'яднанняў, якія пераважна субсідуюцца дзяржавай, праводзілі актыўную агітацыю ў падтрымку дзеючага прэзідэнта.[35] Яго кампанія выкарыстоўвала агульнанацыянальную сетку офісаў аб'яднання *Белая Русь* у якасці прыёмных цэнтраў зваротаў выбаршчыкаў. Грамадскія аб'яднанні распаўсюджвалі вялікую колькасць плакатаў з выявай лозунга кампаніі дзеючага прэзідэнта, але без дадзеных аб адбітку, якія патрабуе закон.[36] Графічны стыль гэтага матэрыялу, як бачыцца, змешваў пасыл кампаніі дзеючага прэзідэнта і інфармацыю для выбаршчыкаў, якую фінансуюць мясцовыя выканаўчыя ўлады. Сімволіка і лозунгі, якія выкарыстоўваліся ў кампаніі ў падтрымку дзеючага прэзідэнта, фігуравалі ў рэпартажах дзяржаўных СМІ, прысвечаных выбарам, і падчас 58 канцэртаў, арганізаваных на ўсёй краіне Федэрацыяй прафсаюзаў, Міністэрствам культуры і дзяржаўнай вяшчальнай тэлекампаніяй ОНТ.[37]

Мясцовыя выканаўчыя органы ўлады вызначылі пляцоўкі і месцы (у памяшканнях і на адкрытым паветры) для правядзення агітацыйных мерапрыемстваў у прызначаныя законам тэрміны і з большага выканалі заканадаўчыя патрабаванні па публікацыі інфармацыйных матэрыялаў. Праводзіць мерапрыемствы ў вызначаных месцах дазвалялася толькі пасля апавяшчэння мясцовых уладаў ці выбарчых камісіяў.[38]У адным выпадку спроба кандыдата правесці мерапрыемства ў неадпаведным месцы была перапыненая прадстаўнікамі органаў улады.[39] З іншага боку, даверaныя асобы дзеючага прэзідэнта ладзілі сустрэчы з выбаршчыкамі на дзяржаўных прадпрыемствах, якія падчас не былі абвешчаны як выбарчыя сустрэчы і якія ў некаторых выпадках мелі месца пад прыкрыццём рабочых сустрэч і без папярэдняга паведамлення.[40] Гэта давала дзеючаму прэзідэнту неправамерную перавагу і супярэчыць пункту 7.7 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года, а таксама нацыянальнаму заканадаўству.[41]

*Улады павінны гарантаваць наяўнасць выразнага размежавання інтарэсаў дзяржавы і яе прыхільнікаў, роўнасць кандыдатаў перад законам і правязденне кампаніі ў справядлівым і свабодным асяроддзі. Ўлады павінны гарантаваць, што агітацыя праводзіцца ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам, у тым ліку без злоўжывання службовым становішчам,*

---

35 Напрыклад, на сябраў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ), Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў, Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі (БРСМ), "Белай Русі" і Саюза жанчын прыходзіцца ад паловы да двух трэцей насельніцтва краіны.

36 Паводле назіранняў МНВ АБСЕ/БДІПЧ у Брэсцкай, Гродзенскай, Гомельскай, Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай абласцях і горадзе Мінску.

37 25 верасня сп-ня Караткевіч падала скаргу ў ЦВК, што той жа самы лагатып выкарыстоўваецца перадвыбарчым штабам дзеючага прэзідэнта. ЦВК адхіліла скаргу, аргументаваўшы гэта тым, што лагатып мог выкарыстоўвацца ўсімі кандыдатамі.

38 Нягледзячы на тое, што гэта адпавядае нацыянальнаму заканадаўству, гэта супярэчыць міжнародным прынцыпам свабоды сходаў і пункту 9.2 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года, які гаворыць, што кожны чалавек мае права на мірныя сходы і дэманстрацыі, і любыя абмежаванні павінны быць прадпісаныя законам і адпавядаць міжнародным стандартам.

39 Мерапрыемства было арганізавана кампаніяй с-ні Караткевіч 15 верасня ў г. Лагойску, Мінскай вобласці, і было спынена старшынёй і сакратаром ТВК і намеснікам начальніка мясцовага выканаўчага камітэта.

40 Паводле назіранняў МНВ АБСЕ/БДІПЧ у Бабруйску, Гродне, Гомелі, Мінску, Віцебску і Магілёве. У адным выпадку назіральнікам МНВ не дазволілі назіраць за агітацыйным мерапрыемствам, якое праводзілася ў памяшканні дзяржаўнага прадпрыемства ў горадзе Мінску. У той час як ЦВК заявіла 10 кастрычніка, што дзеючы прэзідэнт правеў 750 адкрытых сустрэч і 166 сустрэч у памяшканнях, кіраўнік перадвыбарчай кампаніі заявіла, што былі праведзены 1057 сустрэч з выбаршчыкамі. У цэлым, АБСЕ / БДІПЧ МНВ назіралі за 96 перадвыбарчымі мерапрыемствамі.

41 Пункт 7.7 гаворыць, што дзяржавы-ўдзельніцы павінны забяспечыць, каб закон і дзяржаўная палітыка дапускалі правядзенне палітычных кампаній у атмасферы свабоды і сумленнасці, у якой ніякія адміністратыўныя дзеянні, гвалт ці запужванне не стрымлівалі б партыі і кандыдатаў ад вольнага выяўлення сваіх поглядаў і ацэнак, а таксама не перашкаджалі б выбаршчыкам знаёміцца з імі і абмяркоўваць іх альбо галасаваць свабодна, не баючыся пакарання.

*прыцягнення супрацоўнікаў або іншых падпарадкаваных асоб, і падтрымкі кампаніі асацыяцыямі, якія субсідуе дзяржава.*

Зацікаўленыя бакі, якія не з'яуляюцца кандыдатамі і іх даверанымі асобамі, абавязаны прытрымлівацца празмерна цяжкай працэдуры атрымання дазволу на правядзенне інфармацыйна-прапагандысцкай дзейнасці ў перыяд выбарчай кампаніі.[42] Запыты на адкрытыя мерапрымествы ад некалькіх апазіцыйных палітычных партый былі адхіленыя.[43] З іншага боку, некаторыя палітычныя партыі і некаторыя грамадскія аб'яднанні атрымалі дазвол на правядзенне буйнага ліку мерапрыемстваў у падтрымку дзеючага прэзідэнта.[44] Тым не менш, некаторыя апазіцыйныя палітыкі правялі публічныя мерапрыемствы ў Мінску і іншых буйных гарадах, аспрэчваючы легітымнасць выбараў. Нягледзячы на тое, што ўлады не перашкаджалі правядзенню гэтых мерапрыемстваў, іх арганізатары паўсталі перад судом і былі аштрафаваныя за іх правядзенне без дазволу.[45]

## B. ФІНАНСАВАННЕ КАМПАНІІ

Пазітыуным крокам сталі дапаўненні ў заканадаўства, прынятыя ў 2013 годзе, якія павысілі максімальны памер ахвяраванняў фізічных і юрыдычных асобаў, а таксама ліміт выдаткаў; аднак некаторыя кандыдаты і іншыя зацікаўленыя бакі выказалі меркаванне, што яны застаюцца нізкімі і не дазваляюць правоздіць асэнсаваную агітацыю.[46] Выдаткі кожнага кандыдата не маглі перавышаць 85 000 еўра. Упершыню было скасавана грашовае дзяржаўнае фінансаванне, што ўскладняла забеспячэнне інфармацыйна-прапагандысцкага ахопу для ўдзельнікаў.[47] У якасці пазітыўнага кроку, вылучаным кандыдатам дазволілі адкрываць выбарчыя фонды ў пачатку, каб фінансаваць збор подпісаў, як некаторыя і зрабілі. Тым не менш, гэтыя сродкі нельга было выкарыстоўваць на выраб плакатаў або медыя-рэкламы.

Фінансаванне трэцімі асобамі не рэгулюецца і не вядзецца ўлік унёскаў у неграшовай форме. Тады як дабрачынным і рэлігійным арганізацыям і арганізацыям, якія фінансуюцца дзяржавай, правамоцна не дазволена рабіць ахвяраванні ў выбарчыя фонды, некаторыя грамадскія аб'яднанні, якія фінансуюцца з бюджэту, выкарыстоўвалі фінансавыя сродкі і неграшовыя ўнёскі на карысць дзеючага прэзідэнта.[48] Гэта спрыяла стварэнню няроўных умоў сярод кандыдатаў і супярэчыць пункту 5.4 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года. Кандыдаты мелі права выкарыстоўваць свае ўласныя рэсурсы і ахвяраванні грамадзянаў і юрыдычных

42 Працэдура на падставе паведамлення тычыцца толькі кандыдатаў і іх давераных асобаў толькі. Закон аб масавых мерапрыемствах, які рэгулюе грамадскія сходы па-за перыяду выбараў, распаўсюджваецца на ўсе іншыя зацікаўленыя бакі.

43 Напрыклад, Беларуская партыя левых “Справядлівы свет” заявіла, што ўсе 65 заяваў на правядзенне сустрэч з выбаршчыкамі былі адхіленыя. Аб'яднаная грамадзянская партыя сцвярджае, што ўсе восем яе заяваў на правядзенне сустрэчы з выбаршчыкамі было адхіленыя ў Гомельскай вобласці. Усе 16 заяваў, пададзеных сябрамі аргкамітэта Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, былі адхіленыя.

44 КПБ праінфармавала МНВ АБСЕ/БДІПЧ 25 верасня, што яна мела магчымасць правесці мерапрыемствы ў падтрымку дзеючага прэзідэнта. Падобныя заявы рабілі прадстаўнікі шэрагу грамадскіх аб'яднанняў, а таксама кіраўні кампаніі дзеючага прэзідэнта.

45 1 і 11 кастрычніка прэзідэнт папярэдзіў, што пратэсты ў дзень або пасля дня выбараў не будуць дапускацца. 11 кастрычніка пяць дэманстрантаў былі затрыманыя за ўдзел у мітынгу ў Мінску. Іншыя ўдзельнікі былі выкліканыя праваахоўцамі нібыта на аснове навінавых здымкаў выпадку.

46 Фізічная асоба можа ахвяраваць прыкладна да 180 еўра, а юрыдычная асоба прыкладна да 460. Адзін еўра роўны прыблізна 20 000 беларускіх рублёў.

47 Існуе неграшовая дзяржаўная падтрымка ў форме прадстаўлення памяшканняў для агітацыйных мерапрыемстваў, агітацыйных матэрыялаў і бясплатнага эфірнага часу. Паводле Артыкула 1 Рэкамендацыі 4 Камітэта міністраў Савета Еўропы (2003) дзяржаўная падтрымка можа быць фінансавай.

48 У тым ліку “*Белая Русь*”, ФПБ, Саюз рабочых, Саюз ветэранаў, Саюз работнікаў культуры, БРСМ, Саюз жанчын, Саюз афіцэраў.

асобаў, унесеныя ў выбарчы фонд кандыдатаў.[49] Некаторыя суразмоўцы МНВ АБСЕ/БДІПЧ цытуюць заяву Прэзідэнта ад 2013 года з папярэджаннем прадпрыемстваў супраць фінансавання апазіцыі, як маючую негатыўнае ўздзеянне на іх гатоўнасць ахвяраваць у выбарчыя фонды іншых кандыдатаў.

У адпаведнасці з патрабаваннямі закону, ЦВК штотыднёва публікавала на сваім вэб-сайце інфармацыю аб агульнай суме паступленняў і выдаткаў кандыдатаў, і ўсе кандыдаты перадавалі фінансавыя справаздачы ў ЦВК напярэдадні выбараў. Аднак справаздачы не былі вычарпальнымі, а закон не патрабуе публікаваць справаздачы ці дэталізаваныя звесткі пра паступленні і выдаткі кандыдатаў.[50] Кандыдаты павінны былі прадставіць свае канчатковыя фінансавыя справаздачы на працягу пяці дзён пасля выбараў, і па стане на 13 лістапада, ніякія новыя абнаўленні звестак пра даходы і выдаткі не былі апублікаваныя на вэб-сайце ЦВК. Закон не патрабуе правядзення аўдыту, а ЦВК заявіла, што не мае магчымасці праверыць, ці атрымлівалі альбо выдаткоўвалі кандыдаты незадэклараваныя фінансавыя сродкі. Недаступнасць інфармацыі для грамадскага кантролю і адсутнасць аўдыту абмяжоўвае празрыстасць і падсправаздачнасць фінансавання кампаніі і супярэчыць міжнародным стандартам і дабрасумленнай практыцы.[51]

*Можна было б разгледзець магчымасць паўторна увесці грашовае дзяржаўнае фінансаванне ў мэтах павышэння роўнасці магчымасцяў удзельнікаў. Дзеля павышэння празрыстасці і падсправаздачнасці, а таксама для таго, каб выбаршчыкі маглі зрабіць усвядомлены выбар, ЦВК можа разгледзець пытанне аб своечасовай публікацыі ўсёабдымных і падрабязных справаздач кандыдатаў аб даходах і выдатках.*

## IX. СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

### A. АГУЛЬНЫ АГЛЯД

У краіне існуе мноства прыватных і дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, пры гэтым толькі апошнія маюць нацыянальны ахоп і распаўсюджанне. У медыяпрасторы дамінуюць дзяржаўныя СМІ, яны карыстаюцца значнай фінансавай падтрымкай уладаў. І наадварот, суразмоўцы МНВ АБСЕ/БДІПЧ паведамілі, што прыватныя сродкі масавай інфармацыі часта сутыкаюцца з палітычным ціскам, у выніку чаго шырока распаўсюджана практыка самацэнзуры сярод журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі.[52] Газеты распаўсюджваюцца праз дзяржаўныя размеркавальныя сеткі, якія спрыяюць дзяржаўным выданням, што прымушае незалежныя і апазіцыйныя друкаваныя СМІ распаўсюджваць свае выданні непасрэдна са сваіх офісаў або спадзявацца на добраахвотнікаў.

Шырока распаўсюджаны медыя з Расійскай Федэрацыі, і некаторыя незарэгістраваныя сродкі інфармацыі ажыццяўляюць вяшчанне з Польшчы. Журналістам патрабна акрэдытацыя для працы з замежнымі СМІ і беларускімі СМІ, зарэгістраванымі за мяжой, і Міністэрства

49 Сп-р Лукашэнка заявіў, што атрымаў 79 000 еўра і выдаткаваў 20 000 еўра, сп-ня Караткевіч атрымала 1300 еўра і выдаткавала 700 еўра, сп-р Гайдукевіч атрымаў 2 100 еўра і выдаткаваў аналагічную суму, сп-р Улаховіч атрымаў 1 600 еўра і выдаткаваў аналагічную суму.

50 ЦВК адхіліла запыт МНВ АБСЕ/БДІПЧ на правядзенне праверкі дакументаў і рахункаў, прадстаўленых сп-ром Лукашэнкам, пры гэтым яны дазволілі праверыць аналагічныя дакументы, прадстаўленыя іншымі трыма кандыдатамі. Акрамя таго, ЦВК адмовіла ў доступе да фінансавай інфармацыі, якую запытваў СМІ.

51 Гл. Артыкул 7.3 Канвенцыі ААН супраць карупцыі і пункт 206 Кіраўніцтва АБСЕ/БДІПЧ і Венецыянскай камісіі па палітычных партыях.

52 Акрамя таго, шэраг міжнародных арганізацый крытыкавалі ўлады Беларусі за палітычнаы ціск на СМІ і журналістаў. Гл. Заяву Прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ і Справаздачу Спецыяльнага дакладчыка ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі за 2015 год.

замежных спраў мае шырокія паўнамоцтвы адмовіць ім у акрэдытацыі.[53] Акрамя таго, журналістам, якія працуюць у сродках масавай інфармацыі, зарэгістраваных у Беларусі, забаронена працаваць на замежныя сродкі масавай інфармацыі і беларускія сродкі масавай інфармацыі, заснаваныя за мяжой, а журналісты, якія працуюць без акрэдытацыі, могуць быць аштрафаваныя.[54] У цэлым, гэтыя юрыдычныя патрабаванні і іх рэалізацыя ўяўляюць сабой непрапарцыйныя і неабгрунтаваныя абмежаванні на свабоду выказвання меркаванняў і права на распаўсюд інфармацыі.[55]

*Уладам варта перагледзець патрабаванні да акрэдытацыі і дазволіць журналістам, якія з'яўляюцца сябрамі айчынных СМІ, працаваць у замежных СМІ і беларускіх СМІ, заснаваных за мяжой.*

Інтэрнэт з’яўляецца пляцоўкай, якая набывае ўсё большую значнасць у доступе да незалежных пунктаў гледжання. Аднак свабода слова анлайн была абмежаваная папраўкамі да Закону аб СМІ, прынятымі ў 2014 годзе, у выніку якіх існуючыя абмежаванні для традыцыйных СМІ былі распаўсюджаныя на інтэрнэт-СМІ, уладальнікі якіх цяпер нясуць адказнасць за любы размешчаны кантэнт, у тым ліку, патэнцыйна, каментарыі карыстальнікаў, блогі і сацыяльныя сеткі. У выпадку меркаванага парушэння, Міністэрства інфармацыі мае права абмежаваць доступ да вэб-сайтаў па рашэнні суда. Калі інфармацыя мае дачыненне да канкрэтных крымінальных злачынстваў альбо разглядаецца як “шкодная для інтарэсаў Беларусі” (як паказана ў артыкуле 38.1.3 Закона аб сродках масавай інфармацыі), знікае неабходнасць у судовым рашэнні. Гэта дае органам улады непажаданыя магчымасці ў плане тлумачэння зместу і прыняцця адвольных рашэнняў па абмежаванню доступу да электронных СМІ.[56]

*У мэтах забеспячэння эфектыўнага ажыццяўлення свабоды выказвання меркаванняў, любыя абмежаванні на карыстанне інтэрнэт-рэсурсамі павінны быць дакладна вызначаны законам, быць доказна неабходнымі і суразмернымі з меркаванай мэтай. Ўладам варта было б удакладніць юрыдычнае паняцце "шкоды інтарэсам Беларусі".*

## B. Прававая база

Свабода слова гарантуецца Канстытуцыяй, якая забараняе цэнзуру і вызначае права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд грамадскай інфармацыі. Нягледзячы на гэта, некаторыя дзяржаўныя ўстановы працягваюць практыку сартыроўкі грамадсказначнай інфармацыі са спасылкай на Закон аб дзяржаўнай таямніцы 2010 года і іншыя прававыя акты.[57] Такая практыка супярэчыць пункту 9.1 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года і іншым

[53] Палажэнне аб парадку акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь журналістаў замежных сродкаў масавай інфармацыі, уведзена Пастановай Савета Міністраў № 2015 ад 25 снежня 2008.

[54] Паводле дадзеных БАЖу, у 2015 годзе 28 рэпарцёраў атрымалі штрафы ў некалькі соцень еўра ў адпаведнасці з артыкулам 22.9.2 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за "незаконны выраб і/або распаўсюд вытворчасцей сродкаў масавай інфармацыі". Апошні выпадак адбыўся 19 жніўня. Гл. Рэзалюцыю Еўрапейскага парламента ад 10 верасня 2015 года, Заяву Прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ і Справаздачу Спецыяльнага дакладчыка ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі за 2015 год.

[55] Гл. Пункт 9.1 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года, які гаворыць, што кожны чалавек мае права на свабоду выказвання свайго меркавання, у тым ліку права на зносіны, і што гэта права ўключае ў сябе свабоду прытрымлівацца свайго меркавання і атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі без умяшання з боку дзяржаўных уладаў. Ажыццяўленне гэтага права можа быць прадметам толькі такіх абмежаванняў, якія прадпісаныя законам і адпавядаюць міжнародным стандартам.

[56] Гл. Справаздачу Спецыяльнага дакладчыка ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі за 2015 год, п. 6 і 14.

[57] Паводле ўказа №. 68 ад 25 лютага 2011 году каля 50 дзяржаўных органаў і ўстаноў маюць права адносіць пэўную інфармацыю да дзяржаўнай таямніцы. Дэфініцыя таго, што можа быць класіфікавана як дзяржаўная таямніца, застаецца залішне расплывістай.

міжнародным стандартам і добрасумленным падыходам. 22 верасня ЦВК адхіліла запыт журналіста на атрыманне падрабязнай інфармацыі аб выбарчых фондах кандыдатаў, растлумачыўшы гэта тым, што СМІ не маюць права на атрыманне гэтай інфармацыі.

*У мэтах забеспячэння эфектыўнага доступу да публічнай інфармацыі, варта было б перагледзець абмежаванні, прадугледжаныя Законам аб дзяржаўнай таямніцы.*

ЦВК прызначыла Назіральны савет па кантролю за агітацыяй у СМІ з мэтай кантролю за асвятленнем кампаніі ў СМІ. Ён складаўся з прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ і працаваў пад кіраўніцтвам намесніка міністра інфармацыі; аднак, ён не ўключаў прадстаўнікоў прыватных СМІ і Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ).[58] Такі незбалансаваны склад паменшыў ўспрыманне Савету як бесстароннага і незалежнага боку. Савет не меў мандату альбо дастатковых рэсурсаў, каб ажыццяўляць сістэматычны маніторынг за СМІ, і выконваў выключна дарадчую ролю. Падчас кампаніі Савет разглядзеў і адхіліў адну скаргу, звязаную са СМІ. Апроч таго, МНВ АБСЕ/БДІПЧ стала вядома, што ЦВК атрымала яшчэ дзве скаргі, якія мелі дачыненне да СМІ і якія не абмяркоўваліся Саветам, і па адной са скаргаў было вынесена нефармальнае папярэджанне па тэлефоне без задзейсняння Савета.[59]

*Варта было б разгледзець магчымасць ўмацаваць склад Назіральнага савета чынам ўключэння прадстаўнікоў прыватных СМІ і БАЖ, каб умацаваць яго незалежнасць і давер грамадскасці да бесстароннасці яго працы. Савет павінен быць ўпаўнаважаны і валодаць дастатковымі рэсурсамі для правядзення паслядоўнага маніторынгу асвятлення ў СМІ выбарчай кампаніі, каб больш эфектыўна выконваць сваю ролю.*

## C. ВЫНІКІ МАНІТОРЫНГУ ЗА СМІ

У мэтах выканання сваіх юрыдычных абавязацельстваў ЦВК прыняла пастанаўленні, якія гарантуюць усім кандыдатам роўны доступ да дзяржаўных СМІ праз выдзяленне бясплатнага эфірнага часу без цэнзуры, што было вітана кандыдатамі ў прэзідэнты. Нягледзячы на абмежаваныя ўмовы выкарыстання СМІ, кандыдаты мелі магчымасць данесці свае ідэі да грамадства пры дапамозе двух тэлевізійных блокаў і двух радыёблокаў на тэлеканале “Беларусь 1” і “Першым нацыянальным канале Беларускага радыё” працягласцю па 30 хвілін кожны. Дзеючы прэзідэнт адмовіўся ад магчымасці скарыстацца бясплатным эфірным часам і не прыняў удзел у палітычных дэбатах паміж выбарчымі штабамі, якія адбыліся 3 кастрычніка. У адпаведнасці з пастанаўленнем ЦВК, усе газеты, якія фінансуюцца дзяржавай і якія былі прааналізаваныя МНВ АБСЕ/БДІПЧ, бясплатна апублікавалі выбарчыя праграмы ўсіх кандыдатаў.[60] Кандыдаты не карысталіся платнай палітычнай рэкламай, хаця гэта было дазволена.

Вынікі маніторынгу СМІ, які ладзіла АСБЕ/БДІПЧ, паказваюць, што дзеючаму прэзідэнту было прысвечана 48 адсоткау палітычнага ясвятлення, 8 адсоткаў — спадарыні Караткевіч, па 7 адсоткаў спарадам Гайдукевічу і Улаховічу, 22 адсотка былі былі прысвечаны іншым

[58] У назіральны савет таксама ўвайшоў Старшыня Беларускага саюза журналістаў, НДА, якая прадстаўляе журналістаў, што працуюць ў дзяржаўных СМІ.
[59] Скарга тычылася з’яўлення старшыні *Белтэлерадыёкампаніі* ў якасці вядучага ток-шоу неўзабаве пасля яго прызначэння даверанай асобай дзеючага прэзідэнта.
[60] Паколькі сп-р Лукашэнка і сп-ня Караткевіч прадаставілі ў дзяржаўныя газеты палітычныя праграмы, якія трохі перавышалі дапушчальны памер, усталяваны ў адпаведнасці з рэзалюцыяй ЦВК № 49, імбыло прапанавана скараціць тэкст або плаціць за дадатковыя сімвалы; яны выбралі аплату.

палітычным суб'ектам і 8 адсоткаў — ЦВК.[61]

Значна больш шырокі ахоп быў прысвечаны дзеючаму прэзідэнту. Вяшчальныя СМІ асвятлялі яго ў рамках мерапрыемстваў палітычнай кампаніі толькі ў 4 адсотках выпадкаў, надаючы шырокае асвятленне працоўным мерапрыемствам з ягоным удзелам (86 адсоткаў) і іншым мерапрыемствам (такіх, як аб'явы дзяржаўнай палітыкі і цырымоніі) у астатнія 10 адсоткаў. Друкаваныя СМІ асвятлялі дзеючага прэзідэнта ў 30 адсотках выпадкаў у якасці кандыдата, у 61 адсотках — пры выкананні ім ягоных інстытуцыйных функцый і ў 9 адсотках выпадкаў у іншых відах падзей. Некаторыя дзяржаўныя СМІ афармілі іх ахоп такім чынам, што прапанавалі спрыяльныя для яго палітычныя паведамленні.[62] Акрамя гэтага, некалькі відаў рэкламы, якія трансліраваліся праз нацыянальныя сродкі масавай інфармацыі, перадавалі паняцці, якія нагадвалі кампанію дзеючага прэзідэнта, таксама дзве дакументальныя стужкі, падкрэсліваючыя яго дасягненні былі неаднаразова паказаныя на двух дзяржаўных тэлевізійных станцыях у перыяд, які пачаўся за шэсць тыдняў да выбараў.

Друкаваныя СМІ прысвяцілі 35 адсоткаў сваіх палітычных артыкулаў сп-ру Лукашэнку, 14 адсоткаў – сп-ні Караткевіч, па 10 адсоткаў – сп-ру Улаховічу і сп- ру Гайдукевічу, 22 адсотка – іншым значным палітычным дзеячам і 9 адсоткаў – ЦВК. Вэб-старонкі прыватнага інфармацыйнага агенцтва *БелаПАН* былі часова недаступныя с 3 па 5 кастрычніка, як мяркуецца, па прычыне масіўных кібер-атак.

МНВ АБСЕ БДІПЧ таксама ажыццяўляла маніторынг інфармацыі для выбаршчыкаў у сродках масавай інфармацыі. Дзяржаўныя вяшчальныя СМІ падрыхтавалі і выдалі ў эфір разнастайныя кажучыяся нейтральнымі паведамленні, якія заклікалі выбаршчыкаў да ўдзелу ў выбарах. Тым не менш, часта выкарыстоуваліся ключавыя словы і паняцці, звязаныя з кампаніяй дзеючага прэзідэнта. Падчас датэрміновага галасавання, навінавыя праграмы асвятлялі знакамітасцяў і вядучых чыноўнікаў, якія аддалі свае бюлетэні, выказваючы сімпатыю да палітычнай праграмы дзеючага прэзідэнта. Прыкметна, што, здавалася, у якасці шырокага намагання, каб стымуляваць яўку ў дзень выбараў, каналы *Беларусь 1*, *СТВ* і *РТР Беларусь* змянілі звыклыя лагатыпы на асаблівы лагатып, які запрашаў выбаршчыкаў ісці галасаваць. З іншага боку, ЦВК не размяшчала ніякай інфармацыі для выбаршчыкаў у вяшчальных СМІ.

## X. СКАРГІ І ЗВАРОТЫ

Скаргі могуць падавацца ў выбарчыя камісіі, суды альбо Генеральную пракуратуру. Існуюць абмежаванні кола асобаў, якія могуць падаваць скаргу, у залежнасці ад яе прадмета. За некаторымі выключэннямі рашэнні, якія тычацца рэгістрацыі ініцыятыўнай групы альбо кандыдата, працэсу праверкі подпісаў і канчатковых вынікаў галасавання, з’яўляюцца канчатковымі і не могуць быць абскарджаныя.[63]

[61] МНВ АБСЕ/БДІПЧ ажыццяўляла маніторынг наступных СМІ з 7 верасня па 10 кастрычніка: Тэлевізійныя каналы: *Беларусь 1, Беларусь 3, АНТ, СТВ РТР Беларусь*. Радыёканалы: дзяржаўнае *Радые 1* і прыватныя *Еўрарадыё*. Газеты: дзяржаўныя *Савецкая Беларусія, Звязда, Рэспубліка, Народная Газета* і прыватныя *Народная воля, Наша Ніва, Biel Hazieta і Камсамольская Праўда*.

[62] Напрыклад, дзяржаўная газета вяла рэгулярную калонку “Час выбіраць”, у якой выкарыстоўвалася спалучэнне такіх загалоўкаў як “Галасуй за Беларусь альбо прайграеш” і супрацьпастаўляліся пазітыўныя вобразы дасягненняў краіны і фотаздымкі замежных рэгіёнаў, якія пакутуюць ад голаду і вайны.

[63] Кандыдат можа аспрэчыць у Вярхоўным судзе адмову ў яго рэгістрацыі ці яго ініцыятыўнай групы, а таксама рашэнне ЦВК абануляванні вынікаў галасавання.

*Трэба змяніць закон, как было прапісана, што кожны выбаршчык мае права падаць скаргі ў дачыненні да ўсіх рашэнняў, дзеянняў і бяздзейнасці выбарчай адміністрацыі, у выніку якіх былі парушаны яго/яе выбарчыя правы.*

Скаргі, як правіла, падаюцца і разглядаюцца на працягу трох дзён. У выпадку неабходнасці дадатковай праверкі перыяд разгляду можа быць падоўжаны да 10 дзён, тым часам як скаргі, пададзеныя ў дзень выбараў, павінны быць разгледжаныя неадкладна. Некаторыя рашэнні выбарчых камісіяў могуць быць абскарджаныя ў выбарчай камісіі вышэйшай інстанцыі альбо ў судзе адпаведнага ўзроўню, што дазваляе выкарыстанне некалькіх каналау і можа прывесці да канфлікту юрысдыкцый і супрацьрэчлівых альбо непаслядоўных рашэнняў.[64] Такі падыход не адпавядае пункту 5.10 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 года.[65]

*Працэдура абскарджання і, у прыватнасці, паўнамоцтвы і абавязкі органаў, якія разглядаюць скаргі, павінны дакладна рэгулявацца законам, каб пазбегнуць канфліктаў юрысдыкцыі.*

Напярэдадні выбараў былі агульна пададзеныя 756 скаргаў і зваротаў, якія тычыліся выбараў: у ЦВК былі пададзеныя 239 зваротаў і скаргаў, 129 – у ТВК, 334 – у УВК, і 54 – у мясцовыя органы ўлады.[66] Акрамя таго, 32 скаргі былі разгледжаныя абласнымі судамі, 6 – Вярхоўным судом і 40 зваротаў, якія мелі дачыненне да выбараў, былі разгледжаныя Генеральнай пракуратурай. Большасць скаргаў тычылася прымусу выбаршчыкоў падчас збору подпісаў, злоўжывання адміністрацыйнымі рэсурсамі падчас агітацыі на карысць дзеючага прэзідэнта і адмовы ў прызначэнні вылучаных прадстаўнікоў у склад ТВК і УВК.

Большасць скаргаў былі альбо адхіленыя альбо адкінутыя як неабгрунтаваныя.[67] Увогуле скаргі разглядаліся своечасова, але не заўсёды празрыста. Толькі чатыры скаргі, пададзеныя ў ЦВК, былі разгледжаныя на адкрытым пасяджэнні ў прысутнасці заяўніка і адказчыка.[68] Усе астатнія скаргі разглядаліся асобнымі сябрамі ЦВК ці штатнымі супрацоўнікамі.[69] Сярод пазітыўных аспектаў можна адзначыць, што ЦВК вяла падрабязны рэгістр скаргаў. Насуперак нормам добрасумленнай практыкі закон не патрабуе ад ЦВК ці суда публікаваць рашэнні ці выдаваць інфармацыю аб скаргах.[70] Некаторыя суразмоўцы АБСЕ/БДІПЧ выказалі недавер працэсу разгляду скаргаў. Агулам, ва ўрэгуляванні спрэчак адсутнічае празрыстасць і не

---

[64] Напрыклад, рашэнні УВК адносна рэгістрацыі выбаршчыкаў могуць быць абскарджаныя як у ТВК, так і ў судах на адпаведным узроўні. Гл. пункт II.3.3.c Кодэкса добрасумленнай практыкі.

[65] Пункт 5.10 абвяшчае, што кожны чалавек валодае эфектыўнымі сродкамі прававой абароны супраць адміністрацыйных рашэнняў, з тым каб гарантаваць захаванне асноўных правоў і забяспечыць прававую цэласнасць.

[66] Паводле апублікаваных на сайце ЦВК дадзеных па стане на 9 кастрычніка, у тым ліку за першыя два дні датэрміновага галасавання. Каля 520 скарг былі пададзеныя незалежнымі групамі грамадзянскіх назіральнікаў (400 ад 'Права выбіраць 2015' і 120 ад БХК). Пяць былі пададзеныя сп-няй Караткевіч і ніводнай ад іншых трох кандыдатаў. Скаргі таксама падаваліся іншымі бакамі з правам вылучаць сябраў ТВК і УВК.

[67] Напрыклад, скарга, пададзеная Беларускай аб'яднанай партыяй левых "Справядлівы свет" з нагоды адмовы ў прызначэнні іх прадстаўніка ў склад ТВК, была адхіленая Гомельскім абласным судом праз адсутнасць юрысдыкцыі. Паводле Выбарчага кодэкса, скаргі, якія тычацца фарміравання ТВК і УВК, падаюцца ў адпаведны суд.

[68] Скаргі тычыліся злоўжывання адміністратыўным рэсурсам падчас збору подпісаў на вылучэнне ў кандыдаты дзеючага прэзідэнта і правядзення кампаніі ў яго падтрымку але таксама ўключалі запыты аб прызнанні несапраўдным вынікаў выбараў па канкрэтных участках з-за неадпаведнасцяў, выяўленых у ходзе датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў.

[69] Згодна з законам, абскардкванне рашэнняў камісій ніжэйшай інстанцыі павінна разглядвацца калегіяльна, а ўсе астатнія скаргі могуць разглядацца таксама асобнымі сябрамі выбарчых камісій альбо штатнымі супрацоўнікамі.

[70] Гл. пункт 68 і 72 Кодэкса добрасумленнай практыкі.

забяспечваецца прававая цэласнасць, што супярэчыць пункту 5.10 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 г. (Гл. таксама Дзень выбараў)

*У мэтах забеспячэння празрыстасці вырашэння электаральных спрэчак выбарчыя камісіі маглі б разглядаць скаргі на адкрытых пасяджэннях, у прысутнасці зацікаўленых бакоў. Акрамя таго, ЦВК варта разгледзець пытанне аб своечасовай публікацыі агульнай інфармацыі аб скаргах і заявах на сваім вэб-сайце.*

## XI. ГРАМАДЗЯНСКІЯ І МІЖНАРОДНЫЯ НАЗІРАЛЬНІКІ

Выбарчы кодэкс прадугледжвае магчымасць назірання за выбарамі грамадзянскімі і міжнароднымі назіральнікамі. Палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы і групы з дзесяці выбаршчыкаў могуць вылучаць грамадзянскіх назіральнікаў. ЦВК выдае акрэдытацыю назіральнікам ад грамадзянскіх аб'яднанняў і палітычных партый, зарэгістраваных на нацыянальным узроўні, а ТВК і УВК акрэдытуюць назіральнікаў адпаведнага ўзроўню. Правы грамадзянскіх і міжнародных назіральнікаў вычарпальна прадпісаныя законам, але амбежавальна тлумачыліся і ажыццяўляліся. Назіральнікі не надзеленыя правам сачыць за ўсімі этапамі выбарчага працэсу (напрыклад, праверкай подпісаў, занясеннем вынікаў галасавання ў пратакол), а выбарчыя камісіі надзеленыя дыскрэцыйнымі паўнамоцтвамі па адмаўленні доступу для назіральнікаў. Гэтыя абмежаванні супярэчаць пункту 8 Капенгагенскага дакумента АБСЕ 1990 і міжнароднай добрасумленнай практыцы.

Паводле дадзеных ЦВК, усяго было акрэдытавана 43 572 грамадзянскіх назіральніка.[71] Дзве траціны ўсіх акрэдытаваных грамадзянскіх назіральнікаў прадстаўлялі грамадскія аб'яднанні, якія субсідуе дзяржава, у тым ліку ФПБ, БРСМ і "Белая Русь", якія таксама прымалі актыўны ўдзел у правядзенні кампаніі ў падтрымку дзеючага прэзідэнта. Кампанія "Права выбару 2015", ініцыятыва "За справядлівыя выбары" і сумесная кампанія Беларускага Хельсінскага камітэта і незарэгістраванага праваабарончага цэнтра "Вясна" "Праваабаронцы за свабодныя выбары" – былі найбольш актыўнымі грамадзянскімі назіральніцкімі групамі, якія ажыццяўлялі доўгатэрміновае назіранне і рэгулярна прадстаўлялі вынікі сваёй працы.

*Трэба прыняць меры для забеспячэння беспрашкоднага доступу грамадзянскіх і міжнародных назіральнікаў для назірання за ўсімі аспектамі выбарчага працэсу на ўсім яго працягу, за галасаваннем, падлікам і падвядзеннем вынікаў. Назіральнікі павінны мець права азнаёміцца са зместам спісаў выбаршчыкаў і атрымаць завераную копію пратакола аб выніках.*

Апроч таго, 928 міжнародных назіральнікаў атрымалі акрэдытацыю ЦВК, у тым ліку з ПАСЕ, упершыню з 2001 года. ЦВК адмовіла у акрэдытацыі Еўрапейскай сетцы па назіранні за выбарамі (ENEMO) на той падставе, што яна не была запрошаная; аднак, яна акрэдытавала 22 індывідуальных замежных назіральніка, якія атрымалі запрашэнне ад урада.

МНВ АБСЕ/БДІПЧ назірала за шэрагам трэнінгаў грамадзянскіх назіральнікаў і ацаніла іх станоўча. З іншага боку, МНВ АБСЕ/БДІПЧ атрымала толькі абмежаваную інфармацыю аб трэнінгах, якія праводзіліся праўрадавымш грамадскімі аб'яднаннямі і, такім чынам, маглі назіраць толькі за адным такім навучэннем (праводзіўся БРСМ). Даведнік назіральніка, які размяркоўваўся на трэнінгах праўладнай арганізацыі (БРСМ), ўключаў копіі падрыхтаваных заяваў, якія сведчаць, што УВК, на якіх ажыццяўлялася назіранне, цалкам выканалі патрабаванні заканадаўства аб галасаванні і падліку. Такія гатовыя заявы праўладных

[71] Яны ўключалі 27 512 ад грамадскіх аб'яднанняў, 7 413 з грамадзянскіх ініцыятыўных груп, 2 015 ад працоўных калектываў і 6 632 ад палітычных партый.

назіральнікаў былі перададзеныя міжнародным назіральнікам і прадстауленыя старшыням УВК, а затым выкарыстоўваліся ТВК і старшынёй ЦВК для адхілу скаргаў.[72]

## XII. ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАННЕ ІДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ

### A. ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАННЕ

У адпаведнасці з законам усе выбаршчыкі могуць прагаласаваць на выбарчым участку датэрмінова на працягу пяці дзён да дня выбараў без неабходнасці тлумачыць прычыну. Падчас датэрміновага галасавання патрэбны толькі два сябры УВК для ажыццяўлення працэсу. Напрыканцы кожнага дня датэрміновага галасавання і падчас штодзённых перапынкаў, шчыліна скрыні для галасавання заклейвалася паперай і ноччу ахоўвалася міліцыянерам. Штодня складаўся пратакол з налічанай колькасцю бюлетэняў, атрыманых і выдадзеных выбаршчыкам, а таксама сапсаваных і нявыкарыстаных бюлетэняў. Кожны дзень пратакол ад папярэдняга дня быў заменены; такім чынам, адпаведныя паказчыкі для кожнага дня датэрміновага галасавання не былі даступныя. Па завяршэнні датэрміновага галасавання, ЦВК абвесціла яўку ў 36,06 адсоткаў.

ММНВ ажыццяўляла сістэматычнае назіранне за апошнім днём датэрміновага галасавання па ўсёй краіне. Агулам, працэс датэрміновага галасавання быў ацэнены станоўча (96 адсоткаў назіранняў). Назіральнікі ММНВ ацанілі працэс у больш негатыўным плане ў Мінску і Мінскай вобласці, чым у астатняй частцы краіны. Акрамя таго, прыкметы ўкіду бюллетэняў былі адзначаны назіральнікамі на пяці выбарчых участках. У палове выпадкаў назіральнікам не было дазволена праверыць спісы выбаршчыкаў, такім чынам яны былі пазбаўлены магчымасці ацаніць, ці былі належным чынам адлюстраваны лічбы яўкі ў штодзенных пратаколах.

Было адзначана, што таямніца галасавання не была забяспечаная ў чатырох адсотках назіранняў ММНВ. У большасці выпадкаў напрыканцы галасавання для азнаямлення вывешваліся штодзённыя пратаколы. Тым не менш, у апошні дзень датэрміновага галасавання гэтага не было зроблена на сямі адсотках выбарчых участкаў, дзе вялося назіранне. Некаторыя УВК уносілі кумулятыўныя паказчыкі галасоў, у той час як іншыя паведамлялі штодзённыя паказчыкі. Акрамя таго, УВК не было даручана запісваць агульную колькасць выбаршчыкаў, у тым ліку дададзеных або выдаленых са спісаў выбаршчыкаў. Гэтыя элементы паменшылі празрыстасць працэсу.

У скаргах, пададзеных ў УВК, сцвярджаецца пра меркаванае несупадзенне паміж яўкай і колькасцю подпісаў ў спісах выбаршчыкаў, прымусы студэнтаў да ўдзелу ў выбарах і супярэчнасці ў запаўненні штодзённых пратаколаў. Такія скаргі звычайна адхіляліся як неабгрунтаваныя, без належнага разглядання.[73]

*Сістэму датэрміновага галасавання неабходна перагледзець. У выпадку яе захавання як ёсць, трэба ужываць тыя ж механізмы забеспячэння надзейнасці, як у дзень выбараў, у тым ліку патрабаванні да кворуму УВК. Ўладам варта разгледзець магчымасць ужывання адзінага*

---

[72] Назіранне МНВ АБСЕ/БДІПЧ на пасяджэнні ЦВК 16 кастрычніка, на якім яна разгледзела запыт сп-ні Караткевіч аб прызнанні несапраўднымі выбараў і абвешчаных вынікаў выбараў.

[73] У дзень выбараў МНВ АБСЕ/БДІПЧ назірала за сесіяй ТВК горада Мінск, дзе разглядалася скарга ад аднаго з сябраў ТВК. Заяўнік сцвярджаў, што падчас назірання за датэрміновым галасаваннем 8 і 9 кастрычніка на выбарчых участках 25, 26 і 49 у Савецкім раёне г. Мінска, ён адзначыў разыходжанні паміж запісанай яўкай выбаршчыкаў і колькасцю подпісаў выбаршчыкаў. На думку заяўніка, лічбы яўкі былі завышаныя у межах ад 100 да 200 галасоў на кожным з гэтых выбарчых участкаў. ТВК г. Мінска адхіліла скаргу як неабгрунтаваную, у працэсе разгледжання яны аспрэчвалі яго права правяраць спісы выбаршчыкаў.

*пратаколу, які змяшчае штодзённую інфармацыю, у тым ліку па колькасці выбаршчыкаў у спісе, які будзе заставацца на ўсеагульным аглядзе на выбарчым участку на працягу датэрміновага галасавання і да заканчэння падліку галасоў.*

## B. Адкрыцце участкаў і галасаванне

Выбарчыя ўчасткі адчыніліся своечасова з нязначнымі праблемамі працэдурнага характару. У цэлым адкрыццё ўчасткаў было ацэнена як "добрае" ці "вельмі добрае" ў 96 адсотках справаздачаў. Сябры УВК прысутнічалі і, як правіла, усе матэрыялы былі ў наяўнасці. Грамадзянскія назіральнікі прысутнічалі на 90 адсотках выбарчых участкаў, за якімі ажыццяўляла назіранне ММНВ. На чатырох выбарчых участках, дзе праводзіўся маніторынг, скрыня для датэрміновага галасавання не была бачная назіральнікам, як таго патрабуе закон.

Працэс галасавання быў ацэнены станоўча ў 94 адсотках назіранняў. Вялікай колькасці назіральнікаў не было дазволена правяраць спісы выбаршчыкаў, але тыя, каму было дазволена, адзначылі наяўнасць серыяў з падобных подпісаў на 47 выбарчых участках. Прыкметы ўкідвання бюлетэняў — пачкі бюлетэняў — прысутнічалі на 5 выбарчых участках. Такія назіранні сведчаць аб сур'езных парушэннях.

*Уладам варта разглядаць усе заявы аб сур'ёзных парушэннях і расследаваць іх у поўным аб'ёме, у выніку чаго тыя, чые дачыненне было даказанае, павінны перадавацца ў рукі правасуддзя.*

Стандарты выбарчых матэрыялаў былі нізкія і не надавалі неабходныя гарантыі бяспекі. Выбарчыя скрыні былі драўлянымі, кардонавымі або празрыстымі, выкарыстоўваліся розныя васковыя і папяровыя пломбы. Бюлетэні былі дрэннай якасці, без функцый бяспекі, і выбаршчыкі былі не павінны або не заахвочваны складаць запоўнены бюлетэнь, што час ад часу ставіла пад пагрозу таямніцу галасавання.

*Дзеля павышэння эфектыўнасці працэсу галасавання уладам трэба разгледзець больш надзейныя меры бяспекі, такія як, пранумараваныя пячаткі для скрыняў для галасавання, празрыстыя скрыні для галасавання адзінага ўзору, выбарчыя бюлетэні з функцыямі бяспекі і унікальныя пячаткі УВК.*

На шасці адсотках выбарчых участкаў, дзе вялося назіранне, не ўсе этапы працэсу галасавання былі бачныя для назіральнікаў ці УВК, што паменшыла празрыстасць працэсу. Назіральнікі ММНВ заявілі, што на 7 адсотках выбарчых участкаў, на якіх вялося назіранне, сябры УВК не ішлі з імі на паўнавартаснае супрацоўніцтва. Агульная празрыстасць працэсу галасавання была ацэненая негатыўна у трах адсотках справаздачаў. Групавое ці сямейнае галасаванне было адзначана ў шасці адсотках назіранняў. Агітацыйны матэрыял або дзейнасць былі адзначаны на двух адсотках выбарчых участкаў. Больш за палову выбарчых участкаў былі недаступныя для выбаршчыкаў з абмежаванымі магчымасцямі, а ў кожным пятым іх планіроўка была непрыдатная.

Грамадзянскія назіральнікі прысутнічалі на 94 адсотках выбарчых участкаў, дзе ажыццяўлялася назіранне, але у мностве выпадкаў яны не маглі паведаміць ММНВ, якія арганізацыі яны прадстаўлялі. Акрамя таго, сябрам УВК часам было цяжка ўзгадаць арганізацыі, што іх вылучылі. Такая практыка падрывае прызначаную сістэму стрымак і процівагаў у складзе выбарчых камісій. Паступіла 15 паведамленняў аб тым, што пабочныя асобы умешваліся ў працу УВК ці кіравалі ёй у працэсе галасавання.

Выбаршчыкі маглі запытаць хатняе галасаванне да 18:00 у дзень выбараў, не удакладняючы падставу. У шэрагу выбарчых участкаў назіральнікі ММНВ адзначылі незвычайна высокаю

колькасць такіх запытаў ці раптоўнае павелічэнне паміж апошнім днем датэрміновага галасавання і днем выбараў. Быў выяўлены шэраг працэсуальных неадпаведнасцяў падчас хатняга галасавання, у тым ліку ў тых выпадках, калі УВК бралі больш бюлетэняў, чым было атрымана запытаў.[74] Спісы запытаў на хатняе галасаванне ў некаторых месцах ўключалі даўно памерлых выбаршчыкаў. Акрамя таго, назіральнікі паведамілі, што сакрэтнасць галасавання часта ставілася пад пагрозу.

*Можна было б разгледзець магчымасць ўвесці больш строгія патрабаванні да тых, хто можа прэтэндаваць на хатняе галасаванне, і больш падрабязныя працэдуры для забеспячэння надзейнасці выбарчага працэсу. Выяўленыя недахопы і неналежныя дзеянні ў адміністрацыі хатняга галасавання трэба разглядаць у час падрыхтоўкі выбарчых работнікаў і адэкватна пільнаваць з боку ўладаў.*

## C. ПАДЛІК

Назіральнікі ацанілі падлік галасоў як негатыўны, пры гэтым прыблізна 30 адсоткаў выбарчых участкаў, на якіх вялося назіранне, атрымалі адзнаку "кепска" ці "вельмі кепска", што сведчыць аб наяўнасці значных праблем. У прыватнасці, назіральнікі ММНВ негатыўна ацанілі празрыстасць працэсу, разуменне УВК і захаванне працэдур, і іх агульную дзейнасць. У пяці выпадках назіральнікі паведамілі пра наяўнасць прыкмет укідвання бюлетэняў падчас падліку.

На адной траціне выбарчых участкаў падліку галасоў бракавала празрыстасці. Назіральнікі ММНВ паведамілі, што некалькі УВК прынялі наўмысныя дзеянні, каб паменшыць доступ назіральнікаў, акружаючы стол падліку ці апускаючы важныя працэсуальныя гарантыі. Як правіла, выбар на бюлетэні не быў ні абвешчаны, ні паказаны назіральнікам. На прыкладна 25 адсотках выбарчых участкаў назіральнікі ММНВ паведамілі, што ім не была дадзеная магчымасць назіраць за падлікам, сябры УВК не ішлі на паўнавартаснае супрацоўніцтва альбо назіральнікі былі абмежаваныя ў сваіх назіраннях.

Адзін з пяці УВК не выконваў базавыя працэдуры звядзення, такія як падлік колькасці подпісаў у спісах выбаршчыкаў і абавязковая перакрыжаваная праверка, якая з'яўляецца важнай мерай перасцярогі. Часта не захоўвалася працэдура, якая патрабуе ад УВК падлічваць кожную скрыню для бюлетэняў асобна. Часта сапраўднасць бюлетэняў не спраўджвалася ў паслядоўнай манеры. У некаторых выпадках ММНВ назірала недакладныя выніковыя лічбы (у 12 выпадках падліку галасоў), пустыя, але папярэдне падпісаныя выніковыя пратаколы (26 выпадкаў) ці іншыя значныя працэдурныя памылкі ці дапушчэнні (29 выпадкаў). Назіральнікі ММНВ таксама паведамілі аб выпадках фальсіфікацыі вынікаў, у тым ліку выпадках, калі галасы прызначаліся іншаму кандыдату або «супраць усіх».[75] Такія элементы выклікаюць сур'ёзныя сумневы з нагоды дакладнасці і сумленнасці прадстаўленых вынікаў.

*Трэба усталяваць і строга выконваць зразумелыя і празрыстыя працэдуры для падліку. Варта разглядзець магчымасць абвяшчаць і паказваць выбар на кожным выбарчым бюлетэні. Падвядзенне вынікаў выбараў і запаўненне выніковых пратаколаў трэба праводзіць ў адкрытай манеры, якая забяспечвае магчымасць паўнавартаснага назірання.*

У 13 выпадках, калі праводзілася назіранне, УВК сутыкаліся з цяжкасцямі з занясеннем вынікаў у пратакол, які ў некаторых выпадках не быў запоўнены чарнілам у адпаведнасці з

[74] У адным выпадку, УВК атрымала 24 запыта, але з пераноснай выбарчай скрыняй было адаслана 50 бюлетэняў.

[75] У ТВК Заводская, г. Мінск; ТВК Ленінская, г. Мінск; ТВК Кастрычніцкая, г. Мінск; ТВК Першамайская, г. Мінск; ТВК Пухавіцкая, Мінская *вобласць*; ТВК Чэрвеньская, Мінская*вобласць*; ТВК Бярозаўская, Брэсцкая *вобласць*; ТВК Кобрынская, Брэсцкая *вобласць*; ТВК Лунінецкая, Брэсцкая *вобласць*.

патрабаваннямі. УВК не выдалі афіцыйны пратакол у трох экземплярах у 14 выпадках, а ў 18 выпадках УВК не прадставіла пратакол з вынікамі для публічнага азнаямлення, як таго патрабуе закон.

Грамадзянскія назіральнікі прысутнічалі ў 97 адсотках назіранняў за падлікам. Староннія асобы прысутнічалі на 14 выбарчых участках, але, як правіла, не ўмешваліся ў працэс. Афіцыйныя скаргі былі пададзеныя ў чатырох выбарчых участках, дзе ММНВ ажыццяўляла назіранне падчас падліку галасоў.

## D. Звязденне і абвяшчэнне вынікаў

Назіральнікі ММНВ назіралі за працэсам перадачы і звядзення вынікаў ў 133 з 146 ТВК. Працэс звядзення быў ацэнены негатыўна ў 25 адсотках ТВК, на якіх вялося назіранне, што з'яўляецца істотнай лічбай. Паводле назіранняў, працэсу звядзення вынікаў увогуле бракавала празрыстасці. Назіральнікі ММНВ былі абмежаваныя ў сваёй працы ў 77 ТВК і не маглі добра бачыць працэс ў 23 ТВК. Паўнавартаснае назіранне было немагчыма ў 14 ТВК. У 10 выпадках назіральнікі ММНВ паведамлялі, што ТВК адклалі звязденне атрыманых ад УВК пратаколаў да наступнага дня без усялякай на тое прычыны і без апрацоўкі іх у прысутнасці сябраў участковай выбарчай камісіі, якія іх падалі, або назіральнікаў.[76] Нягледзячы на тое, што гэта дазволена законам, такая практыка парушае ланцужок захаванасці вынікаў выбараў, што далей мае згубны ўплыў на ўпэўненасць у дакладнасці абвешчаных вынікаў.[77]

*Дзеля таго каб павысіць празрыстасць падліку і упэўненасць грамадскасці ў дакладнасці вынікаў, працэсамі ў ТВК павінны кіравацца падрабязнымі і уніфікаванымі палажэннямі і працэсуальныя гарантыямі. ТВК павінны весці бесперапынныя сесіі з моманту закрыцця выбарчых участкаў да запаўнення выніковых пратаколаў ТВК са звядзеннем пратаколаў УВК у табліцы ў прысутнасці і са згоды УВК.*

Былі адзначаныя некаторыя працэдурныя недахопы, у тым ліку затрымкі УВК з перадачай пратаколаў ў ТВК (13 выпадкаў), альбо змяненне лічбаў у пратаколах у памяшканні ТВК (12 выпадкаў). У некаторых выпадках назіральнікі адзначылі, што галасы ад аднаго кандыдата былі пераназначаныя да іншага.[78] У адпаведнасці з інструкцыямі, ТВК павінны рабіць праверку ўзгодненасці пратаколаў і ўвадзіць лічбы ў зводныя табліцы, якая трэба прыкладаць да выніковага пратаколу ТВК. У 23 назіраннях ТВК не ўжывалі праверачныя ўраўненні, а ў 9 назіраннях лічбы пратаколаў не былі ўнесены ў зводную табліцу. Назіральнікі ММНВ паведамілі, што большасць ТВК адмовіла выдаць ім копію зводнай табліцы. Выніковыя лічбы ў пратаколах ТВК, атрыманых назіральнікамі ў ноч выбараў, у некаторых выпадках адхіляліся ад вынікаў, якія былі размешчаны на вэб-сайце ЦВК.[79]

11 кастрычніцка ЦВК абвясціла, што яўка, патрэбная каб лічаць выбары здзейсніўшыміся, дасягнутая і 16 кастрычніка абвясціла канчатковыя вынікі выбараў. Дзеючы прэзідэнт быў абвешчаны пераможцам з 83,5 адсоткамі галасоў, а справаздачая яўка выбаршчыкаў саставтла

---

[76] У ТВК Пружанская, Брэсцкая *вобласць*; ТВК Віцебская і ТВК Пастаўская, Віцебская *вобласць*; ТВК Цэнтральная, ТВК Буда-Кашалёўская, ТВК Злобінская, ТВК Нараўлянская і ТВК Хойніцая Гомельскай *вобласці*, ТВК Ленінская і ТВК Свіслацкая, Гродзенская *вобласць*; і ТВК Кастрычніцкая, Мінск.

[77] ТВК Ваўкавыска, Гродзенская *вобласць*, вырашыла класіфікаваць 92 бюлетэня, якія былі абвешчаныя прапаўшымі з УВК 12 як нявыкарыстаныя, без кансультацыі з сябрамі гэтай камісіі.

[78] У ТВК Браціслаўскай і ТВК Полацкай Віцебскай *вобласці*, ТВК Ленінскай, г. Мінск; ТВК Астраўцоўскай, Гродзенская *вобласць*; ТВК Першамайскай і ТВК Бабруйскай, Магілёўская *вобласць*.

[79] Вынікі выбараў ад ТВК Нова Беліцкай, Гомельскай *вобласці*, даступныя на сайце ЦВК, сведчаць аб атрыманні на карысць аднаго з кандыдатаў на 200 галасоў менш, чым у копіі пратаколу ТВК, які атрымалі назіральнікі ММНВ.

87,2 адсоткаў. ЦВК не публікавала вынікі выбараў з разбіўкай па выбарчых участках, такім чынам абыходзячы асноўную гарантыю празрыстасці і падрываючы давер насельніцтва.[80]

*Дзеля павышэння празрыстасці і падсправаздачнасці вынікі мусяць публікавацца ў разбіўцы па выбарчых участках, яны павінны таксама ўключаюць у сябе вынікі датэрміновага галасавання асобна па кожнаму кандыдату, колькасць сапраўдных і несапраўдных галасоў, галасоў супраць усіх кандыдатаў і колькасць сапсаваных бюлетэняў.*

## E. Скаргі і звароты ў дзень выбараў

1 326 скаргаў былі пададзеныя датычна парушэнняў датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў.[81] Прыблізна 780 з іх былі пададзеныя незалежнымі грамадзянскімі назіральнікамі.[82] Большасць скаргаў сцвярджалі прымус выбаршчыкаў да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні, фальсіфікацыю пратаколаў датэрміновага галасавання і яўкі выбаршчыкаў, схемы шматразовага галасавання, адсутнасць празрыстасці ў ходзе падліку галасоў, а таксама несапраўднае звядзенне вынікаў.[83] Сп-ня Караткевіч падала агульную скаргу ў ЦВК, якая налічвала 1 287 меркаваных парушэнняў, адзначаных назіральнікамі падчас датэрміновага галасавання і ў дзень выбараў, патрабуючы ад ЦВК прызнаць несапраўднымі вынікі выбараў па ўсёй краіне.[84] ЦВК у паскораным парадку разгледзела і адхіліла скаргу на адным адкрытым паседжанні.

За выключэннем некалькіх скаргаў, якія былі неадкладна вырашаны, большасць былі адхіленыя.[85] Скаргі на несапраўднае падвядзенне вынікаў былі часам падтрыманы фатаграфіямі пратаколаў УВК аб выніках; аднак фатаграфіі назіральнікаў не былі прыняты ў якасці доказайў.[86] Скаргі на меркаваныя крымінальныя злачынствы ў многіх выпадках падаваліся рэгіянальным пракурорам, якія іх не разглядалі, але накіроўвалі у ТВК.[87] ТВК не разглядалі ўсе скаргі на адкрытых пасяджэннях у прысутнасці заяўніка, і не заўсёды выдавалі пісьмовыя рашэнні. МНВ АБСЕ/БДІПЧ адзначыла, што ТВК фактычна спынілі працу адразу пасля завяршэння звядзення вынікаў, але да заканчэння тэрміна ў тры, калі можна падаваць скаргі. У

---

[80] Вынікі выбараў былі даступныя на сайце ЦВК у выглядзе «інфармацыі» і «дадзеных»; Аднак прававы статус гэтых выданняў незразумелы, і яны змяшчаюць супярэчлівую інфармацыю пра яўку выбаршчыкаў і галасы, пададзеныя за кандыдатаў.

[81] З гэтых 406, якія тычыліся галасавання і падліку, 384 — пра працу ТВК і УВК, 173 пра правы назіральнікаў, 141 пра запыты пераліку, 85 пра запыты аб прызнанні несапраўднымі вынікаў па участках і 225 пра іншыя пытанні.

[82] "Права выбіраць 2015" падалі каля 500 і Беларускі Хельсінкскі камітэт каля 280 скаргаў.

[83] Заяўнікі сцвярджалі, што галасы, пададзеныя за сп-ню Караткевіч былі прызначаны іншым кандыдатам. Сп-ня Караткевіч прадставіла фатаграфіі выніковых пратаколаў УВК з участкаў 2, 4, 5 і 12 Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці, якія паказвалі ў агульнай складанасці 925 галасоў на яе карысць. Па дадзеных ЦВК, сп-ня Караткевіч атрымала агулам 887 галасоўпа ўсіх 40 выбарчых участках у ТВК Смаргоні. Сп-ня Караткевіч зрабіла аналагічнае патрабаванне ў дачыненні да Кастрычніцкага раёна, Гомельскай вобласці, яна прадставіла у якасці доказа фатаграфіі пратакола аб выніках УВК 2, у якім указваецца 226 галасоў у яе карысць, у той час як паводле дадзеных сайта ЦВК яна атрымала толькі 94 галасы ва ўсім Кастрычніцкім раёне.

[84] Большасць яе папярэдніх скаргаў была пададзеная у УВК і ТВК кампаніяй "Права выбіраць 2015".

[85] Скаргі з запытамі празрыстага падліку галасоў, больш надзейных скрыняў і бяспечнага захоўвання скрыняў падчас датэрміновага галасавання былі адхіленыя на той падставе, што няма такіх прававых патрабаванняў.

[86] Паводле закона, назіральнікі не могуць атрымаць завераныя копіі пратаколаў вынікаў УВК, але могуць выкарыстоўваць свае ўласныя сродкі для стварэння копій. У некаторых выпадках, назіральнікам дазвалялася рабіць фатаграфіі пратаколаў аб выніках УВК, у той час як у іншых выпадках ім было дазволена толькі перапісваць.

[87] Беларускі Хельсінскі камітэт падаў скаргі, у якіх сцвярджалася пра фальсіфікацыю вынікаў падліку, падробку дакументаў і перашкады права свабодна галасаваць, у рэгіянальныя і Мінскую гарадскую пракуратуру, якія накіравалі іх назад у ТВК.

цэлым, разгляд скаргаў не з'явіўся эфектыўным сродкам прававой перасцярогі і магчыма пакінуў парушэнні без санкцый.

*Выбарчыя камісіі, суды і пракуратура павінны належна і справядліва разглядаць змест ўсіх скаргаў канструктыўным чынам і забяспечыць, каб усе прызнаныя вінаватым у парушэнні на выбарах былі прыцягнутыя да адказнасці.*

## XIII. РЭКАМЕНДАЦЫІ

Ніжэйследуючыя рэкамендацыі прапаноўваюцца для разгляду уладам, палітычным партыям і грамадзянскай супольнасці Рэспублікі Беларусь у мэтах падтрымкі іх намаганняў па правядзенні выбараў у адпаведнасці з абавязацельствамі АБСЕ і іншымі міжнароднымі абавязацельствамі і стандартамі дэмакратычных выбараў. Дадзеныя рэкамендацыі варта разглядаць як дадатак да папярэдніх рэкамендацый з канчатковых справаздачаў АБСЕ/БДІПЧ 2008, 2010 і 2012 гадоў і Сумеснага Заключэння АБСЕ/БДІПЧ і Венецыянскай камісіі. АБСЕ/БДІПЧ гатова аказаць дапамогу уладам у далейшым паляпшэнні выбарчага працэсу.[88]

### A. Прыярытэтныя рэкамендацыі

1. Трэба разгледзець магчымасць комплекснай прававой рэформы і распрацаваць яе на аснове папярэдніх рэкамендацыйАБСЕ/БДІПЧ, у тым ліку Сумеснага меркавання АБСЕ/БДІПЧ і Венецыянскай камісіі, і праз інклюзіўны працэс з усімі зацікаўленымі бакамі.

2. Выбарчы кодэкс трэба змяніць, каб уключыць істотныя працэсуальныя гарантыі, якія забяспечваюць надзейнасць і празрыстасць ўсіх этапаў выбарчага працэсу, у прыватнасці, складу выбарчых камісій, праверкі подпісаў у падтрымку, правоў назіральнікаў, правядзення датэрміновага і мабільнага галасавання, а а таксама сумленнага падліку галасоў і звяздення вынікаў.

3. У адпаведнасці з ранейшымі рэкамендацыямі, ва ўсе адпаведныя законы і ўказы неабходна ўнеці папраўкі для таго, каб якія-небудзь абмежаванні асноўных свабод мелі характар выключэнняў, накладваліся толькі тады, калі неабходна ў дэмакратычным грамадстве, былі суразмернымі з легітымнай мэтай і не прымяняліся адвольным і празмерна абмежавальным чынам.

4. Дзеля таго, каб забяспечыць сапраўды плюралістычны склад выбарчых камісій і ўмацаваць давер да выбарчай адміністрацыі, варта разгледзець магчымасць перагляду сістэмы вылучэння і прызначэння сябраў выбарчых камісій і забяспечыць уключэнне сябраў камісіі, якіх вылучаюць удзельнікі выбараў, на ўсіх узроўнях выбарчай адміністрацыі.

5. Улады павінны гарантаваць наяўнасць выразнага размежавання інтарэсаў дзяржавы і яе прыхільнікаў, роўнасць кандыдатаў перад законам і правязденне кампаніі ў справядлівым і свабодным асяроддзі. Ўлады павінны гарантаваць, што агітацыя праводзіцца ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам, у тым ліку без злоўжывання службовым становішчам, прыцягнення супрацоўнікаў або іншых падпарадкаваных асоб, і падтрымкі кампаніі асацыяцыямі, якія субсідуе дзяржава.

[88] У пункце 25 Стамбульскага дакумента АБСЕ 1999 года краіны-удзельнікі абавязаліся "неадкладна рэагаваць на ацэнку выбараў і рэкамендацыі БДІПЧ."

6. Уладам варта перагледзець патрабаванні да акрэдытацыі і дазволіць журналістам, якія з'яўляюцца сябрамі айчынных СМІ, працаваць у замежных СМІ і беларускіх СМІ, заснаваных за мяжой.

7. Варта было б разгледзець магчымасць ўмацаваць склад Назіральнага савета чынам ўключэння прадстаўнікоў прыватных СМІ і БАЖ, каб умацаваць яго незалежнасць і давер грамадскасці да бесстароннасці яго працы. Савет павінен быць ўпаўнаважаны і валодаць дастатковымі рэсурсамі для правядзення паслядоўнага маніторынгу асвятлення ў СМІ выбарчай кампаніі, каб больш эфектыўна выконваць сваю ролю.

8. Трэба змяніць закон, как было прапісана, што кожны выбаршчык мае права падаць скаргі ў дачыненні да ўсіх рашэнняў, дзеянняў і бяздзейнасці выбарчай адміністрацыі, у выніку якіх былі парушаны яго/яе выбарчыя правы.

9. Трэба прыняць меры для забеспячэння бесперашкоднага доступу грамадзянскіх і міжнародных назіральнікаў для назірання за ўсімі аспектамі выбарчага працэсу на ўсім яго працягу, за галасаваннем, падлікам і падвядзеннем вынікаў. Назіральнікі павінны мець права азнаёміцца са зместам спісаў выбаршчыкаў і атрымаць завераную копію пратакола аб выніках.

10. Сістэму датэрміновага галасавання неабходна перагледзець. У выпадку яе захавання як ёсць, трэба ужываць тыя ж механізмы забеспячэння надзейнасці, як у дзень выбараў, у тым ліку патрабаванні да кворуму УВК. Ўладам варта разгледзець магчымасць ужывання адзінага пратаколу, які змяшчае штодзённую інфармацыю, у тым ліку па колькасці выбаршчыкаў у спісе, які будзе заставацца на ўсеагульным аглядзе на выбарчым участку на працягу датэрміновага галасавання і да заканчэння падліку галасоў.

11. Трэба усталяваць і строга выконваць зразумелыя і празрыстыя працэдуры для падліку. Варта разглядзець магчымасць абвяшчаць і паказваць выбар на кожным выбарчым бюлетэні. Падвядзенне вынікаў выбараў і запаўненне выніковых пратаколаў трэба праводзіць ў адкрытай манеры, якая забяспечвае магчымасць паўнавартаснага назірання.

12. Дзеля павышэння празрыстасці і падсправаздачнасці вынікі мусяць публікавацца ў разбіўцы па выбарчых участках, яны павінны таксама ўключаюць у сябе вынікі датэрміновага галасавання асобна па кожнаму кандыдату, колькасць сапраўдных і несапраўдных галасоў, галасоў супраць усіх кандыдатаў і колькасць сапсаваных бюлетэняў.

13. Уладам варта разглядаць усе заявы аб сур'ёзных парушэннях і расследаваць іх у поўным аб'ёме, у выніку чаго тыя, чые дачыненне было даказанае, павінны перадавацца ў рукі правасуддзя.

## B. ІНШЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ

**Прававая база**

14. Закон трэба змяніць, каб прапісаць вычарпальны пералік магчымых выбарчых парушэнняў і адпаведных санкцый, якія павінны быць суразмернымі і мець стрымліваючае ўздзеянне.

**Выбарчая адміністрацыя**

15. Уладам варта перагледзець механізм прызначэння сябраў ЦВК, каб забяспечыць дастатковыя гарантыі яе незалежнасці і бесстароннасці і павысіць даверу грамадскасці да выбарчай адміністрацыі.

16. ЦВК трэба выпрацаваць падрабязныя працэдуры для аспектаў, якія да гэтага часу не ўрэгуляваныя Выбарчым кодэксам, дзеля павышэння падсправаздачнасці, празрыстасці, усёахопнасці, надзейнасці і цэласнасць працэсу і забяспячэння зразумелых і адзіных правілаў для выбарчых камісій ніжэйшага ўзроўню.

**Рэгістрацыя выбаршчыкаў**

17. Усеагульнае пазбаўленне выбарчых правоў грамадзянаў у дасудовым затрыманні або тым, якія адбываюць пакаранне, незалежна ад цяжару здзейсненага злачынства трэба пераглядзець, каб забяспечыць прапарцыянальнасць абмежавання, якое накладаецца, цяжару здзейсненага злачынства. Усеагульнае абмежаванне выбарчых правоў асоб прызнаных псіхічна недзеяздольнымі трэба скасаваць або прымаць рашэнне ў кожным індывідуальным выпадку ў залежнасці ад канкрэтных абставінаў.

18. Да дня галасавання выбаршчыкі павінны мець магчымасць праверыць спісы выбаршчыкаў і запытаць змяніць інфармацыю пра іх. Канчатковыя спісы выбаршчыкаў павінны быць апублікаваныя разам з дэталізаванай інфармацыяй. Назіральнікі і прадстаўнікі кандыдатаў павінны мець доступ да спісаў выбаршчыкаў.

19. Можна ўсталяваць прававы тэрмін рэгістрацыі выбаршчыкаў да дня галасавання, калі дадатковыя запісы дазваляюцца толькі ў адпаведнасці з пэўнымі юрыдычнымі патрабаваннямі, якія падлягаюць судоваму кантролю.

**Рэгістрацыя кандыдатаў**

20. Трэба перагледзець патрабаванне 10-гадовага жыхарства для асоб, якія ў іншым выпадку маюць права балатавацца.

21. Улады павінны забяспечыць роўныя ўмовы для збору подпісаў у падтрымку кандыдата. У адпаведнасці з добрай выбарчай практыкай, колькасць подпісаў у падтрымку можна было б знізіць, а празрыста і аб'ектыўнатрэба правяраць усе подпісы.

**Фінансаванне кампаніі**

22. Можна было б разгледзець магчымасць паўторна увесці грашовае дзяржаўнае фінансаванне ў мэтах павышэння роўнасці магчымасцяў удзельнікаў. Дзеля павышэння празрыстасці і падсправаздачнасці, а таксама для таго, каб выбаршчыкі маглі зрабіць

усвядомлены выбар, ЦВК можа разгледзець пытанне аб сваечасовай публікацыі ўсёабдымных і падрабязных справаздач кандыдатаў аб даходах і выдатках.

**СМІ**

23. У мэтах забеспячэння эфектыўнага ажыццяўлення свабоды выказвання меркаванняў, любыя абмежаванні на карыстанне інтэрнэт-рэсурсамі павінны быць дакладна вызначаны законам, быць доказна неабходнымі і суразмернымі з меркаванай мэтай. Ўладам варта было б удакладніць юрыдычнае паняцце "шкоды інтарэсам Беларусі".

24. У мэтах забеспячэння эфектыўнага доступу да публічнай інфармацыі, варта было б перагледзець абмежаванні, прадугледжаныя Законам аб дзяржаўнай таямніцы.

**Скаргі і звароты**

25. Працэдура абскарджання і, у прыватнасці, паўнамоцтвы і абавязкі органаў, якія разглядаюць скаргі, павінны дакладна рэгулявацца законам, каб пазбегнуць канфліктаў юрысдыкцыі.

26. У мэтах забеспячэння празрыстасці вырашэння электаральных спрэчак выбарчыя камісіі маглі б разглядаць скаргі на адкрытых пасяджэннях, у прысутнасці зацікаўленых бакоў. Акрамя таго, ЦВК варта разгледзець пытанне аб своечасовай публікацыі агульнай інфармацыі аб скаргах і заявах на сваім вэб-сайце.

**Датэрміновае галасаванне і дзень выбараў**

27. Дзеля павышэння эфектыўнасці працэсу галасавання уладам трэба разгледзець больш надзейныя меры бяспекі, такія як, пранумараваныя пячаткі для скрыняў для галасавання, празрыстыя скрыні для галасавання адзінага ўзору, выбарчыя бюлетэні з функцыямі бяспекі і унікальныя пячаткі УВК.

28. Можна было б разгледзець магчымасць ўвесці больш строгія патрабаванні да тых, хто можа прэтэндаваць на хатняе галасаванне, і больш падрабязныя працэдуры для забеспячэння надзейнасці выбарчага працэсу. Выяўленыя недахопы і неналежныя дзеянні ў адміністрацыі хатняга галасавання трэба разглядаць у час падрыхтоўкі выбарчых работнікаў і адэкватна пільнаваць з боку ўладаў.

29. Дзеля таго каб павысіць празрыстасць падліку і упэўненасць грамадскасці ў дакладнасці вынікаў, працэсамі ў ТВК павінны кіравацца падрабязнымі і уніфікаванымі палажэннямі і працэсуальныя гарантыямі. ТВК павінны весці бесперапынныя сесіі з моманту закрыцця выбарчых участкаў да запаўнення выніковых пратаколаў ТВК са звядзеннем пратаколаў УВК у табліцы ў прысутнасці і са згоды УВК.

30. Выбарчая адміністрацыя, суды і пракуратура павінны належна і справядліва разглядаць змест ўсіх скаргаў канструктыўным чынам і забяспечыць, каб усе прызнаныя вінаватым у парушэнні на выбарах былі прыцягнутыя да адказнасці.

## ДАДАТАК І: КАНЧАТКОВЫЯ ВЫНІКІ

| | |
|---|---|
| Агульная колькасць зарэгістраваных выбаршчыкаў | 7 008 682 |
| Выбаршчыкі, якія зарэгістраваліся для галасавання "ў дзень галасаваняя" | 16 752 |
| Агульная колькасць выбаршчыкаў, якія атрымалі бюлетэні | 6 115 690 |
| Агульная колькасць пададзеных бюлетэняў | 6 113 013 |
| Колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі датэрмінова | 2 523 980 |
| Колькасць выбаршчыкаў, якія галасавалі ў хаце (на пераносных скрынях для галасаваньня) | 436 690 |
| Яўка (у адсотках) | **87.22** |

| | Галасоў | Адсоткі |
|---|---|---|
| Сяргей Гайдукевіч | 201 945 | 3,30 |
| Таццяна Караткевіч | 271 426 | 4,44 |
| Аляксандр Лукашэнка | 5 102 478 | 83,47 |
| Мікалай Улаховіч | 102 131 | 1,67 |
| Супраць усіх | 386 225 | 6,32 |
| ПРАМЕЖКАВЫ ВЫНІК | **6 064 205** | **99,20** |
| Несапраўдныя бюлетэні | 48 808 | 0,80 |
| УСЯГО | **6 113 013** | **100** |

Крыніца: пратаколы ЦВК аб выніках прэзідэнцкіх выбараў 11 кастрычніка 2015 года.[89]

[89] Даступныя па спасылкам: http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PRB2015-Soob3.pdf і http://rec.gov.by/sites/default/files/pdf/Elections-PRB2015-itog.pdf

## ДАДАТАК II: СПІС НАЗІРАЛЬНІКАЎ У СКЛАДЗЕ ММНВ

### Кароткатэрміновыя назіральнікі

**Парламенцкая асамблея АБСЕ**

| | | |
|---|---|---|
| Kent Härstedt | Спецыяльны каардынатар | Sweden |
| James Walsh | Кіраўнік дэлегацыі | Ireland |
| Andreas Hanger | дэпутат | Аўстрыя |
| Matthias Kochl | дэпутат | Аўстрыя |
| Romana Jerkovic | дэпутат | Харватыя |
| Branko Vuksic | дэпутат | Харватыя |
| Milovan Petkovic | дэпутат | Харватыя |
| Ales Jakubec | дэпутат | Чэхія |
| Zuzka Bebarova-Rujbrova | дэпутат | Чэхія |
| Jan Hornik | дэпутат | Чэхія |
| Ladislav Sincl | дэпутат | Чэхія |
| Marek Zenisek | дэпутат | Чэхія |
| Mati Raidma | дэпутат | Эстонія |
| Mika Raatikainen | дэпутат | Фінляндыя |
| Michel Voisin | дэпутат | Францыя |
| Egon Juettner | дэпутат | Германія |
| Thomas Stritzl | дэпутат | Германія |
| Gudmundur Steingrimsson | дэпутат | Ісландыя |
| Vincenzo Amendola | дэпутат | Італія |
| Sergio Divina | дэпутат | Італія |
| Emanuele Scagliusi | дэпутат | Італія |
| Marietta Tidei | дэпутат | Італія |
| Antonella Usiello | дэпутат | Італія |
| Dulat Kustavletov | дэпутат | Казахстан |
| Atis Lejins | дэпутат | Латвія |
| Arturs Rubiks | дэпутат | Латвія |
| Ola Elvestuen | дэпутат | Нарвегія |
| Jan Rulewski | дэпутат | Польшча |
| Adao Silva | дэпутат | Партугалія |
| Miron Ignat | дэпутат | Румынія |
| Petru Movila | дэпутат | Румынія |
| Doina Silistru | дэпутат | Румынія |
| Anca Constantin | дэпутат | Румынія |
| Olga Alimova | дэпутат | Расійская Федэрацыя |
| Oganes Oganyan | дэпутат | Расійская Федэрацыя |
| Sergey Karseka | дэпутат | Расійская Федэрацыя |
| SebastianGonzalez Vazquez | дэпутат | Іспанія |
| Jose IgnacioSanchez Amor | дэпутат | Іспанія |
| Margareta ElisabethCederfelt | дэпутат | Швецыя |
| Asa Coenraads | дэпутат | Швецыя |
| Arhe Hamednaca | дэпутат | Швецыя |
| Roger Hedlund | дэпутат | Швецыя |
| Christian Holm Barenfeld | дэпутат | Швецыя |
| Stefan Nilsson | дэпутат | Швецыя |
| KerstinNilsson | дэпутат | Швецыя |
| Ludwig Hoghammar Mitkas | дэпутат | Швецыя |
| Mevlut Karakaya | дэпутат | Турцыя |

| | | |
|---|---|---|
| Senal Sarihan | дэпутат | Турцыя |
| Jennifer Hilton | дэпутат | Велікабрытанія |
| John Woodcock | дэпутат | Велікабрытанія |
| Orest Deychakiwsky | дэпутат | ЗША |
| Andreas Baker | Сакратарыят | Данія |
| Loic Poulain | Сакратарыят | Францыя |
| Marc Carillet | Сакратарыят | Францыя |
| Iryna Sabashuk | Сакратарыят | Украіна |
| Richard Solash | Сакратарыят | ЗША |
| Anne-Cecile Blauwblomme-Delcroix | Персанал дэлегацыі | Францыя |
| Igors Aizstrauts | Персанал дэлегацыі | Латвія |
| Yasin Karaarslan | Персанал дэлегацыі | Турцыя |

**Парлямэнцкая асамблея Савета Еўропы**

| | | |
|---|---|---|
| Reha Denemec | кіраўнік дэлегацыі | Турцыя |
| Thierry Mariani | дэпутат | Францыя |
| Andrej Hunko | дэпутат | Германія |
| Marieluise Beck | дэпутат | Германія |
| AndreaRigoni | дэпутат | Італія |
| Sonia Sirtori | дэпутат | Італія |
| Luis Alberto Orellana | дэпутат | Італія |
| Emanuelis Zingeris | дэпутат | Літва |
| Birute Vesaite | дэпутат | Літва |
| Jonas Gunnarsson | дэпутат | Швецыя |
| Luc Recordon | дэпутат | Швейцарыя |
| Chemavon Chahbazian | Сакратарыят | Арменія |
| Franck Daeschler | Сакратарыят | Францыя |

**Кароткатэрміновыя назіральнікі АБСЕ/БДІПЧ**

| | |
|---|---|
| Sergey Chamanyan | Арменія |
| Hovhannes Gazaryan | Арменія |
| Marlen Dialer-Grillmayer | Аўстрыя |
| Tanja Fachathaler | Аўстрыя |
| Jutta Sommerbauer | Аўстрыя |
| Jean-Pierre Biebuyck | Бельгія |
| Jerom Jan Joos | Бельгія |
| Sophie Karlshausen | Бельгія |
| Maxime Patrice Woitrin | Бельгія |
| Jana Bedanová | Чэхія |
| Dita Bicanovska | Чэхія |
| Darab Gajar | Чэхія |
| Šárka Havránková | Чэхія |
| Veronika Hirzel | Чэхія |
| Petr Janousek | Чэхія |
| Eva Janu | Чэхія |
| Karel Kovanda | Чэхія |
| Lubor Kysucan | Чэхія |
| Magdaléna Leichtová | Чэхія |
| Martin Nekola | Чэхія |
| Pavel Pinkava | Чэхія |
| Petr Pojman | Чэхія |
| Jirí Škvor | Чэхія |

По состоянию на 16 октября 2015 г.

**СВЕДЕНИЯ**
**об обращениях граждан, поступивших в период подготовки и проведения выборов Президента Республики Беларусь**

| Тематика обращений | Количество поступивших обращений | Органы, в адрес которых поступили обращения граждан | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Центральная комиссия Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов | местные представительные, исполнительные и распорядительные органы | территориальные комиссии | участковые комиссии |
| Разъяснение избирательного законодательства | **137** | 6 | 5 | 13 | 113 |
| Деятельность территориальных и участковых комиссий | **538** | 42 | 6 | 145 | 345 |
| Деятельность инициативных групп | **62** | 39 | 3 | 20 | - |
| Проведение предвыборной агитации | **36** | 10 | 16 | 10 | - |
| Аккредитация и деятельность наблюдателей | **208** | 67 | 8 | 53 | 80 |
| Составление списков избирателей | **74** | 23 | 2 | 20 | 29 |
| Порядок голосования и подсчета голосов | **551** | 84 | - | 122 | 345 |
| Признание выборов недействительными | **85** | 1 | - | 22 | 62 |
| Проведение повторного подсчета голосов избирателей | **141** | - | 1 | 47 | 93 |
| Формирование собственных избирательных фондов лиц, выдвигаемых кандидатами в Президенты Республики Беларусь, расходование денежных средств этих фондов | **6** | 6 | - | - | - |
| Формирование собственных избирательных фондов кандидатов в Президенты Республики Беларусь, расходование денежных средств этих фондов | **2** | 2 | - | - | - |
| Иные вопросы подготовки и проведения выборов | **379** | 118 | 41 | 46 | 174 |
| Вопросы, не связанные с подготовкой и проведением выборов | **182** | 129 | X | 20 | 33 |
| **ВСЕГО** | **2 401** | **527** | **82** | **518** | **1 274** |

# Дадатак 3.
# Байкот выбараў: заканадаўства і практыка краін СНД
## (кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»)

### Параўнаўчы аналіз выбарчага заканадаўства краін-удзельніц Канвенцыі СНД «Аб стандартах дэмакратычных выбараў, выбарчых правоў і свабод у дзяржавах-удзельніцах СНД»

15 ліпеня сакратар Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь Мікалай Лазавік чарговы раз патлумачыў пазіцыю ЦВК наконт права на байкот выбараў. Ён наступным чынам акрэсліў падставу, чаму ў беларускае выбарчае заканадаўства была ўведзена забарона на байкот і заклікаў да байкоту: «*У адпаведнасці з Канвенцыяй (маецца на ўвазе Канвенцыя «Аб стандартах дэмакратычных выбараў, выбарчых правоў і свабод у дзяржавах-удзельніцах СНД — заўв. аўтара) байкот забаронены. Пры гэтым гэтая забарона распаўсюджваецца не толькі на выступы кандыдатаў, але і на ўсіх грамадзян. Гэта значыць, калі дзяржава выдаткоўвае велізарныя грошы на арганізацыю і падрыхтоўку выбараў, то грамадзянам забараняецца весці агітацыю за зрыў гэтага найважнейшага мерапрыемства*».

Не буду паўтараць тых аргументаў, якія выказаў у сваім падрабязным аналізе Валянцін Стэфановіч, а спынюся толькі на тым, як іншыя краіны, якія ратыфікавалі Канвенцыю СНД «Аб стандартах дэмакратычных выбараў, выбарчых правоў і свабод», выконваюць міжнародныя пагадненні.

**Рэспубліка Арменія**

У выбарчым заканадаўстве Арменіі няма артыкулаў альбо норм, якія абавязваюць грамадзян альбо партыі ўдзельнічаць у выбарах. Грамадзяне вольныя як удзельнічаць у выбарах, так і не ўдзельнічаць: могуць зайсці на выбарчы ўчастак, узяць бюлетэнь і нічога ў ім не адзначыць. Забаронена толькі выносіць бюлетэнь для галасавання з выбарчага ўчастка.

Вядомыя і масавыя партыі Арменіі праводзяць публічныя кампаніі байкоту, а менавіта — агітуюць грамадзян не ўдзельнічаць у выбарах. Такія заклікі з'яўляюцца неад'емным правам палітычных суб'ектаў краіны і ніколі не цягнулі за сабой якой-небудзь адказнасці.

Рэспубліка Малдова

У Малдове няма заканадаўчай забароны байкоту выбараў. Напрыклад, у 2010 годзе праводзіўся Нацыянальны рэферэндум па пытаннях зменаў у

Канстытуцыю, падчас якога Камуністычная партыя, Сацыяльна-палітычны Рух «Раўнапраўе» і Сацыяльна-дэмакратычная партыя праводзілі агітацыю з заклікам байкатаваць яго, што было аспрэчана ў ЦВК іншымі палітычнымі суб'ектамі. Аднак сваім рашэннем ЦВК пацвердзіла, што заклікі гэтых партый да грамадзян не ўдзельнічаць у рэферэндуме, а роўна і ў выбарах усіх узроўняў з'яўляецца іх палітычным правам.

**Рэспубліка Казахстан**

Адразу адзначу, што выбарчыя заканадаўствы Рэспублікі Казахстан і Рэспублікі Беларусь вельмі падобныя паміж сабой. Канстытуцыйны закон Рэспублікі Казахстан «Аб выбарах у Рэспубліцы Казахстан» не ўтрымлівае адказнасці за заклікі да байкоту.

Вялікая колькасць апазіцыйных сіл Казахстана праводзяць кампаніі па байкоце выбараў. Гэтыя кампаніі праходзяць публічна праз СМІ, а таксама шляхам раздачы друкаваных матэрыялаў, правядзення мітынгаў, пікетаў. Такія кампаніі праводзіліся рознымі палітычнымі сіламі падчас усіх выбараў прэзідэнта Казахстана, напрыклад, падчас чарговых і датэрміновых выбараў прэзідэнта ў 2011 годзе. Тады ЦВК Казахстана прасіла грамадзян не паддавацца заклікам байкатаваць пазачарговыя выбары, называючы іх правакацыямі, і такім чынам каментуючы байкот: «*Яўка выбаршчыкаў – гэта рашэнне кожнага выбаршчыка, але паддавацца вось такім правакацыйным дзеянням і ахвяраваць сваім канстытуцыйным правам галасаваць – гэта проста абразліва было б для любога чалавека, любога выбаршчыка*».

Нягледзячы на тое, што ЦВК дазваляла сабе не толькі палітычную, але і эмацыйную ацэнку кампаніі байкоту, заканадаўства Казахстана не прадугледжвае адказнасці за падобныя заклікі, і ніхто з агітатараў за байкот не быў пакараны.

**Расійская Федэрацыя**

Выбарчае заканадаўства Расійскай Федэрацыі прадстаўлена вялікай колькасцю нарматыўных актаў, якія рэгулююць выбары розных узроўняў. Ніводны з іх не ўтрымлівае забарону заклікаў да байкоту выбараў.

Паколькі выбарчае заканадаўства сыходзіць з прынцыпу: што не забаронена, тое дазволена, практыка заклікаў да байкоту з'яўляецца распаўсюджанай сярод часткі палітычных суб'ектаў Расіі. У тым ліку некаторыя дэпутаты Дзяржаўнай Думы дазваляюць сабе заклікі да байкоту муніцыпальных выбараў у РФ. Трэба адзначыць, што ў Расіі адсутнічае парог яўкі для прызнання выбараў адбыўшыміся, таму і заклікі да байкоту не маюць вялікага практычнага сэнсу.

Выбарчае заканадаўства **Рэспублікі Кыргызстан і Рэспублікі Таджыкістан** таксама не ўтрымліваюць забарону байкоту выбараў. Калі палітычныя суб'екты гэтых краін праводзілі кампаніі па закліку да байкоту выбараў, гэта не цягнула за сабой прыцягнення іх да адказнасці.

**Азербайджанская Рэспубліка** не з'яўляецца ўдзельніцай Канвенцыі СНД «Аб стандартах дэмакратычных выбараў, выбарчых правоў і свабод у дзяржавах-удзельніцах СНД», але ў сваім заканадаўстве падтрымлівае асноўныя

падыходы, выкладзеныя ў ёй адносна заклікаў да байкоту. Увогуле Выбарчы кодэкс Азербайджанскай Рэспублікі можна лічыць самым прагрэсіўным у частцы права на байкот. Яно наўпрост гарантавана п. 11.2. арт. 11 ВК: «*Грамадзяне, палітычныя партыі, агітацыйныя групы па выбарах (рэферэндуме) маюць права весці перадвыбарчую (перадрэферэндумную) агітацыю ў форме звароту да выбаршчыкаў удзельнічаць ці не ўдзельнічаць у выбарах (рэферэндуме), галасаваць за або супраць зарэгістраванага кандыдата, палітычнай партыі, блока палітычных партый, галасаваць за ці супраць пытання, вынесенага на рэферэндум, у дапушчальных законам формах і метадах*».

Такім чынам, толькі **Беларусь** наўпрост у сваім заканадаўстве ўвяла забарону на байкот выбараў, а таксама прадугледзела адміністрацыйную адказнасць за заклікі да байкоту.

Усе краіны-ўдзельніцы Канвенцыі забараняюць гвалтоўныя дзеянні, скіраваныя на зрыў, адмену выбараў, адмову ад выбарчых працэдур, што і прадугледжвае арт. 6, але гарантуюць дабраахвотны няўдзел у выбарах. Пры гэтым краіны-ўдзельніцы альбо ніяк не адлюстравалі ў сваім выбарчым заканадаўстве пытанне дазволу заклікаў да байкоту, альбо наўпрост гарантавалі такую форму агітацыі. Ні ў воднай з гэтых краін не прадугледжаны пераслед за заклікі да байкоту і не ўведзена адпаведная адказнасць за такія дзеянні.

Гэта сведчыць, што ўсе падпісанты Канвенцыі, акрамя **Беларусі**, аднолькава разумеюць норму п. 8 арт. 9 Канвенцыі, якая наўпрост дазваляе заклікі да байкоту.

*Уладзімір Лабковіч, «Праваабаронцы за свабодныя выбары»*

# Дадатак 4.
# Забарону на ўдзел у выбарах зняволеных праваабаронцы лічаць неабгрунтаванай
## (кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары»)

Юрыст Павел Сапелка ў межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» раскрывае пытанне аб неабгрунтаваным абмежаванні права ўдзельнічаць у выбарах асуджаных і зняволеных следчых ізалятараў.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй і Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь, у выбарах не ўдзельнічаюць асобы, якія ўтрымліваюцца па прысудах суда ў месцах пазбаўлення волі. У галасаванні не прымаюць удзел асобы, у адносінах да якіх у парадку, устаноўленым крымінальна-працэсуальным заканадаўствам, выбраная мера стрымання – утрыманне пад вартай. Пазбаўленне канстытуцыйнага права ўсіх асуджаных да пазбаўлення волі, а тым больш падазраваных і абвінавачаных, уяўляецца ў дачыненні да асуджаных неабгрунтаваным, а ў дачыненні да тых, якія ўтрымліваюцца пад вартай да вынясення прысуду – яшчэ незаконным.

Асобы, якія ўтрымліваюцца пад вартай у чаканні прысуду з'яўляюцца па вызначэнні паўнапраўнымі грамадзянамі, абмежаванымі толькі ў асабістай свабодзе. Падследныя зняволеныя ў сілу прэзумпцыі невінаватасці лічацца невінаватымі, і з імі, у адпаведнасці з нацыянальнымі законамі і міжнароднымі дамовамі, варта абыходзіцца адпаведна.

У прыватнасці, Прынцып 36 Збору прынцыпаў абароны ўсіх асоб, якія падвяргаюцца затрыманню або заключэнню ў якой бы там ні было форме (Прыняты рэзалюцыяй 43/173 Генеральнай Асамблеі ААН ад 9 снежня 1988 года), абвяшчае:

«*затрыманая асоба, якая падазраецца, або абвінавачаная ў здзяйсненні крымінальнага злачынства, лічыцца невінаватай і мае права на абыходжанне з ім як з такім да таго часу, пакуль яго вінаватасць не будзе даказаная згодна з законам у ходзе адкрытага судовага разбіральніцтва, на якім бы яна валодала ўсімі гарантыямі, неабходнымі для сваёй абароны. Арышт або затрыманне такой асобы на перыяд правядзення следства і судовага разбору ажыццяўляецца толькі ў мэтах адпраўлення правасуддзя на падставах і ў адпаведнасці з умовамі і працэдурамі, усталяванымі законам. Забараняецца ўвядзенне абмежаванняў у дачыненні да такой асобы, у якіх няма непасрэднай неабходнасці з пункту гледжання мэтаў затрымання або ліквідацыі перашкод для ходу расследавання або*

*адпраўлення правасуддзя, або падтрымання бяспекі і парадку ў месцы затрымання».*

Складаней выглядае справа з правам удзелу ў выбарах асуджаных зняволеных, аднак і па гэтым пытанні ўжо ёсць цалкам пэўная пазіцыя:

Кіруючымі прынцыпамі адносна выбараў (прынятыя Венецыянскай камісіяй на 51-й пленарнай сесіі, Венецыя, 5-6 ліпеня 2002 г.) улічана, што могуць быць прадугледжаны падставы для прыпынення дзеяння палітычных правоў. Разам з тым такія падставы павінны адпавядаць звычайным умовам, пры якіх можа здзяйсняцца абмежаванне асноватворных правоў. Іншымі словамі, яны павінны:

- быць прадугледжаныя ў законе;
- адпавядаць прынцыпу прапарцыянальнасці;
- грунтавацца на вынясенні крымінальнага прысуду за сур'ёзнае правапарушэнне.

Умовы пазбаўлення фізічных асоб права быць абранымі могуць быць менш жорсткімі, чым ўмовы іх пазбаўлення права абіраць, паколькі ў дадзеным выпадку гаворка ідзе аб заняцці грамадскай пасады, і рашэнне пазбавіць тую ці іншую асобу, дзеянні якой на гэтай пасадзе маглі б прывесці да парушэння больш важкіх грамадскіх інтарэсаў, права быць абраным на гэтыя пасады, магло б стацца цалкам законным.

Самае важнае з таго, што ўстаноўлена па разглядаемым пытанні Кіруючымі прынцыпамі, заключаецца ў тым, што **пазбаўленне той ці іншай асобы палітычных правоў дапускаецца толькі па прамым рашэнні суда**. Так, напрыклад, гэта ёсць у заканадаўстве Польшчы: Закон ад 12 красавіка 2001 года «Аб выбарах у Сейм Польскай Рэспублікі і ў Сенат Польскай Рэспублікі» устанаўлівае, што актыўным выбарчым правам, гэта значыць правам галасаваць на выбарах, валодае кожны грамадзянін Польшчы, які да дня галасавання дасягнуў 18-гадовага ўзросту, акрамя асоб, якія: пазбаўленыя грамадзянскіх правоў па канчатковым рашэнні суда; пазбаўленыя выбарчых правоў па канчатковым рашэнні Вярхоўнага Суда; прызнаныя неправадзейнымі па канчатковым рашэнні суда.

Між тым, чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы. Рэспубліка Беларусь прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забяспячае адпаведнасць ім заканадаўства. (Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь). Так, артыкул 2 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах устанаўлівае, што «*кожная Дзяржава, якая ўдзельнічае ў гэтым Пакце, абавязваецца паважаць і забяспечваць усім асобам, якія знаходзяцца ў межах яе тэрыторыі і пад яе юрысдыкцыяй правы, якія прызнаюцца ў гэтым Пакце, без якога б там ні было адрознення , ці то ў адносінах расы, колера скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных і іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча, нараджэння ці іншых абставін». У адпаведнасці з артыкулам 25 Пакта, «кожны грамадзянін павінен мець без якой бы там ні было дыскрымінацыі, памянёнай ў артыкуле 2, і без неабгрунтаваных абмежаванняў права і магчымасць: галасаваць і быць абраным на сапраўд-*

*ных перыядычных выбарах, якія ажыццяўляюцца на аснове ўсеагульнага роўнага выбарчага права пры таемным галасаванні і якія забяспечваюць свабоднае волевыяўленне выбаршчыкаў*».

Камітэт па правах чалавека ААН у заўвагах агульнага парадку № 21 (1992 г.) «Артыкул 10» паказаў, што «асобы, пазбаўленыя свабоды, карыстаюцца ўсімі правамі, што абвешчаны ў Пакце, з улікам абмежаванняў, непазбежных для жыцця ў няволі».

Для разумення неабгрунтаванасці абмежавання выбарчага права асуджаных важныя палажэнні Мінімальных стандартных правілаў абыходжання са зняволенымі ААН. У папярэдніх заўвагах пазначана, што гэтыя Правілы прызначаныя для таго, каб на аснове агульнапрызнаных дасягненняў сучаснай думкі і з улікам асноўных элементаў найбольш задавальняючых ў цяперашні час сістэм выкласці тое, што звычайна лічыцца правільным з прынцыповага і практычнага пунктаў гледжання ў галіне абыходжання са зняволенымі. У Правілах паказваецца на тое, што заключэнне і іншыя меры, што ізалююць правапарушальніка ад навакольнага свету, прычыняюць яму пакуты ўжо ў сілу таго, што яны забіраюць у яго права на самавызначэнне, паколькі яны пазбаўляюць яго свабоды. Таму, за выключэннем выпадкаў, калі сегрэгацыя ўяўляецца апраўданай, або калі гэта неабходна па меркаваннях дысцыпліны, турэмная сістэма не павінна пагаршаць пакуты, якія вынікаюць з гэтага становішча. У абыходжанні са зняволенымі варта падкрэсліваць не іх выключэнне з грамадства, а тую акалічнасць, што яны працягваюць заставацца яго членамі. **Варта прымаць меры для таго, каб зняволеныя маглі захоўваць за сабой максімум сумяшчальных з законам і ўмовамі іх прысуду правоў у вобласці іх грамадзянскіх інтарэсаў**.

У выніковай справаздачы Місіі па назіранні за выбарамі БДІПЧ / АБСЕ (па выніках парламенцкіх выбараў у Беларусі 2012 года) адзначана, што адмова ў прадастаўленні права галасаваць грамадзянам, якія знаходзяцца ў папярэднім зняволенні, супярэчыць прынцыпу прэзумпцыі невінаватасці, замацаванаму ў параграфе 5, 19 Капенгагенскага Дакумента АБСЕ 1990 года, а таксама ў артыкуле 26 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Пазбаўленне выбарчых правоў усіх грамадзян, якія адбываюць турэмнае пакаранне, паказвае на адсутнасць прапарцыйнасці і таксама супярэчыць прынцыпам 7.3 і 24 Капенгагенскага Дакумента АБСЕ 1990 года і іншым міжнародным стандартам. У прыярытэтныя ўключана рэкамендацыя аб тым, што «*адмова ў праве галасаваць або выступаць кандыдатам грамадзянам, якія знаходзяцца ў турэмным зняволенні або дасудовым утрыманні пад вартай, у незалежнасці ад цяжару злачынства, варта выключыць з заканадаўства. Любыя абмежаванні правоў выбаршчыка і кандыдата павінны быць прапарцыйныя і выразна апісаны ў заканадаўстве*».

З улікам усяго выкладзенага, неабходна неадкладна выключыць з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Выбарчага кодэкса палажэнні, якія абмяжоўваюць выбарчае права асоб, якія ўтрымліваюцца пад вартай да вынясення прысуду, а таксама прадпрымаць крокі па выключэнні неабгрунтаванай дыскрымінацыі тых, хто адбывае пакаранне ў месцах пазбаўлення волі паводле прысуду суда. Магчыма абмежаванне выбарчых правоў толькі за ця-

жкія злачынствы супраць дзяржавы, якое неабходна прадугледзець у якасці асобнага ў крымінальным заканадаўстве.

Працэдура прыняцця такога рашэння не ўяўляе вялікай складанасці для беларускага парламента: закон аб унясенні змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь можа быць прыняты пасля двух абмеркаванняў і адабрэнняў Нацыянальным сходам з прамежкам не менш за тры месяцы большасцю не менш 2/3 галасоў ад поўнага складу кожнай з палат Нацыянальнага сходу. Пасля ўнясення змяненняў у Канстытуцыю нішто не перашкаджае ўнесці адпаведныя змены і ў Выбарчы кодэкс.

*«Праваабаронцы за свабодныя выбары».*

# Дадатак 5. Прапановы Беларускага Хельсінкскага камітэта ў межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» датычна практык дзеля павышэння празрыстасці выбараў і адказ Цэнтральнай камісіі

Праваабаронцы прапануюць ЦВК ўкараніць 3 новых практыкі для павышэння празрыстасці выбараў

Беларускі Хельсінкскі камітэт у межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» звярнуўся ў ЦВК з просьбай рэалізаваць 3 простых рашэнні:
1) Публікаваць дадзеныя галасавання з разбіўкай па выбарчых участках. Зараз ЦВК публікуе толькі выніковыя дадзеныя аб выніках галасавання з разбіўкай па абласцях і г. Мінску.
2) Выдаваць назіральнікам на ўчастках засведчаныя копіі пратакола аб выніках галасавання ў абавязковым парадку. Зараз Выбарчы кодэкс не забараняе атрыманне назіральнікам засведчанай копіі, але на практыцы ў большасці выпадкаў участковыя камісіі адмаўляюць у гэтым, спасылаючыся на тое, што яны не абавязаны гэтага рабіць.
3) Усталяваць дакладную працэдуру падліку галасоў, пры якой адзнака на кожным бюлетэні будзе аб'яўляцца ўслых з дэманстрацыяй усім прысутным членам участковых камісій і назіральнікам. Цяпер для падліку галасоў выкарыстоўваецца наступны спосаб. Кожнаму сябру камісіі раздаецца пэўная колькасць бюлетэняў, якія адначасова падлічваюцца імі. Пасля падліку галасоў кожны сябар Камісіі перадае на аркушы паперы лічбы з вынікамі падліку старшыні камісіі, той, падсумоўваючы атрыманыя лічбы, уносіць у пратакол вынікі. Пры такім спосабе кожны сябар камісіі ведае толькі тыя лічбы, якія былі атрыманыя ім самім, і, адпаведна, можа адказваць за дакладнасць атрыманых вынікаў толькі па бюлетэнях, падлічаных ім самім. Назіральнікі наогул не маюць магчымасці пераканацца ў правільнасці падліку нават асобнымі членамі выбарчых камісій.

На думку Беларускага Хельсінкскага камітэта, рэалізацыя прапанаваных рэкамендацый не патрабуе ўнясення зменаў і дапаўненняў у Выбарчы кодэкс краіны, гэта можа быць зроблена ЦВК у рамках паўнамоцтваў, дадзеных артыкулам 33 ВК.

Праваабаронцы ўпэўненыя, што пералічаныя крокі будуць спрыяць удасканаленню выбарчых працэдур, павышэнню празрыстасці і адкрытасці выбараў для ўмацавання даверу грамадзян да дзяржаўных інстытутаў у цэлым.

Исх. №__________ от __________

Центральная комиссия Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов

220010, г. Минск, ул. Советская, 11,
Дом Правительства

О повышении прозрачности
избирательного процесса

РПОО «Белорусский Хельсинкский комитет» в рамках кампании «Правозащитники за свободные выборы» проводит независимое наблюдение за выборами в Республике Беларусь. Для повышения прозрачности избирательной кампании по выборам Президента Республки Беларусь предлагаем принять меры по реализации следующих рекомендаций.

1. Статьей 55 Избирательного кодекса Республики Беларусь (далее – ИК) установлен порядок подсчета голосов на участке для голосования, в том числе, при проведении выборов депутатов местных Советов депутатов. В части 3 указанной статьи предусмотрено, что подсчет голосов избирателей должен проводиться непосредственно членами участковой комиссии без перерыва до получения результатов голосования.

Вместе с тем, ИК не устанавливает конкретный способ и процедуру подсчета голосов, не определяет порядок распределения полномочий и обязанностей между членами участковых комиссий при подсчете голосов. Данные вопросы не урегулированы и в Пособии для членов участковых комиссии по выборам Президента Республики Беларусь, утвержденном Постановлением Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов от 14.05.2015 г. № 11.

На практике, по сообщениям наблюдателей БХК, для подсчета голосов используется следующий способ. Каждому члену комиссии раздавалось определенное количество бюллетеней, которые одновременно подсчитываются ими. После подсчета голосов каждый член комиссиий передает на листе бумаги цифры с результатами подсчета председателю комиссии, который, суммируя полученные цифры, вносит в протокол итоговые результаты. При таком способе каждый член комиссии знает лишь те цифры, которые были установлены им самим, и, соответственно, может отвечать за достоверность полученных результататов только по подсчитанным им самим бюллетеням. Наблюдатели вообще не имеют возможности убедиться в правильности подсчета даже отдельными членами избирательных комиссий.

Представляется, что надлежащая реализация ч. 3 ст. 55 ИК возможна лишь в том случае, когда способ подсчета голосов позволяет каждому члену участковой комиссии участвовать в общем подсчете бюллетеней, непосредственно обозревать каждый бюллетень и имеющейся в нем отметки избирателей. Такая процедура позволила бы обеспечить и надлежащий уровень транспарентности подсчета голосов для наблюдателей.

В Итоговом отчете Миссии БДИПЧ ОБСЕ по наблюдению за Парламентскими выборами 2012 года, указывалось, что «*отсутствие точно обозначенных процедур подсчета означает, что не гарантирован честный подсчет голосов, как этого требует параграф 7.4 Копенгагенского Документа ОБСЕ 1990 года». В этой связи была принята рекомендация о том, что «УИК следует установить и строго применять четкие, открытые и прозрачные процедуры подсчета голосов. Следует рассмотреть возможность объявления отметки на каждом бюллетене и демонстрации его членам комиссии, наблюдателям и представителям кандидатов. Сведение результатов таблицы и заполнение протоколов с результатами следует проводить открытым образом, что обеспечивало бы разумное наблюдение за процессом*».

Полагаем, что установление четкой процедуры подсчета голосов, при которой выбор каждого из избирателей по каждому из бюллетеней согласно сделанной отметке можно было бы объявлять вслух, демонстрируя ее наблюдателям, с тем чтобы каждый из присутствующих при подсчете голосов (включая членов УИК и наблюдателей) смог видеть отметку, сделанную избирателем, было бы серьезным шагом к б льшей прозрачности и надежности подсчета голосов.

2. Избирательный кодекс не запрещает получение наблюдателем заверенной копии протокола участковой комиссии о результатах голосования. На практике в некоторых случаях избирательные комиссии по просьбе наблюдателей заверяют протоколы, в большинстве же случаев участковые комиссии отказывают в этом, ссылаясь на то, что они не обязаны этого делать. Полагаем, заверение копий протоколов позволит повысить гарантии прозрачности результатов голосования на выборах. Хотим обратить внимание, что Конвенция о стандартах демократических выборов, избирательных прав и свобод в государствах-участниках Содружества Независимых Государств, к которой присоединилась Республика Беларусь, предусматривает, что национальным наблюдателям должно быть предоставлено, среди прочего, право получать от соответствующего избирательного органа заверенные копии протоколов об итогах голосования (пункт «е» части 3 статьи 14). Закрепление данного права в соответствующих документах Центральной комиссии способствовало бы фактической имплементации положений Конвенции СНГ.

3. Прозрачности избирательного процесса способствовало бы, на наш взгляд, опубликование Центральной комиссией результатов голосования с разбивкой по избирательным участкам. На это указывалось в Итоговом отчете Миссии БДИПЧ ОБСЕ по наблюдению за Парламентскими выборами 2012 года: «*Для повышения прозрачности и степени доверия к результатам выборов, предварительные и итоговые результаты следует публиковать с полной разбивкой голосов по округам и избирательным участкам. В результаты следует включать не только общее число избирателей и явку на каждом участке, но также число действительных и недействительных голосов, голосов за каждого кандидата, голосов против вех кандидатов, испорченных бюллетеней*».

4. На официальном сайте размещаются принимаемые постановления Центральной комиссии. Это является важной гарантией реализации принципа открытости и гласности в деятельности Центральной комиссии. Вместе с тем, как следует из анализа мониторинга сайта Центральной комиссии, в разделе, посвященному опубликованию постановлений Центральной комиссии (http://www.rec.gov.by/ru/postanovleniya), отсутствует ряд постановлений, наличие которых следует из нумерации опубликованных постановлений. В частности, отсутствуют следующие постановления Центральной комиссии, принятые с момента назначения выборов Президента Республики Беларусь 2015 года: №№ 25, 27, 28. Кроме того, не опубликованы постановления, принятые до назначения выборов: №№ 13-17.

Просим разместить тексты указанных постановлений либо сообщить о причинах невозможности их опубликования.

Перечисленные рекомендации направлены на совершенствование избирательных процедур, повышению прозрачности и открытости выборов для укрепления доверия граждан к государственным институтам в целом.

Реализация указанных рекомендаций, на наш взгляд, не требует внесения изменений и дополнений в Избирательный кодекс Республики Беларусь, а может быть сделано Центральной комиссией в рамках предоставленных ей полномочий статьей 33 ИК.

Предлагаем рассмотреть данные предложения на соответствующем заседании Центральной комиссии и пригласить на него представителя нашего общественного объединения.

Направляется в порядке ст. 40 Конституции Республики Беларусь и п. 3 ч. 1 ст. 33 ИК.

Председатель О.Н. Гулак

ОТ: ТЕЛ: 28 ИЮЛ 2015 16:55 С.1

ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАМІСІЯ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ
РЭСПУБЛІКАНСКІХ
РЭФЕРЭНДУМАЎ

вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск
Дом Урада
тэл./факс (+375 17 ) 327 19 03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by
www.rec.gov.by

ЦЕНТРАЛЬНАЯ КОМИССИЯ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПО ВЫБОРАМ И ПРОВЕДЕНИЮ
РЕСПУБЛИКАНСКИХ
РЕФЕРЕНДУМОВ

ул. Советская, 11, 220010, г. Минск
Дом Правительства
тел./факс (+375 17 ) 327 19 03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by
www.rec.gov.by

28.07.2015 № 02-27/17-56

Рэспубліканскае праваабарончае грамадскае аб'яднанне "Беларускі Хельсінкскі Камітэт"
07-14/95 28.07.2015

Республиканское
правозащитное общественное
объединение «Белорусский
Хельсинкский Комитет»

В связи с направлением обращения, касающегося принятия Центральной комиссией постановлений по отдельным вопросам установления результатов выборов Президента Республики Беларусь, сообщаем следующее.

В соответствии с Избирательным кодексом Республики Беларусь Центральная комиссия правомочна давать разъяснения норм законодательства о выборах в целях его единообразного применения. Это означает, что Центральная комиссия принимает инструкции только по тем вопросам, которые уже урегулированы законом, но требуют определенного уточнения.

Нельзя согласиться с авторами обращения, что установление Центральной комиссией новых прав и обязанностей для членов участковых комиссий, дополнений в процедуру подсчета голосов может быть сделано в рамках ее полномочий, поскольку заявители признают, что Избирательный кодекс «не устанавливает конкретный способ и процедуру подсчета голосов, не определяет порядок распределения полномочий между членами участковых комиссий при подсчете голосов». Отмечаем, что в Пособии для членов участковых комиссий по выборам Президента Республики Беларусь (утверждено постановлением от 14 мая 2015 г. № 11) положения статьи 55 Избирательного кодекса, регулирующие указанную процедуру, не только воспроизведены, но и детализированы, что обеспечивает ее выполнение участковыми комиссиями в последовательности и порядке, которые установлены законом. Распределение обязанностей между членами комиссии осуществляет ее председатель (пункт 2.3 названного Пособия).

Вопрос о заверении копии протокола участковой комиссии о результатах голосования для наблюдателя также требует регламентации

ОТ: ТЕЛ: 28 ИЮЛ 2015 16:57 С.1

2

в Избирательном кодексе, поскольку в части пятой статьи 13 Кодекса, определяющей полномочия наблюдателя, прямо указано о том, что наблюдатель вправе изготовить копию такого документа своими силами и средствами. В противном случае законодатель указал бы о праве наблюдателя получить заверенную копию указанного документа и соответственно об обязанности председателя комиссии выдать наблюдателю заверенную копию. Приведенная в обращении в качестве аргумента ссылка на Конвенцию о стандартах демократических выборов, избирательных прав и свобод в государствах – участниках Содружества Независимых Государств является не корректной, поскольку в подпункте «е» пункта 3 статьи 14 указано, что наблюдатели вправе получить заверенную копию протокола **в случаях и порядке, предусмотренном национальным законодательством.**

Относительно опубликования Центральной комиссией результатов голосования с разбивкой по участкам информируем, что Центральная комиссия не обладает такой информацией. В соответствии с законом протоколы участковых комиссий представляются в соответствующие районные, городские, районные в городах комиссии. В Центральную комиссию направляются только протоколы о результатах голосования областных и Минской городской территориальных комиссий.

Таким образом, предложение о принятии Центральной комиссией разъяснений по трем позициям, содержащимся в обращении, не может быть выполнено, поскольку они по сути являются самостоятельными правовыми нормами, предполагающими изменение избирательного законодательства в установленном законом порядке.

Отсутствие на интернет-сайте Центральной комиссии некоторых постановлений Центральной комиссии (о командировании, смете расходов) не свидетельствует о несоблюдении принципа гласности в деятельности Центральной комиссии, так как на сайте размещаются соответствующие сообщения, а на заседаниях Центральной комиссии присутствуют наблюдатели, представители СМИ. Обращаем внимание, что Избирательным кодексом прямо оговорены случаи, когда Центральная комиссия должна направлять для опубликования свои материалы в СМИ, и эти требования строго выполняются.

В заключение информируем, что в соответствии с Избирательным кодексом (части первая и вторая статьи 33) поднимаемые в обращении вопросы не требуют коллегиального рассмотрения Центральной комиссией.

Председатель комиссии Л.М. Ермошина

Мартынчик 2226487

# Дадатак 6.
# Маніторынг беларускіх СМІ «Асвятленне прэзідэнцкіх выбараў 2015 г. ў беларускіх СМІ» (Беларуская асацыяцыя журналістаў)

## 1. Уводзіны

Даклад падае вынікі маніторынгу асвятлення прэзідэнцкай кампаніі ў дзяржаўных і недзяржаўных медыя[1].

Маніторынг меў на мэце інфармаваць журналісцкую супольнасць краіны і выбаршчыкаў датычна:

– *значнасці поўнага і ўсебаковага асвятлення выбарчага працэсу;*

– *важнасці прынцыпаў журналісцкай этыкі і міжнародных стандартаў пры асвятленні выбарчых кампаній;*

– *неабходнасці прытрымлівацца прафесійнага абавязку нескажона, непрадузята і поўна інфармаваць выбаршчыкаў пра электаральныя працэсы, праграмы кандыдатаў і меркаванні іх прыхільнікаў альбо апанентаў.*

У полі ўвагі – матэрыялы, што тычыліся выбарчага працэсу, кандыдатаў ды іншых палітычных і непалітычных суб'ектаў, дзейнасць якіх у выбарчай кампаніі была заўважнай[2]. Матэрыялы аналізаваліся з пункту гледжання як колькасных, так і якасных паказчыкаў[3]. А таксама фіксаваліся выпадкі непрафесійнага, перадузятага, няпоўнага, аднабаковага альбо скажонага асвятлення, парушэння журналісцкай этыкі, адхілення ад міжнародна прызнаных стандартаў журналісцкай працы падчас выбарчых кампаній[4].

Даклад абапіраецца на дадзеныя за ўвесь перыяд маніторынгу.

## 2. Падсумаванне

У адрозненне ад прэзідэнцкай кампаніі 2010 г., дзяржаўныя медыя павялічылі ўвагу да выбарчай тэматыкі, аднак не змянілі рэальных суадносін эфірнага часу і плошчы, адведзеных прэтэндэнтам. Па-ранейшаму дамінантнай фігурай быў дзеючы Прэзідэнт краіны.

Усе кандыдаты на пасаду Прэзідэнта атрымалі бясплатны доступ да вызначаных ЦВК дзяржаўных медыя, каб наўпрост звярнуцца да выбаршчыкаў са сваімі праграмамі. Пры гэтым вызначаныя медыя не імкнуліся прыцягнуць шырокую ўвагу да выступаў прэтэндэнтаў: запланаваныя звароты не анансаваліся, а ў раскладах тэлеперадач адсутнічалі прозвішчы тых кандыдатаў, што меліся выступіць.

Разам з тым, дзяржаўныя медыя актыўна папулярызавалі шэраг недзяржаўных праўладных арганізацый, што заявілі пра сваю падтрымку дзеючага Прэзідэнта. Галасы ж апанентаў, а таксама выбаршчыкаў, што падтрымлівалі яго супернікаў, былі нячутныя.

У асвятленні выбараў адсутнічаў выразны драматургічны пачатак, інтрыга. Канкурэнтная барацьба паміж прэтэндэнтамі фактычна стрымлівалася праз прамоцыю толькі аднаго кандыдата і адначасовае нівеліраванне хоць якіх крытычных пазіцый ды маргіналізацыю апанентаў дзеючага рэжыму.

Недзяржаўныя медыя факусіравалі сваю ўвагу галоўным чынам на асобах прэтэндэнтаў і іх праграмах. Параўнальна з іншымі альтэрнатыўнымі кандыдатамі найбольш газетнай плошчы атрымала спн. Караткевіч – новае прозвішча ў беларускай публічнай прасторы. Цікавасць да яе асобы вынікала, у тым ліку, і з канфлікту ўнутры беларускай апазіцыі датычна падтрымкі альбо непадтрымкі гэтага кандыдата.

Па завяршэнні выбарчай кампаніі дзяржаўныя і недзяржаўныя медыя падавалі кантрастныя ацэнкі працэдуры галасавання, падліку галасоў, вынікаў галасавання ды й самой выбарчай кампаніі.

## 3. Асноўныя факты

**3.1 Дзяржаўныя медыя**

Параўнальна з прэзідэнцкай кампаніяй 2010 г., дзяржаўныя электронныя медыя павялічылі эфірны час, прысвечаны выбарчай тэматыцы. У залежнасці ад перыяду маніторынга і СМІ, ён быў альбо сувымерны часу, адведзенаму прагнозам надвор’я, спартыўным навінам альбо перавышаў іх. Напрыклад, паводле абагуленых дадзеных за перыяд 01.09.15 – 10.10.15, навінавая праграма *«Панарама»* (ТБ-канал *«Беларусь 1»*) адвяла выбарчай тэматыцы 19% часу, прагнозу надвор’я – 2,5%, спартыўным навінам – 14,5%[5]. А вось суадносіны часу ў другой папулярнай навінавай тэлепраграме *«Наши новости» (ОНТ)*: выбарчая кампанія – 8,2%, надвор’е – 5%, спартыўныя навіны – 12,3%. Большая ўвага да выбарчай тэматыкі была характэрна і для дзяржаўных друкаваных СМІ.

Разам з тым, структура размеркавання часу і плошчы, адведзеных выбарам, істотна не змянілася. Дзяржаўныя медыя ў гэтым сэнсе прытрымліваліся сваёй традыцыйнай мадэлі асвятлення выбарчых кампаній.

Дзеючы Прэзідэнт краіны сп. Лукашэнка быў найбольш заўважнай публічнай фігурай. Так, паводле абагуленых дадзеных, праграма *«Панарама» («Беларусь 1»)* адвяла яму 61% часу параўнальна з усімі астатнімі суб’ектамі маніторыну[6]. 57% часу прысвяціла праграма *«Наши новости» (ОНТ)*. А ў навінавай праграме *«Радыёфакт» (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё)* ён атрымаў 35% часу. Высокая ступень увагі да Прэзідэнта падтрымлівалася і пераважна станоўчай альбо надзвычай станоўчай ацэнкай яго дзейнасці і асобы.

Іншыя кандыдаты, паводле атрыманых часу і плошчы, не маглі супернічаць з дзеючым Прэзідэнтам. Так, у праграме *«Наши новости» (ОНТ)* суадносіны эфірнага часу ў адсотках былі наступныя: спн. Т. Караткевіч – 5,2%,

сп. С. Гайдукевіч – 5,4%, сп. М. Улаховіч – 5,1%. Ніякіх істотных адрозненняў датычна суадносінаў часу і плошчы, адведзеных кандыдатам у іншых дзяржаўных медыя, не выяўлена. Хаця варта адзначыць, што, у адрозненне ад прэзідэнцкай кампаніі 2010 г., дзяржаўныя медыя ацэньвалі альтэрнатыўных кандыдатаў ужо не адмоўна, а пераважна нейтральна альбо станоўча.

Сярод іншых найбольш заўважных суб'ектаў маніторынгу – Цэнтральная выбарчая камісія (ЦВК), тэрытарыяльныя камісіі, электарат і заходнія назіральнікі. Увага да ЦВК, тэрытарыяльных і ўчастковых камісій у шэрагу дзяржаўных СМІ сувымерная з увагай да альтэрнатыўных кандыдатаў, а ў некаторых – нават большая. Напрыклад, праграма *«Наши новости» (ОНТ)* асвятленню дзейнасці ЦВК і тэрытарыяльных камісій прысвяціла 4,3% часу, а кожнаму з альтэрнатыўных кандыдатаў – менш за 4% часу. Праграма *«Радыёфакт» (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё)* адвяла ЦВК, тэрытарыяльным і ўчастковым камісіям амаль 26% часу, а альтэрнатыўным кандыдатам – спн. Т. Караткевіч, сп. С. Гайдукевічу і сп. М. Улаховічу разам – 1,2% часу.

У некаторых дзяржаўных медыя (напрыклад, у газеце «*Могилёвская правда»*) увага да альтэрнатыўных кандыдатаў была гэткай жа самай (альбо крыху большай), што і ўвага да такіх праўрадавых арганізацый, як Беларускі Рэспубліканскі Саюз моладзі (БРСМ), «Белая Русь» і Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі (ФПБ). Названыя арганізацыі падтрымлівалі кандыдата на пасаду Прэзідэнта сп. Лукашэнку.

Хаця ў шэрагу выпадкаў аналізаваныя медыя і надавалі дастаткова вялікую ўвагу выбаршчыкам, аднак выказванні прадстаўнікоў беларускага электарату, пададзеныя дзяржаўнымі медыя, былі нейтральныя альбо проста заклікалі ўзяць удзел у выбарах, «зрабіць свой выбар на карысць Беларусі». Хоць якія крытычныя ацэнкі і заўвагі на адрас кандыдатаў у гэтых выказваннях адсутнічалі.

Тыя ж медыя фактычна праігнаравалі апанентаў дзеючага рэжыму. Увага да «апазіцыі» вагалася ў межах 0,5% эфірнага часу альбо ўвогуле адсутнічала. Выключэннем была газета *«Беларусь сегодня»*, якая прысвяціла ёй 2% плошчы крытычных заўваг, і *«Могилёвская правда»* (2,4%).

**3.2 Прамы доступ**

Паводле вызначанай працэдуры, зарэгістраваныя кандыдаты атрымалі магчымасць двойчы выступіць у эфіры дзяржаўных тэлеканалаў *«Беларусь 1»* і *«Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё»*, а таксама бясплатна надрукаваць свае праграмы ў вызначаных ЦВК дзяржаўных газетах. Неабходна адзначыць, што тэлезвароты кандыдатаў адбываліся ў самы рэйтынгавы час, пачынаючы з 19.30, што сведчыць пра паляпшэнне магчымасцей данесці свае погляды да выбаршчыкаў (падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. гэтыя выступы пачыналіся ў 19.00). Што да зваротаў па радыё (з 06.10 да 07.10), дык наўрад ці з імі змагло азнаёміцца шырокае кола выбаршчыкаў.

Да таго ж дзяржаўныя друкаваныя і электронныя медыя шырока не анансавалі тэле- і радыёзвароты кандыдатаў. А праграма тэлеперадач адно пазначала: *«Выступления кандидатов в президенты Республики Беларусь»*, не падаючы іх прозвішчаў[7]. Не пазначаны ў праграме і прозвішчы кандыдатаў,

што 3 кастрычніка бралі ўдзел у тэледэбатах. Затое, анансуючы расійскі крымінальны тэлесерыял *«Улицы разбитых фонарей»*, тая ж праграма палічыла неабходным падаць прозвішчы персанажаў гэтага фільма: *«Убиты два человека, живших в одном доме: бизнесмен Семёнов и учитель физкультуры Копейкин»*.

Штодзённая газета *«Беларусь сегодня»* друкавала праграмы кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта. Першай была апублікавана праграма сп. Улаховіча, якая заняла плошчу ў 717см кв. (17.09.2015), а праграма дзеючага Прэзідэнта – 919 см кв. (18.09.2015).

Адзін з кандыдатаў на вышэйшую пасаду ў краіне, а менавіта – дзеючы Прэзідэнт сп. Лукашэнка, адмовіўся ад выступаў па радыё і на тэлебачанні, а таксама ад удзелу ў тэледэбатах. Падчас свайго візіту на Беларускі металургічны завод (г. Жлобін) ён, адказваючы на пытанне датычна ўласнага рашэння, сказаў: *«Ну, вы знаете, это не ново. Я каждый день, кстати, выступаю на телевидении, практически. Это не проблема. (…) Я считаю, что я должен как-то реагировать на те процессы, которые идут на практике. Ну, что я сяду на экран и буду вам рассказывать, какое у нас будет образование или здравоохранение? Тот, кто за мной следит и за моей политикой, он прекрасно знает мои подходы». «Главный эфир» («Беларусь 1», 27.09.2015).*

**3.3 Прамоцыя аднаго кандыдата**

Напярэдадні маніторынгу тэлеканал *«Беларусь 1»* у межах штотыднёвай нядзельнай праграмы *«Главный эфир»* распачаў паказ (02.08.2015) «*хроникально-документальных фильмов, рассказывающих о том, как изменилась страна за два десятилетия суверенной истории» (*http://www.tvr.by/events/proekty-atn/-belarus-xxi/). Цыкл пад назвай *«Беларусь XXI»* складаўся з 10 фільмаў і не быў прымеркаваны да хоць якой значнай падзеі найноўшай беларускай гісторыі, затое надзвычай выразна і пазітыўна рэпрэзентаваў дзейнасць сп. Лукашэнкі. Дваццацігадовы тэрмін яго прэзідэнцтва быў пададзены як гісторыя здзяйсненняў і перамог. Па завяршэнні цыклуназваны канал анансаваў «*новый проект – телевизионный документальный сериал о новейшей белорусской истории «Мы – белорусы» (*http://www.tvr.by/events/proekty-atn/my-belorusy/*)*, які ў тым жа ключы рэпрэзентаваў гісторыю суверэннай Беларусі і дзейнасць яе кіраўніка. Першая серыя пад назвай «*Энергия успеха»* прысвечана «*экономике – крах начала 90-х, отказ от продовольственных талонов и принятие новой программы по выходу из кризиса. А также как Беларусь стала космической державой, что о нас говорят за океаном, почему именитые гости сравнивают со Швейцарией. Вместе вспоминаем – с чего все начинали и что сумели создать. Вместе.»* (http://www.tvr.by/video/my-belorusy/film-pervyy-energiya-uspekha/).

Цягам практычна ўсяго агітацыйнага перыяду навінавая праграма *«Панарама»* ТБ-канала *«Беларусь 1»* дэманстравала адмысловыя сюжэты пад назвай *«Мы сделали это вместе»*, якія распавядалі пра стварэнне культурных, сацыяльных, медыцынскіх, адміністрацыйных, спартыўных ды іншых цэнтраў і збудаванняў па ўсёй краіне. Кантэкстуальна альбо наўпрост гэтыя

сюжэты адсылалі да дваццацігадовага прыяду прэзідэнцкай дзейнасці сп. Лукашэнкі.

Газета *«Наша Ніва» (23.09.2015)* падлічыла частотнасць найбольш характэрных слоў, што выкарыстоўваюцца ў праграмах кандыдатаў у прэзідэнты. *«У Аляксандра Лукашэнкі,* – піша тыднёвік, – *пераважаюць словы «мы/нас/нам» (53 разы)»*. Далей *«ідзе «Беларусь» (27 разоў)»*. Адзначым таксама, што ключавым словам з'яўляецца і «ВМЕСТЕ», пададзенае ў праграме кандыдата вялікімі літарамі: «*ВМЕСТЕ мы создали независимую Беларусь! ВМЕСТЕ мы преодолеем любые невзгоды! ВМЕСТЕ мы построим счастливую и процветающую страну!»*.

Характэрна, што **агульнанацыянальны канал** *ОНТ* ладзіў трансляцыю акцыі пад назвай *«Мы вместе»*, **выкарыстоўваючы** *«графічны знак (лагатып) у выглядзе галачкі ў форме літары «V» лацінскага алфавіту, размаляванай у арнамент і колеры дзяржаўнага сцяга»*. І, як адзначыла кандыдат Т. Караткевіч, *«ідэнтычны элемент афармлення выкарыстоўваецца і ў агітацыйнай кампаніі кандыдата Лукашэнкі…»* (http://nn.by/?c=ar&i=157007).

У заключны перыяд агітацыйнай кампаніі праграма *«Радыёфакт»* *(*23.09.2015, *Першы нацыянальны канал Беларускага радыё*) распачала серыю гутарак з беларускімі навукоўцамі пад назвай *«Выбіраем Беларусь»*. Прагучала інтэрв'ю з палітолагам А. Дзермантам, прысвечанае ўмацаванню беларускага суверэнітэту. Галоўная заслуга ўмацавання суверэнітэту, парадку ў краіне, як лічаць суразмоўцы, належыць дзейнасці кіраўніцтва краіны.

Відавочна, што вышэйшае кіраўніцтва персаніфікуе дзеючы Прэзідэнт сп. А.Лукашэнка. Інтэрв'ю карэлюе з тэлесерыялам *«Беларусь XXI»*, дзе выкарыстоўваецца тая самая мадэль пазітыўнай рэпрэзентацыі дзеючага Прэзідэнта п раз дваццацігадовую гісторыю суверэннай Беларусі. А ў аналагічным сюжэце названай праграмы *Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё* ад 30.09.2015 журналіст фактычна пераказваў альбо цытаваў у перакладзе на беларускую мову цэлыя абзацы з праграмы дзеючага Прэзідэнта.

**Журналіст:** «*У аснове беларускай эканамічнай мадэлі заўсёды быў прынцып даць кожнаму чалавеку магчымасць зарабляць сваёй працай на годнае жыццё. Таму ў любыя сусветныя крызісы, а спачатку 90-х Беларусь прайшла не праз адзін з іх, сэнсам дзяржаўнай палітыкі было захаваць прадпрыемствы і працоўныя месцы для людзей. Такі падыход застаецца і падчас цяперашніх праблем у сусветнай эканоміцы.»*

**З перадвыбарчай праграмы А. Лукашэнкі:** *«Дать каждому человеку возможность зарабатывать на достойную жизнь своим трудом – этот принцип изначально был положен в фундамент белорусской экономической модели. Сохранить предприятия, рабочие места для людей, несмотря на любой кризис, – всегда было главным смыслом нашей политики…»*

**Журналіст:** *«Таму кіраўніцтва Беларусі ўжо зараз выстройвае планы на будучыню. Так, у эканоміцы вызначаны тры стратэгічныя мэты: занятасць, экспарт, інвестыцыі. Занятасць – гэта стабільнасць у грамадстве, калі кожны мае магчымасць зарабіць сабе на жыццё. Экспарт – стабі-*

*льнасць эканомікі, моцны рубель і нізкая інфляцыя, а інвестыцыі – гэта развіццё краіны.»*

**З передвыбарчай праграмы А. Лукашэнкі:** *«Занятость – это стабильность общества и благополучие людей, возможность каждому заработать себе на достойную жизнь своим трудом. Экспорт – это стабильность экономики, крепкий рубль, низкая инфляция, сбалансированный бюджет. Инвестиции – это развитие страны, новые технологии и новое качество жизни для каждого белоруса».*

**Журналіст:** *Як чакаецца, усе гэтыя меры – эфектыўнае дзяржаўнае кіраванне плюс прыватная ініцыятыва плюс добрасумленная праца беларусаў – і забяспечаць нашай краіне новы эканамічны прарыў у бліжэйшыя гады.»*

**З передвыбарчай праграмы А. Лукашэнкі:** *«Все перечисленные меры в совокупности обеспечат нашей стране новый экономический прорыв за счёт сочетания эффективного государственного управления, частной инициативы и добросовестного труда наших людей».*

І, нарэшце, у праграме *«Наши новости» (ОНТ, 29.09.2015)* адзін з сюжэтаў быў прысвечаны рэкорду 16-гадовай беларускі на спаборніцтвах па паўэрліфтынгу. Журналіст: *«Впрочем, не только спортивными успехами запомнит Александру испанская столица. В Мадриде девушка выступала в весьма заметной футболке».* Далей гераіню паказваюць у спартыўнай зале. Яна расшпільвае кофту, пад якой на t-shirt партрэт сп. А. Лукашэнкі з надпісам «Alexander Lukashenko. The Powerful President of the Powerful Country». Спартсменка кажа: *«Это была моя идея, так как я уважаю Александра Григорьевича. Это сильный человек. Я уважаю его политику».* Падобнай агітацыі на карысць іншых кандыдатаў у праграме не было выяўлена.

Прыведзеныя вышэй выпадкі можна ахарактарызаваць як эфекты медыя[8]. У іншай тэрміналогіі – гэта прыклады прыхаванай альбо непрыхаванай агітацыіі на карысць аднаго з кандыдатаў.

Па завяршэнні выбарчай кампаніі названыя вышэй ды іншыя адмыслова падрыхтаваныя медыйныя прадукты зніклі з эфіру, а час, адведзены ў праграмах навінаў дзеючаму Прэзідэнту, заўважна скараціўся. Так, напрыклад, сумарны эфірны час, адведзены яму ў двух выпусках праграмы *«Наши новости» (ОНТ)* пасля дня галасавання (14 і 15 кастрычніка) быў у 6 разоў меншы параўнальна з выпускамі той жа праграмы напярэдадні выбараў (7 і 8 кастрычніка). У праграме *«Радыёфакт» (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё)* ён скараціўся амаль у 5 разоў (параўнанне рабілася ў тыя ж самыя даты, адзначаныя вышэй). Гэткая ж тэндэнцыя характэрная і для штодзённай навінавай праграмы *«Панарама» («Беларусь 1»)*, якая па завяршэнні выбарчай кампаніі вярнулася ў звыклы часавы фармат (40 хвілін). Да галасавання яна звычайна доўжылася больш за гадзіну.

**3.4 Недзяржаўныя медыя**

Абагуленыя дадзеныя асвятлення выбарчай кампаніі паказваюць, што інтэрнэт-газета www.naviny.by канцэнтравала сваю ўвагу перадусім на праграмах і асобах кандыдатаў. Прычым ацэнкі ўсіх кандыдатаў надзвычай збалансаваныя: дамінуе нейтральнае стаўленне; разам з тым, прысутнічаюць

пазітыўныя і негатыўныя ацэнкі. Найбольш плошчы атрымала спн. Караткевіч (амаль 13%), сп. Улаховіч (амаль 10%), сп. Гайдукевіч (5,5%). і сп. Лукашэнка (5,4%). Надалей – апазіцыя (7,4%) і ўчастковыя камісіі (6%).

Газета *«Народная Воля»* крытычна і негатыўна пісала пра ўсіх кандыдатаў. А найбольшую ўвагу надала апазіцыі (амаль 22%), дзейнасць якой ацэньвала як нейтральна, так негатыўна і пазітыўна.

Тыднёвік *«Наша Ніва»* найбольш пісаў пра сп. Лукашэнку (амаль 42%) і спн. Караткевіч (17%), характарызуючы іх пераважна нейтральна, але таксама і адмоўна.

*«Комсомольская правда в Белоруссии»* выключна нейтральна паставілася да ўсіх кандыдатаў і амаль пароўну размеркавала адведзеную ім плошчу.

Названыя выданні не падтрымлівалі каго-небудзь з кандыдатаў персанальна.

**3.5 Ацэнкі выбарчай кампаніі**

Дзяржаўныя медыя, як у асобах журналістаў, так і суразмоўцаў, якім яны далі слова, надзвычай пазітыўна ацанілі выбарчую кампанію.

Інфармацыйны рэсурс БелТА: «**Белорусы на президентских выборах проголосовали за стабильность и спокойствие – мнение.** *Никто не может сегодня упрекнуть руководство государства в закрытости выборов, отсутствии альтернативы. В новейшей истории Беларуси такой свободы и таких возможностей для предвыборной агитации в трудовых коллективах и СМИ у кандидатов в президенты ещё не было»*,-- сказаў Вячаслаў Шаршуноў, рэктар Магілеўскага дзяржаўнага універсітэта харчавання. http://www.belta.by/society/view/belorusy-na-prezidentskih-vyborah-progolosovali-za-stabilnost-i-spokojstvie-mnenie-166439-2015/

Надзвычай спакойны характар кампаніі палітычны аналітык сп. А. Шпакоўскі растлумачыў так: *«Это вторая кампания в истории суверенной Беларуси – первая была в девяносто четвертом году, когда в качестве зарегистрированных кандидатов отсутствуют хулиганы, призывающие к организации массовых беспорядков по итогам выборов…» «Панарама» («Беларусь 1», 12.10.15).*

Дзяржаўныя медыя звярнулі ўвагу на атмасферу ў дзень галасавання і на яўку выбаршчыкаў.

*«Атмосфера на избирательных участках в Беларуси была спокойной и праздничной – Лебедев»* http://www.belta.by/politics/view/atmosfera-na-izbiratelnyh-uchastkah-v-belarusi-byla-spokojnoj-i-prazdnichnoj-lebedev-166316-2015/ А Аляксандр Іваноўскі, першы прарэктар Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце РБ, адзначыў: *«Явка, действительно, мощная и беспрецедентная. Некоторые граждане, которые находятся за пределами нашей страны и которых здесь вообще не было, даже не поверили, что такое бывает. Они сказали примерно такие слова, что в Европе никто так не голосует». «Панарама» («Беларусь 1», 16.10.15).*

Супернікі дзеючага Прэзідэнта прызналі фактычную безальтэрнатыўнасць выбараў і прадвызначанасць іх вынікаў. *«Всё-таки мы прекрасно понимаем, что один из патриотов – сегодня самый главный на этой сцене – наш уважаемый Президент Александр Григорьевич. Он доказал в очередной*

*раз, что не только способен, но и незаменим сегодня на нашей белорусской земле»*, – сказаў сп. Улаховіч. http://www.belta.by/politics/view/ulahovich-schitaet-zasluzhennoj-pobedu-lukashenko-na-vyborah-166417-2015/

А сп. Гайдукевіч адзначыў: *«Реально надо понимать, что люди в РБ в это сложное время ничего не хотели изменить в руководстве страны» .«Панарама» («Беларусь 1», 12.10.15)*. Што да спн. Караткевіч, дык яна не змагла агучыць свае меркаванні. Журналіст названай праграмы адно паведаміў:*«А вот в штабе Татьяны Короткевич всю ночь и сегодня днём царило разочарование. Проиграли «безымянному кандидату – против всех». А значит, достучаться до этого избирателя команда не смогла»* (Там жа).

Безальтэрнатыўнасць выбараў ад імя выбаршчыкаў засведчыў у сваёй калонцы і рэдактар газеты *«Беларусь сегодня»*: *«Какое решение может принять нормальный зрелый мужик, протрубивший двадцать лет на заводе, имеющий семью и понимающий что почем? Отдать голос за Гайдукевича? За Улаховича? За Короткевич? Вверить им свою судьбу. Но он прочитал их биографии, их программы и понимает, что голосование за этих приятных людей было бы с его стороны непростительной детской выходкой». «Беларусь сегодня» (13.10.2015)*.

Пададзеныя дзяржаўнымі медыя ацэнкі працэсу галасавання былі таксама станоўчыя. Паводле слоў члена місіі назіральнікаў ад СНД, кіраўніка дэлегацыі парламенцкага схода Беларусі і Расіі Леаніда Слуцкага, *«…да, в некоторых избирательных комиссиях были «сказочники» среди наблюдателей, которые говорили о том, что дескать в ходе досрочного голосования цифры не сходятся, проголосовало значительно меньше людей, нежели отражено в журналах. Тут же смотрели журналы, тут же другие наблюдатели эти измышления опровергали, так что внести через досрочное голосование ложку дёгтя в оценку этих выборов не удалось» . «Радыёфакт» (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё, 3.10.2015 )*.

Усё ж некаторыя недахопы былі выяўлены. «*Альянс миссий наблюдателей отмечает хорошую организацию выборов в Беларуси. Роберта Бонацци рассказала о некоторых недостатках, которые заметили наблюдатели альянса. Эти недочёты несущественны, касаются конструкции урн, формата избирательных бюллетеней. Если их устранить, это поспособствует повышению прозрачности избирательного процесса, полагает эксперт»* http://www.belta.by/politics/view/aljjans-missij-nabljudatelej-otmechaet-horoshuju-organizatsiju-vyborov-v-belarusi-166340-2015/ А таксама *«Процесс голосования положительно оценен миссией ОБСЕ в 95% случаев. Предварительные выводы гласят: «Были отмечены некоторые процедурные проблемы. Общая прозрачность избирательного процесса получила негативную оценку в 3% отчётов. Миссия также отмечает, что большому количеству наблюдателей не позволили проверить списки избирателей. А там, где это было разрешено, члены миссии «обнаружили предположительно одинаковые подписи». Также в предварительном заключении говорится о фиксации признаков вброса бюллетеней. Но наблюдатели заявили именно о признаках, а не о фактах вбросов»*. http://

www.belta.by/politics/view/protsess-golosovanija-polozhitelno-otsenen-missiej-obse-v-95-sluchaev-166400-2015/

Недзяржаўныя медыя падавалі, аднак, адрозную версію ацэнкі выбараў з боку АБСЕ. *«Назіральнікі АБСЕ: падлік галасоў быў несумленным». «Намеснік старшыні Парламенцкай асамблеі АБСЕ Кент Хэрстэт: Вызваленне палітвязняў  і сардэчны падыход да назіральнікаў з'яўляюцца пазітыўнымі момантамі. Аднак тая надзея, якую нам гэта дало, не спраўдзілася. Улічваючы папярэднія абяцанні, я асабліва расчараваны недахопамі падчас падліку і сумавання галасоў».*

*«У справаздачы БДІПЧ  АБСЕ адзначаецца: «Працэс падліку галасоў быў ацэнены адмоўна на 30% участкаў, дзе праводзілася назіранне, што паказвае на значныя праблемы. Працэс сумавання вынікаў галасавання быў ацэнены як негатыўны і пазбаўлены празрыстасці на 25% выбарчых участкаў, дзе былі назіральнікі».* **«***Народная Воля» (13.10.2015).*

*«Правозащитники: выборы в Беларуси проходили с серьезным нарушением международных стандартов. «Но всё же избирательный процесс проходил с серьёзным нарушением ряда основных важных международных стандартов проведения свободных демократических выборов, — заявил Гулак.  — На наш взгляд, он не в полной мере соответствовал и белорусскому законодательству — в части массового досрочного голосования. Самым серьёзным основанием для критики является непрозрачность подсчёта голосов».* http://naviny.by/rubrics/elections/2015/10/12/ic_news_623_464886/

Рэакцыю спн. Караткевіч усё ж агучыла інтэрнэт-газета www.naviny.by: *«***Татьяна Короткевич: не могу признать полной победы Лукашенко.** *Короткевич подчеркнула, что официальные результаты и данные наблюдателей не совпадают. По её словам, это делает невозможным точно определить, кто и сколько голосов набрал. Политик отметила, что за мирные перемены в Беларуси (лозунг её предвыборной программы) отдали голоса как минимум 20% совершеннолетних граждан страны. «Я не признаю результаты выборов, поэтому не могу признать полной победы Лукашенко», — подчеркнула экс-кандидат».* http://naviny.by/rubrics/elections/ 2015/10/12/ic_news_623_464894/

*«БДИПЧ ОБСЕ: Беларуси предстоит ещё значительный путь к демократическим выборам. «Это очевидно, что перед Беларусью длинный путь, чтобы выполнить все демократические обязательства, — сказал специальный координатор миссии краткосрочных наблюдателей Парламентской ассамблеи ОБСЕ на президентских выборах в Беларуси, заместитель председателя ПА ОБСЕ Кент Харстед. — Освобождение политзаключённых и радушный подход к наблюдателям являются позитивными моментами. Однако та надежда, которую нам это дало, не сбылась. Учитывая предыдущие обещания, я особенно разочарован недостатками во время подсчёта и суммирования голосов. Мы надеемся, что белорусское правительство проявит политическую волю для полноценного процесса реформ, в чём мы готовы оказать поддержку».*
http://naviny.by/rubrics/elections/2015/10/12/ic_news_623_464899/

# 4. Высновы

Параўнальна з папярэднімі выбарамі, гэтая кампанія была надзвычай «ціхай», што сталася магчымым праз адсутнасць рэальнай канкурэнтнай барацьбы, публічнага абмеркавання сур’ёзных эканамічных праблем, праз маргіналізацыю апанентаў рэжыму, а таксама цэнзураванне хоць якіх крытычных выказванняў на адрас дзеючага кіраўніка краіны з боку выбаршчыкаў у дзяржаўных медыя. Да таго ж гэтыя медыя разгарнулі шэраг праектаў, якія рэпрэзентавалі дваццацігадовую гісторыю суверэннай Беларусі і сённяшнюю сітуацыю ў краіне як гісторыю поспехаў і здзяйсненняў.

Павышаная ўвага дзяржаўных медыя да тэхнічнага боку выбарчай кампаніі (падрыхтоўка памяшканняў для галасавання, дзейнасці мясцовых улад, тэрытарыяльных камісій і г.д.) – яшчэ адзін характэрны элемент выбарчага працэсу, скіраванага на яго дэпалітызацыю, на змяншэнне заангажаванасці выбаршчыкаў у канкурэнтную барацьбу паміж рознымі палітычнымі сіламі і платформамі.

У адрозненне ад дзяржаўных, недзяржаўныя медыя былі арыентаваныя на асвятленне як дзейнасці кандыдатаў, так і апанентаў дзеючага рэжыму. Аднак аніяк не маглі паўплываць на характар выбарчай кампаніі ў краіне з прычыны абмежаваных накладаў і атмасферы прадвызначанасці вынікаў выбараў.

Рознасць мадэляў асвятлення выбарчых кампаній у дзяржаўных і недзяржаўных медыя надзвычай добра дэманструюць і тыя ацэнкі выбараў, што гэтыя медыя распаўсюджвалі пасля дня галасавання.

**Ілюстрацыі да справаздачы – на сайце Беларускай асацыяцыі журналістаў: http://baj.by/sites/default/files/total_4.pdf**

---

[1] Аб’ектамі маніторынгу сталі *навінавая праграма «Панарама» («Беларусь 1»); навінавая праграма «Наши новости» (ОНТ); штотыднёвая праграма «Главный эфир» («Беларусь 1»); праграма »Радыёфакт» (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё); праграма «Навіны-рэгіён» (ТРК «Магілёў»); Абласное радыё (ТРК «Магілёў»); інтэрнэт-рэсурсы* www.naviny.by і www.belta.by; *друкаваныя СМІ* «*Беларусь сегодня», «Народная воля», «7 дней», «Наша Ніва», «Комсомольская правда в Белоруссии» («Таўстушка»), «Могилёвская Правда»*.

[2] Спіс суб’ектаў маніторынгу складаюць 51 дзеючую. асобу.

[3] Гл.: Дадатак (Метадалогія).

[4] Дакументамі, на падставе якіх ажыццяўляўся якасны аналіз, з’яўляюцца: Кодэкс журналісцкай этыкі (Прыняты ў 2006 годзе на з’ездзе БАЖ); Дэкларацыя прынцыпаў прафесійнай этыкі журналіста; Освещение выборов в СМИ (Беларусь). Редакция 2015 г.; Международные стандарты освещения выборов в СМИ.

[5] У 2010 г., падчас найбольш актыўнай фазы выбарчай кампаніі, названая праграма адвяла выбарчай тэматыцы амаль удвая меней часу – 10,6%.

[6] Лічбы эфірнага часу і плошчы, якія падаюцца ў адсотках, не з’яўляюцца абсалютнымі. Яны паказваюць на долю часу альбо плошчы, вызначаных таму ці іншаму актару адносна ўсіх астатніх суб’ектаў маніторынгу. Дарэчы, між іншым заўважым, што пад увагу бралася дзейнасць 52 актараў выбарчага працэсу.

[7] Праграма радыёперадач падавала: *«Выступления кандидатов на пост Президента Республики Беларусь»*.

[8] Пад гэтым тэрмінам мы разумеем выпадкі аднабаковага і тэндэнцыйнага асвятлення, неабгрунтаваных інтэрпрэтацый, наўмыснага альбо ненаўмыснага (падсвядомага) скажэння інфармацыі, селектыўнага ці фрагментарнага адлюстравання рэчаіснасці, а таксама замоўчванне падзей і фактаў, што змяняюць альбо могуць змяніць грамадскае бачанне сітуацыі, і тым самым паўплываюць на электаральны выбар.

## МЕТАДАЛОГІЯ МАНІТОРЫНГУ

**Уводзіны**

Ключавымі паняццямі метадалогіі з’яўляюцца **суб’екты** выбарчага працэсу і **рубрыкі**, на якіх базіруецца маніторынг зместу СМІ. Змест медыя, датычны выбарчай тэматыкі, вымяраецца паводле плошчы, часу ці колькасці знакаў у залежнасці ад сродку масавай інфармацыі. А якасны аналіз праводзіцца на падставе адпаведнасці матэрыялаў СМІ **прафесійным стандартам** і прынцыпам **журналісцкай этыкі**.

**Каляндарны план выбарчай кампаніі**

Робячы маніторынг, важна ўлічваць рознаэтапнасць выбарчай кампаніі. У Беларусі яна вызначаецца Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па правядзенні выбараў і рэферэндумаў (ЦВК РБ).

**Суб’екты выбарчага працэсу (маніторынгу)**

Суб’ектамі выбарчага працэсу з’яўляюцца найбольш важныя структуры, іх прадстаўнікі альбо асобы (усіх іх будзем называць актарамі), што непасрэдна ўдзельнічаюць у выбарчым працэсе, забяспечваюць яго альбо ўплываюць на яго ходу і вынікі[1].

**Аб’екты маніторынгу**

Аб’ектамі маніторынгу з’яўляюцца электронныя і друкаваныя медыя. Пры адборы пад увагу браліся тры галоўных крытэра: 1) найбольш уплывовыя медыя, як мясцовыя, так і агульнанацыянальныя; 2) дзяржаўныя медыя, на якія ЦВК РБ ускладзе абавязак прадастаўлення кандыдатам бясплатнага часу і месца; 3) дзяржаўныя і недзяржаўныя СМІ.

1 Глядзі напрыканцы

**Рубрыкацыя**

Каб ацаніць важнасць («вагу») пададзенай інфармацыі, уводзіцца рубрыкацыя матэрыялаў. Гэта значыць, што змест тэле- і радыёпраграм класіфікуецца паводле розных рубрык (тэм). Час, адведзены пад тую ці іншую рубрыку, вымяраецца. Гэткім чынам, параўноўваючы час, вылучаны на пэўную рубрыку, з часам, адведзеным на асвятленне тэмы выбараў, можна вызначыць, наколькі апошняя з'яўляецца важнай для тых альбо іншых СМІ.

Рубрыкі:

**Выбарчы працэс (ВП);**
**Спорт**
**Надвор'е**
**Іншае**

**Заўвага:** час, адведзены ў праграме на «іншае», вылічваецца наступным чынам: ад агульнага часу праграмы (перадачы) адымаецца час трох папярэдніх рубрык.

**Колькасны і якасны падыходы**

Выкарыстоўваючы колькасны і якасны падыходы, абраная метадалогія мае на мэце максімальна аб'ектыўна адлюстраваць асвятленне тэмы выбараў у СМІ. Пры гэтым за аснову бяруцца тры галоўныя параметры, паводле якіх праводзіцца маніторынг:

- час (у электронных медыя) і плошча (у друкаваных медыя), якія адводзяцца ў СМІ розным суб'ектам, іх прадстаўнікам ці актарам выбарчага працэсу;
- манера рэпрэзентацыі розных суб'ектаў, іх прадстаўнікоў ці актараў выбарчага працэсу;
- выпадкі непрафесійнага, незбалансаванага асвятлення выбарчага працэсу, скажэння інфармацыі, выяўленне няпраўды ці паклёпу адносна кандыдатаў, іх праграм, паводзін і г.д.

Першы (колькасны) параметр прадугледжвае падлік **часу і плошчы**, якія адводзяцца розным суб'ектам выбарчага працэсу. Другі (якасны) параметр маніторынгу фіксуе **манеру рэпрэзентацыі** суб'ектаў выбарчага працэсу. Ён прадугледжвае ацэнку сюжэтаў (у электронных медыя), матэрыялаў (у друкаваных медыя) на падставе манеры рэпрэзентацыі кожнага канкрэтнага суб'екта выбарчага працэсу, пра якога ідзе гаворка ў адпаведным матэрыяле. Нарэшце, трэці параметр (таксама якасны) базіруецца на выяўленні адпаведнасці сюжэтаў / матэрыялаў **прафесійным стандартам журналістыкі** (адасабленне інфармацыі ад каментара, усебаковы паказ, незаангажаванасць журналіста толькі ў адну пазіцыю і г.д.), а таксама **прынцыпам журналісцкай этыкі** (роўныя магчымасці для апанентаў, права апанента на адказ у тым жа выданні, якое дапусціла скажэнне інфармацыі, нанесла шкоду іміджу кандыдата і г.д.). Зразумела, што колькасны падыход мае свае асаблівасці ў залежнасці ад таго, пра маніторынг якіх СМІ ідзе гаворка: электронных ці друкаваных. Якасны ж падыход у абодвух выпадках нічым не розніцца.

**Маніторынг тэле- і радыёпраграм**

Маніторынг тэлевізійных праграм ажыццяўляецца на падставе «карцінкі» і гукавой інфармацыі, а радыёпраграм – гукавой інфармацыі. У фокусе маніторынгу знаходзіцца тэма маніторынгу («Выбары»), суб'екты выбарчага працэсу і манера іх рэпрэзентацыі. Усе іншыя сюжэты і праблемы, у якіх не закранаюцца тэма выбараў ці суб'екты выбарчага працэсу, апускаюцца.

Першай задачай маніторынгу з'яўляецца **адбор** тэлевізійных і радыйных сюжэтаў, у якіх асвятляецца ці закранаецца тэма выбараў. Затым ажыццяўляецца падлік часу.

**Падлік часу**

Падлічваецца час, які ў абраным сюжэце адводзіцца кожнаму з актараў / суб'ектаў выбарчага працэсу. **Падлік часу фіксуецца ў секундах**. Усе абраныя сюжэты падлягаюць маніторынгу; маніторынг кожнага сюжэта выконваецца асобна.

Падлік часу датычна **кожнага суб'екта / актара** выбарчага працэсу праводзіцца ў выпадках:

- калі дзеючая асоба (актар) знаходзіцца ў кадры;
- калі дзеючая асоба наўпрост прамаўляе з экрана ці ў мікрафон (на радыё);
- калі пра дзеючую асобу распавядае журналіст. На радыё гэта можа быць цытаванне выказванняў дзеючай асобы. На тэлебачанні – сітуацыя, калі дзеючая асоба знаходзіцца ў кадры, а за кадрам гучыць голас журналіста;
- калі пра дзеючую асобу нешта кажа староння асоба (іншы палітык, грамадзянін і г.д.).

Калі ж пра дзеючую асобу (актара) толькі згадваецца, і гэта згадка не паддаецца часаваму вымярэнню, то яна называецца спасылкай. **Кожная спасылка таксама фіксуецца ў анкеце маніторынгу і ў часавым вымярэнні роўная 1 секундзе**.

**Маніторынг друкаваных СМІ**

Маніторынг друкаваных СМІ ладзіцца на падставе тэкставай інфармацыі і «карцінак» (фатаграфіі, карыкатуры, лагатыпы, сцягі партый і г.д.) кожнага асобнага нумара газеты. Як і ў выпадку з маніторынгам тэле- і радыёпраграм, у фокусе гэтага маніторынгу знаходзяцца тэма («Выбары»), суб'екты выбарчага працэсу і манера рэпрэзентацыі.

Як і ў выпадку з электроннымі СМІ, **адбор** адпаведных матэрыялаў ёсць першай задачай маніторынгу.

**Падлік плошчы**

Другая задача – падлік плошчы, якая ў абраным матэрыяле адводзіцца кожнаму з суб'ектаў (актараў) выбарчага працэсу. **Плошча падлічваецца ў квадратных сантыметрах.** Маніторынг кожнага матэрыялу праводзіцца асобна. Вынікі фіксуюцца ў асобнай анкеце, падаюцца старонкі выдання. Асаблівая ўвага надаецца першай паласе, бо гэта самая чытэльная старонка

газеты. Даволі часта артыкул з першай старонкі мае працяг на наступных. У такіх выпадках аналізуецца ўвесь артыкул з пазначэннем старонак працягу і плошчы, якую ён займае цалкам, а таксама плошча кожнага фрагмента на канкрэтнай старонцы выдання.

Пры падліку плошчы артыкула важна выявіць, хто яго галоўны актар / дзеючая асоба, а хто – не. Калі ў артыкуле падаецца інфармацыя пра адну дзеючую асобу, уся плошча артыкула прыпісваецца гэтай асобе. Калі ж у артыкуле толькі закранаюцца іншыя дзеючыя асобы, яны пазначаюцца як спасылкі, і кожнаму з іх прыпісваецца плошча, роўная 1 см2.

Калі ж у артыкуле ёсць два актары ці болей (напрыклад, параўноўваюцца праграмы двух ці трох кандыдатаў, і ў гэтым параўнанні не аддаецца перавага ніводнаму з іх), тады тэкст дзеліцца на 2 ці 3 і кожнаму з актараў прыпісваецца роўная плошча.

Калі ж у артыкуле падаецца нейтральная інфармацыя і ёсць некалькі роўных актараў, усе яны пазначаюцца як спасылкі і кожны атрымлівае нейтральную адзнаку.

**Маніторынг інтэрнэт-рэсурсаў**

Агульная плошча матэрыялу, а таксама плошча, адведзеная кожнаму суб'екту, вымяраецца ў знаках (разам з прабеламі). Згадка вымяраецца 20 знакамі.

**Ацэнка манеры рэпрэзентацыі**

Падыход да ацэнкі манеры рэпрэзентацыі з'яўляецца аднолькавым як у выпадку з электроннымі, так і з друкаванымі медыя. Крытэры ацэнкі базіруюцца на прафесійных стандартах і прынцыпах журналісцкай этыкі, такіх, як: аб'ектыўнасць, збалансаваны падыход, сумленнасць, адсутнасць перадузятасці і інш.. Адхіленне ад гэтых прынцыпаў пры асвятленні таго ці іншага суб'екта выбарчага працэсу падлягае пазітыўнай, негатыўнай ці нейтральнай ацэнцы.

Ацэнка манеры рэпрэзентацыі фіксуецца ў дыяпазоне **адзнак ад 1 да 5.**

| **1=(+) Вельмі станоўчая** | **2=(+) Станоўчая** | **3=(0) Нейтральная** | **4=(—) Негатыўная** | **5=(—) Вельмі адмоўная** |
|---|---|---|---|---|

Адзнака 2 (станоўчая) азначае, што інфармацыя пра суб'екта ўхваляе яго. Адзнака 1 (вельмі станоўчая) сведчыць пра надзвычайную хвалу, звязаную з рэальнымі альбо ўяўнымі здзяйсненнямі.

Адзнака 4 (негатыўная) паказвае, што суб'ект падаецца ў непрывабным святле. Адзнака 5 (вельмі адмоўная) кажа пра цалкам негатыўнае і нават варожае стаўленне да суб'екта. Даволі часта гэты эфект узмацняецца сістэматычнай пазітыўнай рэпрэзентацыяй аднаго актара на фоне негатыўнай рэпрэзентацыі іншых.

На тэлебачанні манера рэпрэзентацыі вызначаецца з улікам і такіх параметраў, як фонавая карцінка, гукавыя эфекты, інтанацыя вядучага, а таксама стылістыка тэксту.

У друкаваных медыя манера рэпрэзентацыі дадаткова вызначаецца прамымі ці прыхаванымі ацэнкамі дзеючай асобы, спасылкамі на іншыя пазітыўныя альбо негатыўныя кантэксты, гістарычных асоб, стылёвымі асаблівасцямі матэрыялу і г.д..

**«Эфекты медыя»**

«Эфекты медыя» – гэта выпадкі сур’ёзных адхіленняў ад прафесійных стандартаў і прынцыпаў журналісцкай этыкі пры асвятленні грамадска значных праблем, тэм ці асоб. Колькасць такіх выпадкаў сведчыць пра ступень заангажаванасці альбо незаангажаванасці СМІ ў працэс маніпуляцыі грамадскай думкай, што можа адбывацца на карысць урада, таго ці іншага палітычнага блока, партыі альбо асобнага кандыдата. Гэта таксама паказчык незалежнасці медыя і ступені свабоды выказвання.

**5.8. Анкеты для правядзення маніторынгу (формы)**

Дадзеныя маніторынгу заносяцца ў формы. Запаўненне папяровых форм ёсць абавязковым. Для правядзення маніторынгу электронных медыя выкарыстоўваюцца 3 розныя формы.

**Форма № 1** прызначаная для вызначэння колькасці сюжэтаў у праграме, агульнага часу праграмы, парадкавай нумарацыі сюжэтаў праграмы, кароткага апісання сюжэта (напрыклад: тэма, праблема, працягласць сюжэта).

**Форма № 2** прызначаная для вызначэння часу і ацэнкі манеры рэпрэзентацыі суб’ектаў / актараў выбарчага працэсу ў тых сюжэтах навінавай праграмы, якія абраныя маніторцам, ці перадачы, прысвечанай аднаму альбо некалькім суб’ектам.

**У форме № 3** фіксуюцца «эфекты медыя», г.зн. выпадкі скажэння інфармацыі, замоўчвання важных тэм і праблем, датычных выбарчага працэсу, выпадкі дэзінфармацыі, паклёпу і г.д.. Гэта форма выкарыстоўваецца пры маніторынгу як электронных, так і друкаваных СМІ, калі выяўлены выпадкі адхіленняў ад журналісцкай этыкі.

Для правядзення маніторынгу **друкаваных медыя** існуе **асобная форма**, дзе фіксуюцца нумар старонкі, назва матэрыялу, плошча і г.д.

Пры запаўненні форм ужываюцца скарачэнні назваў аб’ектаў маніторынгу і суб’ектаў выбарчага працэсу. Прозвішчы канкрэтных асоб, якія з’яўляюцца прадстаўнікамі канкрэтных суб’ектаў выбарчага працэсу, не скарачаюцца.

Зафіксаваныя ў формах дадзеныя маніторынгу канкрэтнага СМІ заносяцца ў камп’ютар і апрацоўваюцца ў праграме Excel.

Суб’екты, якія бяруцца пад увагу пры правядзенні маніторынгу:

АГП – United Civic Party
АП – Апазіцыя – Opposition

БАП – Беларуская аграрная партыя – Belarusian Agrarian Party
ББЗ – Беларускі бізнес – Belarusian Business
БН – Беларускія назіральнікі – Belarusian Observers
БНФ – Belarusian Popular Front
БП – Беларускі парламент – Belarusian Parliament
БПЗ – Беларуская Партыя «Зялёныя»– Green Party
БПЛ «СС» – «Справядлівы свет» – Belarusian Left Party
БПП – Беларуская партыя працы Belarusian Party of Labor
БР – Белая Русь – White Rus
БРСМ – Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі
БСДП – Belarusian Social Democratic Community
БСЖан – Беларускі Саюз жанчын
БУ – Беларускі ўрад – Belarusian Government
БХД – Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя – Belarusian Christian Democracy
ГА – грамадская(ія) арганізацыя(ыі) – у выпадку ананімнасці;
ГП – Гавары праўду – Tell the Truth Movement
ДА – давераная асоба
ЗН – Заходнія назіральнікі – Western Observers
ІГ – ініцыятыўная група
КЕБ – Еўрапейская Беларусь – European Belarus Coalition
КП – кандыдаты ў прэзідэнты – Candidates to the Presidency
КПБ – Communist Party of Belarus
КХП-БНФ – Conservative Christian Party
ЛДП – Liberal Democratic Party
МУ – Мясцовыя ўлады – Local Authorities
НДА – Недзяржаўныя арганізацыі – NGOs
НПК – Неперсаніфікаваны кандыдат – No-personified Candidate
НСНД – Назіральнікі з краін СНД – CIS Observers
ПА – Прэзідэнцкая адміністрацыя
ПБСДГ – Belarusian Social Democratic Party
ПКП – патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты
ПП – Палітычныя партыі – Political Parties
ПР – Прэзідэнт – President
ПРА – Праўрадавыя арганізацыі – Pro-Governmental Organizations
Прозвішча-КП
Прозвішча-ПКП
ПСП – Партыя свабоды і прагрэсу – Party of Freedom and Progress
РППС – Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці – Republican Party of Labor and Justice
РС – Рух «За Свабоду» – For Freedom Movement
СДППЗ – Сацыял-дэмакратычная партыя Народнай Згоды
ССП – Сацыяльна-спартыўная партыя
ТК – Тэрытарыяльныя камісіі – Territorial Constituency Commissions (у тым ліку Абласная камісія і Мінская гарадская камісія)
УК – участковыя камісіі (замест выбарчых участкаў)

УЛ – Улада – Authorities
УН - усходнія  назіральнікі (Шанхайская арганізацыя супрацоўніцтва)
ФПБ – Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі
ЦВК –  Цэнтральная выбарчая камісія РБ – Central Election Commission
ШК – штаб кандыдата
ЭЛ – Электарат – Electorate

# Дадатак 7.
# Скарга аб прызнанні выбараў несапраўднымі

**Цэнтральная камісія Рэспублікі
Беларусь па выбарах і правядзенні
рэспубліканскіх рэферэндумаў**
220010, Мінск, вул. Савецкая, 11

Копія:
Місія па назіранні за выбарамі
Бюро па дэмакратычных інстытутах
і правах чалавека Арганізацыі па
бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе

**Кандыдата ў Прэзідэнты
Рэспублікі Беларусь
Караткевіч Таццяны Мікалаеўны**

**СКАРГА
аб прызнанні выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь несапраўднымі ў цэлым па рэспубліцы**

Згодна з часткай 6 артыкула 79 Выбарчага кодэкса, выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у цэлым па рэспубліцы альбо па асобных участках для галасавання, раёнах, гарадах, раёнах у гарадах, абласцях, горадзе Мінску могуць быць прызнаныя несапраўднымі праз дапушчаныяў часе выбараў альбо пры падліку галасоў парушэнні патрабаванняў Выбарчага кодэкса, калі яны паўплывалі на вынікі выбараў у цэлым па рэспубліцы.

Папярэднія вынікі назірання за падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сведчаць, што выбарчая кампанія адбывалася з грубымі і сістэмнымі парушэннямі заканадаўства Рэспублікі Беларусь па ўсёй тэрыторыі краіны. Выбары не з'яўляліся свабоднымі і справядлівымі і не адпавядалі патрабаванням Выбарчага кодэкса, іншым нормам заканадаўства Рэспублікі Беларусь і стандартам Капенгагенскага дакумента АБСЕ (1990 г.).

Пры зборы подпісаў з боку сябраў ініцыятыўнай групы па вылучэнні кандыдатам у Прэзідэнты Лукашэнкі А.Р. былі здзейсненыя шматлікія парушэнні Выбарчага кодэкса, у тым ліку выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс

у выглядзе ўдзелу адміністрацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый у зборы подпісаў.

Кандыдатам у Прэзідэнты Аляксандрам Лукашэнкам у часе агітацыйнай кампаніі шырока выкарыстоўваліся перавагі ягонага службовага становішча ў інтарэсах абрання, у тым ліку праз прыцягненне дзяржаўных і прыватных сродкаў дзеля агітацыі ў абыход створанага выбарчага фонда. Гэтыя дзеянні не атрымалі належнай ацэнкі выбарчых камісій, у тым ліку Цэнтральнай камісіі, якая патурала парушэнням заканадаўства з боку гэтага кандыдата. Такім чынам, былі створаныя няроўныя ўмовы для кандыдатаў у Прэзідэнты, чым былі парушаныя ўстаноўленыя Выбарчым кодэксам прынцыпы правядзення выбараў.

У агітацыйнай кампаніі на карысць дзеючага Прэзідэнта шырока ўдзельнічалі арганізацыі, якія наўпрост фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту (у тым ліку Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі): яны за свой кошт фінансавалі выраб друкаваных і іншых агітацыйных матэрыялаў, што з'яўляецца формай парушэння заканадаўства аб выбарчых фондах кандыдатаў. Афіцэрскі сход, арганізаваны і прафінансаваны Міністэрствам абароны з дзяржаўнага бюджэту, заклікаў усіх цяперашніх і былых вайскоўцаў, а таксама іхнія сем'і падтрымаць кандыдатуру дзейнага Прэзідэнта. Таксама ў часе перадвыбарчай кампаніі на карысць кандыдата Аляксандра Лукашэнкі выраблялася агітацыйная прадукцыя і дзяржаўнымі прадпрыемствамі ў абыход адзіна магчымай працэдуры вырабу агітацыйнай прадукцыі – выключна за кошт выбарчага фонда кандыдата. Гэтыя факты сведчаць пра парушэнне кандыдатам норм часткі 8 артыкула 48 Выбарчага кодэкса.

У часе агітацыйнай кампаніі па ўсёй тэрыторыі Беларусі былі распаўсюджаны агітацыйныя друкаваныя матэрыялы, выраблены з парушэннем заканадаўства. У прыватнасці, напярэдадні і ў час датэрміновага галасавання была шырока распаўсюджаная паштоўка са зваротам і выявай Аляксандра Лукашэнкі, на якой быў пазначаны наклад 2 500 000 асобнікаў, але не былі пазначаныя выходныя дадзеныя, размяшчэнне якіх з'яўляецца абавязковым, згодна з патрабаваннямі часткі 12 артыкула 45 Выбарчага кодэкса (назва і адрас арганізацыі (індывідуальнага прадпрымальніка), якая вырабіла агітацыйныя друкаваныя матэрыялы, нумар пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі вытворцы друкаваных выданняў і дата яго выдачы, нумар заказу, прозвішча і ініцыялы заказчыка).

Свабода сходаў у час выбарчай кампаніі была істотна абмежаваная як на ўзроўні заканадаўства, так і на практыцы. Гэта не дазваляла выбаршчыкам ды палітычным сілам вольна праводзіць сходы дзеля абмеркавання выбараў, кандыдатаў ды іх праграм. Нягледзячы на спрошчаны парадак правядзення масавых мерапрыемстваў кандыдатамі і іх даверанымі асобамі, органы выканаўчай улады забаранялі правядзенне масавых мерапрыемстваў іншых палітычных сіл, у шэрагу выпадкаў прыцягнуўшы іх прадстаўнікоў да адміністрацыйнай адказнасці. Гэта стварыла неспрыяльную атмасферу для ўсебаковага і аб'ектыўнага абмеркавання выбараў у грмадстве.

Пры правядзенні галасавання і пры падліку галасоў былі зафіксаваны масавыя і сістэматычныя парушэнні заканадаўства, якія мелі месца на абса-

лютнай большасці выбарчых участкаў. Найчасцей назіраліся наступныя парушэнні: нядбайнае складанне спісаў выбаршчыкаў, маніпуляцыі з яўкай у час датэрміновага галасавання і ў асноўны дзень выбараў 11 кастрычніка, недабраахвотнае і масавае датэрміновае галасаванне, неналежнае захоўванне скрыняў для датэрміновага галасавання ва ўмовах, якія давалі магчымасць пабочным асобам падмяняць бюлетэні ў скрынях для галасавання, непразрысты і некалегіяльны падлік галасоў.

У часе датэрміновага галасавання былі зафіксаваны шматлікія выпадкі прымусу да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні, а таксама выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу ў мэтах схілення асоб, залежных ад дзяржаўнай улады (студэнты і навучэнцы навучальных установаў, супрацоўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў) да недабраахвотнага галасавання не ў дзень выбараў. Факты ўдзелу адміністрацыі ў арганізацыі прымусовага датэрміновага галасавання зафіксаваныя ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце, Беларускім дзяржаўным тэхнічным універсітэце, Баранавіцкім дзяржаўным універстэце, Мінскім дзяржаўным энергетычным каледжы, Мінскім архітэктурным каледжы, Беларускім інстытуце прадпрымальніцкай дзейнасці, Гомельскім політэхнічным каледжы, Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце, Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, Беларускім універсітэце культуры і мастацтваў ды іншых навучальных установах. Адміністрацыя ўніверсітэтаў заахвочвае іншагародніх студэнтаў да датэрміновага галасавання адменай заняткаў у суботу, заклікаючы іх з’ехаць са сталіцы. Пры гэтым большасць студэнтаў, баючыся ціску адміністрацыі, не пагаджаецца пацвярджаць пісьмовымі заявамі факты ўціску і прымусу, пра якія кажуць вусна на ўмовах ананімнасці. Пры такіх умовах амаль адзінымі крыніцамі атрымання інфармацыі пра прымус да датэрміновага галасавання роябяцца паведамленні ў інтэрнэце, асабліва ў сацыяльных сетках, а таксама інтэрв’ю сродкам масавай інфармацыі.

У час датэрміновага галасавання назіральнікамі кампаніі «Права выбару—2015»было зафіксавана 1 154 інцыдэнты, звязаных з парушэннямі выбарчага заканадаўства, парушэннем правоў назіральнікаў. Агучаныя выбарчымі камісіямі паказчыкі яўкі не адпавядаюць той яўцы, якая была зафіксавана назіральнікамі на большасці ўчасткаў, дзе ладзілася назіранне. Маюцца сведчанні задзейнічання ўчастковых камісій у простай фальсіфікацыі ў часе датэрміновага галасавання, у тым ліку галасаванне асобаў, якія не маюць права галасаваць, маніпуляцыі са спісамі выбаршчыкаў. Пры гэтым афіцыйныя дадзеныя пра яўку на ўчастках, дзе ладзілася назіранне, прыкладна на чвэрць ніжэй за афіцыйна абвешчаную агульную яўку па краіне.

У часе датэрміновага галасавання сябра Мінскай гарадской выбарчай камісіі Дзмітрый Каспяровіч выкрыў маніпуляцыі з бюлетэнямі выбаршчыкаў. Ён наведаў участковыя камісіі і зверыў колькасць выдадзеных выбаршчыкам бюлетэняў і рэальную колькасць подпісаў выбаршчыкаў, якія атрымалі бюлетэні і ўласнаручна распісаліся за іх. Па стане на раніцу 8 кастрычніка на выбарчым участку № 25 Савецкага раёна г. Мінска было выдадзена 146 бюлетэняў, аднак распісалася за бюлетэні ўсяго 109 чалавек. На

выбарчым участку № 26 гэтага ж раёна Мінска быў выдадзены 351 бюлетэнь, аднак распісалася за іх 162 выбаршчыкі. Раніцай 9 кастрычніка на выбарчым участку № 49 Савецкага раёна Мінска за тры дні датэрміновага галасавання было выдадзена 308 бюлетэняў, аднак на раніцу ў журнале выдачы бюлетэняў было ўсяго 170 подпісаў выбаршчыкаў. Выяўленыя парушэнні сведчаць пра тое, што сябрамі ўчастковых выбарчых камісій штучна завышаецца яўка выбаршчыкаў і можа адбывацца ўкід бюлетэняў.

У часе датэрміновага галасавання працягвалася выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу дзеля агітацыі на карысць кандыдатуры дзеючага Прэзідэнта, у тым ліку з размяшчэннем агітацыйных матэрыялаў у памяшканнях участкаў для галасавання.Участковыя камісіі давалі магчымасць прагаласаваць асобам, якія не пражываюць на тэрыорыі ўчастка (напрыклад, у Мінску ў спіс выбаршчыкаў уключаліся асобы, якія не маюць рэгістрацыі на тэрыторыі ўчастка, па прад'яўленні дамовы арэнды кватэры на тэрыторыі ўчастка).

У часе назірання за датэрміновым галасаваннем назіральнікі кампаніі «Права выбару—2015» зафіксавалі 1 154 выпадкі парушэння выбарчага заканадаўства. Найбольшая колькасць парушэнняў звязаная з неналежным захаваннем скрыняў для галасавання ва ўмовах, калі памяшканне, дзе захоўваецца скрыня, не апячатанае альбо пабочныя асобы маюць доступ да скрыні ў час перапынкаў у датэрміновым галасаванні (зафіксавана больш за 700 гэткіх інцыдэнтаў). Таксама распаўсюджанымі былі парушэнні, звязаныя з нядопускам назіральніка да рэальнага назірання за выдачай бюлетэняў праз нязручнае размяшчэнне месцаў для назіральнікаў альбо іншыя перашкоды (больш за 30 выпадкаў). Зафіксаваныя выпадкі прымусу да датэрміновага галасавання, кантроля за волевыяўленнем грамадзян праз доступ адміністрацыі прадпрыемстваў і навучальных устаноў да спісаў асоб, якія прынялі альбо не прынялі ўдзел у датэрміновым галасаванні. Адным з найбольш цяжкіх парушэнняў, зафіксаваных назіральнікамі кампаніі «Права выбару—2015», стала галасванне асоб, якія не ўнесеныя ў спісы выбаршчыкаў на ўчастках (у тым ліку ў выглядзе групаў адмыслова арганізаваных выбаршчыкаў, што не пражываюць на тэрыторыі ўчастка).

Паводле дадзеных кампаніі «Права выбару—2015», якая ладзіла назіранне на 642 выбарчых участках, на 450 выбарчых участках у асноўны дзень галасавання 11 кастрычніка па падліку назіральнікаў прагаласавала 336 577 чалавек. Паводле афіцыйных звестак участковых выбарчых камісій — 368 878 чалавек. Разыходжанне ў падліку колькасці прагаласаваўшых грамадзян склала — 32 301 чалавек, альбо 9,6%. Яўка ў асноўны дзень галасавання на гэтых участках па звестках назіральнікаў склала 42,2 %. Гэта сведчыць пра незаконныя маніпуляцыі з колькасцю прагаласаваўшых у часе датэрміновага галасавання.

Па падліку назіральнікаў, найбольшае разыходжанне ў яўцы выбаршчыкаў у асноўны дзень галасавання выяўлена на наступных участках:

№2, Мазыр, Гомельская вобласць: па звестках назіральнікаў — 280 чалавек, па афіцыйных звестках — 584 чалавекі. Розніца складае 304 чалавекі, альбо 108%;

№51, Мікашэвічы, Брэсцкая вобласць: па звестках назіральнікаў – 781 чалавек, па афіцыйных звестках – 1 148 чалавек. Розніца складае 367 чалавек, альбо 47%;

№16, Цэнтральны раён г. Мінска: па звестках назіральнікаў – 633 чалавек, па афіцыйных звестках – 1 223 чалавекі. Розніца складае 590 чалавек, альбо 93,2%.

Адным з метадаў фальсіфікацыі выбараў, здзяйсненне якога было б немагчымым без саўдзелу сябраў участковых выбарчых камісій, з'яўляецца масавае галасаванне адных і тых жа групаў выбаршчыкаў на розных участках, паўторнае галасаванне выбаршчыкаў на адным і тым жа ўчастку.

Усяго назіральнікамі кампаніі «Права выбару–2015» у дзень асноўнага галасавання было пададзена 509 скаргаў. Агульная колькасць скаргаў, якія назіральнікі кампаніі «Права выбару–2015»падалі ў выбарчыя камісіі за ўвесь час назірання, склала 900.

У дзень выбараў назіральнікамі было зафіксавана 419 інцыдэнтаў, звязаных з парушэннямі выбарчага заканадаўства, парушэннем правоў назіральнікаў і незаконнымі маніпуляцыямі (без уліку парушэнняў па заканчэнні галасавання і на этапе падліку галасоў). У дзень выбараў назіральнікамі кампаніі «Права выбару–2015» было пададзена 509 скаргаў: у тым ліку Брэсцкая вобласць – 85 скаргаў, Віцебская вобласць – 70 скаргаў, Гомельская вобласць – 51 скарга, г. Мінск – 93 скаргі, Гродзенская вобласць – 61 скарга, Мінская вобласць – 53 скаргі, Магілёўская вобласць – 96 скаргаў.

На шэрагу выбарчых участкаў яку перыяд датэрміновага галасавання, так і ў дзень выбараў 11 кастрычніка, былі размешчаныя партрэты і агітацыйныя плакаты Аляксандра Лукашэнкі.

У дзень выбараў назіральнікі на 584 участках мелі доступ да звестак пра колькасць выбаршчыкаў, унесеных у спісы выбаршчыкаў на момант адкрыцця ўчастка. Параўнанне гэтых дадзеных з дадзенымі выніковых пратаколаў дазваляе казаць пра тое, што спісы ў дзень выбараў карэктаваліся пераважна ў бок змяншэння: калі на момант адкрыцця ўчасткаў у сумме па гэтых участкаў у спісы было ўнесена 1 042 008 выбаршчыкаў, то ў выніковых пратаколах па гэтых участках сумарная колькасць выбаршчыкаў склала 1 015 137, розніца ў бок змяншэння спісаў склала 26 871 чалавек, што азначае памяншэнне спісаў на 2,57 % за адзін толькі асноўны дзень галасавання. Пры гэтым толькі на 173-х участках з гэтых 584-х спісы не змяніліся цягам дня 11 кастрычніка. Агулам з 584-х участкаў спісы цягам дня выбараў мяняліся ў бок павелічэння на 171-ым участку, у бок змяншэння спісаў выбаршчыкаў зменызафіксаваныя на 240-а ўчастках. Пры гэтым на 81-ым участку змяншэнне спісаў было значным (на 100 і болей чалавек).

На 491-ым участку назіральнікі кампаніі «Права выбару–2015» атрымалі ад камісій інфармацыю пра прагаласаваўшых па месцы знаходжання. На некаторых участках колькасць такіх выбаршчыкаў была анамальная. Так, на адным яна дасягнула 40,6 % выбаршчыкаў, на 4-ох участках было больш за 30 %, але менш за 40%, на 18-і– больш за 20 %, але менш за 30 %. Практычна паўсюль былі адзначаны выпадкі, калі ў спісы для галасавання па месцы знаходжання ўносіліся выбаршчыкі, якія непадавалі адпаведную заяўку, як таго патрабуе заканадаўства.

Назіральнікі зафіксавалі, што на 106-ці участках галасаваць па месцызнаходжання,па дадзеных участковых камісій, выказалі жаданне больш чым 100 чалавек. На некаторых з участкаў колькасць жадаючых прагаласаваць на даму ўвогуле зашкалівала. Найбольшая колькасць жадаючых прагаласавацьпа месцы знаходжаннябыла зафіксавана на наступных выбарчых участках:г. Віцебск, Кастрычніцкі раён, участак № 5 – 577 чалавек, г. Орша, участак № 16 – 503 чалавекі, г. Полацк, участак № 10 – 491 чалавек, Віцебская вобласць, г.п. Езярышча, участак № 8 –481 чалавек, г. Магілёў,Ленінскі раён, участак № 41–400 чалавек.

Тое, што такая колькасць чалавек нават фізічна не можа прагаласаваць па месцы знаходжання, яскрава дэманструе прыклад такога галасавання, які быў зафіксаваны на ўчастку № 8 у горадзе Орша. Там, па дадзеных камісіі, яшчэ з самай раніцы выказалі жаданне прагаласаваць па месцы знаходжаннякаля 350чалавек (дакладную лічбу кіраўнік выбарчай камісіі адмовілася прадставіць). А 10.00 выехала 2 групы па 2 чалавекі з ліку сябраў участковай выбарчай камісіі. Адна група ўзялася аб'язджаць 50 чалавек, другая – 300 чалавек. Узяць з сабой назіральнікаў група, якая мела намер аб'ехаць 300 чалавек, катэгарычна адмовілася, спаслаўшыся на адсутнасць свабодных месцаў у машыне. Вярнулася гэта группа а 15.50. Такім чынам, 300 чалавек яны паспелі аб'ехаць за 4 гадзіны 50 хвілін. На аднаго чалавека камісія траціла 1 хвіліну 10 секунд. На гэтым жа участку быў зафіксаваны выпадак, калі на датэрміновае галасаванне запісаўся памерлы ў верасні грамадзянін.

Пры такіх абставінахсапраўднасць вынікаў галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў выклікае сур'ёзныя сумневы.

У дзень выбараў працягваліся маніпуляцыі са спісамі выбаршчыкаў. На раніцу 11 кастрычніка агульная колькасць выбаршчыкаў, па дадзеных, прадстаўленых назіральнікам чальцамі ўчастковых выбарчых камісій на 584-ох участках, склала 1 042 008 чалавек, а, па выніках дадзеных, напісаных у выніковых пратаколах, гэтая лічба склала 1 015 137 чалавек, што ўтварылarозніцу ў 26 871 чалавека, альбо 2,7 %.

Найбольш часта фіксаванымі назіральнікамі «Права выбару–2015» інцыдэнтамі у асноўны дзень галасавання былі: пазбаўленне акрэдытацыі назіральнікаў, нядопуск назіральнікаў да назірання за падлікам галасоў, а таксама непрадстаўленне інфармацыі аб спісах выбаршчыкаў, колькасці прагаласаваўшых і іншае.

Назіральнікамі кампаніі «Права выбару–2015» на 605-і выбарчых участках была пададзеная Прапанова аб адкрытым і галосным падліку галасоў. Гэтая прапанова прадугледжвала, што пры падліку галасоў кожны бюлетэнь дэманструецца ўсім сябрам камісіі і назіральнікам, камісія лічыць галасы па пададзеных бюлетэнях галосна і калегіяльна. Аднак кіраўніцтва выбарчых камісій выказала негатыўнае стаўленне да гэтай прапановы.

Падлік галасоў на выбарчых участках ажыццяўляўся ў абсалютнай большасці выпадкаў непразрыста. Камісіі пры падліку галасоў не працавалі як калегіяльны орган, як гэта павінна быць, згодна з Выбарчым кодэксам: на практыцы бюлетэні не дэманстраваліся ўсім сябрам участковай выбарчай камісіі, звычайна кожны асобны сябра камісіі лічыў нейкую частку бюле-

тэняў, потым негалосна (шэптам, на паперцы) перадаваў звесткі старшыні камісіі, які таксама негалосна суміраваў дадзеныя і агучваў агульны вынік. Такім чынам нават сябры камісій не маюць упэўненасці ў тым, што зафіксаваныя ў выніковым пратаколе звесткі сапраўды адпавядаюць рэальнаму волевыяўленню грамадзян.

Па дадзеных кампаніі «Права выбару—2015», на 141-ым выбарчым участку (тобок на 22% участкаў, дзе назіральнікі ад гэтай кампаніі прысутнічалі пры падліку галасоў) падлік, па сведчаннях назіральнікаў, адбываўся з парушэннем патрабавання пра раздзельны падлік па відах галасавання (спачатку скрыня датэрміновага галасавання, пасля скрыні галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў, пасля скрыні галасавання на ўчастку ў асноўны дзень выбараў), як таго патрабуе Выбарчы кодэкс.

На абсалютнай большасці ўчасткаў назіральнікі не мелі магчымасці паўнавартасна назіраць за падлікам галасоў. Выбарчыя камісіі чынілі перашкоды для назіральнікаў, што выявілася ў непрадстаўленні інфармацыі пра спісавую колькасць выбаршчыкаў на ўчастку, супрацьзаконнай адмове ў акрэдытацыі назіральнікаў, пазбаўленні назіральнікаў акрэдытацыі і іх выдаленні з участкаў, ціску на назіральнікаў па месцы працы з мэтай прымусіць іх да адмовы ад удзелу ў назіранні, стварэнні нязручных умоў для размяшчэння назіральнікаў у памяшканнях участкаў і для іх паўнавартаснай працы па назіранні за выдачай бюлэтэняў камісіямі. Вельмі часта ўчастковыя выбарчыя камісіі перашкаджалі назіральнікам рабіць фотаздымкі і весці відэазапіс, што часам клалася ў аснову рашэнняў пра пазбаўленне назіральнікаў акрэдытацыі — гэта сталася адметнасцю галасавання на гэтых выбарах.Агулам за час выбараў 36 назіральнікаў кампаніі «Права выбару—2015» былі пазбаўлены акрэдытацыі і выдалены з участкаў, што складае 2,79 % ад агульнай колькасці назіральнікаў гэтай кампаніі.

Назіральнікі кампаніі «Права выбару—2015»падлічылі колькасць асоб, што прагаласавалі ў памяшканні ўчастка для галасавання ў асноўны дзень выбараў 11 кастрычніка на 485-іўчастках. Паводле іх дадзеных, агульная колькасць тых, хто прагаласаваў склала 374 809. Гэта не супадае з паказчыкам, агучаным участковымі выбарчымі камісіямі ў выніковых пратаколах: паводле іх, агульная колькасць тых, хто прагаласаваў, склала 395 863. Такім чынам, розніца паміж афіцыйнымі дадзенымі яўкі і сведчаннямі назіральнікаў склала 21 054 чалавекі (агучаны камісіямі паказчык вышэйшы за дадзеныя назіральнікаў на 5,61 %).

Да гэтай скаргі мною прыкладзены пералік канкрэтных парушэнняў, здзейсненых на сотнях выбарчых участкаў з указаннем канкрэтнай выбарчай камісіі, даты, калі адбылося парушэнне ды ягоным апісаннем (гл. дадатак 3).

Такім чынам, масавае і часта недабраахвотнае датэрміновае галасаванне, маніпуляцыі са спісамі выбаршчыкаў, захаванне скрыняў для датэрміновага галасавання ва ўмовах магчымасці доступу да іх пабочных асоб, парушэнні пры арганізацыі галасавання ў дзень выбараў на ўчастку, неабгрунтаванае ўключэнне выбаршчыкаў у спісы для галасавання па месцы знаходжання, непразрысты і некалегіяльны падлік галасоў робяць не вартымі даверу вынікі выбараў, агучаныя ўчастковымі выбарчымі камісіямі па ўчастках.

Выкладзеныя вышэй парушэнні заканадаўства адлюстраваныя ў матэрыялах кампаній назірання «Права выбару—2015» (гл. дадатак 1) і «Праваабаронцы за свабодныя выбары» (гл. дадатак 2), а таксама ў шматлікіх публікацыях СМІ. Яныпацвярджаюцца і папярэднімі высновамі, што былі агучаныя па выніках назірання з боку місіі БДІПЧ АБСЕ па назіраннні за выбарамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Такім чынам, у часе выбараў былі дапушчаныя грубыя і сістэмныя парушэнні заканадаўства, якія істотна паўплывалі на іх падрыхтоўку, правядзенне і вынікі. Лічу, што пры такіх абставінах вынікі выбараў у цэлым па Рэспубліцы Беларусь нельга прызнаць сапраўднымі.

На падставе выкладзенага і кіруючыся часткай 6 артыкула 79 Выбарчага кодэкса

ПАТРАБУЮ:

Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у цэлым па Рэспубліцы Беларусь прызнаць несапраўднымі.

Дадаткі:

Папярэдняя выніковая справаздача кампаніі назірання за выбарамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Права выбару—2015».

Аналітычная справаздача кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» па выніках назірання.

Пералік парушэнняў заканадаўства, зафіксаваных на выбарчых участках у часе галасавання.

Дата падачы: 14 кастрычніка 2015 года

_________________ Т.М. Караткевіч

# Дадатак 8.
# Рашэнне ЦВК па скарзе аб прызнанні выбараў несапраўднымі

ПОСТАНОВЛЕНИЕ
Центральной комиссии Республики Беларусь
по выборам и проведению республиканских референдумов

16 октября 2015 г. № 87

О жалобе Короткевич Т.Н. о признании выборов Президента Республики Беларусь в целом по республике недействительными

В Центральную комиссию Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов (далее – Центральная комиссия) поступила жалоба Короткевич Татьяны Николаевны, баллотировавшейся кандидатом в Президенты Республики Беларусь, с требованием признать выборы в целом по республике недействительными.

В обоснование своего требования Короткевич Т.Н. со ссылкой на сведения наблюдателей указывает на нарушения избирательного законодательства, повлиявшие, по ее утверждению, на подготовку, ход и итоги выборов Президента Республики Беларусь.

В соответствии с частью шестой статьи 79 Избирательного кодекса Республики Беларусь выборы Президента Республики Беларусь в целом по республике или по отдельным участкам для голосования, районам, городам, районам в городах, областям, городу Минску могут быть признаны недействительными из-за допущенных в ходе выборов или при подсчете голосов нарушений требований Избирательного кодекса, если они повлияли на итоги выборов в целом по республике.

Проанализировав жалобу Короткевич Т.Н., заслушав Лялькова И.С., члена Центральной комиссии с правом совещательного голоса, представляющего Короткевич Т.Н., и информацию председателей областных, Минской городской комиссий по выборам Президента Республики Беларусь, Центральная комиссия установила следующее.

Поднимаемые в жалобе вопросы, касающиеся сбора подписей избирателей и ведения предвыборной агитации, уже рассматривались в Центральной комиссии в ходе выборов в связи с поступавшими обращениями, в том числе Короткевич Т.Н., и на них в установленном порядке даны ответы заявителям или приняты соответствующие постановления Центральной комиссии. Оснований для их повторного рассмотрения не имеется.

Обстоятельства изготовления упоминаемой в жалобе агитационной открытки кандидата в Президенты Республики Беларусь Лукашенко А.Г.,

